ПРОЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ ДВУХТЫДНЁВІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ IX

№ 3—4

28-га ЛЮТАГА 1935 г.



ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.
ЦК КП(б)Б, пакой № 105.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару 20000 даб. 80; адк. сакратара—12; гарадскі—21044.



# ПАСТАНОВА

## Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саюза ССР

## АБ УЗНАГАРОДЖАННІ ОРДЭНАМ ЛЕНІНА РАДУ РЭСПУБЛІК, КРАЁЎ І АБЛАСЦЕЙ

За выдатныя поспехі на працягу раду гадоў у галіне сельскай гаспадаркі, а таксама і ў галіне прамысловасці Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюза ССР пастанаўляе

## УЗНАГАРОДЗІЦЬ ОРДЭНАМ ЛЕНІНА

1) КУЙБЫШЭЎСКІ КРАЙ, а таксама першага сакратара Куйбышэўскага крайкома ВКП(б) тав. ШУБРЫКАВА В. П. і старшыню Куйбышэўскага крайвыканкома тав. ПОЛБІЦЫНА Г. Т.

2) АЗЕРБАЙДЖАНСКУЮ ССР, а таксама першага сакратара ЦК КП(б) Азербайджана тав. БАГІРАВА Мір Джафар і старшыню Соўнаркома Азербайджанскай ССР тав. РАХМАНАВА Усейн паша Оглы.

3) ГРУЗІНСКУЮ ССР, а таксама першага сакратара ЦК КП(б) Грузіі тав. БЕРЫЯ Л. П. і старшыню Соўнаркома Грузінскай ССР тав. МГАЛОБЛІШВІЛІ Г. А.

4) БЕЛАРУСКУЮ ССР, а таксама першага сакратара ЦК КП(б) Беларусі тав. ГІКАЛО Н. Ф. і старшыню Соўнаркома Беларускай ССР тав. ГАЛАДЗЕДА Н. М.

5) ВАРОНЕЖСКУЮ ВОБЛАСЦЬ, а таксама першага сакратара Варонежскага абкома ВКП(б) тав. ВАРЭЙКІСА І. М. і старшыню облвыканкома Варонежскай вобласці тав. РАБІНІНА Е. І.

6) БАШКІРСКУЮ АССР, а таксама першага сакратара Башкірскага абкома ВКП(б) тав. БЫКІНА Я. Б. і старшыню Соўнаркома Башкірскай АССР тав. БУЛАШОВА Зінатулла Гізатавіча.

7) АБХАЗСКУЮ АССР і яе кіраўніка тав. ЛАКАБАНА.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саюза ССР М. КАЛІНІН.

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саюза ССР І. АКУЛАЎ.

Масква, Крэмль, 15 сакавіка 1935 г.

# БССР ордэнаносная

«За выдатныя поспехі на працягу раду гадоў у галіне сельскай гаспадаркі, а таксама і ў галіне прамысловасці, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюза ССР **пастанаўляе:**

Узнагародзіць ордэнам Леніна:

...**Беларускую ССР,** а таксама першага сакратара ЦК КП(б) Беларусі тав. **Гікало Н. Ф.** і старшыню Соўнаркома Беларускай ССР тав. **Галадзеда Н. М.**».

Няма нічога вышэйшага для большэвікоў, як атрымаць ордэн Леніна. Гэта вялікая чэсць і ўзнагарода не можа не выклікаць пачуцця гордасці ўсіх рабочых, усіх калгаснікаў, усіх комуністаў БССР.

Ордэн Леніна, атрыманы нашай рэспублікай разам з цэлым радам іншых краёў, абласцей і рэспублік, служыць яркім выражэннем агульнага росту і ўздыму соцыялістычнай гаспадаркі СССР, якіх дабілася наша краіна пад мудрым кіраўніцтвам т. Сталіна.

Няўхільна ажыццяўляючы ленінска-сталінскую палітыку соцыялістычнай індустрыялізацыі і калектывізацыі, рабочы клас СССР у найкарацейшы тэрмін карэнным чынам змяніў твар совецкай краіны, зрабіўшы яе краінай перадавой індустрыі і самай буйнай сельскай гаспадаркі. Наша краіна з Расіі нэпаўскай стала Расіяй соцыялістычнай.

БССР, як частка вялікага Совецкага саюза, пры актыўнай дапамозе працоўных Совецкага саюза, пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) дабілася агромнейшых перамог на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. Калгасны лад у нас канчаткова перамог. ¾ сялянскіх гаспадарак БССР ахоплены калектывізацыяй. Звыш 90 проц. пасеўнай плошчы знаходзіцца ў соцыялістычным сектары. Кулацтва разгромлена. Галоўная, рашаючая роля належыць соўгасам і калгасам.

У БССР праароблена вялікая работа па развіццю соцыялістычнай прамысловасці. Звыш 300 млн. руб. укладзена ў капітальнае будаўніцтва прамысловасці за апошнія 3—4 гады. Валавая прадукцыя саюзнай і рэспубліканскай прамысловасці дасягнула ў 1934 г. 789,2 млн. руб. супроць 126,3 млн. у 1928 г. Рост—больш як у 5 раз. Валавая прадукцыя прамысловасці ў 1935 г. дасягне 1,5 млрд. руб.

Удзельная вага прамысловасці ў агульнай прадукцыі народнай гаспадаркі ўзрасла з 40 проц. у 1928 г. да 70 проц. у 1934 г. Удзельная вага прадукцыі цэнзавай прамысловасці БССР у агульна-саюзнай прамысловасці ўзрасла за апошнія 3—4 гады больш як у 2 разы. Даволі ўжо адных гэтых даных, каб канстатаваць факт ператварэння БССР з раней адсталай акраіны ў перадавую, квітнеючую індустрыяльна-аграрную соцыялістычную рэспубліку.

Гэтыя поспехі і перамогі ў сельскай гаспадарцы, прамысловасці, на фронце нацыянальна-культурнага будаўніцтва не прышлі самацёкам. Яны заваяваны доўгай, упорнай, большэвіцкай работай усёй КП(б)Б і пад яе кіраўніцтвам—рабочымі і калгаснікамі БССР. Гэтыя поспехі і перамогі былі дасягнуты пад мудрым кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і нашага правадыра—тав. **Сталіна,** пад непасрэдным кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б і кіраўніка большэвікоў Беларусі—т. **Гікало.**

У бязлітаснай барацьбе з класавым ворагам і яго агентурай, з контррэвалюцыйнымі трацкістамі-зіноўеўцамі, з правымі апартуністамі, з контррэвалюцыйнай нацдэмаўшчынай і нацыяналістамі іншых масцей, з нац-апартуністамі—КП(б)Б разгарнула геройчную работу па соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, па развіццю нашай прамысловасці.

* * *

Наша прасоўванне ўперад сустракае адчайнае супраціўленне з боку канчаткова недабітага класавага ворага і яго агентуры. Класавы вораг не ганьбуе ніякімі сродкамі. Шкодніцтва, шпіянаж, правакацыя, тэрор—метады яго контррэвалюцыйнай работы. Карыстаючыся аслабленнем большэвіцкай пільнасці на паасобных участках нашай работы, класавы вораг і яго агентура нямала нашкодзілі нам у хлебазагатоўках 1932 г., у правядзенні веснавой сяўбы 1933 г., у калгасным будаўніцтве і МТС, у землеўпарадкванні, у беларусізацыі (справа настаўніка Сцепуро), у нацыянальна-культурным будаўніцтве і інш.

Актыўная дапамога ЦК ВКП(б) і асабіста т. Сталіна КП(б)Б у выпраўленні ёю дапушчаных памылак (загатоўкі, справа Сцепуро і інш.) узброіла партыйныя арганізацыі, узняла іх класавую пільнасць і яшчэ больш згуртавала вакол сталінскага ЦК ленінскай партыі.

Разграміўшы і выкрыўшы контррэвалюцыйны нацыянал-дэмакратызм, узмацніўшы барацьбу з усімі відамі буржуазнага нацыяналізма, выкінуўшы са сваіх радоў контррэволюцыйныя трацкісцка-зіноўеўскія, бундаўскія, нацыянал-дэмакратычныя, вялікадзяржаўніцкія элементы, умацаваўшы рашаючыя ўчасткі праверанымі большэвіцкімі кадрамі, павысіўшы пільнасць да класава-варожых элементаў, зламаўшы супраціўленне кулацтва ў хлебазагатоўках, КП(б)Б пад кіраўніцтвам т. **Гікало** дабілася агромнейшых поспехаў на ўсіх участках соцбудаўніцтва.

Чыстка партыі ад чуждых трацкісцкіх, нацыяналістычных і наогул разлажыўшыхся і перарадзіўшыхся элементаў яшчэ больш згуртавала і сцэментавала партыйныя арганізацыі Беларусі вакол тав. Сталіна, вакол ЦК КП(б)Б і яе кіраўніка т. Гікало.

КП(б)Б стварыла моцны касцяк выдатных большэвікоў: беларусаў, яўрэяў, палякаў і інш. Гэтыя большэвікі выхаваліся і загартаваліся ў барацьбе з контррэвалюцыйнымі нацыяналістамі, трацкістамі, бундаўцамі, з кулацкімі элементамі, праяўляючымі гнілы лібералізм у адносінах невыконваючых дзяржаўных абавязацельстваў.

«Апіраючыся на ўзросшы за апошнія гады калгасны актыў, КП(б)Б у 1934 г. дабілася рашучага палепшання партыйнай і совецкай работы на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. Асабліва гэта ярка сказалася ў правядзенні сяўбы і ўбо-

рачнай і ў выкананні калгаснікамі і аднаасобнікамі сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай» **(Гікало).**

Асабліва вялікіх поспехаў у галіне развіцця сельскай гаспадаркі і прамысловасці дабілася наша рэспубліка ў мінулым 1934 г.

Узброеныя гістарычнымі рашэннямі XVII партз'езда, большэвікі Беларусі пад кіраўніцтвам свайго ЦК працавалі з дня ў дзень над ажыццяўленнем вялікіх задач, пастаўленых з'ездам партыі і ўказаннямі т. Сталіна. На аснове разгортвання соцыялістычнага спаборніцтва з Заходняй абласцю і ўнутрырэспубліканскім спаборніцтвам паміж раёнамі, калгасамі, соўгасамі, прадпрыемствамі ішла ўпорная барацьба за ўмацаванне і большэвізацыю калгасаў, за рост калгаснай заможнасці, за выкананне гаспадарча-палітычных задач, пастаўленых партыяй і ўрадам. У рэзультаце асноўныя сельскагаспадарчыя кампаніі—веснавая сяўба, прапалка, уборка, усе загатоўкі—былі праведзены ў самыя кароткія тэрміны.

Пад знакам выканання першай запаведзі былі праведзены хлебазагатоўкі, бульбазагатоўкі, ільназагатоўкі, мясазагатоўкі і інш. Па гэтых загатоўках наша рэспубліка вышла на адно з першых месц у Совецкім саюзе, прычым план загатовак з года ў год узрастаў. Мы ў 1934 г. загатовілі аднаго толькі хлеба ў два разы больш супроць 1932 г. І гэта пры ўмове, што кожны калгасны двор у сярэднім па рэспубліцы атрымаў непараўнальна больш хлеба, чым нават у 1933 г. Паводле далёка няпоўных даных, калгаснікі БССР у мінулым годзе атрымалі на 10 млн. пудоў хлеба больш, чым у 1933 г., на многа больш атрымана было бульбы і іншых культур.

Рабочыя і калгаснікі БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б на чале з т. Гікало чэсна заслужылі высокую рэволюцыйную ўзнагароду— ордэн **Леніна.**

Рабочыя і калгаснікі БССР пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з т. Гікало, мацавалі нашы калгасы, бязлітасна змагаліся з кулацкімі элементамі, умацоўвалі дысцыпліну і змагаліся за соцыялістычныя адносіны да грамадскай уласнасці.

Соцыялістычная будоўля ўскалыхнула, выклікала да жыцця найглыбейшыя слаі працоўнага насельніцтва нашай рэспублікі. Мы з'яўляемся сведкамі таго, як з тушчы рабочых і калгаснікаў выходзяць, вырастаюць усё новыя і новыя кадры жалезных байцоў за справу соцыялізма. Задача ў тым, каб беражна, любоўна, клапатліва вырошчваць гэтыя кадры, вучыць і выхоўваць іх, даць перспектыву, умела расставіць.

Невычэрпныя крыніцы творчай энергіі, беспрыкладнага гераізма б'юць в тоўшчы мільённых мас рабочых і работніц, калгаснікаў і калгасніц. І трэба, каб ордэнаносная БССР стала сапраўднаю кузняй падрыхтоўкі новых кадраў стойкіх байцоў для ўсіх участкаў нашай соцыялістычнай будоўлі.

Агромнейшыя перамогі заваяваны дзякуючы таму, што большэвікі БССР пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і т. Сталіна няўхільна ажыццяўлялі генеральную лінію нашай партыі, няўхільна праводзілі пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б ленінска-сталінскую нацыянальную палітыку. Узнагароджанне нашай рэспублікі ордэнам Леніна ёсць перамога ленінскай нацпалітыкі і сталінскага стыля ў рабоце, якія сістэматычна прывіваў большэвікам БССР тав. **Гікало.**

Большэвіцкае кіраўніцтва ЦК КП(б)Б на чале з тав. Гікало, ста-

лінскі стыль у рабоце, сталінская прынцыповасць, канкрэтнасць, аперацыйнасць, барацьба са славеснай дэкларацыйнасцю і гніла-панскімі адносінамі да патрэб працоўных, уменне ўнікаць ва ўсе дэталі і дробязі, чулыя і ўдумчывыя адносіны да рабочага і калгасніка, пастаянныя клопаты аб кадрах—усе гэтыя якасці з дня ў дзень прывіваў нашым партыйным арганізацыям т. **Гікало**, згуртоўваючы працоўных БССР вакол сталінскага ЦК на барацьбу за выкананне рашэнняў партыі і ўрада.

Напружаная работа, пільнасць, самакрытыка, сталінская непрымірымасць, сталінскі стыль работы, уменне бачыць дзеянні класавага ворага, уменне граміць да канца ўсякія апартуністычныя, трацкісцкія і нацыяналістычныя элементы, гэтыя якасці кіраўніка большэвікоў Беларусі, т. Гікало, забяспечылі нам перамогі на фронце соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР.

На аснове павышэння рэволюцыйнай большэвіцкай пільнасці КП(б)Б ачышчаецца і за апошні час ад усякага роду прытаіўшыхся, двурушнічаючых, контррэволюцыйных трацкісцка-зіноўеўскіх падонкаў (Галендо, Фліор і інш.), а таксама ад змыкаючыхся з імі буржуазна-нацыяналістычных і трацкісцкіх элементаў (Дунец і інш.).

Узросшыя і ўзмацнеўшыя кадры большэвікоў з працоўных мясцовага карэннага насельніцтва «з усёй большэвіцкай бязлітаснасцю білі і б'юць контррэволюцыйнае трацкісцка-зіноўеўскае ахвосце, правых апартуністаў і ўсякія іншыя антысовецкія і антыпартыйныя групоўкі, білі і б'юць контррэволюцыйны беларускі і вялікарускі шавінізм» **(Гікало)**.

* * *

Ордэн Леніна абавязвае падзесяцярыць нашу энергію, высока несці сцяг перадавікоў. Большэвікі не могуць і не смеюць спыняцца на дасягнутых поспехах. Яны ідуць да новых баёў, да новых перамог. Тав. Гікало заўжды вучыць нас, каб мы не супакойваліся на дасягнутых поспехах і штогадзінна памяталі аб нашых недахопах.

Мы павінны памятаць, што нашы поспехі ў паляводстве, у развіцці сельскай гаспадаркі яшчэ недастатковы. Мы яшчэ адстаем на такіх важнейшых участках, як жывёлагадоўля, ільнаводства. У той час, як увесь Совецкі саюз у 1934 г. дасягнуў прыметнага пераломy ў развіцці жывёлагадоўлі, БССР яшчэ адстае ў гэтай справе.

Нямала недахопаў маем мы і ў развіцці прамысловасці. Праўда, летась наша прамысловасць працавала значна лепш, чым у 1933 г. Рад галін, як тарфяная, металаапрацоўчая, шкляная, скураная, шоўкавая, трыкатажная і інш. выканалі промфінплан 1934 г. Большасць прадпрыемстваў выконвае план і ў 1-м квартале гэтага года. Але якасць прадукцыі многіх прадпрыемстваў усё яшчэ далёка не здавальняючая.

Таксама слаба выконваем мы якасныя паказчыкі промфінплана (зніжэнне сабекошту, рост прадукцыйнасці працы і т. п.).

Асабліва адставанне маем мы ў справе правільнай арганізацыі заработнай платы і прадукцыйнасці працы. Арганізаваць зарплату трэба так, каб яна ўмацоўвала рашаючыя звенні вытворчасці і рухала людзей на вышэйшыя кваліфікацыі. Гэта гістарычнае ўказанне т. Сталіна яшчэ не стала канкрэтнаю праграмай работы ўсіх нашых гаспадарнікаў, партыйных і прафесіянальных арганізацый. Аб гэтым сведчыць наяўнасць на цэлым радзе прадпрыемстваў ураўнілаўкі ў зарплаце, зніжаных норм выпрацоўкі, перавыдаткаў фонда зара-

ботнай платы пры яўна нецярпімым больш адставанні росту прадукцыйнасці працы.

Нашы партыйныя арганізацыі, і ў першую чаргу гаспадарнікі, павінны па-большэвіцку заняцца гэтымі пытаннямі, да якіх не раз прыкоўваў іх увагу т. Сталін.

Вялікія і адказныя задачы ставіць перад намі веснавая сяўба. Сёлета мы маем усе ўмовы правесці яе ў найбольш кароткія тэрміны і высокаякасна. За апошні год значна ўзрасла калектывізацыя рэспублікі. Нашы калгасы лепш забяспечаны насеннем, харчаваннем і кармавымі рэсурсамі. Сёлета значна ўзрастае і цягавая сіла БССР. У 1934 г. у нас працавала 76 МТС, якія мелі 3971 трактар і агромную колькасць с.-г. машын. Сёлета ў БССР арганізуюцца 20 новых МТС, з якіх 12—яшчэ да веснавой пасеўкампаніі.

Нашы калгаснікі ўзброены новым сталінскім статутам с.-г. арцелі—статутам калгаснага заможнага жыцця. Разбуйненне і стварэнне новых 15 раёнаў, набліжэнне кіраўніцтва да калгаса, сельсовета, умацаванне партыйнага і савецкага кіраўніцтва раёнаў за лік выпрабаваных кадраў работнікаў палітаддзелаў, стварэнне с.-г. аддзелаў пры райкомах, узначальваемых непасрэдна сакратарамі райкомаў партыі—усё гэта забяспечвае неабходныя ўмовы для палепшання канкрэтнага і аперацыйнага кіраўніцтва сельскай гаспадаркай на аснове практычнай дапамогі ў рабоце кожнага сельсовета, кожнага калгаса.

Разам з тым нельга недаацэньваць і труднасці сёлетняй веснавой сяўбы, аб чым не раз папярэджваў усе нашы арганізацыі ЦК КП(б)Б і асабіста т. Гікало. Нельга забываць, што ўдзельная вага аднаасобных гаспадарак у нашай рэспубліцы яшчэ вяліка—каля 28 проц., а ў паасобных раёнах яшчэ вышэй. Не мала ў нас і адстаючых калгасаў.

Задача партыйных і савецкіх арганізацый у перыяд веснавой сяўбы—замацаваць новыя калгасныя папаўненні, арганізаваць работу ў новых калгасах, падцягнуць адстаючыя да ўзроўню перадавых, добра праверыць і расставіць людзей на ўчастках сяўбы, сачыць за тым, каб пасеў усіх культур праводзіўся добраякасным, высокагатунковым насеннем, са строгім захаваннем норм высеву, сціслых тэрмінаў і агратэхнічных мерапрыемстваў; забяспечыць у 1935 г. далейшы ўздым ураджайнасці ўсіх зернавых, тэхнічных і кармавых культур.

Ордэн Леніна абавязвае нас паказаць сапраўды большэвіцкія ўзоры работы ў правядзенні веснавой сяўбы. БССР павінна даць найвышэйшую прадукцыйнасць калгаснай працы, найвышэйшую ураджайнасць, удойнасць кароў, дабіцца высокага працадня. БССР павінна стаць рэспублікай суцэльнай калектывізацыі, рэспублікай, якая не мае адстаючых участкаў.

Маючы ў сваім распараджэнні магутны трактарны парк, насенне, цягло, нашы калгасы і соўгасы абавязаны культурна выкарыстаць гэту тэхніку, дабіцца больш высокага ўраджаю, чым летась. Веснавая сяўба будзе важнейшаю праверкай таго, наколькі мы сур'ёзна падрыхтаваліся к выкананню лозунга аб заваяванні высокага рэкорднага ўраджаю.

Мы маем усе магчымасці ў найкарацейшы тэрмін забяспечыць уздым жывёлагадоўлі, ліквідаваць адставанне паасобных калгасаў, соўгасаў, прамысловасці і транспарта.

Ордэн Леніна кліча да новых перамог, якія павінны быць заваяваны ў 1935 г. КП(б)Б павінна паказаць новыя ўзоры большэвіцкага майстэрства, умелага, канкрэтнага, аперацыйнага кіраўніцтва гаспадаркай, сталінскага выхавання комуністаў, комсамольцаў, працоўных. Партыйныя арганізацыі ордэнаноснай рэспублікі нясуць поўную адказнасць за далейшы ўздым культуры, аховы здароўя, за ўздым комунальнай гаспадаркі, за павышэнне якасці абслугоўвання шырокіх працоўных мас горада і вёскі.

А для гэтага мы маем усе ўмовы.

Звыш 223 млн. руб. будзе ўкладзена сёлета ў народную гаспадарку БССР, з іх 96 млн. прыпадае на прамысловасць, 31 млн. на сельскую гаспадарку, 31 млн. на транспарт, а 52,5 млн. на культурна-бытавыя ўстановы, з якіх 24,5 млн. падае на комунальна-жыллёвае будаўніцтва, а калі ўлічыць і выдаткі жыллёвай кааперацыі, то выдаткі па комунальна-жыллёваму будаўніцтву ў гэтым годзе складаюць 47 млн. 236 тыс. руб.

Сёлета павінны быць уведзены ў строй і асвоены аб'екты капітальнага і прамысловага будаўніцтва, агульнаю сумай больш як на 135 млн. руб.

Дзяржаўны бюджэт БССР складае сёлета 486 млн. руб., мясцовы—323 млн. Выдаткі на народную асвету і ахову здароўя ўзрастаюць на 40—50 проц.

Усе гэтыя сродкі павінны быць выкарыстаны так, каб забяспечыць яшчэ большы росквіт народнай гаспадаркі БССР і палепшанне матар'яльна-бытавога становішча працоўных.

Рэволюцыйная большэвіцкая пільнасць КП(б)Б павінна быць во многа раз узмоцнена, асабліва ўлічваючы, што азвярэлыя астаткі класавага ворага і яго агентуры тонка маскуюцца і карыстаюцца самымі гнуснымі зверскімі сродкамі ў барацьбе з пераможна наступаючым соцыялізмам. КП(б)Б улічвае, што ў БССР, як у рэспубліцы многанацыянальнай і пагранічнай, уся гэта двурушніцкая і не раз ашукаўшая партыю шваль з былых трацкістаў, зіноўеўцаў, бундаўцаў, эсэраў і меншавікоў, прышоўшых у партыю з каменем за пазухай, змыкаецца з контррэволюцыйным нацыянал-дэмакратызмам і выступае з фашыстамі капіталістычных краін супроць совецкай улады і большэвіцкай партыі, за рэстаўрацыю капіталізма.

Мы павінны да канца дабіць астаткі капіталістычных элементаў. А для гэтага ўсямерна трэба паглыбіць ідэйную ўзброенасць кожнага члена КП(б)Б, павысіць якасць арганізатарскай работы кожнага кіраўніка-большэвіка, каб разіць ворага сапраўды бязлітасна і без промаху.

> «Асабліва вялікае месца з гэтага пункту погляду павінна заняць у рабоце КП(б)Б вырошчванне і замацаванне на кіруючай партыйнай і совецкай рабоце большэвіцкіх кадраў з беларускага працоўнага насельніцтва» **(Гікало).**

Правільнае выхаванне і вырошчванне партыйных кадраў—вялікае майстэрства, важнейшая ўмова нашых далейшых поспехаў у барацьбе за выкананне сусветна-гістарычных задач другой пяцігодкі.

Каб выхоўваць людзей, неабходна вывучаць іх, ведаць канкрэтна чалавека з яго запросамі і інтарэсамі. А ў нас нярэдка бывае так, што не прымячаюць людзей, або прымячаюць тады, калі чалавек праштрафіўся, зрабіў памылку. Няма чаго гаварыць, што такого роду метады, як справядліва адзначае «Правда», нічога супольнага не

маюць з сапраўды большэвіцкімі адносінамі да работніка, з сапраўды большэвіцкім выхаваннем.

Большэвіцкае вывучэнне і выхаванне чалавека ў большэвіка-кіраўніка спалучаецца з партыйнай пільнасцю. Кожны кіраўнік на любым участку абавязан ведаць людзей, дасканала іх падбіраць і правяраць—у гэтым найпярвейшая запаведзь кожнага комуніста, кожнага грамадзяніна нашай краіны.

Праверка людзей не зводзіцца да перагляду анкет, даныя якой не вычэрпваюць жывога чалавека, ды часам і не адпавядаюць рэчаіснасці. Добры кіраўнік дзесяткамі метадаў і спосабаў распазнае людзей, з якімі працуе.

Пільнасць трэба арганізоўваць. Рэволюцыйная пільнасць патрабуе сістэмы выхаваўчых і арганізацыйных мерапрыемстваў, якія трэба праводзіць штодзенна і паўсямесна. Каб ахаваць інтарэсы партыі і дзяржавы, трэба добра ведаць ворага.

Пільнасць уключае ў сябе, як важнейшы элемент, штодзеннае павышэнне ідэйнасці сярод комуністаў, вывучэнне імі гісторыі нашай большэвіцкай партыі.

Ордэн Леніна—высокая ўзнагарода, высокая адказнасць. Вышэй рэволюцыйную пільнасць. Вышэй якасць работы на ўсіх участках социялістычнай будоўлі. Ад ордэнаноснай рэспублікі можна і трэба патрабаваць больш, чым ад якога-небудзь іншага краю, ці облосці.

Пад кіраўніцтвам сталінскага Цэнтральнага Камітэта, пад кіраўніцтвам мудрага Сталіна, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з т. Гікало даб'емся новых перамог на фронце будаўніцтва социялізма ў БССР—фарпосце Совецкага саюза на граніцы з капіталістычным светам.

---



А. Картукоў

# Аб сталінскім статуце сельскагаспадарчай арцелі*)

2-гі ўсесаюзны з'езд калгаснікаў-ударнікаў прыняў прыкладны статут сельскагаспадарчай арцелі. Новы статут—найвялікшы дакумент нашай эпохі.

Прыкладны статут сельскагаспадарчай арцелі адлюстроўвае вопыт і практыку перадавых калгасаў нашай краіны. Ён павінен стаць і стане важнейшаю зброяй далейшага гаспадарчага і палітычнага ўздыму нашых калгасаў.

Новы статут адкрывае і новы этап барацьбы за ажыццяўленне пастаўленай т. Сталіным яшчэ на 1-м з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў задачы—зрабіць калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі.

У новым статуце адлюстрован агромнейшы рост актыўнасці і творчай ініцыятывы шырокіх мас калгаснікаў, выхаваных ужо калгасным ладам. Даволі азнаёміцца з выступленнем любога дэлегата на з'ездзе ці ў камісіі, каб убачыць, што ўсе яны гараць імкненнем як найлепш дапамагчы калгаснай грамадскай справе, бо не мысляць сабе іншага жыцця, як толькі ў калгасе. Статут сельскагаспадарчай арцелі адлюстроўвае творчыя сілы і геніяльную празарлівасць, найвялікшую любоў і клопаты нашага вялікага Сталіна аб мільённых масах працоўных, веданне малейшых дробязей іх жыцця, уменне накіраваць яго вопытнай рукою, дапамагчы ў штодзеннай рабоце, з усёй палкасцю свайго вялікага сэрца, жалезнай волі, геніяльнага розуму ўказаць мільёнам шлях раднасага новага жыцця—шлях к соцыялізму.

Недарма кожны ўдзельнік гэтага з'езда ў любым кутку нашага неабдымнага Саюза з захапленнем і любоўю расказвае аб шчаслівых днях работы, і ў камісіі і на самым з'ездзе, поплеч з т. Сталіным і пад яго кіраўніцтвам.

Тав. **Спешыц**—дэлегат ад нашага Старобінскага раёна—па прыездзе са з'езда сказаў калгаснікам:

«Першае маё слова аб таварышу Сталіне. Я не зводзіў вачэй з яго. Здавалася, вось-вось не вытрымаю: падыйду, абніму і расцалую. А ён раптам сам падыходзіць да нас—членаў прэзідыума (т. Спешыц быў членам прэзідыума ад БССР) і так проста, па-таварыску паціскае нашы рукі, пытае з якога калгаса, з якой рэспублікі і як сябе адчуваем. Я адказаў, а сам думаю—якое добрае сэрца, як клапоціцца аб кожным з нас вялікі правадыр сусветнага пролетарыята».

Калгасніца-ўдарніца тав. **Кульба**—наша дэлегатка ад Менскага раёна—так заканчвае свае ўражанні аб з'ездзе:

*) З даклада на менскім партактыве.

«Да чаго я заклікаю ўсіх нашых работнікаў сельсоветаў, усіх калгаснікаў, дык гэта вучыцца ў т. Сталіна, як трэба адносіцца да кожнай дробязі. Няма такой дробязі ў калгасным жыцці, якою-б не цікавіўся т. Сталін. Ён распытваў нас падрабязна аб усім і даваў такія ўказанні, што нам часам здавалася, нібы ён быў у нашым калгасе, усё бачыў і аб усім добра ведае».

Тав. **Леўчэнкава**—дэлегатка з Варонежа—гаворыць:

«Вось нахвалявалася я, калі адкрываўся з'езд. Усе чакаюць з нецярплівасцю. чакаю і я; выйдзе ці не выйдзе к нам т. Сталін. Калі т. Сталін з'яўляецца, дэлегаты сустракаюць яго грамавымі воплескамі, крычаць ура, а ён усміхаецца і, як-бы хаваецца, сароміцца. Вось ты. Карпенка (зварочваецца яна да калгасніка), памятаеш, як гаварыў перад з'ездам, што Сталін магчыма да нас і не прыйдзе, бо ў яго іншыя справы. Гаварыў? (Карпенко:—«Гаварыў»). Эх, ты—«гаварыў». Ён з намі быў ад першага пасяджэння і да канца. З ім усё вырашылі і статут распрацавалі. І павінна я сказаць, што адчувалі мы сябе з нашым правадыром так, як адчуваю сябе я сярод вас—сваіх людзей. Сталін трымаўся з намі проста, ласкава і, я-б сказала, па-сямейнаму. У камісіі, дзе мы абгаварвалі статут калгаснага жыцця, Сталін не адыходзіў ад нас ні на хвіліну.

Чэрноў зачытвае пункт статута і пытае ў каго якое меркаванне. А Сталін ходзіць, усміхаецца, часам спыняецца, уважліва прыслухоўваецца, ківае галавой і ўсё слухае, што мы гаворым, а потым робіць свае заўвагі. Я выступіла па пытанню аб аслабаненні жанчын па цяжарнасці ад работы на месяц да і на месяц пасля радоў. Адзін мужчына выступае і віляючы гаворыць, што тыдзень, моў, ёй, жанчыне, хопіць. Мяне заела. Я кажу: ціха ты, разумнік; загрубей сам, дык мы табе шэсць месяцаў дамо. Сядзеў са мной Калінін, пачуў мае словы і пачаў у голас іх расказваць. Усе смяяліся. А Сталін падтрымаў маю прапанову і сказаў:—«Цяжарных трэба аслабаняць ад работы, трэба іх падтрымаць».

З такім захапленнем адзываюцца ўдзельнікі з'езда аб Сталіне, аб рабоце з ім на з'ездзе і ў камісіі. Так гавораць аб Сталіне тысячы калгаснікаў, якім даводзілася чуць яго і бачыць, а мільёны слухаюць іх, затаіўшы дыханне, ловячы кожнае слова, перапытваючы, бо кроўна зацікаўлены ў вялікай справе будаўніцтва новага—заможнага, культурнага жыцця.

Сярод мільёнаў працоўных нашай краіны ўзнімаецца вялікая прагавітасць к рабоце, жаданне як найхутчэй пабудаваць гэта новае жыццё. Аб гэтым сведчаць і словы т. Леўчэнкавай:

«Цяпер мы з вамі павінны па костачках разабраць наш новы статут і, як перадавы калгас, падцягваць адстаючых. Майце на ўвазе, што я прыехала з прагавітасцю к рабоце і нікога ў спакоі не пакіну. Мы ўсе павінны працаваць так, каб гэты год зрабіць вялікім годам».

Сталінскі статут узнімае новую хвалю працоўнага энтузіязма не толькі сярод калгаснікаў, ён з'яўляецца пуцяводнаю зоркай і для працоўных усяго свету, прыгнечаных і галадаючых у капіталістычных краінах і іх калоніях.

* * *

2-гі з'езд калгаснікаў-ударнікаў у значнай меры адрозніваецца ад першага з'езда іменна тым, што ў ім выявілася ўся магутнасць калгаснага ладу, росквіт лепшага жыцця, большая вопытнасць і дзелавітасць. На мінулым з'ездзе былі прадстаўнікі ад такіх лепшых кал-

гасаў БССР, якія на працадзень выдавалі па паўтара кілаграма зернавых і 5 кгр. бульбы. На 2-гі з'езд мы пасылалі дэлегатаў ад такіх калгасаў, дзе на працадзень прыпадае не менш 3—4 кгр. зернавых і 8—12—14 кгр. бульбы.

Як вырастаюць і ўмацоўваюцца нашы калгасы?

Возьмем факты.

Калгас «Новае жыццё», Бабруйскага раёна, Капусцінскага сельсовета, мае 118 гаспадарак і 466 калгаснікаў, якія ў 1934 г. атрымалі на працадзень у сярэднім: зернавых 3,6 кгр., бульбы 8,5 кгр., гародніны 5,2 кгр., а ў 1933 г. зернавых 1,7 кгр., бульбы 7,5 кгр. і гародніны 1 кгр. У сярэднім на адзін калгасны двор у 1934 г. прыпадала: зернавых 12—15 цэнт. і бульбы 30—35 цэнт., (акрамя грошай), а ў 1933 г.—6—8 цэнт. зернавых і 20 цэнт. бульбы.

Тав. **Фролаў**—ударнік гэтага калгаса, ад роду 50 год, гароднік—сам выпрацаваў 320 працадзён, жонка 100. Будучы аднаасобнікам, Фролаў збіраў усяго ўраджаю 40 пуд. зернавых і 120 пуд. бульбы, з якіх на насенне пакідаў 30 пуд. зернавых і 80 пуд. бульбы. На харчаванне, такім чынам, аставалася 10 пуд. зярна і 40 пуд. бульбы ў год.

У 1934 г. Фролаў атрымаў на працадні 100 пуд. хлеба, 216 пуд. бульбы, 138 пуд. markednай гародніны, 300 пуд. фуража для каровы.

Тав. **Гудкоў**—былы батрак—выпрацаваў у калгасе 350 працадзён і атрымаў: зернавых 75 пуд., бульбы 200 пуд., гародніны 110 пуд., кармоў 270 пуд. Са сваёй сядзібы сабраў 100 пуд. бульбы і 100 пуд. рознай гародніны.

Тав. **Вішнеўскі** ў 1931 г. уступіў у калгас «Чырвоны баец», Дабрынскага с.-с., Дзержынскага раёна. Да ўступлення ў калгас меў 2 га ўсёй зямлі, збіраў жыта 28 пуд., аўса 20—25, ячменю 15—18 і бульбы 150 пудоў. У калгасе атрымаў на працадні ў 1935 г.: жыта 53 пуд., пшаніцы 7,5 пуд., ячменю—15 пуд., аўса 9 пуд., бульбы 288 пуд. і грашыма 200 рублёў. Такіх прыкладаў тысячы.

Голас 2-га з'езда калгаснікаў-ударнікаў быў баявым клічам калгаснага ладу, перамогшага пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі на базе багацейшай тэхнікі, якую дала наша прамысловасць пры штодзеннай дапамозе пралетарскай дзяржавы і рабочага класа нашага Саюза.

На гэтым фоне якім нікчэмным хламам выглядаюць усе гэтыя прадказванні і тэорыі, запалохванні аб правале калектывізацыі з боку разбітага, разгромленага партыяй контррэволюцыйнага трацкісцка-зіноўеўскага блока і апартуністаў усіх масцей і адценняў. Адзіна правільнай аказалася генеральная лінія партыі, лінія на індустрыялізацыю краіны, ператварыўшая нашу краіну з сялянскай адсталай у краіну перадавой тэхнікі, у індустрыяльную краіну; лінія на ліквідацыю кулацтва як класа на аснове суцэльнай калектывізацыі, ператварыўшая нашу краіну з беднай краіны дробнай сельскай гаспадаркі ў краіну буйнай сельскай гаспадаркі, якая апіраецца на багацейшую тэхніку, забяспечыўшую поўную перамогу калгаснага ладу; лінія на пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства. І гэту генеральную лінію партыі выпеставаў, яе грудзьмі абараняў ад апартуністаў і ворагаў, усю партыю выхоўваў, вёў і вядзе жалезнай рукою вялікі кормчы, друг, правадыр, любімы, мудры, тав. **Сталін.**

Правядзенне ў жыццё рашэнняў 2-га з'езда калгаснікаў-ударнікаў, перавод калгасаў на новы сталінскі статут ёсць справа не адных

толькі калгаснікаў. Кожны член і кандыдат партыі, кожны кіраўнік партыйнай і совецкай работы, кожны актывіст павінен ведаць гэты статут і тлумачэнне яго, бо гэта справа агромнай палітычнай і арганізацыйнай важнасці патрабуе іх непасрэднай дапамогі.

* * *

Стары статут прыводзіў палажэнні, на аснове якіх аднаасобнікі яднаюцца ў калгасы, з чаго пачынаць работу, але не ўказваў як весці буйную абагуленую гаспадарку, ды і не мог зрабіць гэта, бо ў практыцы тады не было яшчэ буйных калгасаў, буйных абагуленых гаспадарак. Стары статут не гаварыў аб брыгадах, аб мерапрыемствах па забяспечанню ўстойлівасці калгасаў, аб суадносінах асноўнай абагуленай і дапаможнай гаспадаркі калгаснікаў, ды і не мог гаварыць пра гэта, бо калгасы пачалі толькі арганізоўвацца. Новы статут абумоўлівае ўсе гэтыя пытанні і дае на іх поўны акрэслены адказ.

Новы статут выпрацоўваўся перадавымі калгаснікамі і дае ў рукі адсталых, слабых калгасных гаспадарак магутную зброю ў іх барацьбе за высокую прадукцыйнасць, каб дагнаць перадавікоў.

Тав. Сталін гаварыў на 1-м з'ездзе калгаснікаў:

> «Каб стаць калгаснікам заможнымі, для гэтага патрабуецца цяпер толькі адно—працаваць у калгасе чэсна, правільна выкарыстоўваць трактары і машыны, правільна выкарыстоўваць рабочую жывёлу, правільна апрацоўваць зямлю, берагчы калгаснае дабро».

Нічога іншага не патрабуецца і цяпер пасля 2-га з'езда, бо ёсць усе магчымасці будаваць заможнае калгаснае жыццё: зямля перадана сялянам, трактары і машыны дае дзяржава.

БССР у гэту весну атрымае 400 новых трактароў, арганізуюцца 12 новых МТС. Трэба толькі чэсна працаваць, правільна адносіцца да скарыстання трактароў і машын, як належыць берагчы калгаснае дабро.

Першы раздзел статута дакладна і ясна вызначае задачы кожнага калгаса і калгасніка:

> «Члены арцелі бяруць на сябе абавязак умацоўваць сваю арцель, працаваць добрасумленна, дзяліць калгасныя даходы па працы, ахоўваць грамадскую ўласнасць, берагчы калгаснае дабро, берагчы трактары і машыны, устанавіць добры догляд за канём, выконваць заданні сваёй рабоча-сялянскай дзяржавы,—і такім чынам зрабіць свой калгас большэвіцкім, а ўсіх калгаснікаў заможнымі».

У раздзеле VII, п. 18 вызначаецца адказнасць калгаснікаў у выпадку дрэннай работы.

> «Усякае раскрадванне грамадскай, калгаснай і дзяржаўнай уласнасці, шкодніцкія адносіны да маёмасці і жывёлы арцелі і да машын МТС разглядаецца арцеллю як здрада агульнай справе калгаса і дапамога ворагам народу».

Спрадвечнаю марай сялянства пры капіталістычным ладзе была зямля, але для многіх мільёнаў яна была марай нязбытачнай.

І толькі совецкая ўлада гэты голад на зямлю задаволіла поўнасцю. Калгаснікі ўладаюць цяпер добрай зямлёю, знішчаны межы, якія ў старыя часы падзялялі мужыкоў на багатых і бедных і былі для многіх мільёнаў граніцай іх гаспадарчага развіцця. З-за меж якамі ішла цяжба, на іх адбываліся крывавыя сутычкі, калі адзін другому гатоў быў глотку перагрызці за кавалачак зямлі. Гэтым межам прышоў канец.

Вось што гаворыцца ў статуце аб зямлі:

«Усе межы, раздзяляўшыя раней зямельныя надзелы членаў арцелі, знішчажаюцца, і ўсе палявыя надзелы ператвараюцца ў адзіны зямельны масіў, які знаходзіцца ў калектыўным карыстанні арцелі».

Ніхто не мае права змяншаць калгасныя надзелы па свайму жаданню. А мы былі сведкамі, калі калгасная зямля часам адразалася то пад соўгас, то другому калгасу, то аднаасобнікам, якія выходзілі з калгаса. Такі парадак землекарыстання перашкаджае калгасу на справе змагацца за ўраджай, уводзіць севазварот, угнойваць зямлю, вывучаць асаблівасці сваіх участкаў. Пра зямельны надзел калгаса статут гаворыць:

«Зямля, займаемая арцеллю (як і ўсякая іншая зямля ў СССР), ёсць агульнанародная дзяржаўная ўласнасць. Яна, згодна законам рабоча-сялянскай дзяржавы, замацоўваецца за арцеллю ў бестэрміновае карыстанне, гэта значыць навечна, і не падлягае ні куплі-прадажы, ні здачы арцеллю ў арэнду.

Кожнай арцелі выдаецца раённым выканаўчым камітэтам советаў дзяржаўны акт на бестэрміновае карыстанне зямлёю, у якім устанаўляюцца размеры і дакладныя граніцы зямлі, якая знаходзіцца ў карыстанні арцелі».

Гэты пункт уносіць пэўную яснасць і не дае магчымасці ні аднаму галавацяпу распарадзіцца зямлёю так, як яму ўздумаецца.

Статут не толькі ліквідуе неразбярыху з зямлёю, але і абязлічку ў самым калгасе. Работа брыгады на розных участках значна адбівалася на вытворчай дзейнасці калгаса. Статут ясна гаворыць:

«... Землі арцелі разбіваюцца на палі ў адпаведнасці з зацверджаным севазваротам. У палях севазвароту да кожнай паляводчай брыгады прымацоўваецца сталы ўчастак на ўвесь тэрмін севазвароту...»

Статут таксама вырашае два сур'ёзнейшыя пытанні, на якіх мы часта спатыкаліся: аб карове і прысядзібным участку, г. зн. спалучэнні ў арцелі асабістых інтарэсаў калгаснікаў з іх грамадскімі інтарэсамі.

У гэтым пытанні не мала было хістанняў то ў бок змяншэння ўчастка да мінімума зямлі і прамой забароны трымаць карову, то ў бок апартуністычнага дапушчэння вялікіх участкаў са значнай колькасцю кароў і іншай рагатай жывёлы.

ЦК у свой час вызначыў размер прысядзібнага ўчастка для БССР не больш паловы га. Аднак гэтым не вычарпалася пытанне, і спрэчкі працягваліся. І на самым 2-м з'ездзе калгаснікаў выступалі староннікі давядзення прысядзібнага ўчастка да 0,1 га, на што т. Сталін у камісіі гаварыў:

«Вы нікольк не ўлічваеце асабістых інтарэсаў калгаснікаў, калі вы гаворыце, каб не больш адной дзесятай часткі га пры-

сядзібнай зямлі даць калгаснікам. Некаторыя думаюць, што карову нельга даваць, другія думаюць, што свінаматку нельга даваць і наогул вы хочаце заціснуць калгасніка. Гэта справа не выйдзе. Гэта няправільна. Вы людзі перадавыя. Я разумею, што вы клапоцціцеся вельмі аб калгасным ладзе, аб калгаснай гаспадарцы, хіба-ж усе калгаснікі такія як вы? Вы-ж меншасць, у калгасе большасць некалькі інакш думае. З гэтым трэба лічыцца ці не? Я думаю, што трэба лічыцца».

І статут гаворыць наступнае:

«Размеры прысядзібнай зямлі, якая знаходзіцца ў асабістым карыстанні калгаснага двара (не лічачы зямлі пад жыллёвымі пабудовамі), могуць устанаўлівацца ад ¼ гектара да ½ гектара, а ў паасобных раёнах—да 1-го гектара ў залежнасці ад абласных і раённых умоў, устанаўляемых наркамземамі саюзных рэспублік на падставе ўказанняў Наркамзема Саюза ССР».

У БССР размер прысядзібнага ўчастка ўстанаўляецца ад ¼ да ½ га. Зразумела, пры практычным правядзенні ў жыццё раздзела статута аб прысядзібных участках узнікае цэлы рад пытанняў: адкуль пакрываць недастаючую частку прысядзібнага ўчастка, ці размяркоўваць прысядзібныя ўчасткі ў калгасе па ядоцкаму прызнаку, ці неадкладна перадзяляць іх і т. д.

Ясна адно: з пляча рубіць нельга. Трэба выходзіць з умоў кожнага калгаса паасобку, улічваючы ўстаноўленую ў раёне норму прысядзібнага ўчастка: асудзіць паядоцкі прынцып, прытрымліваючыся адной нормы, устаноўленай у даным калгасе; неператасоўваць з месца ў кар'ер участкі, ды яшчэ за лік ворнай зямлі калгаса, не абмеркаваўшы добра, як лепш гэта зрабіць у калгасе. Статут прымаецца не на сезон і не на год, на яго аснове кожны калгас знойдзе магчымасць правільна вырашыць любое канкрэтнае пытанне.

* * *

Аб каровах у статуце запісана:

«Кожны калгасны двор **у зернавых, хлапковых, бурачных (свеклавічных), ільняных, канапляных, бульба-гародніх, чайных і табачных раёнах** можа мець у асабістым карыстанні карову, да 2 галоў маладняка рагатай жывёлы, 1 свінаматку з прыплодам альбо, калі праўленне калгаса знойдзе неабходным, 2 свінаматкі з прыплодам, да 10 авечак і коз разам, неабмежаваную колькасць птушкі і трусоў і да 20 вулляў».

І далей:

«Кожны калгасны двор **у земляробчых раёнах з развітой жывёлагадоўляй** можа мець у асабістым карыстанні 2—3 каровы і акрамя таго маладняк, ад 2 да 3 свінаматак з прыплодам, ад 20 да 25 авечак і коз разам, неабмежаваную колькасць птушкі і трусоў і да 20 вулляў. Да гэтых раёнаў адносяцца, напрыклад: земляробчыя, не сумежныя з качавымі, раёны Казакстана, Палескія раёны Беларусі, Чарнігаўскай і Кіеўскай абласцей Украіны, раёны Барабінскага стэпу і Прыалтайскія раёны Заходне-Сібірскага краю, Ішымская і Табольская групы раёнаў Омскай вобласці, горная частка Башкірыі, усходняя ча-

стка Ўсходняга Сібіру, земляробчыя раёны Далёка-Ўсходняга краю, Валагодская і Халмагорская групы раёнаў Паўночнага краю».

Далей гаворыцца аб раёнах качавой і поўкачавой жывёлагадоўлі, дзе ў асабістым карыстанні можна мець ад 4 да 10 кароў і адпаведную колькасць іншай жывёлы.

Захаванне размеру прысядзібнага ўчастка ад ¼ да ½ га, а месцамі да 1 га, і пэўнай колькасці жывёлы ў асабістым карыстанні сведчыць перш за ўсё аб умацаванні калгасаў. Асноўная маса калгаснікаў—за калгас. Для яе ўжо з калгаса звароту няма. Агромная большасць калгаснікаў разумее, што аснова заможнага культурнага існавання—буйная абагуленая гаспадарка, а не асабістая.

З другога боку, зразумелы ўмовы, пры якіх калгасны двор зможа трымаць у асабістым карыстанні жывёлу ў размерах, устаноўленых статутам. Гэта перш за ўсё—высокая ўраджайнасць у самім калгасе, палепшанне калгасных лугоў, выпасаў і т. п. У статуце прама гаворыцца:

«Расшыраць вытворчасць кармоў, паляпшаць сенажаці і пасьбішчы, аказваць дапамогу членам арцелі, якія добрасумленна працуюць у грамадскай вытворчасці, забяспечваючы ім, дзе гэта магчыма, карыстанне калгаснымі пасьбішчамі, а таксама па магчымасці выдаючы кармы ў лік працадзён для жывёлы, якая знаходзіцца ў іх асабістым карыстанні».

Такім чынам апасенні, нібы калгаснікам не будзе часу працаваць у калгасе, бо прыдзецца траціць яго на догляд сваёй жывёлы, пазбаўлены падставы.

Не менш сур'ёзнае пытанне—карыстанне калгасным канём для асабістых патрэб.

У некаторых калгасах устанавілася практыка даваць бясплатна каня, калі калгасніку, скажам, трэба ўзараць гарод, паехаць на базар, на млын, у лес за дровамі, на вяселле і т. д. А месцамі праўленне зусім адмаўляла калгаснікам здаволіць гэтыя патрэбы. Вядома, адмаўляць нельга, але таксама нельга і ганяць дарэмна калгаснага каня. Хіба павінен калгас грамадскім дабром бясплатна здавальняць асабістыя патрэбы, ды яшчэ нярэдка розных прайдох, гультаёў, або кумоў, сватоў праўлення. Таму статут і гаворыць:

«З аграмаджанай рабочай жывёлы праўленне арцелі ў выпадку неабходнасці вылучае некалькі коней для абслугоўвання за плату асабістых патрэб членаў арцелі».

Гэта, вядома, ні ў якім разе не значыць, што за карыстанне канём для асабістых патрэб з калгасніка неабходна заламываць вялікую плату. Плата павінна быць устаноўлена ўмераная: натурай ці грашыма, як гэта выгадней калгасніку.

У радзе пунктаў статут гаворыць аб якасці работы. Возьмем калгасы Беларусі. Яны працуюць лепш у параўнанні з 1932 ці 1933 гадамі, але ўраджай збіраюць у сярэднім 6—8 цэнтнераў з га. Гэта зусім недастаткова. У статуце запісана:

«Праўленне і ўсе члены арцелі абавязваюцца:
павышаць ураджайнасць калгасных палёў шляхам увядзення

і саблюдзення правільнага севазвароту, глыбокага ворыва, знішчэння пустазелля, пашырэння і добрай апрацоўкі папараў і зябліва, своечасовай і старанна-дасканалай міжрадковай апрацоўкі тэхнічных культур, своечасовых акучванняў хлапка, унясення ў зямлю гною як з жывёлагадоўчых таварных ферм, так і з калгасных двароў, унясення мінеральных угнаенняў, барацьбы з сельскагаспадарчымі шкоднікамі, своечасовай і старанна-дасканалай уборкі без страт, аховы і ачысткі арашальных збудаванняў, аховы лясоў, насаджэння полеахоўных лясных палос, найстражэйшага саблюдзення ўстаноўленых мясцовымі зямельнымі органамі агратэхнічных правіл».

І далей: адбіраць для пасеву лепшае насенне, скарыстаць усю наяўную цягавую сілу, палепшыць апрацоўку бросавых зямель, ворыва цаліны і інш.

Кожнае з гэтых мерапрыемстваў, узятае паасобку, на 5—10 процантаў павышае ўраджайнасць. Цэнтральны Камітэт пастанавіў, што ў 1935 г. мы павінны ўзяць ураджай зернавых у сярэднім 10 цэнтнераў з га. Гэта, вядома, мінімум. Мы павінны прыкласці ўсе намаганні, каб узяць ураджай значна большы.

Сёлетняя вясна—не звычайная вясна. Мы ўжо не можам падыходзіць да яе нават так, як падыходзілі летась, бо падкаваны значна мацней прыладамі вытворчасці, машынамі, трактарамі і інш.

У 1934 годзе атрымалі мы нядрэнны ўраджай, маем сур'ёзны вопыт барацьбы за яго. Але спыняцца на гэтым узроўні ні ў якім разе не можам. Тым часам стан падрыхтоўкі да сяўбы ў цэлым радзе месц прымушае нас моцна біць трывогу. Мсціслаўскі, Горацкі, Дубровенскі і рад іншых раёнаў прыходзіцца выцягваць за вушы. Яны не спяшаюцца з ачысткай насення, з рамонтам інвентара, асабліва з вывазкай гною, і не могуць пахваліцца нават сярэднімі рэспубліканскімі данымі (30 проц.). А вясна стукаецца ў дзверы. ЦК прыняў цэлы рад прапаноў і пастаноў, якія павінны будуць паскорыць усю падрыхтоўку і прымусіць вельмі многіх, хто не разумее ўсёй сур'ёзнасці і важнасці вясны гэтага года, мацней заняцца справай.

Статут адлюстроўвае клопаты аб добрабыце калгасніка, аб яго заможным жыцці і адначасова ставіць задачу павышэння культурнага будаўніцтва ў калгасе. Ад арцелі і праўлення статут патрабуе:

«Уздымаць культурны ўзровень членаў арцелі, укараняць газеты, кнігі, радыё, кіно, ствараць клубы, бібліятэкі і чытальні, абзаводзіцца лазнямі, цырульнямі, абсталяваць светлыя і чыстыя станы ў полі, прыводзіць у парадак вясковыя вуліцы, абсаджваць іх рознымі, асабліва пладовымі дрэвамі, садзейнічаць калгаснікам у палепшанні і ўпрыгожанні іх жылля».

Гэтыя задачы культурнага будаўніцтва становяцца абавязковымі для кожнага калгасніка. Але гэты пункт датычыць не толькі арцелі і праўлення калгаса, не толькі калгас будзе адказваць за гэтую справу, а і вельмі многія нашы арганізацыі.

Нашы кнігагандлюючыя арганізацыі марудна прасоўваюць кнігу на вёску. Яны павінны што называецца ў корані перагледзець сваю работу. Работу радыё таксама трэба значна палепшыць. Хоць радыёўстановак у нас многа, але добра перадаючых малавата. І кіно ў

нас прасоўваецца на вёску не так ужо добра. У 10-ую гадавіну Белдзяржкіно кінаработнікі асабліва павінны падумаць аб тым, як найлепш абслужыць калгас. Чырвонаму Крыжу трэба вельмі моцна заняцца работай цырулень, і т. д. і т. п.

У справе ўкаранення культуры ў калгасы агромную ролю павінен адыграць і комсамол.

Другі сур'ёзны раздзел статута сельгасарцелі—аб выключэнні з калгаса.

У радзе калгасаў звычайна выключалі пастановай агульнага сходу, нярэдка пастановай праўлення, а часам і аднаго толькі старшыні. Недарма ў першым паўгоддзі 1934 г. прынята было ў калгасы 17.000 гаспадарак, а выключана 11.000. Гэта гаворыць не толькі аб вялікай засмечанасці калгасаў, але часта і аб няправільным падыходзе да выключэння. Пры ўважлівым разглядзе справы аказалася, што не ўсе выключаныя былі кулакамі, чуждымі, зладзеямі і непапраўнымі; 50 проц. з іх аднавілі, і большасць аказалася проста несвядомымі калгаснікамі, парушаўшымі правілы ўнутранага распарадку, дрэнна працаваўшымі і т. д., але ніхто іх не папраўляў, ніхто над імі не працаваў.

Вось што наконт гэтага гаворыць статут:

> «За безгаспадарчыя і нядбайныя адносіны да грамадскай маёмасці, за нявыхад без уважлівых прычын на работу, за нядобраякасную работу і за іншыя парушэнні працоўнай дысцыпліны і статута, праўленне накладвае на вінаватых спагнанні, згодна правілам унутранага распарадку, напрыклад: перарабіць нядобраякасную работу без налічэння працадзён, папярэджанне, вымова, парыцанне на агульным сходзе, занясенне на чорную дошку, штраф у размеры да 5 працадзён, перамяшчэнне на ніжэйшую работу, часовае адстраненне ад работы.
>
> У тых выпадках, калі ўсе прынятыя арцеллю меры выхавання і пакарання аказваюцца несапраўднымі (не аказалі належнага ўздзеяння) у адносінах непапраўных членаў арцелі, праўленне ставіць перад агульным сходам пытанне аб іх выключэнні з арцелі».

Толькі тады, калі цэлы рад мерапрыемстваў выхаваўчага парадку будзе прыменен да нядбайнага калгасніка, і ўсе яны акажуцца несапраўднымі, калгас на агульным сходзе арцелі ставіць пытанне аб выключэнні, якое сапраўдна тады, калі «прысутнічае не менш $^2/_3$ агульнай колькасці членаў арцелі». Статут прадугледжвае, што ў выпадку, калі член арцелі абскардзіць пастанову аб сваім выключэнні ў РВК, пытанне канчаткова вырашаецца прэзідыумам РВК у прысутнасці старшыні праўлення арцелі і падаючага скаргу.

Хто можа ўступаць у члены арцелі? Па БССР калектывізавана на 1/І-35 г. 72,6 проц.—значыць, ёсць яшчэ значны рэзерв для калектывізацыі. Закупорваць новы прыток нельга. Веснавая сяўба павінна суправаджацца прытокам новых членаў і арганізацыяй новых калгасаў. Стары статут прадугледжваў, што ў калгасы не маглі быць прыняты кулакі, лішэнцы і іх дзеці. Новы статут гаворыць таксама, што ў члены не прымаюцца кулакі і ўсе асобы, пазбаўленыя выбарчых праў, але робіцца выключэнне:

«а) для тых дзяцей лішэнцаў, якія на працягу раду год займаюцца грамадска-карыснаю працай і добрасумленна працуюць;

б) для тых былых кулакоў і членаў іх сем'яў, якія будучы высланымі за супроцьсовецкія і супроцькалгасныя выступленні, у месцах новых пасяленняў на працягу 3-х год сваёй чэснай работай і падтрымкай мерапрыемстваў совецкай улады паказалі, што яны ісправі́ліся».

Гэты пункт аднача́сова абавязвае да яшчэ большай пільнасці ў калгасе. Агульнага падыходу не павінна быць, каб не зрабіць памылкі і не прыняць у калгас ваўка ў авечай скуры.

Статут прадастаўляе аднаасобнікам значныя магчымасці для ўступлення ў калгас:

«Сяляне-аднаасобнікі, прадаўшыя сваіх коней на працягу апошніх 2 год перад уступленнем у арцель і не маючыя насення, прымаюцца ў арцель пры ўмове абавязацельства ўнесці са сваіх даходаў з растэрміноўкай да 6 год кошт каня і насення натураю».



Гэты пункт патрабуе ад кіраўніцтва калгаса ўважлівага падыходу да кожнага падаўшага заяву аб уступленні ў калгас, прымаючы праве́раных, чэсных, працавітых і прадстаўляючы ім ільготы, устаноўленыя статутам.

* * *

Сталінскі статут сельскагаспадарчай арцелі замацоўвае за жанчынай-калгасніцай такую заваёву, якой ніколі не ведала жанчына-сялянка.

На 1-м усесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў т. Сталін аб жанчыне ў калгасе гаварыў, як аб вялікай сіле, якую нельга трымаць пад спода́м, а высоўваць наперад і пусціць у справу.

За час з 1-га з'езда значна ўзрасла роля жанчыны ў калгасе. Беларусь мае вельмі многа энергічных жанчын-калгасніц, якія на справе выконваюць прызыў тав. Сталіна—аберагаць калгасны лад, як зрэнку вока.

Прыводзім далёка няпоўныя даныя аб вылучэнні жанчын і іх ролі ў калгасах.

У 1932 г. у БССР было старшынямі калгасаў толькі 17 жанчын; у 1934 г.—ужо 204.

Загадчыц фермамі ў 1932 г. было 26, у 1934 г.—650.

У зоне дзейнасці МТС трактарыстак у 1932 г. зусім не было; цяпер — 216. Брыгадзірамі паляводчых брыгад працуе звыш 2 000 жанчын, пам. брыгадзіраў паляводчых брыгад—1600.

Значна ўзрасла актыўнасць калгасніц у грамадскай рабоце. На справаздачных кампаніях, напрыклад, па перавыбарам советаў у 1931 г. жанчын было ўсяго 54,6 проц., а ў 1934 г.—79,9 проц.

Аб тым, як высока ўзнялася палітычная актыўнасць жанчын, сведчаць прыклады работы актывістак-калгасніц, занесеных у **«Чырвоную Кнігу БССР»**, адкуль прыводзім некалькі вытрымак:

Тав. **Сабаленко**—старшыня калгаса «Чырвоныя Сосніцы», Полацкага раёна.



«Гэты калгас з'яўляецца адным з паказальных у Полацкім раёне. Ён адным з першых датэрмінова выканаў і перавыканаў усе сельскагаспадарчыя кампаніі: хлебапастаўкі, мяса і малакопастаўкі і т. д. Тав. Сабаленко кіруе жаночай секцыяй совета; некалькі раз прэміявалася.

Калі ўзяць вядзенне жывёлагадоўлі ў гэтым калгасе, то яно пастаўлена вельмі добра: свінарнікі ацеплены, жывёла добра выглядае».

Заг. фермай калгаса імя Чэрвякова, Казнянскага сельсовета, Сіроцінскага раёна,—тав. **Багданава.**

«План захавання маладняка па ферме выканан на 102 проц. Вырошчваецца 288 парасят, што складае 10,8 парасят на адну свінаматку. Кармамі на зімовы перыяд пагалоўе забяспечана поўнасцю. Зіму пагалоўе сустрэла пры добрым доглядзе сталай вытворчай брыгады, у цёплых, светлых і чыстых памяшканнях».

Тав. **Скобнікава**—лепшая свінарка фермы калгаса «Іскра», Кісценеўскага сельсовета, Рагачоўскага раёна.

«На ферме працуе два гады. Ад 3-х свінаматак вырасціла 25 штук парасят без адыходу».

Тав. **Тімашэнко**—брыгадзір паляводчай брыгады калгаса «Чырвоны маяк» у гэтым-жа Кісценеўскім сельсовеце, Рагачоўскага раёна.

«Яе брыгада зоны МТС першая закончыла пасеўную кампанію ў 1934 г., праполачную, уборачную і першая разлічылася з дзяржавай. Брыгадзірам т. Тімашэнко працуе два гады».

Калгас «Чырвоны тружанік», Прыборскага сельсовета, Гомельскага раёна.

«Існуючая пры калгасе малочна-таварная ферма, загадчыкам якой з'яўляецца лепшая ўдарніца калгаса т. **Берлінава**, выканала план камплектавання пагалоўя на 105,1 проц. На ферме 267 галоў жывёлы, матак—127 альбо 115% плана. План злучной кампаніі выканан на 115,5%. З 80 ацёлаў атрымана 79 цялят—усе захаваны. Гадавы план малакомясапаставак фермай выканан.

Ферму абслугоўвае сталая вытворчая брыгада, якая замацавана за фермай на два гады. Уся брыгада пераведзена на здзельшчыну. Складзен гадавы баланс, па якому выдаюцца кармы.

Заг. фермай т. **Берлінава** і старшыня калгаса **Каралёва** Марыля прэміяваны персанальна па 100 руб. кожная».

Такіх прыкладаў росту актыўнасці і дасканалай работы жанчын на кіруючых работах можна было-б прывесці ў сотні раз больш.

Павялічваецца роля жанчыны ў калгасах, але не ўсё яшчэ зроблена. Трэба яшчэ мацней змагацца за тое, каб жанчын далей высоўваць, усямерна дапамагаючы ім на рабоце і ў быце. Сталінскі прыкладны статут сельгасарцелі так іменна і ставіць пытанне.

«Праўленне і ўсе члены арцелі абавязваюцца:

уцягваць жанчын у калгасную вытворчасць і ў грамадскае жыццё арцелі, вылучаючы здольных і вопытных калгасніц на кіруючую работу, разгружаючы іх па магчымасці ад хатніх работ, шляхам стварэння ясель, дзіцячых пляцовак і так далей».

І далей гаворыцца:

«... пры размеркаванні работы ніякага кумаўства, сямейнасці, а строга ўлічваючы працоўную кваліфікацыю, вопыт і фізічную сілу кожнага, а ў адносінах да цяжарных і кормячых жанчын—неабходнасць аблегчыць іх работу, вызваляючы жанчын ад работ за месяц да радоў і на месяц пасля радоў з захаваннем за імі ўтрымання на гэтыя 2 месяцы ў палавінным размеры сярэдняй выработкі імі працадзён».

Дзе, у якой краіне, які ўрад, акрамя ўрада рабочых і сялян нашага вялікага Совецкага саюза, можа так вырашыць пытанне аб жанчыне?

Толькі вялікая краіна Советаў, пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў, на чале з правадыром усіх працоўных—т. Сталіным, можа зрабіць жанчыну сапраўды свабоднай, сапраўды роўнай з мужчынай, прадаставіць ёй поўнае права і магчымасць будаваць новае жыццё, умацоўваць магутнасць нашага Совецкага саюза.

І жанчына на гэта безумоўна адкажа яшчэ больш магутнай актыўнасцю і будзе берагчы як зрэнку вока калгасны лад. Імя тав. Сталіна не зыходзіць з вуснаў жанчын-работніц, жанчын-калгасніц, бо яны ведаюць, што т. Сталін, а з ім уся партыя рашуча і да канца вырашаюць пытанне аб жанчыне-работніцы, жанчыне-калгасніцы.

* * *

Апошні раздзел ставіць пытанне аб калгасніку, як аб гаспадару свайго калгаса. У нас часта любяць камандаваць калгасам і не вельмі лічыцца з думкай агульнага сходу. Мы маем нямала фактаў, калі сур'ёзнейшыя справы калгаса вырашаліся без ведама калгаснікаў. Узначальвала справы праўленне і часцей за ўсё старшыня.

Возьмем калгас «1-е мая», Мсціслаўскага раёна. На працягу цэлага года ў ім не збіраўся агульны сход калгаснікаў, рэвізійная камісія паўтара года не рэвізавала работу праўлення.

У калгасе «Новы шлях», Лагойскага раёна, рэвізійная камісія не праверыла работу і не збіралася на працягу двух год.

У калгасе «Барацьбіт за социялізм», Лагойскага раёна, з моманту арганізацыі калгаса (прыблізна 2—3 гады) ні разу не збіралася рэвізійная камісія. Справамі запраўляў старшыня. Недарма адсталыя калгаснікі ў радзе калгасаў прама заяўляюць, што працуюць на старшыню. Але-ж трэба гэтых адсталых падцягнуць да свядомых, уцягнуць іх у вырашэнне пытанняў усёй арцелі.

Статут чотка і ясна гаворыць аб кіраўніцтве справамі арцелі:

«Справамі арцелі ўпраўляе агульны сход членаў арцелі, а ў прамежку паміж сходамі—выбранае агульным сходам праўленне.

Агульны сход з'яўляецца вышэйшым органам праўлення арцелі.

Агульны сход: выбірае старшыню і праўленне арцелі, а таксама рэвізійную камісію арцелі, прычым рэвізійная камісія зацвярджаецца раённым выканаўчым камітэтам советаў».

І далей агаварваецца, што ўсе асноўныя пытанні сельскагаспадарчай арцелі не могуць быць вырашаны інакш, як на агульным сходзе арцелі. Прычым вырашэнне асноўных пытанняў праўленнем арцелі без зацверджання агульнага сходу несапраўдна. Напрыклад, калі дагавор з МТС зацвярджаецца толькі праўленнем, то ён лічыцца несапраўдным. А мы ведаем факты, калі дагавары з МТС зацвярджаліся часта нават не праўленнем, а самім старшынёю, прычым часта аб гэтых дагаворах калгаснікі нічога не ведалі, а самі падпісаўшыя дагавор не выконвалі яго.

Разам з тым статут указвае, што старшынь калгаса нельга мяняць як пальчаткі.

Вось, напрыклад, у Буда-Кашалёўскім раёне з 68 старшынь калгасаў ад двух да трох год працуе толькі 5 чал., ад года да двух—9 чал. Астатнія пастаўлены пераважна ў 1934 г., Калгас «Чырвоны прамень», Дураліцкага сельсовета, за год змяніў 4-х старшынь. Гэта, вядома, не першы прыклад.

Новы статут прадугледжвае замацаванне праўлення і старшыні тэрмінам на 2 гады.

Новы статут сельскагаспадарчай арцелі называецца прыкладным. Ён устанаўляе асновы, на якіх кожны калгас канкрэтна, з улікам сваіх асаблівасцей, прымае ўжо свой статут. Зараз па ўсёй краіне і ў нас, у БССР, прапрацоўка статута разгарнулася ўжо вельмі шырока. Але нельга забываць, што гэта работа патрабуе вялікай увагі.

Як-жа прапрацоўваецца статут у некаторых раёнах?

Возьмем вытрымку з апісання газет:

«Працоўныя №-ай вёскі сабраліся на агульны сход. Сядзяць. Пачынаюць чытаць. Вось чцец садзіцца за стол, бярэ статут і пачынае чытаць: «Працоўныя сяляне вёскі, станіцы, хутара, кішлака, аула...»—Гэта лішняе—раздаюцца галасы. Я зараз растлумачу. Трэба пісаць прама: «Працоўныя сяляне вёскі Уладзенінскага сельсовета, такога-та раёна добраахвотна яднаюцца і т. д.—Правільна—раздаюцца галасы. Чытае далей:

«Усе межы, раздзяляўшыя ранейшыя зямельныя надзелы...» Вось, зноў устала некалькі чалавек. Першай выскачыла Еўдакія Александраўна **Быкава:** «Грамадзяне, ды мы-ж межы даўно ўзаралі—яшчэ ў 1931 г.» Пачынаюцца спрэчкі—пісаць ці не пісаць аб межах. Пасля доўгіх спрэчак прынята была наступная фармулёўка: «Усе межы, раздзяляўшыя да 1931 г. (да моманту ўступлення ў калгас) зямельныя надзелы членаў арцелі, і т. д.».

Такі канкрэтны разбор, дзе кожны пункт дэталёва прачытваюць, абгаварваюць і прымаюць, ёсць правільны метад. Але могуць быць і фармальныя адносіны, калі проста зачытваюць, не ўлічваючы ўмоў і абстаноўкі данага калгаса і прымаюць як ёсць: няма чаго, моў, думаць, калі гэта прыняў 2-гі з'езд калгаснікаў-ударнікаў. Статут павінен быць абгаворан па брыгадах з унясеннем адпаведных дапаўненняў, дэталей, якія, зразумела, прынцыпова не мяняюць усяго пункта і ўсяго напрамку статута.

Прышлося званіць у цэлы рад раёнаў, каб дазнацца як разгортваецца прапрацоўка статута.

Пытаемся Петрыкаўскі раён: «Ну, як прапрацоўка ідзе?» Адказвае сакратар: «Ды як-жа я магу ведаць, калі ў мяне пад рукою няма матар'ялаў. Усе людзі ў раёне прапрацоўваюць, праводзяць сходы, ёсць актыўнасць, усе рады» і т. д.

Гэта тыповы адказ кіраўніка, які не цікавіцца, як у яго раёне прапрацоўваецца велізарнейшай важнасці дакумент, як рэагуюць калгаснікі, якія ўносяць дапаўненні і т. д. Не ведае, як дзейнічае класавы вораг. А тым часам цэлы рад фактаў гаворыць аб тым, што кулацтва спрабуе ўжо нашкодзіць, падгаварыць адсталую частку калгаснікаў супроць паасобных пунктаў статута.

Мазырскі, Заслаўскі, Стара-Дарожскі, Лагойскі і інш. раёны таксама не даюць станоўчых адказаў, якія-б гаварылі, што людзі ў раёне добра ведаюць, што робіцца ў калгасах. Мы чуем агульныя словы: «прапрацоўваем», «паслалі», «энтузіязм», «адобрылі» і т. д.

Кожны з нас павінен разумець, што без актыва цэнтральнага, гарадскога, без удзелу членаў бюро РК, ГК, прэзідыума РВК і інш. работнікаў справа не абыдзецца. Наш удзел, наша арганізатарская роля тут вялікая, ЦК рашыў, што трэба будзе на гэту справу кінуць не менш 150 чал. нашага цэнтральнага актыва. Трэба будзе разгарнуць работу па прапрацоўцы статута ў брыгадах, на агульных сходах, у дамах паасобных актывістаў-калгаснікаў, сярод аднаасобнікаў, сабраць раённыя нарады старшынь калгасаў; прапрацоўку статута спалучыць з падрыхтоўкай да вясны, з пытаннямі развіцця жывёлагадоўлі. Асабліва моцна мы павінны зараз паставіць пытанне аб тым, каб гэту вясну правесці як належыць.

Побач з разгортваннем прапрацоўкі і пераходам на новы статут (а гэту работу трэба закончыць за 3 месяцы) павінна праводзіцца работа па разгортванню новага калгаснага прыліву.

Мы вельмі моцна выраслі за апошні час. БССР у 1934 г. мела да 20 проц. прыліву, 72,6 проц. калектывізацыі на 1 студзеня, але ўсё-ж значна адстае ад другіх краёў і абласцей.

Хоць работы ў нас многа і з статутам і з падрыхтоўкай да вясны, але праводзіць яе цяпер значна лягчэй, бо мы ў самой вёсцы маем моцную апору. Мы маем ужо зараз шырокі актыў, на які можам абаперціся.

У сваёй прамове на першым з'ездзе калгаснікаў-ўдарнікаў т. Сталін сказаў:

> «Сіла большэвікоў, сіла комуністаў заключаецца ў тым, што яны ўмеюць акружыць нашу партыю мільённым беспартыйным актывам. Мы, большэвікі, не мелі-б тых поспехаў, якія маем, калі-б не змаглі заваяваць на бок партыі давер'е мільёнаў беспартыйных рабочых і сялян».

За апошні год партыя прарабіла агромную работу па стварэнню, вырошчванню, вылучэнню беспартыйнага калгаснага актыва. У кожным калгасе мы маем на каго абаперціся. У справе ўтварэння актыва велізарную ролю адыгралі палітаддзелы МТС. З гэтым актывам можна любую справу правярнуць, трэба толькі ўмела сілы расставіць, добра ведаць актыў.

Працаваць прыдзецца многа, нямала труднасцей уперадзе, але працаваць нам лёгка ў радах нашай слаўнай ленінскай комуністычнай партыі большэвікоў, якая пераможна шагае ўперад па шляху пабудовы соцыялізма. Нам лёгка працаваць і таму, што намі кіруе сталінскі ЦК, загартаваны ў баях за соцыялізм. Нам лёгка працаваць таму, што нас вядзе ад перамогі к перамозе наш любімы, наш вялікі т. **Сталін.**

---

Д. Конік

# Аб выніках VII усесаюзнага з'езда советаў і задачах друку і рабселькораў *)

3-ці ўсебеларускі з'езд рабселькораў сабраўся ў той момант, калі рабочы клас і калгаснае сялянства нашай вялікай социялістычнай радзімы на VII усесаюзным з'ездзе советаў і на 2-м з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў падвялі вынікі гіганцкай работы працоўных Совецкага саюза пад кіраўніцтвам ВКП(б) па будаўніцтву социялізма ў барацьбе за пабудову бяскласавага социялістычнага грамадства. На гэтых з'ездах найвялікшага гістарычнага значэння таксама распрацаваны чарговыя задачы нашага далейшага прасоўвання наперад па шляху ажыццяўлення рашэнняў XVII з'езда большэвіцкай партыі, указанняў правадыра нашай партыі і сусветнага пролетарыята, вялікага арганізатара нашых перамог, нашага любімага таварыша **Сталіна.**

У 1924 годзе, калі праходзіў першы ўсебеларускі з'езд рабселькораў, у БССР выходзіла 15 друкаваных газет і налічвалася 2.000 рабселькораў.

Насценны друк на нашых прадпрыемствах і ўстановах у той час толькі пачынаўся.

У 1931 г. к часу 2-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў у БССР выходзіла ўжо 108 друкаваных газет, каля 6.000 насценных газет і налічвалася больш 30.000 рабселькораў—актыўных удзельнікаў у рабоце друкаваных газет, а калі лічыць з карэспандэнтамі нізавых насценных газет, то ўжо тады было ў нас 70.000 рабселькораў. Як бачыце, 2-гі ўсебеларускі з'езд рабселькораў прадстаўляў ужо вельмі ўнушальную армію камандзіраў пролетарскай грамадскай думкі.

На 31 снежня 1934 г. у нас налічвалася 256 друкаваных газет. На прадпрыемствах і ў цэхах, у калгасах і брыгадах, соўгасах і аддзяленнях, у МТС і МТМ, у школах і ўстановах Совецкай Беларусі выходзіць 22.000 насценных газет. Зараз ёсць тысячы насценных газет, якія выходзяць штодзенна. На адной віцебскай фабрыцы «Сцяг індустрыялізацыі» выходзіць 107 штодзенных насценных газет.

Колькасць рабселькораў, прымаючых актыўны ўдзел у рабоце друкаваных газет, складае 51 тысячу. Але будзе няправільна лічыць рабселькорам толькі таго, хто піша ў друкаваныя газеты. Рабселькорам з'яўляецца і той, хто прымае актыўны ўдзел у рабоце нашага шматтысячнага насценнага друку. І вось, калі на кожную насценную газету лічыць як мінімум 3 члены рэдкалегіі і 5—7 чалавек актыва, ударнікаў вытворчасці, якія не толькі самі ўдарна працуюць, але і мабілізуюць і падсцёгваюць другіх, то мы атрымаем лічбу, перавы-

*) Даклад загадчыка аддзела культуры і прапаганды ленінізма ЦК КП(б)Б на III усебеларускім з'ездзе рабселькораў.

шаючую 250 тысяч. Значыць, дэлегаты 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў прадстаўляюць передавы атрад арміі рабселькораў, які перавышае ¼ мільёна!

Гэта—вялікая армія, вырасшая за гады рэвалюцыі, вырасшая за гады першай і два гады другой пяцігодкі, гэта—армія, якая з'яўляецца адным з передавых атрадаў вялікага нашага соцыялістычнага будаўніцтва, гэта армія прарабіла нямала большэвіцкіх спраў.

Тыя сотні і тысячы лістоў, якія штодзенна паступаюць у цэнтральны, раённы, фабрычна-заводскі і насценны друк, сведчаць аб тым, наколькі высока ўзнята большэвіцкая крытыка ў Беларусі. Гэты адзін ужо факт сведчыць аб цеснай сувязі рабочага класа, калгаснікаў з нашай вялікай комуністычнай партыяй. Гэта сведчыць аб тым, што шырокія рабочыя і калгасныя масы разумеюць, што гаспадарамі соцыялістычнага будаўніцтва з'яўляюцца яны самі. Яны дасканала разумеюць, што наш друк адыгрывае выключную ролю і праз яго дапамагаюць нашай партыі, нашай совецкай дзяржаве будаваць соцыялістычнае грамадства, каб забяспечыць поўнае таржаство справы Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

* * *

Тыя яркія паказчыкі, якія былі праілюстраваны на VII з'ездзе советаў у дакладах т.т. Молатава і Орджанікідзе, тыя паказчыкі, якія былі прыведзены ў дакладзе т. Якаўлева і выступленнях на з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў, сведчаць аб тым, што наша краіна моцная і быстра рухаецца ўперад, што наша краіна к канцу другой пяцігодкі будзе краінай бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

У СССР канчаткова зацвердзіўся соцыялізм, як пануючая форма ўсёй народнай гаспадаркі. Высока індустрыяльнаю стала соцыялістычная краіна. Мы можам вытвараць уласнымі сіламі самыя складаныя машыны. Створана база для поўнай тэхнічнай рэканструкцыі ўсіх галін народнай гаспадаркі. Высока арганізаванай, самай буйнай у свеце на аснове калгасаў і соўгасаў стала наша сельская гаспадарка. Як ніколі моцна магутнасць пролетарскай дзяржавы, аб сталёвыя межы якой разаб'е сабе галаву ўсякі, хто асмеліцца напасці на краіну соцыялізма.

Калі параўнаць узровень вытворчасці нашай краіны з капіталістычнымі краінамі, то па валавой прадукцыі прамысловасці мы займаем першае месца ў Еўропе і другое месца ў свеце, па выплаўцы чыгуна—першае месца ў Еўропе, па вытворчасці трактароў—першае месца ў свеце. Мы ідзем уперад паскораным тэмпам, даганяючы і пераганяючы ў тэхніка-эканамічных адносінах передавыя капіталістычныя краіны.

Для характарыстыкі тэмпаў нашага росту можна прывесці наступныя паказчыкі. Каб павялічыць выплаўку чыгуна з 5 млн. да 10 млн т., Францыі патрабавалася 7 год, Германіі—10 год, Амерыцы—15 год, Англіі—36 год, а нам толькі 4 гады.

Індустрыю соцыялізма мы пабудавалі выключна сваімі ўласнымі сродкамі. Улада пролетарыята здолела знайсці ў сваёй краіне агромныя сродкі для таго, каб пабудаваць эканоміку соцыялізма. Толькі за апошнія 4 гады ў цяжкую прамысловасць укладзена 30 з лішнім мільярдаў рублёў. У рэзультаце тэтага асноўныя фонды цяжкай індустрыі ўзраслі амаль да 29 мільярдаў. Параўнайце гэтыя выдатныя лічбы з 20 мільёнамі рублёў, якія Ленін перад прадстаўнікамі сусветнага пролетарыята ў 1922 г. называў першай буйнай сумай для аднаў-

лення цяжкай прамысловасці, і стане ясным, які вялікі разбег зрабіла краіна за апошнія 10—12 год.

У 1934 годзе народны даход складаў 56 мільярдаў руб. 77 мільёнаў сялянскага насельніцтва—былых дробных уласнікаў—беспаваротна перашлі на соцыялістычныя формы працы. Удзельная вага індустрыі ў нашай народнай гаспадарцы складае 74 проц.

Значэнне гэтых фактаў было падагулена тав. Сталіным у снежаньскай гутарцы з металургамі:

> «Цяпер ужо нельга лічыць, што мы краіна «дзеравяная». Цяпер мы краіна металічная».

Назаўсёды і беспаваротна перамог калгасны лад. Землі, адабраныя ў памешчыкаў, перададзены Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыяй у вечнае карыстанне калгаснікаў, якія з'яўляюцца гаспадарамі нашай вялікай совецкай зямлі. За час існавання совецкай улады парк трактароў у сельскай гаспадарцы ўзрос да 280 тыс. За адзін 1935 год наша прамысловасць выпусціць трактароў агульнай магутнасцю ў 1.900.000 конскіх сіл, што ў перакладзе на 15-сільныя трактары дасць 127 тысяч трактароў. На 1 студзеня 1934 г. у нашай краіне налічвалася 35 тыс. камбайнаў, а за адзін 1935 год будзе выпушчана 20 тыс. камбайнаў. Умелай сталінскай рукою ў асноўным завершана калектывізацыя ў нашай краіне. Гэтай-жа цвёрдай рукою быў разбіт апошні сур'ёзны капіталістычны клас—кулацтва. Цяпер дзевяць дзесятых пасеўных плошчаў у вёсцы належыць соцыялізму. Наша земляробства стала самым буйным у свеце.

У сельскай гаспадарцы соцыялістычнае земляробства дае 84 проц. усёй валавой прадукцыі. К пачатку 1935 г. больш трох чвертак усяго насельніцтва—рабочыя і калгаснікі.

Чатыры пятых сялянства ўжо ўвашло ў калгасы і моцна, беспаваротна стала пад чырвоны сцяг соцыялізма.

Гэта значыць, што пераважная маса насельніцтва нашай краіны непарыўна звязала сваё жыццё з соцыялізмам.

Усе гэтыя перамогі падагулены тав. Молатавым у яго выдатным дакладзе на VII з'ездзе советаў.

І вось мы можам зараз сказаць: «Расія нэпаўская стала Расіяй соцыялістычнай».

Гэта—найвялікшы вынік апошняга дзесяцігоддзя нашай соцыялістычнай рэволюцыі. Ён намі заваёван толькі таму, што шматмільённай арміяй соцыялістычных работнікаў краіны кіраваў геній нашай эпохі—таварыш Сталін.

* * *

Цяпер, калі калгасы замацаваліся, мы паспяхова вырашаем новыя, яшчэ большыя задачы. Уздым культуры, навядзенне чыстаты, засваенне ў вёсцы навыкаў гарадскога жыцця, укараненне радыё і кіно, стварэнне клубаў, бібліятэк і чыталень, пабудова лазень і абсталяванне цырулень, абсталяванне светлых і чыстых станаў у полі, разгортванне садоў і пладовых дрэў, палепшанне і ўпрыгожанне жылля калгаснікаў становіцца такою-ж неад'емнаю часткай работы праўленняў і ўсёй калгаснай арцелі, якою з'яўляецца і яе вытворчая работа. Перадавыя калгаснікі ўжо зразумелі, што заможнасць—гэта значыць і багацце прадуктаў і культурнае жыццё. А ў калгасах цяпер якраз ёсць усё патрэбнае для таго, каб дабіцца і багацця прадуктаў і сапраўднай культуры.

Зараз у вёсцы Совецкага саюза налічваецца 53,3 тыс. калгасных клубаў і хат-чыталень, не лічачы чырвоных куткоў у калгасах і брыгадах. За апошнія два гады ў вёсцы пабудавана больш 10 тысяч новых клубаў і палацаў культуры. Кожны буйны калгас мае сваю бібліятэку. У 1934 г. у вёсцы было 16 тысяч бібліятэк, не лічачы школьных і бібліятэк устаноў.

Хаты-чытальні, калгасныя клубы абраслі бібліятэкамі, кіноўстаноўкамі, гурткамі, узбагаціліся музычнымі інструментамі і фізкультурнымі прыладамі. У вёсцы—17.565 кіноўстановак, з іх некалькі соцень гукавых. Расце сетка драматычных гурткоў, сетка тэатраў. У мінулым годзе пабудавана 200 вялікіх калгасных тэатраў гарадскога тыпу. Вёска глядзіць поўнацэнныя спектаклі, слухае класічную музыку, глядзіць «Чапаева» і т. д.

Расце попыт на кнігі і газеты. Цяпер кожны перадавы калгаснік мае бібліятэку і ў сярэднім кожны калгасны двор выпісвае газету.

5.907 тысяч мастацкіх кніг на суму 2.900 тысяч рублёў адправіў «КОГИЗ» у вёску ў 1934 г. Больш паловы адпраўленых кніг з'яўляюцца творамі пісьменнікаў-класікаў. Усяго-ж у цэнтралізаваным парадку ў мінулым годзе «КОГИЗ» адгрузіў у вёску 10.470 тысяч экземпляраў кніг, агульным коштам у 5.900 тысяч рублёў.

Усё больш пранікаюць музычныя інструменты ў вёску.

Толькі за апошнія тры месяцы калгаснікі купілі 31.000 патэфонаў, 30.000 гітар, мандалін, балалаек і дзесяткі тысяч гармонікаў. 1.000 піяніно і раяляў купіла калгасная вёска толькі за адзін апошні год.

У калгасных хатах паяўляецца сапраўдная фабрычная мэбля. За апошнія тры месяцы вёска купіла 40.000 металічных ложкаў з пружынавымі матрацамі. Кожны дзень на вёску адпраўляецца некалькі паяздоў з крэсламі, сталамі, канапамі і т. д.

Большэвікі не толькі пасадзілі мужыка на трактар, большэвікі ў корані змяняюць яго быт. 92.000 новых веласіпедаў купіла вёска толькі за апошнія два-тры месяцы. Гэта яркія паказчыкі велізарнейшага культурнага росту нашай вёскі. Я ўжо не гавару аб тым, што ўсё дарослае насельніцтва нашай вёскі ахоплена ўсеагульным навучаннем. Так вядуць большэвікі працоўнае сялянства да новага жыцця.

Іншым быў шлях гэтага сялянства ў старой царскай жандармскай Расіі. Вось адзін з яркіх прыкладаў.

Калі адна сялянка, якая прыцягвалася па палітычнаму працэсу ў час Александра III, у сваіх паказаннях напісала, што «клапацілася аб тым, каб падрыхтаваць сына ў гімназію», то імператар Александр III наклаў рэзалюцыю: «Гэта якраз і жахліва: мужык, а лезе ў гімназію».

У нас-жа, у совецкай соцыялістычнай краіне, гэты былы мужык, а сёння калгаснік, не толькі вучыцца ў «гімназіях», але і універсітэтах. Ён, ды і не толькі ён, але і сялянка, якая ў сотні раз была больш забітай, чым мужчына, зараз—раўнапраўныя людзі, гаспадары краіны, якія зусім нядаўна засядалі ў Крэмлёўскім палацы і разам з кіраўнікамі партыі і ўрада, разам з вялікім правадыром т. Сталіным, вырашылі пытанне свайго далейшага калгаснага жыцця.

Зараз яны прама і перад усім светам заяўляюць: «няхай паспрабуе які-небудзь капіталістычны пацук крануць кроўную соцыялістычную маёмасць,—наша калгасная маса так шандарахне яго, што не паздаровіцца».

Непазнаваемыя, новыя людзі выраслі ў калгаснай вёсцы.

Узяць хоць-бы данскога казака-трактарыста Шэстапалава, выступаўшага на ўсесаюзным калгасным з'ездзе. Яшчэ некалькі год таму назад ён быў забітым бедняком. Станічнікі смяяліся над ім: «З цябе нічога не выйдзе». А цяпер аказалася, што з Шэстапалава вышаў пярвейшы трактарыст у Саюзе. Трактары ў яго брыгадзе даюць такую выпрацоўку, якую можна лічыць сусветным рэкордам: 1.189 гектараў у год на адзін трактар. Ён кіруе машынамі і людзьмі. Ён сам вырас і вырошчвае іншых. «З маёй брыгады вышлі тры трактарных брыгадзіра, якія зараз працуюць нядрэнна»,—горда паведаміў ён з'езду.

Такавы жыццё і шлях селяніна нашай соцыялістычнай краіны.

* * *

Аналіз нашых сіл і поспехаў быў-бы няпоўным, калі-б мы не адзначылі буйных перамог, заваяваных нашай Чырвонай арміяй, са дня стварэння якой споўнілася 17 год. 17 год—узрост нязначны. Але наша Чырвоная армія, не гледзячы на свой малады ўзрост, не раз галасавала бліскучымі перамогамі сваіх штыкоў і паказала ўжо, што яна з'яўляецца першай арміяй у свеце, і калі патрэбна будзе, то Чырвоная армія пад кіраўніцтвам нашай партыі прагаласуе яшчэ больш бліскуча, бо ёй ёсць чым галасаваць.

Наша авіяцыя ўзрасла за час ад VI да VII з'езда советаў на 300 проц. Паказчыкі знішчальнікаў і бамбардыроўшчыкаў павялічыліся ў паўтара-два разы, дальнасць палёту амаль ў 3 разы. Колькасць лёгкіх танкаў узрасла на 760 проц., а сярэдніх—на 792 проц.

Калі да гэтага дадаць, што якасныя паказчыкі хуткасці нашага танка ўзраслі ад 3 да 6 раз, то гэтыя лічбы набываюць для нас яшчэ большую значымасць. Морскі флот вырас на 535 проц. па колькасці падводных лодак і на 1110 проц. па колькасці старажавых караблёў. У 1934 г. нашы асігнаванні на справу абароны складалі 5 млрд. рублёў. На 1935 год асігнаванні па Наркамату абароны складаюць 6,5 млрд. руб.

Такі рэзультат той выключнай увагі, якую штодзенна аддае нашай любімай Чырвонай арміі яе лепшы прыяцель—тав. Сталін.

Наша краіна непераможна не толькі таму, што ў ёй створана дасканалая тэхніка, але і таму, што наша партыя выкавала людзей, якія правільна праводзяць у жыццё лінію нашай партыі і ўказанні т. Сталіна. Гэтыя людзі працуюць у калгасах, на заводах і шахтах, на морскіх і паветраных караблях на ўсіх прасторах нашай радзімы.

170-мільённы народ не толькі гатоў абараняць сваю радзіму, ён мае чым яе абараняць. Наша слаўная Чырвоная армія пасаджана на танк, на бранявы аўтамабіль, на матарызаваную гармату. Тыл Чырвонай арміі сядзіць цяпер не на разбітай фурманцы і сасе, а на трактары і аўтамабілі. Мільёны сялян, не гаворачы ўжо аб прамысловых рабочых, уладаюць цяпер тэхнікай, умеюць разбірацца ў маторы і ведаюць ужо як прымусіць матор трактара ці танка, камбайна ці браневіка працаваць на поўную магутнасць і без адказу на карысць нашай радзімы.

Не дзіўна пасля гэтага, што магутнасць СССР стала фактарам міжнароднага прызнання.

Буржуазная газета «Нью стэтсмэн энд нейшэн» піша:

«Совецкая краіна цяпер з'яўляецца прадметам залётаў гордых нацый. Яе поспехаў у разгар сусветнай дэпрэсіі не могуць больш адмаўляць нават яе ворагі. Яе трыумфы праніклі нават у стратасферу».

італьянская газета «Месаджэро» указвае, што:

«Совецкі саюз зараз ў стане даць адпор любой спробе ўтаржэння, распалагаючы арміяй, лепш механізаванай, . чым арміі Францыі, Англіі і Злучаных штатаў».

Гэтыя водзывы гавораць самі за сябе. Магутнасць нашага Саюза на столькі вяліка, настолькі агромна, што не лічыцца з гэтым нельга, бо гэта $^{1}/_{6}$ частка зямнога шара з буйнейшымі, гіганцкімі дасягненнямі, з каласальнай арміяй. Найбольш цвярозыя галавы капіталізма гэта ўсведамляюць і дасканала разумеюць, што недаацэньваць гэтага нельга, тым больш, калі наша краіна з кожным годам, з кожным месяцам, з кожным днём расце і мацнее.

Гэты рост асабліва ярка адлюстрован у апошніх гістарычных рашэннях лютаўскага пленума ЦК ВКП(б) і VII з'езда советаў па пытанню ўнясення некаторых змен ў нашу канстытуцыю, якія адкрываюць новую эпоху Совецкай дэмакратыі. Той факт, што наша партыя і ўрад уносяць у нашу канстытуцыю некаторыя змены, накіраваныя на пашырэнне дэмакратыі, сведчыць аб нашым вялікім соцыялістычным росце. Стварэнне буйнай соцыялістычнай індустрыі, разгром кулацтва, перамога калгаснага ладу, трываласць соцыялістычнай уласнасці, як асновы совецкага грамадства, бязмежная адданасць рабочага класа і калгаснага сялянства нашай партыі—усё гэта дазволіла ЦК нашай партыі увайсці на VII з'езд советаў з прапановай аб унясенні некаторых змен у нашу канстытуцыю.

Рашэнні пленума ЦК ВКП(б) і VII з'езда советаў аб далейшай дэмакратызацыі выбарчай сістэмы зводзяцца да замены не зусім роўных выбараў роўнымі, шматступенных—прамымі, адкрытых—закрытымі. Гэтыя змены ў канстытуцыі яшчэ і яшчэ раз гавораць аб тым, што наша партыя карыстаецца бязмежнай любоўю рабочага класа і калгаснага сялянства, што ўся наша неабдымная краіна аб'яднана і згуртавана як ніколі вакол свайго любімага правадыра таварыша Сталіна.

Указаныя змены ў нашай совецкай канстытуцыі маюць вялікае міжнароднае значэнне. Пролетарыят капіталістычных краін яшчэ раз пераконваецца, што існуюць дзве дэмакратыі: эксплаататарскай меншасці і дэмакратыя пры дыктатуры пролетарыята—дэмакратыя пануючай большасці. Рабочы клас і сялянства капіталістычнага свету яшчэ раз пераконваюцца ў тым, што толькі Совецкі саюз шырока і на справе развівае сапраўдную дэмакратыю. У гэты-ж самы момант капіталісты ліквідуюць апошнія мізэрныя рэшткі буржуазнага дэмакратызма і парламентарызма.

Працоўныя ўсіх краін яшчэ раз ўвачавідкі пераканаюцца, што свет падзелен на дзве часткі, у адной з якіх—капіталізм і фашысцкае рабства, ў другой—дыктатура пролетарыята і найшырэйшая дэмакратыя для ўсіх працоўных. Няма і не можа быць сапраўднай дэмакратыі без дыктатуры пролетарыята.

Ленін аб гэтым гаварыў так:

> «У капіталістычным грамадстве мы маем дэмакратыю ўрэзаную, убогую, фальшывую, дэмакратыю толькі для багатых, для меншасці. Дыктатура пролетарыята, перыяд пераходу к комунізму ўпершыню дасць дэмакратыю для народу, для большасці, побач з неабходным падаўленнем меншасці, эксплаататараў. Комунізм адзін толькі ў стане даць дэмакратыю сапраўды поўную» *).

*) **Ленін, т. XIV, ч. 1-я, стар. 370, 2-е выд.**

Ажыццяўленне гэтай сапраўды поўнай дэмакратыі праводзіцца толькі ў нашай краіне, якая паспяхова будуе соцыялізм.

* * *

У рэзультаце прамой штодзеннай дапамогі вялікага Совецкага саюза і правільнага ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі ў рашучай барацьбе з буржуазнымі нацыяналістамі, выкарчоўваючы падонкі класавага ворага і яго агентуры, вырасла і ўмацавалася Совецкая Беларусь, ператварыўшыся пад сцягам пролетарскага інтэрнацыяналізма, пад кіраўніцтвам ВКП(б) і яго баявога атрада КП(б)Б у індустрыяльна-калгасную рэспубліку, стаўшы сапраўднай крэпасцю абароны і соцыялістычным фарпостам Саюза ССР на самым рубяжы з капіталістычным Захадам. Пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б у нас створаны новыя віды прамысловасці, якіх ніколі не ведала Беларусь: металапрамысловасць, трубаліцейныя заводы, заводы сельскагаспадарчага машынабудаўніцтва, вытворчасць цэменту, штучнага шоўку, пабудаваны новыя буйныя шкляныя заводы, створаны камбінаты—дрэваапрацоўчыя, па харчовай прамысловасці, вялікая трыкатажная фабрыка, буйнейшая ў Саюзе швейная фабрыка, папяровая фабрыка і т. д.

За апошнія тры гады ў соцыялістычную гаспадарку БССР укладзена 1.125 мільёнаў рублёў дзяржаўных сродкаў, у тым ліку ў прамысловасць—385 мільёнаў рублёў.

Удзельная вага прамысловасці ва ўсёй прадукцыі народнай гаспадаркі БССР павялічылася з 41 проц. у 1928 годзе да 67—68 проц. у 1934 годзе.

Калі раней колькасць рабочых у Беларусі вылічвалася двума дзесяткамі тысяч, то цяпер ў нас колькасць рабочых у цэнзавай прамысловасці, на транспарце і ў машына-трактарных майстэрнях дасягае 220 тыс.

Наша вёска стала калгаснай. На 1 студзеня 1935 г. калектывізавана 72,6 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Ліквідавана кулацтва, як клас.

У БССР было арганізавана к канцу 1934 года 76 МТС. Трактарны парк сельскай гаспадаркі па МТС і соўгасах ровен 3.971 штук. Завезены дзесяткі тысяч розных сельгасмашын і прылад вытворчасці. У 1935 годзе арганізуецца новых 20 МТС, з якіх 12 будуць арганізаваны яшчэ да веснавой пасеўнай кампаніі 1935 года. Капіталаўкладанні дзяржаўных сродкаў у сельскую гаспадарку БССР за 4 гады складаюць 256 мільёнаў рублёў.

Змяніўся да непазнаваемасці твар нашай вёскі.

У мінулым у вёсцы панавала галеча і перыядычныя галадоўкі, няграматнасць і дзіцячая смяротнасць, гарэлка і трахома, вошы і клапы, гразь і лучына. Гэта асабліва характэрна было для беларускай вёскі.

Зусім іншае цяпер. Вазьміце былую беларускую вёску, а цяпер калгас «Чырвоная ніва», Панізоўскага сельсовета, Оршанскага раёна. Там няма двара, які не выпісваў-бы газеты. Выпісваюць «Известия», «Правду», «Піонер Беларусі», «Юны ленінец», «Ленінскі прызыў» і інш.

Калгас электрыфікаваны і радыёфікаваны. У хатах калгаснікаў электрычныя лямпы і радыё. Калгаснікі слухалі даклады і прамовы са з'ездаў советаў, усесаюзнага з'езда калгаснікаў-ударнікаў, слухаюць канцэрты—музыку і спевы з Масквы і Менска.

У калгасе механізаваны электрычнымі рухавікамі вадакачка, малатарня, гонтарэзка. Калгас стварае ўражанне горада. Па сялу і па палях цягнуцца лініі слупоў і электрычных правадоў. Ноччу гарыць вялікі электрычны ліхтар-лямпа ў 1 000 свечак, які дасканала асвятляе калгасны двор.

Усеагульным абавязковым навучаннем у аб'ёме чатырох класаў ахоплена ўсё насельніцтва Совецкага саюза. У гэтым годзе ў вёсцы навучаецца **шаснаццаць мільёнаў восемсот дзевяноста тысяч** дзяцей. У адной Беларусі, дзе да рэволюцыі не было ніводнай школы на роднай мове, навучаецца 857 тысяч дзяцей у сваіх нацыянальных школах.

Расце соцыялістычная па зместу і нацыянальная па форме культура Совецкай Беларусі.

У 1927-28 гг. у нас было 5.529 школ, а на 1 студзеня 1934 года ў нас іх ужо было 7.105. Колькасць настаўнікаў павялічылася з 12.665 у 1928 годзе да 25.178 чалавек.

У нас ёсць 18 ВНУ, 81 тэхнікум, вялікая колькасць рабфакаў, няпоўных і поўных сярэдніх школ.

За гэтыя чатыры гады мы выпусцілі з ВНУ і ВТНУ БССР 3.148 спецыялістаў, ды з тэхнікумаў—10.486 чалавек.

У нас 9 тэатраў, якія даюць пастаноўкі, напісаныя драматургамі, вышаўшымі з рабочых і сялян БССР.

Калі ў 1931 годзе ў Беларусі было 559 кіноўстановак, то ўжо ў 1934 годзе такіх установак у нас было 1.227, з якіх 55 гукавых.

З аграрнай, адсталай і няграматнай Беларуская ССР ператварылася ў індустрыяльна-калгасную рэспубліку з развітою індустрыяй, у рэспубліку соўгасаў і калгасаў, у рэспубліку суцэльнай граматнасці і высокай соцыялістычнай культуры.

Індустрыя БССР стала вядучай галіной народнай гаспадаркі.

* * *

Асабліва яркі нашы дасягненні на фоне таго ўпадку і разрухі, якімі ахоплены капіталістычныя краіны.

Голад і галеча, шалёная падрыхтоўка войн і подлае ашуканства працоўных—такаво становішча ў буржуазна-фашысцкіх капіталістычных краінах.

Аб становішчы сялян вось што пішуць у японскіх газетах:

«Становішча раёна Тахоку—жахліва. Колькасць сялян, якія знаходзяцца на краі галоднай смерці, дасягае 700 тыс. Мацеры знясіленыя і гінуць. Штодзенна школьнікі абамляваюць ад знясілення ў памяшканні школы. Сяляне не могуць купіць рысу і прадаюць сваіх дочак. Сэрца спыняецца, калі глянеш на тую жахлівую галечу, у якую кінута сялянства» (газета «Токіё Ніці-Ніці» за 31.X-34 г.).

Няма выхаду для японскага сялянства. Адзіны верны «даход», на які ён яшчэ можа разлічваць, гэта—гандаль уласнымі дзецьмі, прадажа сваіх дочак у гнусныя лапы ўтрымальнікаў дамоў распусты. «Токіё асахі» ад 31 снежня 1934 г. паведамляе, што «цана адной дзяўчыны дасягае 500—800 іен, але з вылікам праезду і іншых выдаткаў селяніну на рукі выдаецца 150 іен. Хоць гэта дрэнны выхад,—адзначае карэспандэнт газеты,—але, калі няма чаго есці, нічога не паробіш». 60 тысяч праданых сялянскіх дзяўчын—такі «вынік 1934 г.».

Польская газета «Слово» піша:

«Так, як жыве наш селянін у акругах каля Вільні, Навагрудка і Пінска, жыве быць можа толькі кафр ці іншы які-небудзь негр на

сваёй бацькаўшчыне. Узровень жыцця нашага рабочага не мае сабе роўнага ва ўсёй Еўропе».

А якім можа быць і ёсць узровень жыцця рабочага ў Еўропе, можна ярка ўявіць сабе па аднаму таму, што ў капіталістычных краінах зараз больш 22 млн. беспрацоўных, што за час сусветнага крызіса Амерыка адкінута па чыгуну на 42 гады, па вугалю на 31 год, па сталі на 29 год і спажыванню бавоўны на 24 гады; Англія адпаведна адкінута: па чыгуну на 76 год, па вугалю на 29 год, па сталі на 35 год і па спажыванню бавоўны на 61 год; Германія—па чыгуну на 45 год, па вугалю на 34 гады, па сталі на 38 год і па спажыванню бавоўны на 34 гады, а ўвесь капіталістычны свет адкінут па чыгуну на 34 гады, па вугалю на 27 год і па спажыванню сталі на 26 год.

Пры такім становішчы ў капіталістычных краінах асноўнымі элементамі імперыялістычнай палітыкі з'яўляюцца **шавінізм і падрыхтоўка вайны.** Найбольш ярка гэтыя якасці прадстаўлены ў фашызме, стаўшым цяпер самым модным таварам сярод ваяўнічых буржуазных палітыкаў.

Асаблівасцю фашызма з'яўляецца тое, што ён з'яўляецца адкрытай тэрарыстычнай дыктатурай найбольш рэакцыйных колаў імперыялістычнай буржуазіі. Фашызм праводзіць палітыку буйнага капітала рукамі ашуканай ім дробнай буржуазіі і нават часткі адсталых слаёў рабочых. Масаваму рэволюцыйнаму руху фашызм імкнецца проціпаставіць масавы контррэволюцыйны рух.

Для тэтага фашысты падбіраюць сабе «філосафаў», ідэолагаў і прарокаў. Адным з такіх ідэолагаў нямецкія фашысты выстаўляюць і прапагандуюць зараз мракабеса і ярага рэакцыянера Ніцшэ.

У апраўданне сваіх гнусных дзеянняў, якія зводзяцца да абароны манапалістычнага капіталізма, фашысты выцягнулі і велічаюць зараз Ніцшэ асновапаложнікам, першым вестуном іх фашысцкіх ідэй і тэорый і т. п.

Твар гэтага іх «куміра» вельмі ярка ўскрываецца выказваннямі аб вайне. Гэты рэакцыянер піша:

«Любіце мір, як сродак к новым войнам, і кароткі мір—больш, чым доўгі. Я не працаваць раю вам, але ваяваць. Раю вам гэта не для міру, але для перамогі. Вашаю працай хай будзе вайна, вашым мірам—перамога.

Няхай мужчына выхоўваецца для вайны, а жанчына—для аддыхненняў ваякі: усё астатняе глупства».

Лідэр нямецкіх фашыстаў Гітлер таксама адкрыта прапагандуе вайну. У маі 1933 г. ён зрабіў такую заяву прадстаўніку англійскай газеты «Дэйлі экспрэс»:

«Нямецкі фашызм не патрабуе ні аднаўлення даваенных межаў, ні звароту патрачаных калоній. Мільённы лішак насельніцтва Германіі павінен атрымаць магчымасць распараджацца на шырокіх тэрыторыях ля яе ўсходніх граніц, яму павінна быць дазволена скарыстаць рэзервныя крыніцы, цяпер запушчаныя дзякуючы большэвіцкай безгаспадарнасці».

Як-жа Гітлер і гітлераўцы тлумачаць перад нямецкім народам свой заклік да заваявання і захвату Ўсходу? Яны тлумачаць свае агрэсіўныя імкненні тым, што воблік людзей ўсходне-балтыйскай расы самы непавабны: «шырокая, кароткая шыя, кароткія рукі і пальцы, таўстыя лыткі. Асабліва выдзяляецца цяжкая і вялікая галава. Нос гідкі. Рысы твару брыдкія. Валасы русыя, але не маюць бляску».

Самае-ж галоўнае зло гэтых людзей ў тым, што яны ў процівагу людзям «паўночнай» расы не ўладаюць дастатковаю дозай павагі да прыватнай уласнасці.

«Усходне-балтыйскі чалавек,—гавораць фашысты,—схільны к комунізму, што выяўляецца ў схільнасці да злачынстваў супроць уласнасці».

Такую характарыстыку дае Гітлер усходняй нацыі і лічыць, што іх, гэта значыць большэвікоў, трэба пакарыць.

Каб абгрунтаваць сваю ідэалогію мракабесаў і паказаць, што іх ідэалогія з'яўляецца адзінай ідэалогіяй, якая можа забяспечыць «прасоўванне ўперад усяму чалавецтву»,—яны ўсімі мерамі ахайваюць марксізм.

Самае бессаромнае і нечуванае скажэнне фактаў гісторыі, нечуваная фальсіфікацыя—вось метады работы гэтых наглых фашыстаў. Яны думаюць, што падобнай прапагандай дыскрэдытуюць марксізм—гэта найвялікшае вучэнне сусветнага пролетарыята; яны думаюць гэтым вырваць яго з рук рабочага класа, бяднейшага сялянства. Дарэмныя патугі. Акрамя набліжэння сваёй пагібелі, нічога больш вы гэтым не дасягнеце, панове фашысты! Фашысты шкадуюць аб тым, што Германія, па іх думцы, у апошні час мала ваявала і ад гэтага, аказваецца, у іх цяжкія вынікі.

Фашыст Бухбрукер даказвае нават «якім вялікім няшчасцем быў для Германіі такі працяглы перыяд міру, як 1871—1914 гг. Германцы развучыліся ваяваць, і да якіх цяжкіх вынікаў гэта прывяло—агульнавядома».

Германскі фашызм адкрыта прапаведвае імперыялістычную палітыку. Фашызм патрабуе новых зямель. Германскі народ,—сцвярджаюць фашысты,—павінен заваяваць новыя землі на Ўсходзе.

На фашысцкую пагрозу вайны і нападу на СССР, бацькаўшчыну сусветнага пролетарыята, адкажам яшчэ большай згуртаванасцю вакол ленінскай партыі большэвікоў, яе ЦК і любімага правадыра ўсіх працоўных—тав. Сталіна, яшчэ больш узмоцнім абароназдольнасць нашай краіны і боездольнасць нашай Чырвонай арміі.

Гора тым, хто выступіць супроць краіны Советаў. Наша слаўная Чырвоная армія—плоць ад плоці, кроў ад крыві працоўнага народу—разгроміць ушчэнт усіх, хто пасягне хоць на пядзь свяшчэннай і недатыкальнай Совецкай зямлі.

У нашай соцыялістычнай краіне вялікім полымем гарыць совецкі патрыятызм. Совецкі патрыятызм—гэта магутнейшая сіла, перад якой не ўстояць подлыя і асуджаныя ворагі, якія спрабуюць парушыць наша мірнае жыццё. І калі вораг на нас нападзе, совецкія патрыёты возьмуць зброю ў рукі і з большэвіцкім геройствам і адвагай змятуць фашысцкіх разбойнікаў з твару вялікага зямнога шара.

* * *

У БССР у 1934 годзе налічвалася 256 друкаваных газет, з іх 11 цэнтральных, 75 раённых, 6 транспартных, 44 шматтыражкі МТС і соўгасаў, 56 фабрычна-заводскіх, 36 шматтыражак ВНУ, дарожных і т. д.

Калі ў 1931 годзе ў БССР налічвалася каля шасці тысяч насценных газет, то к канцу 1933 года іх было ўжо каля 12 тысяч. Цяпер на прадпрыемствах, у калгасах і ўстановах налічваецца 22.000 насценных газет, з іх каля 8 тысяч выходзіць ў калгасных брыгадах і каля 2-х тысяч непасрэдна ў брыгадах на прадпрыемствах.

У гэтым росце друку знаходзяць сваё канкрэтнае ажыццяўленне ўказаннi правадыра партыi таварыша Сталiна аб тым, што «друк павiнен расцi не па днях, а па гадзiнах,—гэта самая вострая i самая моцная зброя нашай партыi».

Калi ў 1912 годзе на ўсёй тэрыторыi царскай Расii выходзiла толькi 252 газеты, то цяпер, к 3-му з'езду рабселькораў, толькi ў адной БССР выходзiць больш як 256 друкаваных газет.

Наша партыя пад кiраўнiцтвам таварыша Сталiна ажыццявiла завет Ленiна аб тым, што **«мы павiнны ператварыць i мы ператворым прэсу з органа сенсацыi, з простага апарата для паведамлення палiтычных навiн, з органа барацьбы супроць буржуазнай хлуснi—у зброю эканамiчнага перавыхавання масы, у зброю азнаямлення масы з тым, як трэба наладжваць працу па-новаму» (Ленiн, т. XXII,** стар. 414). Клапатлiвы догляд за **парасткамi комунiзма** стаў першачарговым абавязкам нашых газет. Гэта павiнна быць i далейшай цэнтральнай задачай у рабоце друку i рабселькораў.

Асноўнай палiтычнай задачай другой пяцiгодкi з'яўляецца канчатковая лiквiдацыя капiталiстычных элементаў i класаў наогул, поўнае знiшчэнне прычын, параджаючых класавую рознасць i эксплаатацыю, i перамаганне перажыткаў капiталiзма ў эканомiцы i свядомасцi людзей, ператварэнне ўсяго працоўнага насельнiцтва краiны ў свядомых i актыўных будаўнiкоў бяскласавага соцыялiстычнага грамадства. Гэта задача з'яўляецца галоўнай у рабоце ўсяго большэвiцкага друку. Друк—мацнейшая зброя ў справе перакоўкi свядомасцi людзей.

> «Газета,—гаварыў Iльiч,—не толькi калектыўны прапагандыст i калектыўны агiтатар, але таксама i калектыўны арганiзатар».

Наша задача—ўсе гэтыя якасцi газеты ўзняць на значна вышэйшую ступень. Для гэтага трэба рашуча палепшыць арганiзацыйна-практычную работу друку i рабселькораў.

Наш друк з'яўляецца астрэйшаю зборяй барацьбы за пабудову соцыялiзма. На ўсiх этапах свайго развiцця наша партыя аддавала выключна вялiкую ўвагу друку i рабочым карэспандэнтам, як асноўнаму звяну ва ўсёй рабоце газет. Наша газета з'яўляецца газетай працоўных мас, бо ў ёй удзельнiчаюць мiльёнвыя масы працоўных. У гэтых адносiнах наша партыя кiруецца ўказаннем Ленiна, даным ў «Лiсце к таварышам» аб арганiзацыi газеты «Вперед». У гэтым лiсце Ленiн пiсаў:

> «Гэта непаразуменне, быццам-бы iменна лiтаратары i толькi лiтаратары (ў прафесiянальным сэнсе гэтага слова) здольны з поспехам прымаць ўдзел ў органе; наадварот, орган будзе жывым i жыццёвым тады, калi на пяток кiруючых i пастаянна пiшучых лiтаратараў—пяцьсот i пяць тысяч работнiкаў не лiтаратараў» *).

Выходзячы з гэтага ленiнскага ўказання, наш большэвiцкi друк клапатлiва вырошчвае, выхоўвае i арганiзуе рабочых i сялянскiх карэспандэнтаў.

Рабселькоры—актыўныя праваднiкi генеральнай лiнii нашай партыi, ўдарнiкi соцыялiстычнага будаўнiцтва.

Iменна таму, што большэвiцкая газета ёсць сродак завязаць сувязi з працоўнымi масамi нашай краiны для згуртавання вакол пар-

*) **Ленiн,** т. VI, стар. 374.

тыі і совецкай улады і выцякае неабходнасць абавязковага прыцягнення мас да ўдзелу ў нашым друку. Большэвіцкая газета нямысліма без шырокага ўдзелу ў ёй рабочых і калгаснікаў.

Вось чаму кіраваць рабселькорамі, выхоўваць іх, ведаць іх у практычнай рабоце на вытворчасці—першачарговая задача большэвіцкай газеты.

* * *

Высокая ідэйнасць нашага друку выступае з асаблівай яркасцю пры супастаўленні яго з зарубежным буржуазным друкам.

Што прадстаўляе сабою буржуазны фашысцкі друк?

Будучы на службе ў капіталістаў, буржуазны друк адметны бязмежнай прадажнасцю.

Большасць буржуазных газет знаходзіцца на непасрэдным утрыманні буйных капіталістычных трэстаў. Грашовы мяшок капіталістаў плоціць за тое, што буржуазная газета ўсхваляе капіталізм, усхваляе папоўшчыну і мракабессе, распальвае нацыянальную рознь, нацкоўвае працоўных адной нацыянальнасці на другую, выдумляе небыліцы пра СССР і т. д. і т. п.

Вось некалькі прыкладаў таго, чым займаецца буржуазны друк, як агітуе за вайну, якая патрэбна імперыялістам, капіталістам.

Фашысцкая польская газета «Ілюстрованы кур'ер цодзенны» друкуе наступныя гімны ў гонар вайны:

«Вайна—гэта дабрабыт. Вайна—гэта работа для беспрацоўных. Вайна—гэта канец перанасяленню. Вайна—гэта адраджэнне паэзіі».

Газета канчае заклікам: «Ітак, панове, пачынайце гульню—хто першы»...

З не меншым захапленнем адзываецца аб вайне таксама японскі друк.

«Гэта добрая справа—перыядычна весці вайну, бо вайна ачышчае душу Японіі ад гразі. Тое, што ў 1924 г. не ўдалося выклікаць вайну, з'яўляецца найвялікшай небяспекай, якая прывяла да «небяспечных мыслей» і іншых адмоўных вынікаў».

Гаворачы пра «небяспечныя мыслі», гэты друк мае на ўвазе рост комуністычнага руху.

Хлусня—улюбёны сродак буржуазнага друку.

Брахня ў капіталістычнай прэсе мае ласкавую мянушку «вуткі». Быў час, калі на вуліцах Варшавы кожныя 5—10 дзён з'яўляліся экстраныя выпускі з чарговай «тэлеграмай» аб правале совецкай улады. Выгукі разносчыкаў газет: «Бунт у Маскве—за 10 грошаў» сталі амаль прыказкай. Ганаровае месца на слупках буржуазнай газеты займае крымінальшчына. Іхнія героі гэта—бандыты і прастытуткі. Выходзяць нават спецыяльныя часопісы, якія апісваюць выключна крымінальныя злачынствы і яўна любуюцца ўчынкамі крымінальных герояў. Робіцца гэта з мэтай адцягнуць масавага чытача ад грамадска-палітычных пытанняў.

Адзін з часопісаў—«Тайны дэтэктыў»—вельмі пашыран сярод моладзі ў Польшчы. На анкету, праведзеную сярод гэтых дзяцей па пытанню, пра што яны любяць чытаць, атрымаліся наступныя адказы:

1. «Больш за ўсё мне падабаюцца забойствы».
2. «Больш за ўсё мяне цікавяць забойствы, пакражы і самагубствы».
3. «Гляджу ў газеце, ці няма яшчэ якога-небудзь забойства», і т. д.

Асабліва старанна працуе гэты друк ў галіне распаўсюджання мракабесся. Тут фашысцкая рэакцыя, папоўшчына выступае так адкрыта, як ніколі раней.

У Германіі выходзіць часопіс, які займаецца гаданнем па зорках. Такім-жа сярэдневяковым пытанням прысвяціў спецыяльны выпуск «Ілюстрованы кур'ер цодзенны» і інш.

Калі да гэтага дадаць, што варшаўскія газеты рэкламуюць цяпер такую «працу», як «Польскі слоўнік п'яніцы» і што адносна нядаўна польская радыёстанцыя абвясціла конкурс «на самую бессэнсоўную бяссэнсіцу», тады стане ясным, які ўпадак, якое варварства пануе ў буржуазным друку.

Гэтыя факты даволі метка гавораць аб тым, як нізка стаіць буржуазны друк.

Недарма самі гаспадары буржуазных газет гавораць пра іх так:

«...Буржуазны друк перажывае ў параўнанні з мінулымі гадамі значны, часткова катастрафічны заняпад. Большасць ранейшых нямецкіх чытачоў **наогул перастае чытаць газеты».** (З бюлетэня фашысцкага «Саюза германскай прэсы».)

Такава забойчая аўтахарактарыстыка буржуазнага друку.

* *
*

Зусім іншае становішча ў нас. Наш большэвіцкі друк з'яўляецца магутнейшай і астрэйшаю зброяй барацьбы за соцыялізм.

Наш друк і яго вялікая армія—рабселькоры—прарабілі вялікую работу ў правядзенні масавага вытворчага паходу імя VII усесаюзнага і XI усебеларускага з'ездаў советаў.

На вялікую прынцыповую вышыню нашым друкам ўзнят масавы рух за аўладанне тэхнікай. Аб гэтым сведчаць праведзеныя з вялікай палітычнай актыўнасцю злёты зотаўцаў, выдатнікаў лёгкай прамысловасці ў Віцебску і цяжкай прамысловасці—у Гомелі.

Нізавы друк і рабкоры—гэта перадавая частка зотаўскага руху. Узнялася якасць работы непасрэдна нізавога, насценнага друку.

Узяць хоць-бы насценную газету «Сталінец» падсобнага цэха менскага паравознага дэпо. У цэху працаваў токарам малады рабочы Левін. Дрэнна працаваў. Варштат быў заўсёды брудны. Сам хадзіў неакуратным, выпускаў недобраякасную прадукцыю. Рэдакцыя цэхавай насценнай газеты (рэдактар тав. **Меляшкевіч** мае 23-гадовы вытворчы стаж) напісала ліст бацьку Левіна, ў якім прасіла паведаміць прычыны некультурных адносін сына да работы. Ліст быў змешчан у газеце. Газетай у доме Левіна было праведзена абмеркаванне ліста. Рэдактар насценнай газеты ўзяў шэфства над маладым Левіным. Цяпер Левін з'яўляецца ўдарнікам.

Арганізуючая роля друку і рабселькораў у паказе асабістым прыкладам соцыялістычных адносін да працы, барацьба за ўзорную пастаноўку работы, за выкананне і перавыкананне вытворчых паказчыкаў, асабліва якасных—цяпер штодзенна расце.

Вось прыклады:

Рабкоры механічнага цэха камбіната імя Гікало (Гомель) дабіліся змяншэння паўторных рамонтаў.

Па лесацэху рабкоры дабіліся зніжэння браку з 20 да 3 проц. Цэх сістэматычна перавыконвае план.

Другі калектыў мэблевага цэха завода імя Молатава (Менск) сістэматычна затрымліваў выкананне цэхам промфінплана.

Шматтыражка пачала выдаваць насценны бюлетэнь. Арганізавала рабкораўскія пасты ў другіх брыгадах, і рабочы калектыў пачаў замест 270—280 крэслаў рабіць у дзень 300—302 крэслы.

Характэрны прыклад, як рабкоры сваёй большэвіцкай настойлівасцю дасягаюць намечанай мэты.

У брыгадзе торфзавода «Свабода», Осіповіцкага раёна, з ліпеня 1934 г. пачала выходзіць рэгулярна брыгадная насценгазета.

Газета сумесна з парторгам паставіла перад сабой задачу вывесці жаночую брыгаду па торфаздабычы і па сушцы торфу ў перадавыя рады.

Насценгазета павяла рашучую барацьбу з лодырамі і прагульшчыкамі. Паказваючы на старонках брыгаднай газеты вопыт лепшых работніц, газета падцягвала адстаючых.

Праводзячы так работу, брыгада заняла першае месца на торфзаводзе па выкананню промфінплана. Так павінен працаваць наш друк, так павінны працаваць нашы рабселькоры.

У чым сіла нашага друку?

У тым, што ім кіруе партыя Леніна—Сталіна. У тым, што ён—друк саміх працоўных. У тым, што ствараецца ён рукамі лепшых людзей, ударнікаў, паказваючых асабістым прыкладам, як трэба змагацца за справу соцыялізма.

Вось твар нашага рабкора. Назаву толькі некаторых.

Тав. **Жур**—знатны чалавек торфапрамысловасці, працуе на заводзе імя Гея (Смалявічы). На торфе працуе 10 гадоў. Пачаў з радавой работы, потым быў брыгадзірам. Вельмі добра арганізоўваў працу. Яго брыгада выконвала план на 160—170 проц. Датэрмінова закончыў сезон у мінулым годзе. Не раз прэміяваўся. Цяпер вылучан начальнікам змены. Імя брыгадзіра Жура шырока вядома па ўсёй БССР. Тав. Жур—адзін з актыўных рабкораў нашага друку.

Тав. **Аляксееў** прышоў на завод імя Кірава (Менск) у 1924 годзе. Зараз—брыгадзір брыгады тарфяных вагонаў. Комсамолец. Яго брыгада з'яўляецца суцэльна тэхнічна-граматнай, промфінплан 1934 года выканала 29 лістапада, студзеньскі план 1935 года выканала 28 студзеня. Брыгада ў сваёй рабоце не ведае браку і з'яўляецца кандыдатам на пераходны сцяг імя гаркома ЛКСМБ. Тав. Аляксееў—актыўны рабкор і рэдактар насценгазеты слясарна-зборачнага цэха.

Такіх рабкораў у нас тысячы. У гэтым і сіла нашага друку.

Цяжка ацаніць усю тую велізарную работу, якую праводзіць наш друк са сваёй арміяй рабселькораў ва ўсіх кутках, на ўсіх участках нашай грандыёзнай соцыялістычнай будоўлі. Прывяду некаторыя факты аб рабоце нашых селькораў.

Вельмі адставала апрацоўка лёну ў калгасе «Новы шлях», Осіповіцкага раёна. Паміж брыгадамі і трапальшчыкамі не было ніякага спаборніцтва. Селькоры арганізоўваюць насценную газету. Рэдкалегія арганізуе вакол насценгазеты актыў у брыгадах і разгортвае спаборніцтва. Газета паказвае метады работы лепшых, папулярызуе перадавікоў, бічуе адстаючых, а, галоўнае, добра ведае тую справу, за якую яна змагаецца.

У рэзультаце справа палепшылася. За некалькі дзён выпрацоўка лёну павысілася з 20 да 80 проц.

На малацьбе брыгада № 2 калгаса «Чырвоны барэц», Лельчыцкага раёна, адставала. За дзень намалачвала ўсяго 7 тон, у той час, калі лепшая брыгада—13 тон.

Селькоры **Дашкевіч, Заяц, Грыцкевіч** у адстаючай брыгадзе пачалі выпускаць насценную брыгадную газету.

Газета паставіла перад сабой задачу—дагнаць перадавую брыгаду № 1.

Выкрылі лодыраў, паказалі ўдарнікаў, дабіліся правільнай расстаноўкі сіл, і ў рэзультаце праз 2—3 дні брыгада № 2 стала намалочваць не 7, а 13 тон.

Насценгазеты літаральна перавыхоўваюць людзей. Насценгазета калгаса «Звязда» (Копыскі местсовет, Оршанскага раёна, рэдактар Гілін Іосіф) перавыхавала недысцыплінаваных калгаснікаў **Мільто, Кандроўскага** і бракаробаў **Рыбакова, Халецкага** ў добра працуючых, чэсных работнікаў.

Насценная газета ў калгасе імя Леніна (Якаўлевіцкі сельсовет, Оршанскага раёна) на паказе работы лепшых, на бічаванні адстаючых з прымяненнем індывідуальна-выхаваўчай работы дабілася таго, што 10 калгаснікаў, парушаўшых працоўную дысцыпліну, сталі ўдарнікамі. У рэзультаце работы газеты калгас датэрмінова закончыў здачу дзяржаве лёну, мяса, малака, датэрмінова закончыў хлебазакупкі.

Вялікую работу праводзяць селькоры ў барацьбе за калектывізацыю.

Рад актыўных селькораў газеты «Віцебскі пролетарый» з'явіліся першымі застрэльшчыкамі ў рэалізацыі прапаноў тав. Постышэва аб арганізацыі хат-лабараторый. Па ініцыятыве селькораў т. т. **Цярэшчанка, Генеральчанка і Нейдліна** калгаса «Чырвоная армія», Елагінскага сельсовета, у дзень друку 5 мая 1934 года была арганізавана хата-лабараторыя—першая ў раёне і першая ў БССР. Хата-лабараторыя на вопытным участку правяла каштоўныя доследы па атрыманню высокага ўраджаю гародных культур і бульбы. Зараз у хата-лабараторыі рэгулярна праводзяцца заняткі агразоатэхгуртка, у якім займаецца 40 чалавек. Цяпер гурток выпускае першых зотаўцаў сельскай гаспадаркі. Гэты вопыт павінен стаць агульным набыткам усяго нашага друку, усіх нашых селькораў.

* *
*

Справе разгортвання барацьбы за соцыялістычную культуру, справе ўкаранення культуры ў быт працоўных мас горада і вёскі наш друк узмацніў увагу, але яна яшчэ далёка недастатковая. За культурную хату калгасніка, узорна пастаўленую работу ў чырвоным кутку, клубе, хаце-чытальні, за павышэнне сваіх ведаў у галіне мастацкай літаратуры, за развіццё шахматна-шашачнай ігры, за добры хор у калгасе і на прадпрыемстве—гэтыя пытанні, у рэзультаце шырокага правядзення вытворчага паходу імя з'езда советаў, сталі займаць на старонках друку і ў арганізацыйнай рабоце рэдакцый газет некаторае месца, але яшчэ зусім недастатковае.

Прывяду паасобныя факты з работы друку па барацьбе за культурны рост сяла, калгаса і т. д.

Па ініцыятыве насценгазеты калгаса «Полымя», Заслаўскага раёна (рэдактар газеты комсамолец **Кузік**), у хатах 10 калгаснікаў пакладзены новыя падлогі, адрамантаваны вокны. Пры дапамозе газеты ў калгасе арганізаваны і працуюць 4 чырвоныя куткі.

Вялікую работу па культурнаму паходу праводзіць оршанская раённая газета «Ленінскі прызыў». Зараз у раёне дзейнічаюць 172 гурткі па чытцы мастацкай літаратуры, у якіх прымае ўдзел больш 5.000 слухачоў.

Да канца года калектыўна будуць прапрацаваны наступныя кнігі: «Мать»—Горкага, «Поднятая целина»—Шолахава, «Железный поток»—Серафімовіча, «Дрыгва»—Коласа, «Спалох на загонах»—Галавача. У 52 гуртках ужо прачыталі «Дрыгву», «Поднятую целину», «Спалох на загонах». У 27 гуртках прачыталі «Мать»—Горкага.

Праведзены 2 канферэнцыі кіраўнікоў гурткоў і слухачоў гурткоў па чытцы мастацкай літаратуры.

Барацьба за павышэнне культурнасці ў Оршанскім раёне дае найлепшыя паказчыкі. Вось некалькі ўзораў.

Зубаўскі сельсовет (старшыня Дзержынскі), які доўга памяшчаўся ў звычайнай сялянскай хаце, з рускай печчу ў сярэдзіне памяшкання, у канцы 1934 года грунтоўна перабудаваўся. Руская печ вынесена; выдзелены асобныя габінеты і старшыні і сакратару, выдзелена зала для наведвальнікаў, там-жа знаходзіцца і чытальня. У зале стол пакрыт чырвоным палатном, пастаўлены венскія крэслы, лаўкі. Сцены і столь абклееены новымі абоямі, на сценах вывешаны партрэты Леніна, Сталіна, Молатава, Калініна, Варашылава, Будзённага. Падлога чыстая, вымытая.

У кожным калгасе Зубаўскага сельсовета па ініцыятыве рабселькораў былі створаны камісіі па праверцы стану хат калгаснікаў.

Калі гэтыя камісіі знаходзілі брудную калгасную хату, члены камісіі разуваліся і пачыналі падмятаць і мыць падлогу. Гаспадыня хаты чырванела, упрашвала не рабіць гэтага, гаварыла, што яна сама зараз вымые падлогу. Але камісія была няўмольна і выходзіла толькі тады, калі падлога была чыстай. Пасля гэтага калгасніца ўжо не дапускала, каб у яе хата была брудная.

Усямерна вітаючы гэтыя факты канкрэтнай барацьбы за культуру, мы павінны дабіцца таго, каб гэта барацьба стала штодзенным дзеяннем усяго нізавога друку і рабселькораў.

У нашай выхаваўчай рабоце з рабселькорамі мы павінны кіравацца наступным указаннем тав. **Сталіна:**

«Навучаць рабочых і сельскіх карэспандэнтаў некатораму мінімуму тэхнікі журналістыкі, вядома, неабходна. Але асноўнае не ў гэтым. Асноўнае заключаецца ў тым, каб рабочыя і сельскія карэспандэнты навучаліся ў ходзе сваёй работы і выпрацавалі ў сябе тое чуццё журналіста—грамадскага дзеяча, без якога карэспандэнт не можа выконваць сваю місію і якая не можа быць прышчэплена якімі-небудзь штучнымі мерамі навучання, у тэхнічным сэнсе гэтага слова» (Са зборніка «О пролетарской печати»).

Якія-ж найбольш пашыраныя формы выхаваўчай работы з рабселькорамі прымяняюцца друкам БССР?

Гэта, па-першае, **нарады рабселькораў** (раённыя, сельсовецкія і галінныя вытворчыя).

Наш друк такія нарады склікае даволі часта. Але недахоп гэтых нарад заключаецца ў тым, што рэдакцыі захапляюцца скліканнем нарад па тэрытарыяльнаму прынцыпу. Мала склікаецца нарад рабселькораў па вытворчаму прызнаку (канюхоў, свінаводаў, абутнікаў, гарбароў, швейнікаў). Між тым, іменна нарады апошняга тыпу найбольш дзейсны і эфектыўны.

Другі недахоп нарад—слабы ўдзел у іх кіруючых работнікаў, што безумоўна зніжае дзелавітасць і ролю гэтых нарад.

Добрай падрыхтоўчай работы—вось чаго, па-трэцяе, не хапае пры скліканні гэтых нарад.

За перыяд падрыхтоўкі к 3-му з'езду рабселькораў па БССР праведзена 1.114 нарад рэдактароў насценных газет і 128 сельсовецкіх і раённых нарад рабселькораў. Як бачыце, гэта форма выхаваўчай работы з рабселькорамі стала ў нас масавай. Гэта форма кіраўніцтва рабселькорамі павінна быць захавана.

Другім відам выхаваўчай работы з рабселькорамі з'яўляюцца **рэйды друку.**

Гэта вялікая і сур'ёзная школа для рабселькораў.

На Украіне многія ўдзельнікі 10-цітысячных рэйдаў, якія праводзіліся «Правдой», былі вылучаны на кіруючую рэспубліканскую работу.

На жаль, у нас у практыцы правядзення рэйдаў нярэдка сустракаюцца скажэнні.

Нярэдкі выпадкі, калі рэдакцыя газеты ператварае рабселькораў, удзельнікаў рэйда, у простых пастаўшчыкоў матар'ялу, г. зн., у рэпарцёраў.

Бываюць выпадкі, калі брыгады друку, пасты, штабы ў тых ці іншых месцах падмяняюць мясцовае гаспадарчае кіраўніцтва, самі пачынаюць аддаваць загады і інш.

Трэцім відам выхаваўчай работы з'яўляецца **перапіска рэдакцыі газеты з рабселькорамі.** Чулы індывідуальны ліст рэдакцыі, своечасова пасланы рабселькору з указаннямі, як яму правесці тую ці іншую справу, як напісаць аб гэтым у газету—такі ліст адыгрывае выключную ролю. У нас-жа ў практыцы работы многіх газет нярэдкі выпадкі загадзя загатоўленых у друкарні ў масавым маштабе трафарэтак. У іх рэдакцыі звычайна пішуць: «Дробязь. Не пойдзе». Або «Аб гэтым пісалася ўжо». У лепшым выпадку паведамляецца, што «ліст будзе надрукаваны ў бліжэйшым будучым». Трафарэт і шаблон у перапісцы з рабселькорамі мае месца яшчэ ва многіх газетах.

Вось адзін з прыкладаў такога роду шаблона.

Нараўлянская раённая газета задалася мэтай дапамагчы рабселькору лепш пісаць заметку. Але гэта добрае жаданне звялося да апашлення, бо кожны рабселькор атрымаў ад рэдакцыі парады будаваць заметку так:

«1. Назва калгаса і сельсовета, дзе існуе даная жывёлагадоўчая ферма.

2. З чаго складаецца гаспадарка.

3. Хто адказвае за даную гаспадарку і ў якім стане яна знаходзіцца.

4. Што патрабуецца для палепшання яе стану ў выпадку, калі там дрэнна. Можна паказаць і добрыя бакі, калі яны ёсць».

Увогуле, наўрад ці можна было прыдумаць што-небудзь больш горшае к такому шаблону.

Або вось былы работнік цэнтральнай газеты **Ястрэмскі** напісаў селькору на прысланы ім верш наступны адказ:

«Ваш верш не пойдзе, бо ён напісан слабымі словамі. Для таго, каб напісаць, патрэбен падбор моцных слоў, тады вы выкажаце думку, якую хацелі».

У пасылцы такіх лістоў праяўляецца няведанне рэдакцыямі сваіх селькораў і няўменне дапамагчы ім у рабоце.

Чацверты від выхаваўчай работы з рабселькорамі—гэта **стацыянарныя формы вучобы.** Сярод іх першае месца павінны заняць рабселькораўскія семінары. У 1934 годзе па ўсёй БССР былі праведзены 5-дзённыя курсы-семінары рабселькораў. Курсы гэтыя адыгралі буйнейшую ролю ў мабілізацыі і арганізацыі рабселькораў на лепшае правядзенне сельскагаспадарчых работ. Гэта буйнае масавае мерапрыемства праведзена было ў рэзультаце спецыяльнага рашэння ЦК КП(б)Б па гэтаму пытанню. Але калі закончыліся гэтыя курсы-семінары, то ў далейшым па сутнасці спынілася (калі не лічыць Менска,

Віцебска і некалькіх раёнаў) семінарная вучоба рабселькораў. Зразумела, гэта дрэнна.

Рабселькораўскія семінары павінны быць створаны ў буйных калгасах і соўгасах, пры рэдакцыях раённых і шматтыражных газет. Гэтыя семінары павінны быць забяспечаны выкладчыцкімі кадрамі, вучэбнымі дапаможнікамі і т. д.

Які змест трэба ўкласці ў гэтыя семінары?

Асноўнае і галоўнае—гэта прапрацоўка з рабселькорамі рашэнняў партыі і ўрада, абмеркаванне ў гэтай сувязі задач рабселькораў. Усё гэта павінна быць высокапрынцыпова і ў той-жа час сугуба-канкрэтна паднесена. Акрамя таго, у семінарах трэба вывучаць з рабселькорамі асновы марксісцка-ленінскага вучэння аб друку. І, нарэшце, у семінарах трэба рабселькораў вучыць мінімуму журналісцкай тэхнікі.

Пятым і адным з найбольш сур'ёзных відаў вучобы рабселькораў з'яўляецца **рэдакцыя-школа.** Нешта падобнае на гэты тып вучобы мы маем у «Звяздзе», дзе актыў рабселькораў на працягу раду месяцаў праходзіць журналісцкую вучобу паралельна з журналісцкаю практыкай.

Падобная форма вучобы прывіваецца зараз і ў Гомелі.

Рэдакцыяй «Палескай праўды» створаны трохмесячныя курсы рабкораў, разлічаныя на 60 чал. Разам з тэарэтычнай вучобай курсанты вучацца і практычнай рабоце.

Семінары працуюць на 21 прадпрыемстве і ахапляюць 435 чалавек. Калі тут добра паставяць вучобу з рабкорамі, «Палеская праўда» і гомельскія шматтыражкі ўзбагацяцца новымі кадрамі газетных работнікаў.

Трэба сказаць, што ў Гомелі гэтыя кадры ўжо вылучаюцца і нядрэнна працуюць.

На заводзе «Пролетарый» імя Кірава рэдактарам шматтыражкі «Чырвоная вагранка» вылучан рабочы-фрэзероўшчык рабкор т. **Міхлін.** З рабкора рабочага-ўкладчыка лесазавода вырас і стаў кваліфікаваным рэдактарам т. **Генкін,** які цяпер рэдактарам шматтыражкі «Сталінец» (шклозавод імя Сталіна). На заводзе «Сельмаш» імя Кагановіча намеснікам рэдактара шматтыражкі «Сельмашац» працуе былы рабочы гэтага завода т. **Грынько.**

Большэвіцкі друк—гэта вялікая школа, якая выхоўвае і вырошчвае разнастайныя кадры для нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

За час сваёй работы газета «Рабочий» вырасціла і выхавала вялікую колькасць актывістаў-рабкораў, цяпер працуючых на адказных пастах.

Тав. **Любін**—былы рабочы гомельскай шчотачнай фабрыкі з рабкора вырас у дырэктара шчотачнай фабрыкі, потым у дырэктара віцебскага шчоткамбіната, дырэктара трэста Белшчаціны, а зараз працуе дырэктарам фабрыкі «Комунарка», якая трымае пераходны сцяг Менгаркома КП(б)Б і Менгорсовета.

Тав. **Мехавіцкі**—рабочы фабрыкі «Усход»—вырас з рабкора ў старшыню фабкома гэтай-жа фабрыкі, потым вылучаецца інструктарам у ЦП саюза гарбароў, а зараз працуе сакратаром парткома Менскага хлебакамбіната. Такіх многа. Не гаворачы ўжо аб тым, што значная частка апарата раённых і шматтыражных газет укамплектавана за лік лепшых рабселькораў.

Паводле даных з раёнаў, за 1934 год вылучаны на газетную работу ў раённыя і фабрычна-заводскія газеты 62 рабселькоры. Гэта

лічба безумоўна недастатковая. Рабселькораў на іншыя работы вылучана каля 400 чал.

Пытанню вылучэння рабселькораў у далейшай рабоце неабходна будзе аддаць большую ўвагу. Вучыць і вылучаць лепшых рабселькораў на адказныя работы—гэта адна з чарговых і галоўных задач раённых і ўсіх партыйных арганізацый у галіне вырошчвання і выхавання новых кадраў.

Вельмі цікавай, але пакуль вельмі слаба пашыранай формай выхавання і вылучэння рабселькораў з'яўляецца **інстытут сумяшчальнікаў у рэдакцыях.** Такі інстытут упершыню ў БССР створан пры газеце «Окцябр».

Вельмі важнай формай выхаваўчай работы з рабселькорамі з'яўляецца **завочнае навучанне.**

Са студзеня 1935 года вучэбны камбінат «Крестьянской газеты» сумесна з КіЖ'ам Беларусі разгарнуў завочную вучобу рэдактароў калгасных і брыгадных насценгазет.

У даны момант у Беларусі ёсць 29 апорных пунктаў завочнага навучання з ахопам 881 завочніка.

Вялікае значэнне гэтага завочнага навучання зусім відавочна. Задача заключаецца ў тым, каб усе гэтыя формы выхаваўчай работы з рабселькорамі былі максімальна скарыстаны нашым друкам.

Мы павінны арганізаваць людзей такім чынам, каб упорна і настойліва павышаць іх узровень як палітычны, так і агульны. Мы павінны арганізаваць вучобу. Павінен вучыцца рэдактар раённай газеты, рэдактар шматтыражкі, рэдактар насценгазеты і кожны рабселькор. Майце на ўвазе—той, хто прапускае вучобу тыдзень і месяц, ён адстае, жыццё яго пакідае ззаду. Вучоба зараз з'яўляецца асноўным сродкам для таго, каб аўладаць складанейшай тэхнікай, створанай нашым соцыялістычным будаўніцтвам. Мы ўклалі мільярды рублёў. Гэтыя мільярды рублёў пашлі на ўдасканаленне тэхнікі. Усё гэта пашло на тэхнічнае аснашчэнне нашых калгасаў, нашых трактарных станцый, нашых фабрык і заводаў. Гэтымі найвялікшымі каштоўнасцямі трэба ўмела распараджацца, берагчы іх.

Возьмем трактар. У самым трактары закладзены вялікія рэзервы. Несвоечасова зробленая падцяжка падшыпнікаў— лішнія астаноўкі. А колькі марна прападае бензіна з-за таго, што трактарыст нядобра кіруе трактарам. Усё гэта патрабуе вывучэння і ведання трактара, якім мы кіруем. Ды хіба справа ў трактары? Куды ні павернешся, на якой-бы рабоце вы ні працавалі—усё гэта патрабуе беражных адносін да соцыялістычнай уласнасці і ведання гэтай справы. Таму зараз, больш чым калі-небудзь, стаіць задача перад усім рабочым класам і калгасным сялянствам, асабліва перад рабселькорамі: задача вучобы, павышэння свайго ідэйнага і агульнага ўзроўню.

* * *

Расце і мацнее сувязь нашага цэнтральнага і раённага друку з найшырэйшымі масамі працоўных. Аб гэтым сведчыць вялікі рост лістоў працоўных у рэдакцыі цэнтральных і раённых газет БССР.

ЦО КП(б)Б «Звязда» атрымала за 1934 год 17 662 лісты. Колькасць паступаючых лістоў расла з месяца ў месяц. Калі ў студзені 1934 года «Звязда» атрымала 980 лістоў, то ў снежні было атрымана 2.037 лістоў.

Газета «Калгаснік Беларусі» у студзені 1934 года атрымала 900 лістоў калгаснікаў, а ў снежні—1.328.

Газета «Рабочий» у пачатку 1934 года атрымала ў сярэднім у месяц 630 карэспандэнцый, а ў снежні—910.

«Чырвоная змена» з 1-га красавіка па 1 кастрычніка 1934 г атрымлівала ў сярэднім па 294 лісты ў месяц, а за 3 апошнія месяцы 1934 года—па 406 лістоў.

Раённыя газеты БССР за 9 месяцаў 1934 года атрымалі 183.300 карэспандэнцый, з якіх змешчана 117.342, паслана на расследванне 39 тысяч, атрымана адказаў аб рэагаванні 25 тысяч. Праўда, не ўсякая карэспандэнцыя патрабуе рэагавання, бо нашы рабселькоры зараз не толькі ўскрываюць тыя ці іншыя агіднасці, а паказваюць і лепшыя ўзоры работы лепшых людзей, пішуць карэспандэнцыі на палітычныя тэмы, маючыя агромнае значэнне ў справе выхавання працоўных мас. Але ўсё-ж трэба з усёй сілай падкрэсліць, што справа рэагавання, справа палепшання дзейснасці рабселькораўскіх матар'ялаў у радзе месц пастаўлена выключна дрэнна.

З аднаго боку, засеўшыя дзе-ні-дзе бюракраты не выконваюць рашэння партыі аб своечасовым рэагаванні, яны не жадаюць прыслухоўвацца да сігналаў мас. З другога боку, некаторыя рэдактары пабюракратычнаму аддзелваюцца ад лістоў, лічачы справу закончанай пасля таго, як адпраўлен ліст з рэдакцыі, або яшчэ горш таго—марынуюць ліст у сталах загадчыкаў аддзелаў.

Гэта мае месца ў рэдакцыі газеты «Палеская праўда», дзе, пачынаючы ад рэдактара тав. Бугрова і канчаючы іншымі работнікамі, к лістам рабселькораў адносяцца абураюча.

Каштоўнейшыя лісты залежваюцца і ідуць у кошыкі, а рэдакцыйныя чыноўнікі запаўняюць, у пагоні за ганарарам, старонкі газеты сваім матар'ялам.

Дрэнная справа і ў оршанскай газеце. Па даных рэдактара тав. Дамарацкага, з атрыманых рэдакцыяй 2.578 карэспандэнцый і лістоў змешчана 1.900 і паслана на расследванне 180, а поўтысячы кінулі на сметнік.

Падобныя адносіны да працы рабселькора, які хварэе душой за вялікую соцыялістычную справу, з'яўляюцца злачыннымі. Трэба сказаць, што наша пракуратура, на жаль, не ўзнімае гэтай справы. Наша пракуратура недастаткова прыцягвае да адказнасці тых бюракратаў, якія не лічацца з заметкамі нашых рабселькораў. Наша пракуратура павінна больш пільна займацца гэтым важнейшым пытаннем, бо гэта адна са зброй барацьбы нашай партыі за трыумф соцыялізма.

Разам з гэтым трэба ўзмацніць патрабаванні і да рабселькора, які кожную заметку павінен старанна падрыхтаваць і ўсебакова праверыць факты з тым, калі заметка пападае ў наш друк, у нашу газету, каб яна была праўдзівай і дзейснай. Калі ў першы перыяд былі даравальны рабселькору недакладнасць і непацверджанне некаторых фактаў, то ў цяперашні час мы прад'яўляем больш павышаныя патрабаванні. Наша жыццё ўскладнілася. Мы павінны ад рабселькораў патрабаваць, каб яны нам давалі матар'ял праверany, старанна падрыхтаваны. Гэта абавязкова неабходна ў барацьбе за 100-процантную дзейснасць рабселькораўскіх заметак.

Дзейснасць заметак залежыць і ад саміх рэдакцый газет. Нам трэба вучыцца гэтаму ў нашай большэвіцкай «Праўды». Мы павінны прама сказаць, што варта толькі, каб з'явілася заметка ў «Правде», хоць-бы 2—3 радкі, і на гэту заметку неадкладна рэагуюць як партыйныя арганізацыі, так і совецкія.

Гэта тлумачыцца не толькі тым, што вялік аўтарытэт нашай большэвіцкай «Правды». Гэта тлумачыцца яшчэ і тым, што «Правда» з вялікай пільнасцю адносіцца да кожнай друкуемай заметкі і дабіваецца давядзення справы па кожнаму факту да канца. У рэзультаце няма такога факта, калі-б заметка «Правды» засталася без увагі і рэагавання.

На жаль, не так справа стаіць у нашых цэнтральных газетах. «Звязда» і «Рабочий» пішуць, але самі недастаткова змагаюцца за тое, каб ажыццявіць, правесці ў жыццё і давесці да канца тыя пытанні, якія ставяцца рабочымі. Нашы газеты часта абмяжоўваюцца змяшчэннем матар'ялу, а самі не правяраюць дзейснасці гэтага матар'ялу.

Калі такое становішча ў нашым цэнтральным органе ЦК КП(б)Б— «Звяздзе», калі такое становішча ў газеце «Рабочий» і «Калгасніку Беларусі», то яшчэ горшае ў раённых газетах, шматтыражках і ў насценных газетах.

Зразумела, што нам патрэбна неадкладна дабіцца рашучага пералому ў барацьбе саміх рэдакцый газет за дзейснасць заметак. Нам трэба вучыцца і гэтай справе ў нашай ленінска-сталінскай «Правды».

* * *

Шырока вядомы, асабліва ўдарнікам друку, наступныя ўказанні Леніна—Сталіна.

**«Друк—адзіная зброя, пры дапамозе якой партыя штодзенна, штогадзінна гаворыць з рабочым класам на сваёй, патрэбнай ёй мове» (Сталін).**

**«... Комуністычная партыя... абавязана ўмець і прапагандаваць, і арганізоўваць, і агітаваць найбольш даступна, найбольш зразумела, найбольш ясна і жыва...» (Ленін).**

Значыць, нельга гаварыць аб газеце, як агітатары, прапагандысце і арганізатары і забываць аб яе мове. Мова большэвіцкай газеты— мова большэвіцкай партыі.

Змагацца за якасць мовы нашых газет—значыць змагацца за партыйнасць газетнай мовы.

Цэнтральны орган нашай партыі «Правда» не раз указвала на неабходнасць абвяшчэння паходу за ачыстку газетнай мовы ад бюракратычнага хламу і за ператварэнне яе ў безумоўна зразумелую і даступную мільёнам, сапраўды народную мову.

Ленін бачыў у чыстаце мовы, якою друк гаворыць штодзённа з мільённымі масамі, перш за ўсё больш верны спосаб **уплыву** на гэтыя мільёны. Неахайная, нядбайная, засмечаная газетная мова **затрудняе наш уплыў на масы.**

Няма горшага віду газетнага бюракратызма, чым забыванне таго, што газета заклікана абслугоўваць чытача.

Навучыцца выражацца па-сталінску, аўладаць стылем пісьма Леніна і Сталіна—выразнасцю, прастатой, яснасцю і сціспасцю выкладання, нястомна весці барацьбу з бюракратычным газетным зазнайствам і чванствам—першачарговая задача кожнага работніка друку.

Нельга ні на адну мінуту забываць таго, што аб якасці той ці іншай газеты, аб сувязі яе з масамі, аб ступені выканання газетай пастаўленых перад ёю задач чытач мяркуе не толькі па колькасці надрукаваных артыкулаў і заметак, а перш за ўсё па таму, на якой мове газета з ім размаўляе.

Вось чаму работнікам друку з усёй настойлівасцю трэба авладаць у дасканаласці роднай мовай, памятаючы, што газета выхоўвае, вучыць.

Чытач павінен вучыцца мове ў газеты. Нашым настольным кіраўніцтвам у гэтай справе павінны быць творы Леніна і Сталіна.

Усесаюзная нарада рабселькораў пры «Праўде» пісала ў сваім лісце к таварышу Сталіну:

«На тваіх артыкулах і прамовах мы вучымся, як змагацца за генеральную лінію партыі, як авалодаць тэхнікай нашай газетнай справы, як пісаць у газету, як сцісла і ясна, вобразна і проста фармуляваць нашы мыслі, каб яны былі даступны мільёнам рабочых і сялян».

Глыбока вывучаць творы Леніна і Сталіна—вось што патрабуецца для работнікаў друку.

Мова нашых газет яшчэ вельмі засмечваецца бюракратычным хламам.

Часта ў газетах бывае абураючая няграматнасць.

Звернемся да прыкладаў:

Вось даслоўны стыль паасобных артыкулаў газеты Лагойскага раёна «Чырвоная Лагойшчына»:

«Калгаснікі калгаса «Ударнік», Швабскага сельсовета, рашуча пратэстуюць замаха забіць селькора тав. Навіцкага і супроць нечалавечых здзекаў над калгасным племянным жарабцом».

Гэта—узор бязграматнасці і беззмястоўнасці. За няграматнасць газеты ЦК КП(б)Б зняў з работы рэдактара Чаплінскага, з забаронай яму працаваць у органах друку. Гэта—сур'ёзная перасцярога для работнікаў друку.

У нумары «Комунар Заслаўшчыны» ад 10 кастрычніка 1934 года пры падліку аказалася 203 граматычныя і 48 стылістычных памылак.

У газеце «Ударнік», Суражскага раёна, у артыкуле «Расце соцыялістычная культура» (у нумары за 7 лістапада) напісана:

«Дыялектыка разглядае рэч, з'явішча ў дынаміцы, гэта значыць як рэзультат папярэдняга і прадпасылку для далейшага развіцця».

Што зразумее з гэтага чытач раённай газеты? Абсалютна нічога.

У газеце «Шлях соцыялізма», Чашніцкага раёна, дан такі загаловак да заметкі:

— «Заганяюць у бутылку фонды стымулявання».

У нумары суражскай газеты «Ударнік», за 26 снежня на першай паласе дан такі аншлаг:

«Узятыя самаабавязацельствыператварыць у канкрэтную барацьбу дзеяння». (Відаць, хацелі сказаць у «канкрэтную праграму дзеяння»). На жаль, у нашым друку такіх фактаў яшчэ многа.

Задача заключаецца ў тым, каб рашуча змагацца за чыстату мовы нашых газет. Трэба не забываць, што чым граматней будзе наша газета, тым лепш яна будзе паражаць нашых ворагаў.

Работа нашых газет патрабуе ад газетных работнікаў асабліва вялікай рэволюцыйнай пільнасці. **Забыванне рэволюцыйнай пільнасці ў рабоце друку ёсць найвялікшае злачынства перад партыяй.**

Між тым, гэта яшчэ не ўсвядомлена часткай нашых работнікаў, і на старонкі газеты пранікае часамі тое, што лье ваду на млын класавага ворага. Няма дастатковай адказнасці за кожнае слова, пуска-

емае ў друк, а гэта самае яркае прытупленне рэволюцыйнай пільнасці з боку работніка друку.

* *
*

Трэба штомінутна памятаць, што з ростам нашай социялістычнай радзімы і з умацаваннем нашай пролетарскай дыктатуры не аслабляецца, а ўзмацняецца супраціўленне апошніх рэштак паміраючых класаў. Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны пераходзяць ад адных форм наскокаў да другіх, больш рэзкіх форм наскокаў.

Класавы вораг шкодзіць нам яшчэ на многіх участках соцыялістычнага будаўніцтва. Класавы вораг не спыняецца перад забойствам найбольш актыўных барацьбітоў за соцыялізм. За апошні перыяд наша партыя і рабселькораўская армія ўтраціла многіх лепшых таварышоў, загінуўшых ад рукі класавага ворага. Яны загінулі на сваіх адказных пастах у барацьбе за соцыялізм. Падрыхтоўка да нашага з'езда рабселькораў таксама не абышлася без афяр. Напярэдадні нашага з'езда быў зверскі забіт дэлегат 3-га ўсебеларускага з'езда рабселькораў Крывіцкі Дзімітры Васільевіч,—былы батрак, старшыня перадавога калгаса, стойкі большэвік, актыўнейшы рабселькор. Сваю ўдарную арганізатарскую работу ён сумяшчаў з вострым рабселькораўскім пяром. Ён ускрыў кулацкую дзейнасць сына былога валаснога суддзі Раманкевіча Ермалая, выкрыў бандыта Грышмана Барыса, пралезшага ў нашу партыю і атрымаўшага партбілет. І вось гэтымі ворагамі народу быў зверскі забіт рабселькор таварыш Крывіцкі.

Астаткі недабітых класава-чуждых элементаў пралазяць нават у рады рабселькораў, каб «ціхаю сапай» падрываць нашу работу, закідваючы ў газеты заведама ілжывыя, кляузныя карэспандэнцыі. Даволі назваць адну лічбу. За 1934 г. па раённых газетах БССР такіх прымазаўшыхся адсеяна каля 400 чалавек. Гэта безумоўна зусім не значыць, што зараз ужо ўсё ў парадку, што нашы рады ідэальна чыстыя, што класавы вораг ужо склаў зброю. Наадварот, мы павінны з кожным днём павышаць класавую пільнасць. Мы павінны ведаць кожнага рабселькора, бязлітасна выкрываючы класавых ворагаў, пралазячых у рабселькораўскія рады.

Пры праверцы радоў рабселькораў брагінскай газеты аказалася, што з 209 рабселькораў 18 чалавек класава-чуждых элементаў хаваліся пад маскай селькораў. Там былі і бандыты, і кулакі, і асуджаныя не раз зладзеі і т. д.

Можна прывесці цэлы рад фактаў, калі паасобныя варожыя нам элементы, пралезшыя ў «рабселькоры», потым нам шкодзяць, пішуць заметкі для таго, каб адцягнуць нашу ўвагу ад асноўнай нашай работы, для таго, каб не дапамагаць, а шкодзіць нашай вялікай справе. Вось прыклады.

**Каласоўскі** (Шклоў)—сын кулака, пісаў у газеты хлусню і паклёпы, прыкрываючы ўсё гэта чужым прозвішчам. Ён нават пралез быў у раённую газету, але цяпер выкрыт.

У калгасе «Чырвоны баец», зоны Большэвіцкай МТС (Менск) на работу рэдактара калгаснай насценгазеты прабраўся кулацкі агент Ал. **Герасімовіч.** Ён разваліў работу насценгазеты. Пасля таго, як яго выкрылі і выключылі са складу рэдкалегіі, ён стаў на шлях тэрарыстычнай расправы над селькорамі-ўдарнікамі калгаса.

Прыведзеныя факты сведчаць аб тым, што многія з газет яшчэ не ведаюць твару кожнага свайго рабселькора, а таму не заўсёды свое-

часова выкрываюць ілжэселькораў і адкрытых класавых ворагаў, якія імкнуцца выкарыстаць друк у сваіх контррэвалюцыйных мэтах.

Не заўсёды ў нас яшчэ на вышыні і партыйнае кіраўніцтва газетай, асабліва насценнай.

У калгасе «Чырвонаполле», Міхееўскага сельсовета, Крычаўскага раёна, адказны рэдактар насценнай газеты рахункавод **Бераснёў** і калгаснік **Агеенка** лічаць, што «насценная газета робіць толькі шкоду ў калгасе і ўносіць сварку сярод калгаснікаў і асабліва сярод жанчын».

Так сам «рэдактар» заяўляе аб насценнай газеце. Мы ўправе запытаць, а дзе-ж раённыя арганізацыі, якія адказваюць і за насценную газету, якія даручылі Бераснёву справу арганізатара грамадскай думкі ў калгасе? За гэта безумоўна адказвае раённая партыйная арганізацыя.

Нам трэба патрабаваць зараз, каб райком партыі, райвыканком, райпрофсовет, райком комсамола больш увагі аддавалі друку. Нам трэба па-бальшэвіцку арганізаваць работу не толькі друкаваных, але і маючыхся ў нас 22.000 рукапісных—гэта значыць насценных газет. Патрэбна сур'ёзна і сістэматычна займацца работай з рабселькорамі, як асноўнай апорай нізавога друку. Згодна рашэнню ЦК партыі, на «Звязду» ускладзена адказнасць па кіраўніцтву рабселькораўскім рухам у БССР. На жаль, канкрэтнай работы з рабселькорамі па лініі «Звязды» яшчэ мала.

Мы павінны зараз у гэтых адносінах прыняць цэлы рад практычных мерапрыемстваў з тым, каб гэты ўчастак у нашай газеце «Звязда» значна палепшыць. Таксама не можа зняць з сябе адказнасць за кіраўніцтва гэтым участкам газета «Рабочий». Тав. **Хейфец,** мала займаецца рабкорамі, а яго-ж газета, па сутнасці, з'яўляецца рабочай газетай. «Калгаснік Беларусі» і яго рэдактар тав. **Шастакоў** таксама дрэнна займаецца селькорамі, а яго задача—дапамагаць з дня ў дзень кожнаму селькору, ведаць асноўны актыў сваіх селькораў і працаваць з ім так, каб гэта адчувала ўся рабселькораўская армія.

Да работы з рабселькорамі нам трэба будзе прыцягнуць адказных таварышоў з цэнтральнага друку, уключаючы сюды ўсіх нашых рэдактароў. Трэба, каб яны асабіста ўзяліся за гэту работу. Трэба будзе прыцягнуць рад адказных работнікаў нашых партарганізацый да гэтай справы, каб сапраўды сістэматычна ўзнімаць ідэйна-палітычны ўзровень нашай вялікай рабселькораўскай арміі.

* * *

1935 год павінен быць годам вялікага росту прадукцыйнасці працы, годам рэзкага палепшання якасці нашай прадукцыі на нашых фабрыках, заводах і транспарце.

Той факт, што па асобных нашых заводах і фабрыках якасць прадукцыі нізкая, сведчыць аб тым, што друк і рабселькоры на месцах недастаткова займаюцца гэтай справай. Вазьміце нашу швейную прамысловасць. Яна мае цэлы рад дасягненняў у параўнанні з тым, што было. Але, на жаль, гэтыя дасягненні яшчэ вельмі малыя ў параўнанні з тым, што нам трэба. Нам зараз патрэбен касцюм такі, які сапраўды люба было-б апрануць, каб на ім гузікі трымаліся моцна, каб касцюм быў з добрага сукна і па размеру добры і прыгожа пашыты. У нас-жа ёсць выпадкі, калі рукавы прышываюцца к касцюму так, што цяжка зразумець, хто іх прышываў—кравец ці думаючы вучыцца кравецтву.

Нам трэба якасць нашай прадукцыі ў 1935 г. узняць на такую вышыню, каб наша Совецкая Беларуская Рэспубліка была на першым месцы ў нашым вялікім Совецкім саюзе. Добра было-б, калі-б сель-

коры сумесна з рабкорамі заключылі соцыялістычныя дагавары па пытанню якасці. Рабкоры павінны змагацца за добрую фабрычна-заводскую прадукцыю, а селькоры—за лепшае правядзенне веснавой сяўбы і за высокі ўраджай.

Беларусь—рэспубліка лёну і жывёлагадоўлі. Мы павінны забяспечыць нашу лёгкую прамысловасць сваёй сыравінай. Таму задача нашых селькораў—яшчэ больш напружыць свае сілы к таму, каб грунтоўна развіваць ільнаводства і жывёлагадоўлю, каб кожны год даваў лепшыя паказчыкі, чым папярэдні.

У бліжэйшы год мы павінны, як указаў XI усебеларускі з'езд саветаў, поўнасцю закончыць калектывізацыю ўсіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у БССР.

Важнейшай палітычнай і практычнай праграмай рабселькораў з'яўляецца прыняты на ўсесаюзным з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў новы статут сельгасарцелі.

Рабселькоры абавязаны гэты статут як можна хутчэй давесці да кожнага калгасніка, калгасніцы, рабочага, работніцы і моладзі. Усе да адзінага ў нашай рэспубліцы павінны ведаць гэты важнейшы палітычны дакумент, які адкрывае новую яркую паласу нашага калгаснага будаўніцтва па шляху да заможнага і культурнага жыцця.

Гэты дакумент ставіць канкрэтныя задачы перад кожным калгаснікам, кожным кіраўніком, кожным членам партыі, перад кожным рабселькорам, задачы, як трэба змагацца за завяршэнне справы большэвізацыі калгасаў, за поўнае таржаство заможна-культурнага калгаснага жыцця. Таму вывучэнне гэтага дакумента і барацьба за ажыццяўленне пастаўленых ім задач з'яўляецца зараз асноўнай справай усіх нашых рабселькораў.

Вялікая задача перад нашымі рабселькорамі ў галіне развіцця жывёлагадоўлі. На XVII з'ездзе нашай партыі т. Сталін сказаў, што справу жывёлагадоўлі павінна ўзяць у свае рукі ўся партыя, усе нашы работнікі,—партыйныя і беспартыйныя. Таварыш Сталін указаў, што праблема жывёлагадоўчая з'яўляецца цяпер такой-жа першачарговай праблемай, якой была ўчора ўжо вырашаная з поспехам праблема зернавая. Прашоў год, але ці можам мы сказаць, што ў нас, у Беларусі, гэта праблема ажыццяўляецца паспяхова? На жаль, не. Нельга гэтага сказаць. У развіцці жывёлагадоўлі мы грунтоўна адстаем. Калі возьмем па буйнай рагатай жывёле, то ў 1934 г. мы ў Беларусі атрымалі прырост у 2,1 проц. у адносінах да 1933 г., а па Савецкаму саюзу прырост склаў 10,4 проц. Па каровах, свіннях і асабліва авечках і козах у Беларусі быў не прырост, а **паніжэнне,** тады як па СССР у цэлым было павышэнне паталоўя ў 1934 г. у параўнанні з 1933 г.

Трэба сказаць, што нашы рабселькоры гэтым участкам недастаткова займаліся, яны недастаткова ўскрывалі тыя шкодніцкія элементы, якія працягвалі сваю падрыўную работу на гэтым участку. Зразумела, нельга прычыну затрымання росту жывёлагадоўлі цяпер тлумачыць толькі шкодніцтвам кулака.

У цяперашніх умовах, калі класавы вораг разгромлен і калгасны лад перамог канчаткова і беспаваротна, калі арганізацыйны перыяд у сельскай гаспадарцы закончыўся, кулак можа шкодзіць толькі па нашаму ўласнаму папушчэнню, **толькі па бяздзейнасці мясцовых работнікаў і недастатковай пільнасці. У канчатковым выніку ўсё залежыць ад нас і толькі ад нас.**

Вось чаму рабселькоры павінны самакрытычней аднесціся да таго, як змагаліся за жывёлагадоўлю і зрабіць кожны для сябе адпаведны вывад.

Наступнай асноўнай і на сёння самай баявой задачай рабселькораў з'яўляецца барацьба за лепшую падрыхтоўку да веснавой сяўбы.

Вясна ў гэтым годзе будзе ва ўсіх адносінах асаблівай. **Калгасы рыхтуюцца к таму, каб у 1935 годзе заваяваць новыя буйнейшыя перамогі** і атрымаць найлепшы ўраджай. Гэта патрабуе такой падрыхтоўкі к пачатку сельскагаспадарчага года, якой ніколі не было.

Пытанням падрыхтоўкі да веснавой сяўбы наш Цэнтральны Камітэт і асабіста тав. Гікало аддае выключную ўвагу.

Усе нашы перамогі, дасягнутыя КП(б)Б пад кіраўніцтвам тав. Гікало за апошнія гады, з'яўляюцца лепшай зарукай таго, што ў гэтым годзе мы можам і павінны заваяваць найлепшы ўраджай, пакончыць з адставаннем многіх калгасаў і дабіцца заможнага жыцця для мільёнаў тружанікаў калгасных палёў.

Між тым факты з месц гавораць аб бяздзейнасці і дэмабілізацыі раду зямельных органаў, буйных недахопах у рабоце на месцах. Людзі чакаюць цыркуляраў, а некаторыя казённа іх выконваюць і не бачаць таго, што робіцца ў калгасах. І рабселькоры яшчэ не пускаюць у ход свайго вострага пяра на барацьбу за арганізаваную сустрэчу сяўбы.

З чаго зараз складваецца падрыхтоўка да сяўбы? Завоз, засыпка, ачыстка і сартаванне насення. Поўнае сканчэнне рамонту трактароў і сельскагаспадарчага інвентара. Клопаты аб рабочым цягле, аб кані і кармах для яго. Правільная арганізацыя калгасных брыгад. Падрыхтоўка тэхнічных кадраў. Вось галоўнае, без чаго нельга гаварыць аб поспеху пасеўнай кампаніі.

За гэта павінны зараз змагацца, аб гэтым павінны зараз пісаць рабселькоры.

Цяпер, як ніколі, патрэбна гібкасць і празарлівасць кіраўнікоў. Умовы змяніліся. Гутарка ідзе не столькі аб засыпцы насення, колькі аб яго ачыстцы і падрыхтоўцы. У машына-трактарных майстэрнях галоўнае цяпер ва ўменні арганізаваць справу і культурна працаваць. Словам, за што ні вазьміся, усюды на першым месцы стаяць людзі, роля кіраўнікоў і арганізатараў узнялася, як ніколі.

Вось чаму рабселькоры, бліжэй за ўсіх звязаныя з газетай—актыўным агітатарам, прапагандыстам і арганізатарам мас,—павінны мабілізавацца на падрыхтоўку да веснавой сяўбы, як ніколі. Чым лепш мы правядзем веснавую сяўбу, тым большымі будуць нашы далейшыя перамогі.

Поўнае ажыццяўленне гэтых задач яшчэ больш умацуе магутнасць і сілы нашай Савецкай Беларусі—соцыялістычнага фарпоста на рубяжы з капіталістычным Захадам.

Пагранічнае становішча нашай рэспублікі абавязвае кожнага працоўнага і ў першую чаргу рабселькораў быць заўсёды гатовымі да рашучага адпору нападу звонку.

* * *

Нашы грандыёзныя перамогі, перамогі нашай краіны з'яўляюцца рэзультатам таго, што намі штодзённа, штогадзінна і канкрэтна кіруе наша вялікая комуністычная партыя. Мы ганарымся гэтымі перамогамі, яны натхняюць нас, усяляюць упэўненасць у канчатковую перамогу справы комунізма на ўсім зямным шары. І усім гэтым аба-

вязаны мы нашаму вялікаму правадыру, арганізатару нашых перамог—**Іосіфу Вісарыёнавічу Сталіну.** Тав. Сталін распрацаваў, абараніў і ажыццявіў палітыку індустрыялізацыі нашай краіны, ператварыўшай наш Совецкі саюз у непрыступную крэпасць. Таварыш Сталін распрацаваў, абараніў і ажыццявіў палітыку ліквідацыі кулацтва як класа на аснове суцэльнай калектывізацыі, забяспечыўшую поўную перамогу калгаснага ладу.

Распрацаваны і прыняты пры асабістым удзеле правадыра нашай партыі новы статут сельгасарцелі з'яўляецца найвялікшым дакументам эпохі, і гэты дакумент з'яўляецца перш за ўсё творчасцю розуму нашага правадыра і настаўніка—тав. Сталіна.

Але нашы дасягненні і поспехі не павінны нас супакойваць. Мы павінны быць зараз пільны больш, чым калі-б там ні было. Той факт, што вораг прадаўжае весці супроць нас барацьбу, той факт, што зусім нядаўна зладзейскі забіт лепшы большэвік, саратнік нашага правадыра тав. Сталіна, лепшы ударнік, паслядоўны ленінец—Сергей Міронавіч Кіраў, той факт, што падонкі былой зіноўеўска-трацкісцкай апазіцыі падпольна падрыхтоўвалі гэты стрэл у тав. Кірава і ажыццявілі сваю белабандыцкую справу, гаворыць і патрабуе ад усіх нас **узняць рэволюцыйную пільнасць на ўсіх участках нашай работы.** Вораг яшчэ прабуе ўдарыць, падрываць справу соцыялістычнага будаўніцтва. Здрадніцкае забойства тав. Кірава яшчэ раз паказала, што павержаная ў прах контррэволюцыйная гадзіна яшчэ можа выпускаць сваё жала. Гэта гнуснае злачынства яшчэ раз наглядна паказала, што пакуль існуе капіталістычнае акружэнне, яго фашысцкая агентура, поўная ненавісці да новага, соцыялістычнага ладу, яно акрыляе контррэволюцыйнае атрэп'е ў нашай краіне, у тым ліку і прыкрываючаеся партыйным білетам, у мэтах забойстваў і замахаў, усялякіх правакацый і шкодніцтва.

Класавы вораг прабуе і яшчэ не раз будзе прабаваць выкарыстаць малейшае аслабленне рэволюцыйнай пільнасці для сваёй падрыўной контррэволюцыйнай работы.

Ударнікі нашага слаўнага большэвіцкага друку, лепшыя з тых, хто да канца і поўнасцю аддан нашай партыі і нашай радзіме, заўсёды гатовыя аддаць справе Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна не толькі свае сілы, але, калі патрабуецца, то і ўсё сваё жыццё, павінны зорка ахоўваць свае рады ад пранікнення ў іх класава-варожых і антыпартыйных элементаў, ад пранікнення подлых двурушнікаў.

Ад імя Цэнтральнага Камітэта КП(б)Б, узначальваемага лепшым і стойкім большэвіком тав. Гікало, я выказваю ўпэўненасць, што вы, рабселькоры, вы, камандзіры грамадскай пролетарскай думкі, яшчэ цясней згуртуецеся вакол Цэнтральнага Камітэта нашай вялікай большэвіцкай партыі і вялікага правадыра сусветнага пролетарыята тав. Сталіна.

Я выказваю ўпэўненасць, што рабселькоры з яшчэ большай рашучасцю і самаадданасцю будуць змагацца за давядзенне справы наступлення комунізма да поўнага і канчатковага знішчэння класава-варожых сіл і выкаранення іх контррэволюцыйных спроб.

Найвялікшы вучань Маркса—Леніна—тав. Сталін магутным пражэктарам асвяціў рабочаму класу і мільёным масам калгаснікаў далейшы шлях к комунізму. У гэтым наша шчасце, у гэтым наша гордасць, у гэтым зарука таго, што мы пераможам ва ўсім свеце. З дня

ў дзень тав. Сталін аддае ўсе сілы свайго геніяльнага розуму, усю палкасць свайго сэрца на барацьбу за вызваленне працоўных, за канчатковую іх перамогу.

Няхай жыве большэвіцкі друк—самая магутная, моцная і вострая зброя нашай большэвіцкай партыі!

Няхай жыве вялікая комуністычная партыя і яе Цэнтральны Камітэт!

Няхай жыве вялікі арганізатар і натхніцель нашых перамог, вялікі, мудры, любімы наш правадыр, наш настаўнік і друг тав. Сталін!

П. Гусеў

# 17-ая гадавіна Чырвонай арміі

Звергнуўшы ў Окцябры 1917 года ўладу капіталістаў і памешчыкаў, пролетарыят пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі стварыў сваю дзяржаву, сваю ўладу.

Окцябрская рэволюцыя ўпершыню ў гісторыі стварыла ўзброеную сілу працоўнага народу ў асобе рабоча-сялянскай Чырвонай арміі. Чырвоная армія нарадзілася ў агні вялікіх рэволюцыйных баёў за соцыялізм, за незалежнасць нашай вялікай радзімы.

Імперыялістычныя дзяржавы, апіраючыся на контррэволюцыйныя сілы ўнутры Расіі, забяспечваючы іх узбраеннем і войскам, імкнуліся сілаю гармат і кулямётаў аднавіць уладу звергнутых капіталістаў і памешчыкаў.

Працоўныя масы Расіі пераканаліся на вопыце, убачылі ўласным вокам, што немагчыма пачынаць будаваць новае жыццё, пакуль не будуць разгромлены белагвардзейскія арміі імперыялістаў, не вызвалена совецкая зямля ад контррэволюцыйных войск, не створана свая магутная рабоча-сялянская армія для абароны граніц пролетарскай дзяржавы.

У абстаноўцы нечуванай стомленасці ад 4-х гадовай імперыялістычнай вайны рабочыя і працоўныя масы, па закліку партыі Леніна, ішлі ў Чырвоную армію абараняць са зброяй у руках сваю ўладу, свае заваёвы.

Чырвоная армія, непасрэдна кіруемая Леніным, Сталіным, перамагла на фронтах грамадзянскай вайны, забяспечыла працоўным СССР магчымасць будаваць новае соцыялістычнае жыццё.

У ногу з ростам і ўмацаваннем народнай гаспадаркі і совецкай дзяржавы, расла і ўмацоўвалася Чырвоная армія, зорка ахоўваючы мірную працу рабочых і сялян ад новых нападаў імперыялістаў.

* * *

Пасля сканчэння грамадзянскай вайны Ленін пісаў:

> «Зараз галоўнае сваё ўздзеянне на міжнародную рэволюцыю мы аказваем сваёй гаспадарчай палітыкай... на гэтай арэне барацьба перанесена ў сусветным маштабе. Вырашым мы гэту задачу, тады мы выйграем у міжнародным маштабе напэўна і канчаткова. Таму пытанне гаспадарчага будаўніцтва набывае для нас значэнне зусім выключнае». *)

Наша партыя пасля смерці Леніна, пад кіраўніцтвам яго бліжэйшага саратніка і вернага вучня т. Сталіна, дабілася агромных перамог

*) Ленін, т. XXVI, стар. 410.

у выкананні ленінскага плана пабудовы соцыялізма. «Расія нэпаўская» ператворана ў «Расію соцыялістычную».

Буйная соцыялістычная прамысловасць у 1934 г. дае 74 проц. прадукцыі ўсёй народнай гаспадаркі. К пачатку 1935 года 4/5 сялянскіх гаспадарак аб'ядналася ў калгасы. Соцыялістычны сектар сельскай гаспадаркі ахапляе 9/10 пасеўнай плошчы, 95,81 проц. вытворчых фондаў аб'яднаны ў соцыялістычным сектары.

Створана цяжкая індустрыя з яе сарцавінай—машынабудаўніцтвам, якой не было ў царскай капіталістычнай Расіі.

Створана на аснове новай тэхнікі буйная калектыўная соцыялістычная сельская гаспадарка, якой не было і не магло быць у царскай памешчыцкай Расіі.

Усе партыі II Інтэрнацыянала, усе трацкісты-зіноўеўцы, правыя апартуністы, выконваючы заказ буржуазіі, сцвярджалі на ўсе лады, што соцыялізм у адной краіне пабудаваць нельга.

Поспехі ў соцыялістычным будаўніцтве з кожным днём усё больш і больш выкрывалі і выкрываюць контррэволюцыйныя паклёпніцкія выпады гэтых ворагаў совецкай улады, ворагаў рабочых і працоўных мас.

Партыя і ўрад на аснове соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі вырашылі зернавую праблему, адмянілі картачную сістэму снабжэння хлебам, мукой, крупой, замяніўшы яе вольнаю прадажай хлеба па адзінай дзяржаўнай цане, што вядзе да яшчэ больш хуткага палепшання добрабыту працоўных мас.

Ператварэнне «Расіі нэпаўскай» у «Расію соцыялістычную» знашло сваё здлюстраванне ў карэннай змене соцыяльнай структуры нашай краіны.

У 1913 г., да Окцябрскай рэволюцыі, буржуазія горада і вёскі складала 16 проц. насельніцтва краіны, сяляне аднаасобнікі (без кулакоў) 65 проц. насельніцтва, пролетарыят—толькі 16,7 проц. К 1 студзеня 1934 года буржуазія складала толькі 0,1 проц. насельніцтва Совецкага саюза, сяляне аднаасобнікі 22 проц., сяляне калгаснікі 46 проц., пролетарыі 28 проц.

Гэта значыць, што 3/4 насельніцтва краіны—пераважная маса працоўных—парвала з прыватнай уласнасцю, непарыўна звязала сваё жыццё з соцыялізмам, які забяспечвае нябачаны ўздым добрабыту працоўных і рост соцыялістычнай культуры.

Карэнныя змены ў соцыяльнай структуры краіны паставілі на чаргу пытанне аб «далейшай дэмакратызацыі выбарчай сістэмы», аб унясенні ў канстытуцыю СССР змен у бок замены не зусім роўных выбараў роўнымі, многаступенных—прамымі, адкрытых—закрытымі.

Нават буржуазны друк Францыі і іншых капіталістычных краін вымушан прызнаць, што «цяперашнія суадносіны сіл у Совецкім саюзе, якія з'яўляюцца вынікам ліквідацыі кулацтва і перамогі калгаснага ладу ў вёсцы, дазваляюць змяніць без апаскі канстытуцыю 6 ліпеня 1923 г.». Буржуазныя газеты вымушаны пісаць, што 99 проц. насельніцтва СССР зараз без усякіх агаворак падтрымлівае совецкую ўладу.

Агульны ўздым народнай гаспадаркі дасягнут у самых аддаленых, раней адсталых краях і абласцях Совецкага саюза.

Дарэволюцыйная Беларусь была прыгнечанай царызмам краінай жабрацкага малазямелля асноўных мас сялянства з 85 проц. няграмат-

нага насельніцтва. Прамысловасць Беларусі да рэволюцыі складалася з саматужных прадпрыемстваў і вінакурных заводаў.

К свайму XI з'езду советаў БССР стала краінай індустрыяльна-калгаснай, краінай суцэльнай граматнасці і высокай соцыялістычнай культуры.

Прадукцыя прамысловасці БССР у адносінах да ўсёй прадукцыі народнай гаспадаркі рэспублікі ў 1934 г. складала 67 проц., тады як у 1927-28 гг. яна раўнялася толькі 43 проц.

За гады першай і другой пяцігодак пабудаваны і пушчаны ў ход дзесяткі буйных фабрык і заводаў з прадукцыяй у дзесяткі мільёнаў рублёў кожны.

БССР шпарка набліжаецца к завяршэнню суцэльнай калектывізацыі сялянскіх гаспадарак. На 1 студзеня 1935 года калгасамі ахоплена 72,6 проц. сялянскіх гаспадарак. На многа павысілася ўраджайнасць палёў. Калі ў 1931 г. ураджай вёскі з га складаў 6,5 цэнтн., то ў 1934 г. падняўся да 9,1 цэнтн.

Трактарны парк БССР у 1934 г. меў 3971 машыну, што складае 51,6 тысяч конскіх сіл.

Не меншы нашы дасягненні і ў культурным развіцці. У БССР ужо другі год праводзіцца ўсеагульнае абавязковае навучанне ў размерах сярэдняй школы.

У 18 вышэйшых навучальных установах, 81 тэхнікуме і 36 навукова-даследчых установах рыхтуюцца з рабочых і калгаснікаў БССР дзесяткі тысяч высокакваліфікаваных спецыялістаў розных галін соцыялістычнага будаўніцтва.

Працоўныя БССР у цесным саюзе з іншымі народамі СССР, пры брацкай дапамозе ўсяго Совецкага саюза, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі Беларусі шпарка ідуць да радаснага соцыялістычнага жыцця.

Рэшткі разгромленых і ліквідаваных капіталістычных класаў і іх агентура ўжываюць усё больш гнусныя прыёмы ў барацьбе супроць партыі і совецкай улады, выконваючы волю міжнароднага імперыялізма, волю фашыстаў. Мізэрныя рэшткі былой зіноўеўскай апазіцыі на чале са сваім былым правадыром Зіноўевым, Каменевым і інш. учынілі зладзейска-гнуснае забойства любімца партыі і працоўных, палкага барацьбіта і рэволюцыянера—т. Кірава.

Страціўшы ўсякую надзею на падтрыманне мас працоўных, разбітая і выкрытая ў сваім паклёпе на лінію партыі і яе правадыроў—Леніна, Сталіна, нікчэмная група трацкістаў-зіноўеўцаў з ленінградскага і маскоўскага «цэнтраў» дакацілася да адкрытага саюза з белагвардзейцамі і сусветным імперыялізмам супроць соцыялістычнай радзімы працоўных усіх краін.

Грознае і здрадніцкае забойства т. Кірава выклікала найвялікшае абурэнне ўсіх працоўных народаў СССР, яшчэ больш згуртавала працоўныя масы Совецкага саюза вакол комуністычнай партыі і любімага правадыра сусветнага пролетарыята—т. Сталіна.

На з'ездах советаў саюзных рэспублік і на VII з'ездзе советаў СССР, на другім з'ездзе ўдарнікаў калгасных палёў з усёй пераканальнасцю былі прадэманстраваны найвялікшыя перамогі соцыялізма ў нашай краіне, агромная любоў і давер'е працоўнага насельніцтва ўсіх нацыянальнасцей нашай краіны к т. Сталіну.

Даклады тт. Молатава, Орджанікідзе, выступленні дэлегатаў з'езда паказалі ўсяму свету, што народы Совецкага саюза ва ўсіх кутках

сваёй абшырнай тэрыторыі ўпэўнена і з адзінаю воляй змагаюцца за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства ў нашай краіне.

Стварэнне новай соцыялістычнай індустрыі, разгром кулацтва, перамога калгаснага ладу, зацвярджанне соцыялістычнай уласнасці як асновы савецкага грамадства, бязмежная адданасць мільёнаў працоўных совецкай уладзе і кіраўніцтву комуністычнай партыі,—вось асноўны вынік ленінскай партыі і сталінскага кіраўніцтва ўсім соцыялістычным будаўніцтвам краіны.

* * *

Народы Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік будуюць новае соцыялістычнае жыццё ва ўмовах акружэння капіталістычнымі краінамі.

Капіталістычны свет ахоплен зацяжным эканамічным крызісам, які неймаверным цяжарам лёг на плечы мільённых мас працоўных, асудзіўшы іх на галечу, голад і разарэнне як у горадзе, так і ў вёсцы. Вось ужо на працягу 5 год капіталістычныя краіны перажываюць эканамічны крызіс, заняпад гаспадаркі. Аб'ём сусветнай прадукцыі капіталістычных краін к 1935 г. ніжэй 1929 г. (да крызіснага года на 24 проц.).

Крызіс ахапіў прамысловасць і сельскую гаспадарку ва ўсіх капіталістычных краінах. Крызіс ахапіў гандаль, крэдыт, грашовы зварот.

Надышоўшая пасля 1932 г. дэпрэсія таксама цягнецца вось ужо 2 гады. Адзнак новага прамысловага ўздыму няма ні ў адной краіне.

Становішча мільёнаў беспрацоўных мас пролетарыята, мільёнаў разарыўшыхся дробных аднаасобных сялянскіх гаспадарак застаецца неймаверна цяжкім.

Капіталістычныя ўрады спрабуюць выйсці з крызіса за кошт працоўных мас, перакладаючы ўвесь цяжар крызіса на іх плечы. Палітыка гвалту і тэрор суправаджаюцца рэзкім паніжэннем зарплаты і неймаверным узмацненнем эксплаатацыі.

Беспрацоўе, галеча, голад і разарэнне працоўных мас у капіталістычных краінах, з аднаго боку, шпаркі эканамічны ўздым і ўсямернае палепшанне матар'яльнага, бытавога і культурнага становішча працоўных мас у СССР, з другога,—прыводзіць к таму, што ўнутры капіталістычных краін усё мацней нарастае нездаволенасць шырокіх мас працоўных капіталістычнай сістэмай, шырыцца і расце рэволюцыйны рух і ўплыў компартыі.

Буржуазія капіталістычных краін даручае ўладу такім сваім праваднікам, якія адкрыта заклікаюць да вайны, як сродку выхаду з крызіса. Міжнародныя дагавары і абавязацельствы, заключаныя паміж капіталістычнымі краінамі пасля імперыялістычнай вайны, пастаянна парушаюцца.

Японія захапіла Манчжурыю, Германія шалёна ўзбройваецца.

Знешняя палітыка буйных капіталістычных краін усё ясней зводзіцца да падбору саюзнікаў для новай вайны за перадзел свету, за захват больш слабых краін.

Непасрэдная небяспека вайны ў першую чаргу ўзмацняецца супроць Совецкага саюза. К вайне супроць Совецкага саюза адкрыта заклікаюць у Японіі і Германіі.

«Не бачыць набліжэння новай вайны,—гаварыў т. Молатаў на VII з'ездзе советаў,—значыць закрываць вочы на галоўную небяспеку».

Падрыхтоўка капіталістычных краін к вайне ідзе ў самых розных кірунках.

Неймаверна растуць узбраенні капіталістычных краін. Калі сусветная прадукцыя прамысловасці і сельскай гаспадаркі ў капіталістычных краінах у 1932 г. не дасягала даваеннай, то расходы на ўзбраенні ў 1932 г. складалі 167 проц. даваенных. Асабліва моцна ўзрастаюць ваенныя расходы ў Германіі і Японіі.

Капіталістычныя арміі насычаюцца высокай ваеннай тэхнікай. Колькасць станкавых кулямётаў і гармат у капіталістычных арміях вырасла ў 1933 г. у параўнанні з 1913 г. у 2—4 разы.

Асабліва многа ўвагі ўдзяляюць капіталістычныя краіны ўзбраенню сваіх армій самалётамі і танкамі.

Так, калі параўнаць колькасць рабочых, занятых ваеннай вытворчасцю ў капіталістычных краінах у 1913—1934 гг., то атрымаем такія даныя *) (у тысячах):

| Занята ў вытворчасці | ЗША | | Англія | | Францыя | | Японія | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1913 | 1934 | 1913 | 1934 | 1913 | 1934 | 1913 | 1934 |
| Артылерыі і стралковай зброі | 6 | 23 | 10 | 25 | 16 | 34 | 10 | 45 |
| Пораху, знарадаў і патронаў . | 5 | 11 | 6 | 20 | 16 | 34 | 8 | 60 |
| Самалётаў, матораў, танкаў . | 3 | 31 | 4 | 28 | 3 | 42 | 4 | 50 |

У вытворчасці самалётаў і танкаў занята ў 1934 г. 40 проц. рабочых ваеннай вытворчасці, не ўключаючы ваеннага суднабудаўніцтва, тады як у 1913 г. вытворчасці ваенных самалётаў і танкаў зусім не было. Агульная колькасць рабочых, занятых ваеннай вытворчасцю (не ўключаючы ваеннага суднабудаўніцтва), у параўнанні з даваенным перыядам у розных капіталістычных краінах вырасла ў 3—6 раз.

Розным відам узбраенняў надаецца вялікая рухавасць і ўбойная сіла. Так, у параўнанні з 1918 годам (канец імперыялістычнай вайны), дальнасць артылерыі павялічылася па адпаведных калібрах на 50—70 проц., хуткасць руху танкаў у баі ў 5—10 разоў, хуткасць самалётаў, іх дальнасць і грузападʼёмнасць у 3—6 раз.

Вядуцца работы ў капіталістычных краінах над стварэннем скарастрэльных кулямётаў (да 2 000 стрэлаў у мінуту), над шырокім выкарыстаннем у вайне электрычнасці, новых хімічных сродкаў і т. п.

Капіталісты рыхтуюць новую вайну, больш жудасную, чым вайна 1914—1918 гг. Совецкі саюз на пагрозу вайны адказвае ўзмацненнем і ўмацаваннем сваёй абароназдольнасці, узмацненнем баявой магутнасці нашай непераможнай Чырвонай арміі, праводзячы паслядоўную

*) „Сусветная вайна у цыфрах", выд. 1934 г., табл. 161.

палітыку міру і ўзмоцнена змагаючыся за захаванне міру. Сіла і магутнасць Савецкага саюза, яго барацьба за мір неймаверна ўзнялі аўтарытэт СССР у міжнародным жыцці, як адзінай краіны, якая настойліва праводзіць палітыку міру.

* * *

Не ўсе капіталістычныя дзяржавы ў кожны момант гатовы і хочуць вайны. Кожная, нават найбольш імперыялістычная дзяржава, на тым ці іншым адрэзку часу па розных прычынах можа быць праціўнікам вайны. Цэлы рад капіталістычных краін па многіх прычынах хочуць на бліжэйшы час знішчыць свае супярэчнасці з іншымі краінамі без вайны. Зразумела, што забяспечанне міру не можа залежаць толькі ад намаганняў аднаго Савецкага саюза. Патрабуецца супрацоўніцтва і садзейнічанне іншых дзяржаў, якія імкнуцца да падтрымання міру. Наш урад удзяляе асобую ўвагу ўмацаванню адносін і максімальнаму збліжэнню з тымі дзяржавамі, якія, як і Савецкі саюз, даюць довады свайго імкнення к захаванню міру і гатовы процідзейнічаць яго парушальнікам.

Наш урад многа раз даказваў сваю волю к супрацоўніцтву ў інтарэсах умацавання міру і папярэджання вайны.

Савецкая дыпламатыя высунула азначэнне агрэсара, якое лягло ў аснову многіх міжнародных узгадненняў Савецкага саюза з капіталістычнымі дзяржавамі.

Савецкі саюз прымаў і прымае ўсе меры к таму, каб дабіцца ўзгаднення аб скарачэнні ўзбраенняў і ўнёс прапанову аб ператварэнні канферэнцыі па раззбраенню ў пастаянную канферэнцыю міру.

Наш урад, выказваючы волю працоўных мас краіны, адказаў згодай на запрашэнне 30 капіталістычных дзяржаў аб уступленні Савецкага саюза ў Лігу нацый—міжнародную арганізацыю капіталістычных краін. Савецкі ўрад сумесна з Францыяй з'яўляецца ініцыятарам праекта аб Усходнім пакце ўзаемадапамогі, як сродку процідзеяння вайне. Савецкі саюз устанавіў нармальныя дыпламатычныя адносіны амаль з усімі краінамі свету.

Аснова знешняй палітыкі Савецкага саюза—падтрыманне міру і развіццё мірных адносін з усімі краінамі.

> «Роля СССР,—гаварыў т. Молатаў на VII з'ездзе советаў,—як моцнага фактара ўсеагульнага міру, зараз шырока прызнана. Сталі правілам звароты іншых краін да Савецкага саюза ў тых выпадках, калі справа ідзе аб забяспечанні міру».

Са спаборніцтва двух сістэм—капіталістычнай і соцыялістычнай—соцыялістычная сістэма няўхільна выходзіць пераможцай. Расце магутнасць Савецкага саюза. У мэтах яшчэ большага ўмацнення магутнасці нашай краіны, у мэтах папярэджання нападу на нас паасобных капіталістычных краін, у мэтах найлепшага забяспечання далейшых перамог соцыялізма,—наш урад дабіваецца супрацоўніцтва з усімі капіталістычнымі дзяржавамі, якія імкнуцца к міру, супроць тых капіталістычных дзяржаў, якія ставяць сваёй мэтай развязванне вайны і ў першую чаргу вайны супроць СССР.

Развіваючы палітычныя і гандлёвыя адносіны з іншымі краінамі, Савецкі саюз і працоўныя масы нашай краіны добра разумеюць неаб-

ходнасць надзейнай абароны сваіх граніц. Палітыка фашысцкага ўрада Гітлера ў Германіі, палітыка японскага ўрада на Далёкім Усходзе не ўнушаюць спакою народам СССР.

«Хто можа адмаўляць,—гаварыў т. Молатаў на VII з'ездзе советаў,—той факт, што ніводнай дзяржаве—ні малой, ні вялікай,—велізарны Совецкі саюз не пагражаў і не пагражае захватамі? Але, з другога боку, хто можа адмаўляць, што народы Совецкага саюза, занятыя мірнай працай і прасякнутыя мірнымі імкненнямі, дастойны сапраўды надзейнай аховы граніц сваёй дзяржавы».

Вось чаму наша партыя, наш урад, асабліва т. Сталін ніколі не пераставалі клапаціцца аб умацаванні баявой магутнасці нашай Чырвонай арміі, аб умацаванні абароназдольнасці краіны.

* * *

«Першая і асноўная асаблівасць нашай Чырвонай арміі,— указвае т. Сталін,—заключаецца ў тым, што яна ёсць армія вызвалення рабочых і сялян, яна ёсць армія Окцябрскай рэволюцыі, армія дыктатуры пролетарыята...»

«Другая асаблівасць нашай Чырвонай арміі заключаецца ў тым, што яна, наша армія, з'яўляецца арміяй брацтва паміж народамі, арміяй вызвалення прыгнечаных народаў, арміяй абароны свабоды і незалежнасці народаў нашай краіны».

«Нарэшце—трэцяя асаблівасць Чырвонай арміі заключаецца ў духу інтэрнацыяналізма, у пачуцці інтэрнацыяналізма, пранікаючых усю нашу Чырвоную армію».

Гэтымі трыма асаблівасцямі Чырвоная армія карэнным чынам адрозніваецца ад армій буржуазных краін.

Капіталісты вымушаны скрываць ад салдат свае імперыялістычныя мэты вайны. Буржуазныя ўрады вымушаны падаўляць ашуканствам і гвалтам усякае праяўленне класавай свядомасці сярод сваіх салдат, ізаляваць армію ад насельніцтва, бо гэта свядомасць накіроўваецца (у рабочых і сялян, апранутых у салдацкія шынелі) супроць капіталістычнага ладу, супроць буржуазнай улады, супроць капіталістычнай сістэмы.

Наша Чырвоная армія ведае, за што змагаецца. Наша Чырвоная армія, як і ўсе працоўныя нашай краіны, цесна згуртавана вакол радоў комуністычнай партыі, і ў любы час гатова па закліку партыі, па закліку совецкай улады ісці і перамагаць нападаючых на заваёвы Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыі ворагаў рабочых і сялян.

Кіраўніцтва Чырвонай арміяй, таксама як і дыктатура пролетарыята ў цэлым, належыць комуністычнай партыі. Партыя, як не раз указваў т. Сталін,—ёсць асноўная кіруючая сіла ў сістэме дыктатуры пролетарыята. Без партыі, як асноўнай кіруючай сілы, немагчыма колькі-небудзь трывалая і моцная дыктатура пролетарыята.

Наша партыя штодзенна клапоціцца аб умацаванні магутнасці нашай Чырвонай арміі, штодзённыя клопаты аб Чырвонай арміі ніколі не пакідаюць нашу партыю. Партыя забяспечыла беззаветную ўвагу і любоў да Чырвонай арміі з боку рабочага класа і ўсіх працоўных. Партыя перанесла ў Чырвоную армію ўсё тое лепшае, чым жыве ра-

бочы клас: энтуэіязм у барацьбе за социялізм, непахісную волю да перамогі над капіталістамі, адданасць справе сусветнай пролетарскай рэволюцыі і т. д. Вось чаму так моцна згуртавана наша Чырвоная армія вакол партыі, вакол усімі любімага правадыра сусветнага пролетарыята—т. Сталіна і яго саратніка, правадыра Чырвонай арміі—т. Варашылава.

Цэнтральны Камітэт нашай партыі і т. Сталіна, напружана працуючы над усёй разнастайнасцю пытанняў будаўніцтва соцыялізма, ні на адзін міг не ўпускалі з вока неабходнасці заўжды клапаціцца аб абароне совецкіх граніц, аб будаўніцтве рабоча-сялянскай Чырвонай арміі і абароны ў цэлым.

> «Нашы ўзброеныя сілы,—заявіў т. Варашылаў на XVII з'ездзе партыі,—поўнасцю адпавядаюць узроўню развіцця краіны, ад бурнага росту якой яны не адставалі і не смелі адставаць ні на адзін крок».

Тэхнічная рэканструкцыя ўсёй народнай гаспадаркі, індустрыялізацыя краіны і выкананне 1-й пяцігодкі забяспечылі нашай прамысловасці агромныя магчымасці па снабжэнню Чырвонай арміі сучаснай баявой тэхнікай у патрэбных для абароны совецкіх граніц размерах.

Тав. Тухачэўскі на VII з'ездзе советаў СССР шырока асвятліў паказчыкі росту тэхнікі Чырвонай арміі за апошнія 4 гады.

Авіяцыя з часу VI з'езда советаў (сакавік 1931 г.) вырасла на 330 проц.

Мы маем павелічэнне скорасных паказчыкаў нашых знішчальнікаў і бамбардыроўшчыкаў у 1½—2 разы. Павелічэнне дальнасці палёту і грузапад'ёмнасці бамбардыроўшчыкаў адбылося амаль трохкратнае.

Трэба пры гэтым успомніць указанне т. Варашылава на XVII з'ездзе, што «мы мелі нядрэнную авіяцыю ўжо ў 1930 годзе».

За гэты-ж перыяд колькасць танкетак у Чырвонай арміі вырасла ў 25 раз, лёгкіх танкаў—у 7,6 разы, сярэдніх танкаў—у 8 раз. Прычым скорасць танкаў вырасла ад 3 да 6 раз.

Колькасць кулямётаў для стралковых і кавалерыйскіх злучэнняў вырасла ў два з лішнім разы, кулямётаў для авіяцыі і танкаў—у 7 раз, танкавых і супроцьтанкавых гармат у 4½ разы, цяжкая артылерыя павялічылася ў 2 з лішнім разы.

Колькасць радыёстанцый у Чырвонай арміі павялічылася з часу VI з'езда советаў у 17,5 раз, а авіяцыйных радыёстанцый—у 19 раз.

Моцна вырас таксама і наш морскі флот.

Чырвоная армія мела ў 1929 г. на 1 чырвонаармейца 2,6 механічных конскіх сіл, у 1930 годзе—3,07 кон. сіл, у 1933 г.—7,74 кон. сіл.

К VII з'езду советаў у Чырвонай арміі павялічылася колькасць механічных конскіх сіл на кожнага байца у параўнанні з VI з'ездам у 4 разы.

Нарастаючая пагроза нападу на нашы граніцы з боку паасобных капіталістычных дзяржаў патрабавала значнага ўмацавання нашых заходніх і ўсходніх граніц. У 1934 годзе была закончана пабудова ўздоўж граніц жалеза-бетонных умацаваных раёнаў, якія забяспечаны магутнай зброяй і неабходнымі гарнізонамі. Пабудаваны магутныя берагавыя ўмацаванні ўздоўж Балтыйскага і Чорнага мора і асабліва на Далёкім Усходзе.

Неспыняючыяся правакацыі з боку Японіі ўцягнуць Совецкі саюз у вайну выклікалі неабходнасць значнага ўзмацнення ўзброеных сіл Далёкага Ўсходу. Створаны новыя вайсковыя злучэнні авіяцыі, танкаў, артылерыі і іншых відаў войск.

Усе гэтыя змены ў арганізацыі абароны граніц Совецкага саюза патрабавалі павелічэння чысленасці Чырвонай арміі, якая была даведзена ў 1934 г. да 940 тыс. чалавек. Трэба заўважыць, што да вайны 1914-1918 гг. руская армія налічвала ў сваіх радах 1 459 тыс. чалавек.

Тэхнічная рэканструкцыя Чырвонай арміі паставіла перад усім яе складам труднейшую задачу—у найкарацейшыя тэрміны, ні на мінуту не аслабляючы баявой гатоўнасці, аўладаць усімі сучаснымі складанымі тэхнічнымі сродкамі вайны.

* * *

У гутарцы з металургамі 26.XII.34 года т. Сталін указаў:

> «Нельга тэхніку адрываць ад людзей, якія прыводзяць тэхніку ў рух. Тэхніка без людзей мёртва. Лозунг «Тэхніка ў перыяд рэканструкцыі рашае ўсё» мае на ўвазе не голую тэхніку, а тэхніку на чале з людзьмі, аўладаўшымі тэхнікай. Толькі такое разуменне гэтага лозунга з'яўляецца правільным. І паколькі мы ўжо навучыліся цаніць тэхніку, пара заявіць прама, што галоўнае цяпер—у людзях, аўладаўшых тэхнікай».

Баявую тэхніку Чырвонай арміі, як і тэхніку ўсёй нашай краіны, прыводзяць у рух людзі з рабочых і калгасных мас.

Пераўтварэнні ў соцыяльнай структуры нашай краіны значна змянілі людскі склад Чырвонай арміі.

Чырвоная армія ўкамплектавана зараз на 45,5 проц. рабочымі. Сярод яе сялянскага складу 90 проц. калгаснікаў, 49,3 проц. складу Чырвонай арміі—члены партыі і комсамола. У складзе начальствуючага складу партыйцаў і комсамольцаў—68,3 проц.

> «Мы павінны сказаць зусім цвёрда,—заявіў т. Тухачэўскі перад VII з'ездам советаў,—што палітыка-маральны стан Чырвонай арміі моцны, як ніколі».

Чырвоная армія за апошнія гады мае значныя поспехі ў баявой падрыхтоўцы. Усё большая колькасць байцоў авалодвае снайперскай стральбой. Безупынна зніжаецца колькасць аварый і паломак у авіяцыі і тэхнічных частках чырвоных. Вайсковыя злучэнні навучыліся хутка праводзіць доўгія маршы незалежна ад надвор'я, мясцовасці і часу года, дня і ночы.

Чырвоная армія моцна і магутна не толькі таму, што яна мае выдатную ў колькасных і якасных адносінах тэхніку, але і таму, што гэтай тэхнікай авалодваюць дасканалыя людзі, глыбока адданыя партыі і пролетарскай рэволюцыі.

Зараз, як ніколі, вялікі сілы і магутнасць Чырвонай арміі—абаронцы мірнай творчай працы нашай вялікай радзімы. Моцна, як ніколі, абарона совецкіх рубяжоў.

Чырвоная армія—гонар народаў Совецкага саюза—гатова адбіць напад класавых ворагаў працоўных у любую мінуту і на любым участку граніц нашай вялікай соцыялістычнай радзімы.

Сваю адданасць справе пролетарскай рэволюцыі, сваю гатоўнасць грудзьмі адстойваць мірную працу рабочых і калгаснікаў нашай краіны Чырвоная армія даказала ў перыяд грамадзянскай вайны 1918-1920 гг. і ў 1929 г. на Далёкім Усходзе, калі імперыялістычная зграя спрабавала парушыць нашу мірную працу.

Уся ўзброеная барацьба белагвардзейскіх армій супроць совецкай улады, кулацкія паўстанні, наступленне супроць краіны Советаў армій капіталістычных дзяржаў (1918-1920 гг.) з'яўляецца антысовецкай, контррэволюцыйнай вайной сусветнага імперыялізма супроць пролетарскай дзяржавы.

Пра паход імперыялістаў супроць Совецкага саюза, які адбыўся ўвесну 1919 г., т. Сталін пісаў:

> «Паход гэты быў камбінаваны, бо ён меркаваў сумесны напад Калчака, Дзенікіна, Польшчы, Юдзеніча і мяшаных англа-рускіх атрадаў у Туркестане і Архангельску, прычым цэнтр цяжару паходу ляжаў у раёне Калчака».

Чырвоная армія адбіла наступленне белагвардзейскіх генералаў і замежных войск. Ленін асабіста кіраваў распрацоўкай і правядзеннем плана разгрому Калчака. Велізарнейшая роля ў справе арганізацыі сіл Чырвонай арміі супроць Калчака і Дзенікіна належала т. Сталіну.

Другі паход супроць совецкіх рэспублік быў арганізован імперыялістычнымі дзяржавамі ўвосень 1919 года.

> «Паход гэты быў таксама камбінаваны, бо ён меркаваў сумесны напад Дзенікіна, Польшчы і Юдзеніча (Калчак быў скінут з рахунку). Цэнтр цяжару паходу ляжыць на гэты раз на поўдні, у раёне Дзенікіна» **(Сталін).**

Юдзенічу, як і ўвесну, прадстаяў удар на Ленінград (тагочасны Петраград). Белая Польшча мела сваёй задачай скаваць Чырвоную армію на заходнім фронце.

Чырвоная армія зноў адбіла наступленне контррэволюцыйных войск. Выключна вялікае значэнне ў мабілізацыі партыі, рабочага класа, працоўных мас адыграў напісаны Леніным ліст-дырэктыва ЦК ВКП(б):

> «Усе сілы рабочых і сялян, усе сілы совецкай рэспублікі павінны быць накіраваны, каб адбіць нашэсце Дзенікіна і перамагчы яго, не спыняючы пераможнага наступлення Чырвонай арміі, на Урал і на Сібір».
>
> «Ад усіх комуністаў, ад усіх свядомых рабочых і сялян, ад кожнага, хто не хоча дапусціць перамогі Калчака і Дзенікіна, патрабуецца неадкладна і на працягу бліжэйшых месяцаў надзвычайны ўздым энергіі, патрабуецца работа па-рэволюцыйнаму».

Велізарнейшая роля ў арганізацыі перамог у перыяд грамадзянскай вайны, як і ва ўсім будаўніцтве Чырвонай арміі, належыць т. Сталіну.

Складанейшым пытаннем узброенай барацьбы з'яўляецца вызначэнне напрамку галоўнага ўдару. Ва ўмовах вайны і міру, у труднейшай абстаноўцы ўзброенай барацьбы і соцыялістычнай будоўлі, т. Сталін заўсёды верна вызначаў напрамак галоўнага ўдару па класавым ворагу. Гэта мастацтва Сталіна ярка праявілася пры

разгроме Дзенікіна ў 1919 г. Становішча на Паўднёвым фронце тады было вельмі цяжкім. Дзенікін падыходзіў к Туле. ЦК партыі пасылае на Паўднёвы фронт т. Сталіна, які, пасля азнаямлення з абстаноўкай на фронце, высоўвае свой план разгрому сіл Дзенікіна. Гэты план быў прыняты ЦК партыі і Леніным.

Тав. Сталін пісаў тады ў ЦК, што, прымаючы план галоўнага ўдару праз Харкаў, Данбас, Растоў,

> «па-першае, тут мы будзем мець асяроддзе не варожае, а наадварот спачуваючае, што палегчыць наша прасоўванне; па-другое,—мы атрымаем важнейшую чыгуначную сець (Данецкую) і асноўную артэрыю, што забяспечвае армію Дзенікіна: лінію Варонеж-Растоў; па-трэцяе—гэтым прасоўваннем мы падзяляем армію Дзенікіна на 2 часткі, з якіх добраахвотніцкую мы пакідаем на з'ядзенне Махно, а казацкія арміі ставім пад пагрозу абыходу іх з тылу; па-чацвертае—мы атрымліваем магчымасць пасварыць казакаў з Дзенікіным, які (Дзенікін) у выпадку нашага паспяховага прасоўвання будзе імкнуцца перакінуць казацкія часткі на Ўсход, супроць чаго будзе большасць казакаў; па-пятае—мы атрымліваем вугаль, а Дзянікін застаецца без вугалю».

Разгром Дзенікіна паказаў правільнасць выбару т. Сталіным напрамку галоўнага ўдару. Правал двух паходаў не спыніў сусветны імперыялізм. У 1920 г. імперыялістычныя дзяржавы Антанты праводзяць трэці паход супроць Советаў сіламі белай Польшчы і рэшткамі дзенікінскіх войск пад камандаю Врангеля.

Удар Чырвонай арміі па белапаляках (паход на Варшаву) быў ударам адказным, бо толькі такім шляхам можна было прымусіць імперыялістычны ўрад Польшчы заключыць з намі мір.

Увесь капіталістычны свет выступаў супроць пролетарскай дыктатуры. Совецкія рэспублікі былі акружаны з усіх бакоў узброенымі арміямі сусветнага імперыялізма. Гаспадарка краіны была зруйнавана. Важнейшыя жыццёвыя раёны—Сібір, Паволожжа, Украіна, Паўночны Каўказ з хлебам, Данбас і Урал з вугалем і жалезам, Баку з нафтай—былі адрэзаны ад Совецкіх рэспублік. І ўсё-ж краіна Советаў перамагла. Ленін і Сталін не раз указвалі асноўныя прычыны, забяспечыўшыя нам перамогу.

Высокая боездольнасць і моцны тыл Чырвонай арміі ў перыяд грамадзянскай вайны забяспечваліся моцным саюзам рабочага класа з сялянствам пад кіраўніцтвам пролетарыята.

Штодзеннае кіраўніцтва партыі, Леніна і Сталіна барацьбою на ўсіх фронтах, самаадданасць партыйных мас, якія ў рашучыя моманты кідаліся дзесяткамі тысяч на фронт, цвёрдае адзінства і непрымірымасць партыі да ўсякіх ухілаў ад ленінскай лініі забяспечылі высокі ўздым гераізма ў байцоў і ўсёй Чырвонай арміі.

Непасрэднае кіраўніцтва баявымі дзеяннямі Чырвонай арміі правадыроў нашай партыі—Леніна і Сталіна і іх лепшых вучняў—Фрунзе, Варашылава—забяспечылі на фронтах грамадзянскай вайны сакрушальныя ўдары ў галоўным напрамку, у рашаючы момант і ў рашаючым месцы сіл Чырвонай арміі супроць класавага ворага.

Адзінства большэвіцкай партыі, кіруемай Леніным і Сталіным, сіла велізарнага аўтарытэта комуністычнай партыі сярод шырокіх мас працоўных, неаслабнае кіраўніцтва партыі баямі на ўсіх фронтах

і ўчастках грамадзянскай вайны абумовілі перамогу Чырвонай арміі на ўсіх фронтах і разгром ўсіх белагвардзейскіх контррэволюцыйных банд і інтэрвентаў.

> «Толькі дзякуючы таму,—указваў Ленін,—што партыя была на варце, што партыя была найстражэйшым чынам дысцыплінавана, і таму, што аўтарытэт партыі яднаў усе ведамствы і ўстановы, і па лозунгу, які быў даны ЦК, як адзін чалавек ішлі дзесяткі, сотні, тысячы і ўрэшце мільёны, і толькі таму, што нечуваныя афяры былі прынесены,—толькі таму цуд, які адбыўся, мог адбыцца. Толькі таму, не гледзячы на двухкратны, трохкратны і чатырохкратны паход імперыялістаў Антанты і імперыялістаў усяго свету, мы аказаліся ў стане перамагчы». *)

Чырвоную армію ў барацьбе з капіталістамі і памешчыкамі падтрымлівалі і прымалі ў яе радах удзел працоўныя ўсіх нацыянальнасцей Совецкага саюза.

Рабочыя і сяляне Беларусі, Украіны, Каўказа і т. д. бачылі ў Чырвонай арміі свайго вызваліцеля ад гнёту капітала.

Чырвоную армію ў барацьбе з сусветным імперыялізмам падтрымліваў увесь сусветны пролетарыят. Пратэсты, дэманстрацыі, забастоўкі, камітэты дзеяння і ўзброеныя паўстанні арганізаваў пролетарыят капіталістычных краін супроць сваіх капіталістаў, супроць інтэрвенцыі, у перыяд паходу імперыялістаў на Совецкую Расію.

Рэволюцыя ў Германіі ў 1918 г. вызваліла Совецкую Расію ад абавязацельстваў, навязаных нам сілай Брэсцкага дагавора.

Рэволюцыя ў Вене ў 1919 г. сарвала адначасовае выступленне ў перыяд паходу Румыніі і аслабіла сілы імперыялістаў, кінутых для ўдушэння совецкай улады.

«Рысавыя бунты» у Японіі ў жніўні 1918 г. і проціяпонскае паўстанне ў Карэі ў 1919 г. былі адною з прычын, якая перашкодзіла японскім імперыялістам рушыць свае арміі ў вялікай колькасці ў Сібір.

Буржуазная нацыянальная рэволюцыя ў Турцыі ў 1920 г. прымусіла Англію і Францыю паскорыць уход сваіх войск з Закаўказзя.

Можна з поўным правам гаварыць, што сусветны пролетарыят і прыгнечаныя народы калоній і залежных краін былі актыўнымі ўдзельнікамі абароны совецкай краіны.

Мірная палітыка совецкага ўрада, якая праводзілася і ў час грамадзянскай вайны, ажыццяўленне на справе ленінскай нацыянальнай палітыкі паскорылі заключэнне міру паміж СССР і невялікімі буржуазнымі дзяржавамі на заходніх граніцах (Польшча, Эстонія, Латвія, Літва).

* * *

Па сканчэнні грамадзянскай вайны пролетарыят і працоўныя масы пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі на чале з Леніным і Сталіным пераключыліся на аднаўленне разбуранай імперыялістычнай і грамадзянскай вайною народнай гаспадаркі.

Большэвіцкая партыя пад краўніцтвам правадыроў сусветнага пролетарыята і працоўных мас—Леніна і Сталіна, выкрываючы і разбіваючы ўшчэнт контррэволюцыйныя тэорыі тракістаў-зіноўеўцаў

*) Ленін, т. XXV, стар. 96.

аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне, аб рэакцыйнасці масы сялянства і т. д., і правых ухілістаў з іх кулацкай тэорыяй урастання кулака ў соцыялізм, патухання класавай барацьбы пры дыктатуры пролетарыята і т. д., выкрываючы і разбіваючы ўшчэнт буржуазна-нацыяналістычныя групы і групоўкі ўсіх колераў і масцей і ўсіх ворагаў працоўных,—мабілізавала працоўныя масы на соцыялістычнае будаўніцтва і забяспечыла перамогу соцыялізма ў нашай краіне.

Разам з нашымі перамогамі на эканамічным фронце, ператварэннем нашай краіны з адсталай у перадавую індустрыяльную краіну з буйнай соцыялістычнай сельскай гаспадаркай, неймаверна ўзмацнілася і абароназдольнасць нашай краіны, ваенная магутнасць Чырвонай арміі, якая гатова ў любы час даць сакрушальны ўдар усякаму, хто пасмее парушыць нашу мірную працу і пасягнуць на недатыкальнасць нашых граніц.

У выпадку нападу капіталістычных армій на Совецкі саюз у рады Чырвонай арміі ўвальюцца мільёны рабочых і калгаснікаў, якія зараз мірна будуюць соцыялізм. У барацьбе супроць імперыялістычных армій разам з Чырвонай арміяй прымуць удзел усе працоўныя нашай краіны, і мы нанясем сакрушальны ўдар любому, хто пасмее парушыць нашы граніцы.

Наша задача, задача ўсіх працоўных—яшчэ больш узмацніць абароназдольнасць нашай краіны, боездольнасць нашай Чырвонай арміі, магутнасць нашых абаронных збудаванняў на граніцах. Мы павінны ў дзесяткі і сотні раз памножыць, узмацніць іх ператварэннем кожнай фабрыкі, кожнага завода, усіх калгасаў і соўгасаў, любога горада Совецкага саюза ў непрыступную крэпасць соцыялізма.

Напад імперыялістаў усякімі сродкамі і ў любым населеным месцы нашай вялікай соцыялістычнай радзімы і ў першую чаргу ў межах БССР павінен сустрэць арганізаваную абарону і самаабарону працоўнага насельніцтва. Вось чаму падрыхтоўкай да абароны соцыялістычнай радзімы займаецца не толькі Чырвоная армія, а ўся краіна, усе працоўныя Совецкага саюза.

У радах асоавіяхімаўскіх арганізацый СССР знаходзіцца 13 мільёнаў чалавек; 600 тысяч чалавек аўладалі стралковай падрыхтоўкай, атрымаўшы званне «варашылаўскіх стралкоў»; 300 тысяч комсамольцаў і моладзі авалодваюць парашутнай справай. Дзесяткі тысяч працоўных уладаюць планерным спортам. Совецкі саюз мае 500 тысяч авіямадэлістаў—будучых майстраў авіяцыі. Трудна знайсці зараз такі рабочы клуб, такую хату-чытальню, такі ленінскі куток, школу ці прадпрыемства, дзе-б не было вучэбнага проціваргаза, ваенных наглядных дапаможнікаў.

У сотнях тысяч самых разнастайных гурткоў знаёмяцца з ваеннаю справай, набываюць ваенныя звычкі многія мільёны працоўных усіх узростаў і абодвух полаў.

Работу ўсіх гэтых арганізацый трэба ўзняць на яшчэ больш высокую ступень і ўцягваць усё больш шырокія масы рабочых, калгаснікаў і ўсіх працоўных.

Для працоўных БССР абаронная работа набывае асаблівае значэнне, бо мы непасрэдна знаходзімся ля граніцы з імперыялістычнымі краінамі. У сваім дакладзе на XI з'ездзе советаў т. Галадзед прызнаў работу Асоавіяхіма, Аўтадора сярод моладзі і асабліва ў калгасах не-

дастатковай. Даных для шырокага развіцця работы сярод працоўных ва ўмовах БССР больш, чым у іншых рэспубліках Саюза.

Умацоўваць абароназдольнасць Совецкага саюза, гэта значыць, што кожны працоўны павінен:

беззаветна дапамагаць умацаванню магутнасці Чырвонай арміі, самому авалодваць складанай сучаснай ваеннай тэхнікай, каб быць гатовым у патрэбную мінуту стаць байцом супроць сучасных імперыялістычных армій;

усямерна ўзнімаць эканамічную магутнасць краіны, авалодаць вышынямі тэхнікі вытворчасці, змагацца за працоўную дысцыпліну, за высокую прадукцыйнасць, за высокі ўраджай, ведучы бязлітасную барацьбу з прагульшчыкамі, лодырамі ў нашай соцыялістычнай вытворчасці;

праяўляць высокую класавую пільнасць, памятаючы, што класавы вораг імкнецца пранікнуць на прадпрыемствы, у калгасы, установы, каб у выпадку ваеннага нападу імперыялістаў аслабіць паасобныя ўчасткі нашай абароннай работы і нашай соцыялістычнай уласнасці; выкрываць і знішчаць усіх, хто праяўляе варожасць да соцыялістычнай радзімы;

усё больш згуртоўваць свае рады вакол комуністычнай партыі, вакол любімага правадыра нашай партыі і ўсіх працоўных мас— т. Сталіна, які ў сумеснай доўгай рабоце з Леніным, у гады грамадзянскай вайны і ў гады пасля смерці Леніна, паказаў сваю выключную адданасць справе вызвалення ўсяго рабочага класа ад іга капіталізма, хто быў бязлітасным да ворагаў рабочых і працоўных мас, хто мудра на чале нашай партыі вёў і вядзе ўсю нашу краіну к поўнай перамозе соцыялізма.

П. Пасюкевіч

# Соцыялістычную культуру—шырокім масам працоўных вёскі

У выніку ажыццяўлення першай пяцігодкі канчаткова падарваны карэнні капіталізма ў нашай краіне, пабудован фундамент соцыялістычнай эканомікі. XVII з'езд ВКП(б) паставіў асноўнай задачай другой пяцігодкі ліквідацыю капіталістычных элементаў і класаў нагогул, поўнае знішчэнне прычын, якія параджаюць класавыя адрозненні і эксплаатацыю і пераадаленне перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей, ператварэнне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў свядомых і актыўных будаўнікоў бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Наша соцыялістычная краіна дасягнула грандыёзнейшых поспехаў у будаўніцтве новай культуры, у перавыхаванні працоўных мас.

БССР, як і ўвесь Саюз у цэлым, за гэты перыяд дасягнула нябачаных поспехаў у соцыялістычным будаўніцтве. Гіганцкія крокі зрабіла яна ва ўсіх галінах будаўніцтва, ператварыўшыся ў індустрыяльна-калгасную рэспубліку, у рэспубліку фабрык і заводаў, калгасаў і соўгасаў, у рэспубліку суцэльнай граматнасці і высокай соцыялістычнай культуры.

Не лішне ўспомніць барацьбу, якую прышлося весці КП(б)Б са шкодніцтвам нацыянал-дэмакратаў у сельскай гаспадарцы БССР (прышчэпаўшчына). Беларускія контррэволюцыйныя нацдэмы хацелі накіраваць развіццё нашай сельскай гаспадаркі па капіталістычным шляху. Нацдэмы стаялі за развіццё эканомікі і свядомасці сялян на грунце буржуазнай, кулацкай культуры.

На шлях буржуазна-капіталістычнай рэстаўрацыі цягнулі нацдэмы і гаспадарку і культуру БССР. Але КП(б)Б пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК ВКП(б), на чале з геніяльнейшым кіраўніком партыі тав. Сталіным, рашуча разграміла буржуазных нацыянал-дэмакратаў і нацыяналістаў іншых масцей. Партыі прыходзіцца і цяпер дабіваць ворага, які спрабуе працягваць контррэволюцыйную нацдэмаўскую кантрабанду, прыкрыўшыся фальшыва-нацыянальным сцягам.

Соцыялістычны росквіт Совецкай Беларусі не ідзе ні ў якое параўненне з яе дарэволюцыйным станам. Совецкая Беларусь—у мінулым краіна голаду, беспрацоўя і цемры, краіна соцыяльнага і нацыянальнага ўціску з насельніцтвам, больш як на 70 проц. няграматным—сёння мае новазбудаваную высокаразвітую соцыялістычную прамысловасць і сельскую гаспадарку, нованароджаную высока-

развітую беларускую соцыялістычную культуру. Совецкая Беларусь, адна з перадавых рэспублік вялікага Саюза Соцыялістычных Совецкіх Рэспублік, атрымала найвялікшую ўзнагароду саюзнага ўрада—ордэн ЛЕНІНА.

Праз рад гадоў актыўнага будаўніцтва соцыялізма мы стварылі матар'яльную базу для барацьбы супроць усякага роду ўласніцкіх і капіталістычных традыцый, супроць буржуазнай і дробна-буржуазнай ідэалогіі. У працэсе соцспаборніцтва адбыліся вялікія зрухі ў поглядах і культурных патрабаваннях шырокіх калгасных мас.

Як далёк ад нас вобраз старой Беларусі, які даў Якуб Колас два дзесяткі год назад у вершы «Наш родны край»:

«Край наш бедны, край наш родны,
Лес, балоты ды пясок...
Наш край родны, бедна поле
Ты глядзіш, як сірата,
Сумны ты, як наша доля,
Як ты—наша цемната.»

Напомнім факт, што ў глухіх вёсках Палесся чалавек мыўся толькі два разы ў сваім жыцці: калі радзіўся і калі паміраў. Як далёка адышла Беларусь ад гэтага сумнага мінулага.

Беларускі народны паэт Янка Купала ў сваім выдатным творы «Над ракою Арэсай» дае ўжо іншы малюнак Палесся:

«А на рэчцы на Арэсе
Сталася прыгода:
Ідзе наступ на балота
З поўначы, з усхода.
Там красуе ўжо комуна
На тарфянні бурым...
Паляшук-жа адзіночка
Усё йшчэ бровы хмура.
Не хмурыся, добры дзядзька,
Гэтак хмура сумна
Для тваёй-жа лепшай долі
Вырасла Комуна».

Увесь гэты працэс імкнення да культурнага жыцця прадказаў геніяльны Ленін:

«Толькі з соцыялізма пачнецца шпаркі, сапраўды масавы, пры большасці насельніцтва, а потым ўсяго насельніцтва, адбываючыйся рух уперад ва ўсіх галінах грамадскага і асабістага жыцця».

Падкрэсліваючы эканамічную і класавую аснову ў пераадаленні буржуазных перажыткаў у свядомасці людзей, Владзімір Ільіч заўжды падкрэсліваў вялікае значэнне суб'ектыўнага ідэалагічнага фактара—кіруючай ролі пролетарыята, як перадавога класа, пролетарскай партыі, палітычнай агітацыі і прапаганды, педагагічнай, палітыка-асветнай і наогул культурнай дзейнасці. Задаволіць цягу шырокіх колаў калгаснікаў да ведаў і культуры заклікаьы ўсе нашы культурныя і палітыка-асветныя ўстановы. Яны павінны стаць арганізуючымі цэнтрамі, рассаднікамі культуры на вёсцы.

Па ўсёй БССР пракацілася хваля культурных мерапрыемстваў і пачынанняў.

Заклік «Правды» да сельсоветаў, калгасаў і соўгасаў змагацца за культурны быт, культпаход імя VII з'езда советаў, літпаход за асваенне літаратурных класічных твораў, аб'яўлены па ініцыятыве оршанскіх арганізацый, выклікалі масавы рух за культурнае жыццё на вёсцы.

У час культпаходу імя VII з'езда советаў амаль ва ўсіх раёнах БССР арганізоўваліся спецыяльныя камісіі (акрамя сельсовецкіх), культтройкі ў калгасах, культбрыгады. У радзе раёнаў і калгасаў адрамантавалі клубы, хаты-чытальні, арганізавалі новыя чырвоныя куткі, сотні гурткоў палітасветных, музыкальных, харавых, па чытцы мастацкай літаратуры, пабудавалі лазні, адкрылі цырульні, правялі санітарны агляд жыллёвых памяшканняў і двароў, бялілі сцены ў хатах, выганялі і труцілі прусоў, паставілі новыя прыбіральні, агарожы, платы і т. д.

Для прыкладу азнаёмімся з культработай некалькіх раёнаў.

У зоне дзейнасці МТС Хойніцкага раёна 49 калгасаў. У калгасах адрамантаваны 23 калгасныя клубы і арганізаваны 23 чырвоныя куткі, у 3 калгасах («КІМ», «Варашылава», Дварышчанскага с.-с і «Праца», Хойніцкага с.-с.) пабудаваны новыя клубы са сцэнамі. Кожны клуб разлічан на 250 чалавек.

Клубы і гурткі абсталяваны спецыяльнымі бібліятэчнымі шафамі, за сродкі калгасаў закуплена літаратура. 12 літгурткоў прапрацоўваюць мастацкую літаратуру: «Паднятая цаліна» Шолахава, «Маці» Горкага, «Дрыгва» Коласа, «Над ракою Арэсай» Купалы і т. д.

11 калгасаў маюць новыя драмгурткі, якія ставяць «Нашы козыры», «Злодзей» і інш. Пастаноўкі карыстаюцца агромным поспехам. Агітбрыгада з 16 комсамольцаў-калгаснікаў абслужыла 25 калгасаў і выступала ў Менску на XI з'ездзе советаў, як лепшая агітбрыгада ў рэспубліцы, прэміяваная НКАсветы БССР 2.000 руб. У 7 калгасах створаны струнныя гурткі. Інструменты закуплены за сродкі, вырučаныя ад спецыяльна наладжаных для гэтай мэты суботнікаў.

Арганізаваны 49 ваенных гурткоў, абаронная эстафета распаўсюдзіла літаратуры на 4200 руб.

Пры МТС створана перасовачная лыжная станцыя, якая падрыхтавала 320 чал. к здачы нормы на значок ГПА па лыжах.

У калгасах «Окцябр», Бабінскага сельсовета, «Чырвоны араты», Новасёлкаўскага с.-с. і інш. адрамантавалі і пабудавалі лазні. Усе 15 лазень працуюць рэгулярна 8 раз у месяц.

Па ініцыятыве старшага агранома МТС тав. Лазарэвіча арганізавана 8 агратэхнічных куставых гурткоў, якія ахапляюць усе 49 калгасаў зоны. Заняткі гурткоў адбываюцца 4 разы ў месяц па 3 гадзіны. Наведванне гэтых гурткоў вялікае.

У калгасах праводзяцца культдні. За некалькі дзён да таго вывешваюцца спецыяльныя скрынкі пытанняў. Адказы даюцца на культднях. Актыўнасць прысутных вельмі вялікая. Для падрыхтоўкі інструктароў фізкультмасавай работы пры МТС арганізаваны курсы на 15 чал. Працуюць 23 палітгурткі э актывам у 360 чал.

У калгасе «Комунар № 1», Аравіцкага с.-с., новы калгасны клуб арганізаваў 4 гурткі: драматычны з 12 чал., харавы з 15, літаратурны з 28 чал., ваенны з 45 чал. Культпаходам ахоплена 430 чал. актыву. Брыгады аглядаюць кватэры калгаснікаў, сочаць за чыстатой, арганізавана клапоцяцца аб рамонце кватэр, падвозцы дроў і т. д.

З паданага відаць, што могуць зрабіць самі калгаснікі, калі справай будуць займацца арганізатары, натхняльнікі новай культуры.

Возьмем яшчэ для прыкладу Любаньскі раён.

Праўленне калгаса «1-е жніўня» арганізавала калектыўныя клопаты аб патрэбах калгаснікаў. Лепшым ударнікам, сем'ям чырвонаармейцаў, удовам прывезены былі дровы на зіму, адрамантаваны кватэры. У калгасе адкрылі кравецкія, шавецкія майстэрні і цырульні, адрамантавалі клуб, пачалі будаваць лазню. За час паходу арганізавалі гурткі: драматычны, літаратурны, спартыўны і інш.

Усё гэта выклікала вялікі зрух сярод калгаснікаў. Цікава, што пасля першага-ж сходу, на якім ставілася пытанне аб культпаходзе і культурным жыцці і былі выдзелены брыгады для агляду санітарнага стану кватэр, калгасніцы а 3 гадзіне ўночы пачалі ачышчаць свае кватэры і мыць падлогі, каб сустрэць брыгаду ў чыстай хаце. На сходзе было больш 250 чал.—амаль ўсё дарослае насельніцтва калгаса. Калгаснікі Сярчэня, Прушак Алена (65 год) і інш., выступаючы ў спрэчках, з вялікім захапленнем падкрэслівалі, што партыя і ўрад займаюцца бытавымі ўмовамі калгаснікаў і пасылаюць людзей паглядзець, у якіх умовах калгаснікі жывуць, каб палепшыць гэтыя ўмовы.

Вопыт калектыўнага клопату аб патрэбах калгаснікаў перанесен у Смалявіцкі, Оршанскі, Чырвонаслабодскі, Плешчаніцкі і рад іншых раёнаў.

Многія хаты-чытальні праводзяць шырокую культурную і палітыка-асветную работу, з'яўляюцца ўзорам культурнага ачага.

Хата-чытальня Старцаўскага сельсовета, Бабруйскага раёна (загадчык т. Яновіч, комуніст) абслугоўвае 5 сельсоветаў. Яна добра абсталявана: дзве мяккія канапы, дыван, 68 венскіх крэсел, дубовы стол, ходзікі, гучнагаварыцель, 5 сямілінейных і 2 пятнаццацілінейныя лямпы. Памяшканне знутры абіта фанерай і аклеена шпалерамі, столь з гары ацеплена лісцем і пяском, абсыпаны загавальні, пабудаваны 2 новыя печы, закуплена 10 м. дроў. Памяшканне штодня прыбіраюць, праціраюць вокны і дзверы, мыюць праз кожныя 3 дні.

Хата-чытальня забяспечана плакатамі, партрэтамі, лозунгамі. Бібліятэка папоўнена на 850 кніг, закуплены культпрылады для зімовых заняткаў.

Пры хаце-чытальні працуюць заатэхнічны, літаратурны, агратэхнічны і драматычны гурткі, завочныя курсы калгаснага актыва, пачатковая школа для няграматных, справачны стол. За 1 месяц прачытана 2 палітлекцыі, 2 агралекцыі і 1 ветэрынарная. Пры шасці калгасах хата-чытальня арганізавала палітгурткі. На ўсю гэту работу мабілізавана 1200 рублёў грамадскіх сродкаў.

Хата-чытальня калгаса «III Інтэрнацыянал», Жыткавіцкага раёна, Бяляўскага с.-с. (загадчык т. Дуброва, комуніст) арганізавала пакой адпачынку калгасніка, радыё-аўдыторыю, вайсковы габінет. У пакоі адпачынку 2 мяккія канапы, 12 крэсел, 3 сталы з чырвоным палатном, бюст Леніна, кветкі, гадзіннік, 2 шафы з кнігамі, патэфон, вешалка, вітрына. Наведвальнікі абавязкова раздзяюцца. У пакой заходзяць старыя калгаснікі паслухаць патэфон, пачытаць газету. Хата-чытальня правяла сярод калгаснікаў падпіску на газеты, выпісана 250 экз. «Калгасніка Беларусі».

Працуюць музыкальны, харавы і драматычны гурткі; літгурток з 16 чал. распрацаваў творы: «Паднятая цаліна», «Дрыгва», «Спалох на загонах».

Праводзячы культурны паход імя VII з'езда советаў, калгаснікі па ініцыятыве хаты-чытальні асушылі вуліцы, пралажылі тратуар, адвялі 1,75 га пад парк адпачынку і культуры, дзе пасадзілі 312 дрэў, ацяплілі будынкі і пабудавалі радзільні для жывёлы; у якасці прэміі пабудавалі 2 новыя кватэры калгаснікам, адрамантавалі ўдовам 6 кватэр, пабудавалі 5 сараяў для ўласнай патрэбы калгаснікаў.

У Верацейскім сельсовеце, Дубровенскага раёна, не было памяшкання пад хату-чытальню. Прызначаны загадчыкам хаты-чытальні т. Хадукін, комсамолец, дабіўся дапамогі сельсовета, арганізаваў грамадскасць, перавёз і адрамантаваў памяшканне; набыў сталы, крэслы; увёў чыстату, плявацельніцы, вешалкі, лямпы; вызез на год дровы, абсыпаў загавальні, выпісаў на 600 руб. літаратуры. Сельсовет многанацыянальны. Літоўская, беларуская, эстонская, латышская, польская, руская, яўрэйская нацыянальнасці забяспечаны газетамі на сваёй роднай мове.

Пры хаце-чытальні арганізаваны гурткі: музыкальны з 15 чал., драматычны з 21 чал., палітгурток і зоагурток. Перавыбарчыя сходы сельсоветаў абслужаны былі спецыяльнымі пастаноўкамі хатычытальні; на адным з такіх вечароў старык літовец Шукіс—73 год—пусціўся ў скокі. За кастрычнік месяц хата-чытальня арганізавала піонерскі клуб.

Загадчык хаты-чытальні арганізаваў вакол сябе актыў з 50—60 чал.

Як след абсталяваны і здавальняюча працуюць хата-чытальня Стара-Рудняцкага сельсовета, Жлобінскага раёна (загадчык Пашкевіч, беспартыйны), Жывёлагадоўская, Чырвонаслабодскага раёна (загадчык Лапошко), Стальбоўскага сельсовета, Уздзенскага раёна (загадчык Душэўскі) і інш. Галоўную ўвагу яны павінны звярнуць цяпер на змест сваёй работы, бо пакуль што яны больш клапоцяцца аб культурным выглядзе памяшкання. Хата-чытальня павінна стаць культурным ачагом, які мог-бы задаволіць разнастайныя культурныя патрэбы калгаснікаў.

Ва многіх раёнах хаты-чытальні працуюць усё яшчэ вельмі нездавальняюча.

Выключную недаацэнку палітасветработы бачым у Клімавіцкім раёне, дзе з 26 хат-чытален толькі 21 укамплектавана работнікамі, сярод якіх 2 старшыні сельсовета, 2 намеснікі, адзін старшыня сельпо, 2 настаўнікі. Суражская і Пагоская хаты-чытальні застаюцца складамі зярна.

У Плешчаніцкім раёне з 13 хат-чытален працуе 6. Інструктара палітасветы райком увесь час выкарыстоўвае ў якасці ўпаўнаважанага па кампаніях.

У Ельскім раёне райком комсамола забраў палітасвет' інструктара т. Козінцава на работу нам. сакратара па палітвучобе, а вылучаны на яго месца другі Козінцаў з работай не спраўляецца.

У Хойніцкім раёне загадчыкі хат-чытален мяняюцца без ведама райАНА.

Дрысенскі, Дзержынскі, Бярэзінскі, Ельскі, Плешчаніцкі, Лельчыцкі, Суражскі, Бягомельскі, Лагойскі, Чырвонапольскі раёны нават не ўключыліся ў агляд гатоўнасці хат-чытален да зімы.

Прыведзеныя прыклады дрэннай работы хат-чытален сведчаць аб тым, што кіруючыя арганізацыі гэтых раёнаў не ўсвядомілі палітычнага значэння таго шырока разгорнутага наступу, які партыя вядзе зараз на культурным фронце, што яны адстаюць, плятуцца ў хвасце ахапіўшага калгаснікаў масавага руху за культуру. На ўсіх уча-

стках нашай работы патрэбна цяпер поўная культура і тэхніка. На якіх-бы далёкіх ад культурнага фронту ўчастках ні працавалі нашы работнікі, яны ні ў якім разе не павінны абыходзіць пытанняў культуры.

Тав. Кавальчук, загадчык райза Слуцкага раёна, у дырэктыве МТС і калгасам аб выпісцы літаратуры адзначае: «Ёсць група людзей, якія не могуць абыйсціся без літаратуры, «прафесія не дазваляе»: трактарысты, машыністы, брыгадзіры, жывёлаводы і інш.».

Зусім правільна! У новай калгаснай вёсцы наглядаецца гіганцкі рост талентаў і арганізатараў, аб якіх пісаў Ленін яшчэ ў 1918 г.:

> «Арганізацыйных талентаў у сялянстве і рабочым класе многа, і гэтыя таленты толькі-толькі пачынаюць усведамляць сябе, прасыпацца, цягнуцца да жывой творчай вялікай работы, брацца самастойна за будаўніцтва соцыялістычнага грамадства... высоўвацца напаверх у справе грамадскага кіраўніцтва».

З няграматных ці поўграматных яшчэ 2—3 гады таму назад калгаснікаў вырастаюць кадры кваліфікаваных трактарыстаў і камбайнераў, з учарайшых дробных уласнікаў, гаспадарчая ініцыятыва якіх не выходзіла за межы 2—3 гектараў зямлі, растуць кіраўнікі вялікай калгаснай гаспадаркі. Усё гэта было не простай і не лёгкай задачай. Але партыя большэвікоў, узначаленая лепшым вучнем і саратнікам Леніна—мудрым Сталіным, здолела паспяхова вырашыць гэту задачу ў нябачана кароткі тэрмін.

Вырасшым кадрам і ўсяму калгаснаму сялянству неабходна дапамагаць адпаведнай літаратурай, арганізацыяй палітыка-асветнай і культурнай работы.

Наладзіць шырока разгорнутую культурную і палітыка-асветную работу мы маем усе магчымасці. Калгасы цяпер ужо настолькі арганізаваны, што лёгка можна ўлічыць малаграматных, выявіць колькасць жадаючых вучыцца далей, якую школу арганізаваць для дарослых—пачатковую, агульна-адукацыйную ці павышанага тыпу, якія курсы адкрыць, якія лекцыі прачытаць.

Яўна бюракратычна працуе «БАКТ»: не выконвае дырэктыў партыі аб совецкім гандлі, не ўлічвае патрэб калгаснікаў ў культурных прыладах, літаратуры, плакатах.

Сярод работнікаў палітасветных устаноў вялікая цякучасць. Трэба падумаць аб замацаванні іх на рабоце, палепшыць матар'яльнае становішча. У Старадарожскім раёне работнікам палітасветных устаноў не выплацілі своечасова нават надбаўкі на хлеб і звярнулі на іх увагу толькі пасля прыезду ўпаўнаважанага з культпропа ЦК КП(б)Б. Старадарожскі РК, згодна пастанове СНК БССР, вынес рашэнне аб адводзе хатнікам гародніх участкаў, аб дапамозе насеннем забяспечанні кватэрамі. Гэта добрае рашэнне так і засталося на паперы. Кожны раён мае поўную магчымасць матар'яльна палепшыць становішча хатніка, калі толькі пажадае і ўсвядоміць неабходнасць культурнай рэволюцыі.

Значная частка бюджэта паасобных калгаснікаў ужо зараз ідзе на пакрыццё культурных патрэб: пакупку кніг, радыё, грамафонаў, патэфонаў, ложкаў, бялізны, туалетнага мыла і т. д. Асаблівую ўвагу неабходна звярнуць на арганізацыю такіх устаноў як яслі, пральні, радзільні, грамадскія сталовыя, каб вызваліць жанчыну ад лішніх

клопатаў і даць ёй магчымасць культурнага росту. Вось што пра гэта пішуць калгасніцы Георгіеўскага раёна ў сваім лісце к т. Сталіну:

«Чыталі вось мы ў газетах і на сходах чулі, што ў Германіі фашысты, якія стаяць на чале ўлады, імкнуцца вярнуць жанчыну на кухню, да гаршкоў і пялюшак, каб яна нічым больш не цікавілася. Дзіўна гэта нам здалося: нібы і культурная нацыя, а хоча трымаць жанчын у цемры і рабстве. Але мабыць гэта ў іх не выйдзе, як і ў нашых кулакоў. Зверне фашыстам галаву працоўны народ»... «Як падышлі мы да кіраўніцтва грамадскім жыццём і гаспадаркай, то асвета стала для нас не як роскаш, а як неабходная патрэба, усёроўна што вада прагнучаму чалавеку».

Статут сельскагаспадарчай арцелі, прыняты на другім з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў, дае нам праграму таго, як ўзняць усе без выключэння калгасы да ўзроўню перадавых, зрабіць іх большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі. Тады культурнае жыццё дасягне небывалага *размаху* і *росквіту*.

Наша соцыялістычная культура бярэ ад буржуазнай усё дадатнае, рашуча адкідаючы ўсё класава-варожае соцыялізму. Соцыялістычная культура ахапляе не адзіночак, а мільённыя масы працоўных сялян, калгаснікаў, рабочых.

Наш масавы культурны рух не мае прэтэндэнтаў у гісторыі і стаў магчымым толькі пасля перамогі вялікай соцыялістычнай рэволюцыі 1917 года.

БССР мае велізарнейшыя дасягненні ў галіне росквіту і таржаства культуры, нацыянальнай па форме і інтэрнацыянальнай па свайму *зместу*.

За дасягненні ва ўсіх галінах работы БССР атрымала пачэсную ўзнагароду ад саюзнага ўрада—ордэн Леніна. У далейшым ордэнаносная рэспубліка пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з верным сталінцам тав. ГІКАЛО дасягне яшчэ большых поспехаў у галіне культурнага росту.

Н. Гурэвіч

# Задачы таваразвароту на даным этапе

Тав. Сталін у сваім гістарычным дакладзе на XVII партыйным з'ездзе ўказаў:

> «Разгортванне совецкага гандлю з'яўляецца той актуальнейшай задачай, без вырашэння якой немагчыма далей рухацца ўперад».

Партыя і яе правадыр т. Сталін не раз падкрэслівалі значэнне совецкага гандлю, разгортвання таваразвароту ў соцыялістычнай гаспадарцы нашай краіны, ведучы няўстанную барацьбу з усякімі апартуністычнымі спробамі ўмаліць яго палітычнае і гаспадарчае значэнне, сарваць справу разгортвання таваразвароту.

Пад кіраўніцтвам тав. Сталіна—геніяльнага правадыра сусветнага пролетарыята—партыя ўшчэнт разбіла ўстаноўкі правых апартуністаў, якія арыентаваліся на так званы «свабодны гандаль», г. зн. на панаванне ў гандлі прыватніка і спекулянта, і адмаўлялі планава-рэгулюючае ўздзеянне пролетарскай дзяржавы.

З такім-жа поспехам партыя разбіла контррэволюцыйны трацкізм, які лічыў рынак і гандаль у СССР катэгорыямі капіталістычнымі.

І, урэшце, наша партыя выкінула на сметнік тэорыю «левых» фразёраў, марыўшых аб пераскакванні праз няпройдзены яшчэ этап разгорнутага совецкага гандлю к прамому прадуктаабмену.

> «Яны не разумеюць, што прадуктаабмен можа прыйсці толькі на змену і ў рэзультаце ідэальна наладжанага совецкага гандлю, чаго ў нас няма ў паміне і што не хутка будзе ў нас» **(Сталін)**.

На шляхах барацьбы і рашучага выкаранення ўсіх гэтых шкодных апартуністычных тэорый партыя няўхільна, сістэматычна і паслядоўна праводзіла лінію Леніна—Сталіна на ўсямернае разгортванне совецкага гандлю.

Тав. Сталін на XVII партыйным з'ездзе ўказаў:

> «Каб эканамічнае жыццё краіны магло забіць крыніцай, а прамысловасць і сельская гаспадарка мелі стымул к далейшаму росту сваёй прадукцыі, трэба мець яшчэ адну ўмову, а іменна—разгорнуты **таваразварот** паміж горадам і вёскай, паміж раёнамі і абласцямі краіны, паміж рознымі галінамі народнай гаспадаркі. Неабходна, каб краіна была пакрыта багатай сеццю гандлёвых баз, магазінаў, крам. Неабходна, каб па каналах гэтых баз, мага-

зінаў, крам безупынна цыркулявалі тавары ад месц вытворчасці да спажыўца. Неабходна, каб у гэту справу былі ўцягнуты і дзяржаўная гандлёвая сець, і кааперацыйная гандлёвая сець, і мясцовая прамысловасць, і калгасы, і аднаасобныя сяляне.

Гэта і называецца ў нас разгорнутым **совецкім гандлем,** гандлем без капіталістаў, гандлем без спекулянтаў».

На аснове ўказанняў тав. Сталіна мы за апошнія гады маем значныя поспехі ў развіцці совецкага гандлю. Разгортванне гандлю ненармаванымі таварамі, рост сеці спецыялізаваных магазінаў сістэмы Наркомунутргандлю і спажыўкааперацыі адыгралі ўжо значную ролю ў разгортванні совецкага гандлю.

Рашэнне лістападаўскага пленума ЦК ВКП(б) аб адмене картачнай сістэмы на хлеб і некаторыя іншыя прадукты—важнейшы этап у далейшым разгортванні совецкага гандлю, буйнейшы крок па шляху практычнага ажыццяўлення дырэктыў 17-ай партканферэнцыі:

«Падрыхтаваць адмену нармаванага водпуску тавараў і замяніць сістэму цэнтралізаванага размеркавання разгорнутым совецкім гандлем».

Прынятае партыяй па ініцыятыве т. Сталіна рашэнне аб адмене картачнай сістэмы на хлеб падрыхтавана цэлым радам мерапрыемстваў, праведзеных партыяй на працягу апошніх год і з'яўляецца вынікам поспехаў, дасягнутых ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва.

Створана некалькі тысяч буйных соўгасаў і каля двухсот тысяч калгасаў, якімі аб'яднана каля $4/5$ сялянства і каля 90 проц. усёй пасеўнай плошчы. Сельская гаспадарка на аснове соўгасна-калгаснага будаўніцтва ператворана з дробнай у буйную соцыялістычную гаспадарку, узброеную навейшымі сельскагаспадарчымі машынамі з прымяненнем апошніх дасягненняў агратэхнікі, што немагчыма было ў дробнай аднаасобнай гаспадарцы. Усё гэта забяспечыла агромнейшы ўздым прадукцыйнасці сельскагаспадарчай вытворчасці, павелічэнне тварнасці хлеба і іншых сельскагаспадарчых прадуктаў. Агромныя хлебныя рэсурсы ў нашай краіне далі магчымасць партыі і совецкаму ўраду адмовіцца ад картачнай сістэмы снабжэння хлебам і некаторымі іншымі прадуктамі.

Важнейшым звяном у ланцугу мерапрыемстваў у сферы таваразвароту з'явілася таксама разгортванне адкрытага ненармаванага гандлю.

Тав. Молатаў у сваім дакладзе на лістападаўскім пленуме ўказаў:

«Асобае значэнне ў падрыхтоўцы адмены картачнай сістэмы мае развіццё камерцыйнага гандлю. На гэту справу была звернута вялікая ўвага. У рэзультаце гэтага ўдзельная вага камерцыйнага гандлю ў рознічным таваразвароце за апошнія 4 гады значна павысілася. Вось адпаведныя лічбы па гадах: 1931 г.— 3 проц., 1932 г.—11 проц., 1933 г.—15 проц., 1934 г. (чакаемае выкананне)—24 проц.».

Разгортванне адкрытага гандлю ў БССР, як і ва ўсім Совецкім саюзе, суправаджалася сістэматычным зніжэннем цэн на камерцыйныя тавары і ў прыватнасці на хлеб.

Так, устаноўленая спачатку камерцыйная цана на ржаны хлеб у 2 р. 50 к. за кгр. была зніжана да 2 руб., а пасля—да 1 р. 50 кап.

Такім-жа парадкам камерцыйная цана пшанічнага хлеба 85% памолу зніжана была з 4 р. да 3 р. 50 к. і нарэшце да 3 рублёў. Гэта зніжэнне саставіла па БССР за 1934 г. 89,5 млн. руб. Такім чынам дзяржава шляхам сістэматычнага зніжэння цаны на хлеб грунтоўна ўзняла рэальную заработную плату рабочых і ўсіх працоўных.

Палітыка нашай партыі ў галіне цэн накіравана на далейшае сістэматычнае зніжэнне цэн у ненармаваным гандлі для ліквідацыі існуючай сістэмы падвойных цэн і паступовай замены нармаванага размеркавання шырокім паўсямесным гандлем.

Картачная сістэма на хлеб, уведзеная ў 1928 г., адыграла сваю станоўчую ролю: яна забяспечыла першачарговае снабжэнне асноўных мас пролетарыята хлебам, развіццё тэхнічных культур, садзейнічала правільнаму накіраванню дзяржаўных рэсурсаў хлеба іменна па тых каналах, якія абумоўлены былі інтарэсамі соцыялістычнага будаўніцтва.

Але, калі ў руках дзяржавы стварыліся выстарчальныя хлебныя запасы, пленумам ЦК ВКП(б) па ініцыятыве т. Сталіна было вынесена рашэнне аб адмене картачнай сістэмы на хлеб, г. зн. аб разгортванні паўсямеснай свабоднай прадажы хлеба.

* * *

Адмена нармаванай прадажы хлеба паставіла перад намі адказную задачу—стварыць выстарчальную базу для хлебапячэння і арганізаваць гандлёвую сецьдля разгортвання гандлю хлебам і іншымі прадуктамі.

Перад БССР у прыватнасці была пастаўлена задача пашырыць базу хлебапячэння к 1/I-35 г. на 120 тон і к 1/II-35 на 208 тон, а таксама павялічыць сецьхлебных магазінаў, крам і ларкоў на 330 адзінак.

Задача заключалася не толькі ў павелічэнні колькасці гандлёвых адзінак, але і ў тым, каб правільна размясціць гандлёвую сець, наблізіць яе да рабочага спажыўца і стварыць культурныя ўмовы гандлю.

З упэўненасцю можна канстатаваць, што пастаўленыя партыяй і ўрадам перад гандлёвымі і хлеба-выпякаючымі арганізацыямі задачы пры актыўнай дапамозе мясцовых органаў выкананы здавальняюча. План пашырэння базы хлебапячэння быў перавыканан. На 1.1.35 г. падрыхтавана дадатковая магутнасць хлебапячэння ў 241 тону. Таксама перавыканан план пашырэння гандлёвай сеці. На 1.1.35 г. мы мелі 157 новых спецыялізаваных магазінаў, 141 аддзяленне змешаных магазінаў і 114 ларкоў. Такім чынам замест планавых 330 гандлёвых адзінак адкрыта фактычна 412.

Праўда, гэтыя рэзультаты яшчэ не могуць служыць поўнай характарыстыкай таго, як мы выканалі дырэктывы, пастаўленыя рашэннем лістападаўскага пленума аб разгортванні свабоднай прадажы хлеба.

Не гледзячы на значны разварот хлебнага гандлю, у паасобных гарадах і раёнах з-за няўмелай арганізацыі гандлю былі ў студзені месяцы выпадкі недахопу паасобных гатункаў хлеба. Выключна дрэнна быў арганізован хлебны гандаль у Бабруйску, дзе ўстанавілі чарговасць развозкі паасобных гатункаў хлеба. Такая практыка штучна выклікала чаргі ў хлебных крамах, спажыўцу прыходзілася па некалькі раз хадзіць у краму, каб купіць розныя гатункі хлеба.

Адмена нармаванай прадажы хлеба павінна была максімальна стымуляваць разгортванне калгаснага гандлю сельскагаспадарчымі прадуктамі і ў прыватнасці хлебам. Аднак рад мясцовых партыйных

і совецкіх арганізацый не скарысталі ў патрэбнай меры пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб дазволе ў БССР з 1/1-35 г. калгаснага гандлю хлебам, не разгарнулі сярод калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў дастатковай масавай растлумачальнай работы аб выгаднасці і важнасці для саміх калгаснікаў разгортвання калгаснага гандлю. Вось чаму прыток хлеба на рынкі зусім недастатковы.

Гандлюючыя арганізацыі таксама не паклапаціліся аб тым, каб стварыць культурныя ўмовы для прыязджаючых калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў, шырока разгарнуць гандаль промтаварамі, выкінуць дастатковыя фонды промтавараў для сустрэчнага гандлю і. т. д.

Буйнейшы недахоп работы гандлюючых арганізацый заключаецца ў тым, што значная частка іх яшчэ не зразумела арганічнай сувязі шырокай прадажы хлеба з агульным разгортваннем тавараз-вароту, не зразумела таго, што агульны разварот совецкага гандлю і тавараздвароту павінен суправаджацца яшчэ большым разгортваннем калгаснага гандлю, пашырэннем гандлю промтаварамі ў вёсцы і ажыўленнем усяго тавараздвароту. Рад гандлюючых арганізацый на месцах яшчэ не ўлічылі таго, што задачы шырокага гандлю хлебам не абмяжоўваюцца толькі снабжэннем спажыўца хлебам за кошт дзяржаўных фондаў, а эканамічна ўздзейнічаюць на цэны калгаснага рынку і шырокае разгортванне калгаснага гандлю.

Калгасны гандаль—значная дадатковая крыніца паступлення сельскагаспадарчых прадуктаў. На неабходнасць разгортвання калгаснага гандлю, як адной з форм разгорнутага совецкага гандлю, указаў т. Сталін:

> «Калгасны гандаль патрэбны і выгадны як вёсцы, так і гораду, як рабочаму класу, так і сялянству. І іменна таму, што ён выгадны, яго трэба было ўвесці».

Калгасны гандаль і ў далейшым павінен будзе адыграць вялікую ролю ў справе забяспечання гарадоў дадатковымі рэсурсамі сельскагаспадарчых прадуктаў, бо рост і развіццё нашай калгаснай вёскі будзе выклікаць усё большае павелічэнне яе тарнасці.

Сёлета ў значнай меры мяняецца характар рэалізацыі фондаў шырокага рынку, у прыватнасці для калгасаў, і па раду прадметаў сродкаў вытворчасці і будматар'ялаў, якія ў мінулыя гады рэалізаваліся ў строга цэнтралізаваным парадку. Так, значна павялічваюцца для свабоднай рэалізацыі фонды цвікоў, аконнага шкла, кровельнага жалеза, лесаматар'ялаў, розных сельскагаспадарчых машын, аўтомашын і т. д. Замест снабжэнчага размеркавання гэтыя прадметы будуць рэалізавацца праз гандлёвую сетку. Усё гэта пры правільнай арганізацыі свабоднай прадажы гэтых тавараў, пры своечасовым прасоўванні іх да калгасаў стварае магутны дадатковы стымул к разгортванню калгаснай вытворчасці і калгаснага гандлю.

Адначасова мы павінны памятаць указанне т. Сталіна аб тым, што совецкі гандаль з'яўляецца гандлем без капіталістаў і без спекулянтаў. Таму барацьба са спекуляцыйнымі элементамі—адна з неабходных умоў далейшага разгортвання калгаснага гандлю.

У сувязі з рашэннямі пленума перад намі стаіць велізарнейшая задача далейшага разгортвання совецкага гандлю, бо зараз ужо пытанне ідзе не толькі аб хлебным гандлі, але аб гандлі ўсімі астатнімі таварамі.

> «Картачную сістэму можа замяніць толькі шырокі гандаль, сёння—па хлебу, заўтра—і па іншых таварах» (**Молатаў**).

* * *

У святле рашэнняў лістападаўскага пленума ЦК неабходна адзначыць асноўныя моманты, якія характарызуюць становішча гандлю ў БССР, і намеціць чарговыя задачы, што стаяць перад намі ў гэтай галіне.

Агульнае становішча тавараз вароту па БССР відаць з наступных даных: увесь тавараз варот (без грамадскага харчавання) складаў у 1933 г.—883,4 млн. руб., у 1934 г.—1.151,9 млн. руб., а план на 1935 год—1.531 млн. руб., або прырост у 33 проц. супроць звароту за 1934 г.

Асабліва характэрны за апошнія гады агромны рост удзельнай вагі дзяржаўнага гандлю ў тавараз вароце сістэмы Наркомунутргандлю, якая ў асноўнай сваёй масе гандлюе ненармаванымі таварамі.

Калі ў 1933 г. тавараз варот сістэмы Наркомунутргандлю па БССР складаў 152,6 млн. руб., то ў 1934 г. ужо 330,5 млн. руб., а па плану 1935 г. намячаецца ў суме 423,9 млн. руб.

Калі пры гэтым улічыць, што складзены план тавараз вароту выходзіць з узроўню цэн, устаноўленага партыяй і ўрадам на 1935 г., што дае зніжэнне на адзін толькі хлеб супроць 1934 г. прыкладна да 60 млн. руб., то рост тавараз вароту па БССР наогул і па сістэме Наркомунутргандлю ў прыватнасці будзе яшчэ больш уразлівым.

Для ілюстрацыі няўхільнага росту гандлю сістэмы Наркомунутргандлю БССР неабходна ўказаць, што яе камерцыйны зварот у частцы харчовых тавараў у 1934 г. павялічыўся ў 3 разы ў параўнанні з 1933 г. Калі ў 1933 г. Наркомунутргандаль у парадку адкрытага камерцыйнага гандлю рэалізаваў розных харчовых тавараў на 10,3 млн. руб., то ўжо ў 1934 г.—на 31,1 млн. руб. Акрамя таго, у 1934 г. розніца Наркомунутргандлю пачала гандляваць такімі таварамі, як макароны, масла, маргарын і інш., якімі яна да гэтага часу не гандлявала.

Такавы важнейшыя вынікі апошніх год у галіне тавараз вароту. Яны сведчаць аб тым, што толькі дзякуючы правільнай лініі нашай партыі працоўнае насельніцтва БССР атрымала магчымасць купляць у дзяржаўнай гандлёвай сеці такія тавары, якіх да 1933-34 гг. зусім не было ў адкрытай прадажы.

Пры ацэнцы перспектыў тавараз вароту на 1935 г. мы павінны перш за ўсё памятаць аб неабходнасці ліквідаваць тыя адмоўныя з'явы, якія ёсць яшчэ ў рабоце паасобных гандлёвых сістэм, а таксама прадоўжыць узяты курс на развварот адкрытага ненармаванага гандлю.

Істотны недахоп у рабоце гандлёвых сістэм, які ў роўнай меры ўласцівы спажывецкай каапераціі, Белгандлю і інш. арганізацыям, заключаецца ў тым, што яны яшчэ не разгарнулі гандлю дастаткова вымі таварамі, будуючы ў асноўным сваю работу на таварах плануемых.

Зусім нецярпіма, калі пры звароце спажыўкаапераціі за 1934 г. у 527 млн. руб. мэбля займае толькі каля 8 млн. руб., сілікаты—5 млн. руб. і т. д., калі ў Белгандлі пры звароце ў 80 млн. руб. за 1934 г.: на долю мэблі выпадае толькі 920 тыс. руб., на долю сілікатаў—700 тыс. руб. і т. д.

У рэзультаце зусім недастаткова задавальняецца попыт шырокіх мас працоўнага насельніцтва на такія тавары як мэбля, сілікаты, паасобныя віды галантарэі і інш.

План тавараз вароту на 1935 г. па лініі спажывецкай каапераціі і

Белгандля прадугледжвае разварот гандлю дастатковымі і рэгулюемымі таварамі, павышэнне іх удзельнай вагі ў звароце гэтых сістэм. Спажывецкай кааперацыяй запраектаваны прырост звароту мэблі на 43 проц., культтавараў на 36 проц., метызаў на 22 проц., гародніны на 26 проц., фруктаў на 38 проц., і т. д. Белгандлем запраектаваны рост таваразвароту пераважна за кошт разгортвання гандлю дастатковымі таварамі (па метызах арыентовачна намячаецца рост на 120 проц., сілікатах—на 160 проц., галантарэі—на 60 проц., культтаварах—на 170 проц., і т. д.).

Перспектывы таваразвароту на 1935 г. павінны ацэньвацца намі таксама з пункту погляду далейшага развароту адкрытага ненармаванага гандлю харчовымі таварамі не толькі існуючай сеццю Белхарчгандля, але і па лініі арганізацыі спецыялізаванай харчовай сеці. У гэтых адносінах арганізацыя спецыялізаванай сеці «Гастраном» Па аднаму толькі Белхарчгандлю запраектован зварот ненармаванага гандлю харчовымі таварамі.

Па данаму толькі Белхарчагандлю запраектован зварот ненармаванага гандлю харчовымі таварамі ў 61 млн. руб. замест 31 млн. руб. у 1934 г. Калі ўлічыць тыя харчовыя рэсурсы, якія будуць уцягнуты ў таваразварот рэспублікі з арганізацыяй спецыялізаванай сеці «Гастранома» і пашырэннем рознічнага гандлю сістэмы Саюзмаслапрома, то праектыроўкі росту таваразвароту па гэтых сістэмах паслужаць важнейшым мерапрыемствам у падрыхтоўцы пераходу на рэйкі адкрытага ненармаванага гандлю харчовымі таварамі.

Такая праграма разгортвання гандлю харчовымі таварамі бясспрэчна адпавядае дырэктывам партыі і ўрада аб паступовай адмене нармавання прадуктаў, як гэта адзначыў у сваім дакладзе на лістападаўскім пленуме ЦК ВКП(б) тав. Молатаў:

> «Камерцыйны гандаль стаў ужо буйным дапаўненнем да нармаванага снабжэння. Не гледзячы на тое, што цэны ў камерцыйным гандлі значна вышэй цэн на тавары ў нармаваным снабжэнні па картачках, камерцыйны гандаль хутка развіваецца. і патрабаванні на далейшае павелічэнне камерцыйнага гандлю паступаюць з усіх раёнаў краіны».

Зусім зразумела, што такі разварот адкрытага нармаванага гандлю звязан з карэнным палепшаннем абслугоўвання совецкага спажыўца. У 1934 г. спажывецкая кааперацыя і розніца Наркомунутргандля адкрылі цэлы рад новых, добра абсталяваных магазінаў, якія пачынаюць гандляваць па-совецку. Адмена картачнай сістэмы на хлеб выклікала да жыцця рад культурных хлебных магазінаў і т. д.

Аднак, усе гэтыя дасягненні часам стушоўваюцца перад радам ненармальнасцей у абслугоўванні совецкага спажыўца (нерацыянальнае размеркаванне гандлёвай сеці, не заўсёды здавальняючая якасць і асартымент хлеба і т. д.).

Таму ў 1935 г. праектуецца не столькі пашырыць сець, колькі максімальна загрузіць яе, павышаючы якасць абслугоўвання спажыўца. Прырост рознічнай сеці па БССР прадугледжваецца, прыкладна, на 3 проц., адначасова з карэннай перабудовай яе работы: правільным размяшчэннем магазінаў, спецыялізацыяй іх і інш.

Для лепшага абслугоўвання працоўных правільнае размяшчэнне магазінаў мае агромнае значэнне. Тым часам большасць магазінаў засталася нам у спадчыну ад старых прыватных гандляроў, сканцэнтраваны яны ў асноўным у адным месцы, часта далёка ад новапабуда-

ваных рабочых пасёлкаў, што ні ў якім разе не дае магчымасці правільна абслужыць рабочага спажыўца.

Пытанне спецыялізацыі сеці таксама мае выключнае значэнне для культурнага абслугоўвання працоўнага насельніцтва. Вопыт арганізацыі ў сістэме Наркомунутргандля і Цэнтрасаюза спецыялізаваных прамысловых і харчовых таварных універмагаў—найлепшы прыклад паказальнага гандлю, правільнага і культурнага абслугоўвання працоўнага спажыўца. Соцспаборніцтва дзяржаўнага і каапарацыйнага гандлю забяспечыць значнае палепшанне абслугоўвання спажыўца і арганізацыю сапраўды культурнага гандлю.

Пытанне аб перабудове сеці стаіць востра і на вёсцы. Кожны раён абавязкова павінен мець раённы універмаг, як форму найбольш культурнага абслугоўвання калгаснага сялянства і працоўных мас раёна.

Адпаведным чынам павінна быць перабудавана і работа сельпо, якое абавязана забяспечыць калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў прадметамі першай неабходнасці, у асноўным канцэнтруючы гандаль таварамі складанага асартымента ў раённых універмагах.

Культурныя універмагі на вёсцы таксама павінны быць створаны і сістэмай дзяржгандлю. Белгандаль у асноўным канцэнтруе свае крамы ў глыбінных пунктах, у прымітыўных і далёка неабсталяваных памяшканнях. Недастатковасць фондаў у тым ліку і складанага асартымента, распыленага між усімі гэтымі крамамі, прыводзіць да параўнаўча невялікага звароту (на сельскую краму Белгандля прыпадае ў сярэднім 10—14 тыс. руб. у месяц), не кажучы ўжо пра тое, што спажыўцу не прадстаўляецца магчымасці якога-б там ні было выбару тавараў.

Такім чынам на вёсцы ў 1935 годзе неабходна не толькі замацаваць дасягненні і знішчыць усе недахопы ў рабоце раймагаў, спажыўкаапераццыі, але і заняцца арганізацыяй у асноўных раённых цэнтрах буйных райуніверmaгаў дзяржаўнага гандлю з больш шырокім, разнастайным і складаным асартыментам тавараў. Гэта не толькі павысіць якасны ўзровень абслугоўвання калгаснага спажыўца, але і падвядзе больш моцную фінансавую базу пад работу Белгандля на вёсцы.

Пастанова СНК СССР ад 4/XII. 33 г аб адводзе памяшканняў у новабудуючыхся дамах пад гандаль, на жаль, поўнасцю яшчэ не выконваецца. Патрэбна адпаведная дапамога мясцовых арганізацый, каб поўнасцю забяспечыць гэта важнейшае мерапрыемства саюзнага ўрада. Таксама трэба дабіцца, каб усе гандлёвыя памяшканні, якія скарыстоўваюцца не па прызначэнню, былі прадастаўлены гандлёвым арганізацыям.

Важнейшаю справай для правільнага разгортвання гандлю з'яўляецца падрыхтоўка адпаведных кадраў гандлёвага апарата. Разам з тым неабходна пакончыць з паасобнымі фактамі пагардлівых адносін да работнікаў гандлёвага апарата. Гаворачы аб камуністах, якія недаацэньваюць справу савецкага гандлю, тав. Сталін на XVII партз'ездзе ўказаў:

> «Гэтыя людзі не разумеюць, што савецкі гандаль ёсць наша родная бальшэвіцкая справа, а работнікі гандлю, у тым ліку работнікі прылаўка, калі яны толькі працуюць сумленна,—з'яўляюцца праваднікамі нашай рэволюцыйнай бальшэвіцкай справы».

Адсюль вынікае задача агромнай важнасці—стварыць такія кадры гандлёвых работнікаў, якія здольны разгарнуць савецкі гандаль,

падняць яго на належную вышыню і гэтым забяспечыць выкананне дырэктыў партыі.

У гандлёвым апараце ёсць яшчэ нездаровыя з'явы, якія з'яўляюцца рэзультатам таго, што работнікі гандлю канчаткова не адмовіліся ад метадаў механічнага размеркавання тавараў і не пераключыліся ў дастатковай меры на рэйкі шырокага разгорнутага гандлю.

Тав. Молатаў, спыняючыся ў сваім дакладзе на VII з'ездзе советаў на задачах уздыму тавараэвароту, указваў:

«Многія прывычкі нашым работнікам дзяржаўнага і кааперацыйнага гандлю прыдзецца кідаць, у сім-тым прыдзецца сур'ёзна перавучвацца. Усё гэта яны змогуць зрабіць толькі ў тым выпадку, калі зразумеюць недахопы ранейшай размеркавальнай сістэмы і будуць лічыцца з голасам спажыўца, калі скарыстаюць лепшыя элементы развіўшагася за апошнія гады камерцыйнага гандлю і сапраўды зробяць наш гандаль культурным, дастойным совецкай дзяржавы».

Гэта ўказанне тав. Молатава аб арганізацыі культурнага совецкага гандлю гандлёвыя работнікі абавязаны як найхутчэй правесці ў жыццё.

* * *

Далейшае разгортванне тавараэвароту цяснейшым чынам звязана з тым, каб скарыстаць усе магчымасці для павелічэння фондаў шырспажыву. Промкааперацыя з'яўляецца ў гэтай справе буйнейшым дапаўненнем да дзяржаўнай соцыялістычнай індустрыі.

Пастанова ЦВК і СНК СССР аб перабудове сістэмы промкааперацыі адкрыла перад ёю шырокую магчымасць разгарнуць вытворчасць тавараў шырспажыву. Ранейшая цэнтралізацыя збытавой дзейнасці промкааперацыі скоўвала яе ініцыятыву, прымушаючы выбляць толькі той вузкі асартымент тавараў, на які яна мела нарады ад свайго цэнтра. Дэцэнтралізацыя збыту іператварэнне арцелі ў асноўнае звяно сістэмы даюць поўную магчымасць у максімальнай меры рэалізаваць усе нескарыстаныя рэзервы і разгарнуць вытворчасць тавараў шырспажыву, павялічыць іх асартымент.

Рашэнне ўрада дало сістэме промкааперацыі ўсе магчымасці разгарнуць загатоўкі утыля і сельскагаспадарчай сыравіны.

Промкааперацыя ў 1935 г. павінна значна павялічыць план вытворчасці тавараў шырспажыву і, што асабліва важна, палепшыць якасць сваёй прадукцыі для паспяховага разгортвання тавараэвароту паміж горадам і вёскай.

Дырэктыва партыі і ўрада аб максімальным павелічэнні выпуску тавараў шырспажыву мясцовай прамысловасцю ў пэўнай меры застаецца яшчэ не выкананай. У 1934 г. мясцовая прамысловасць дала толькі 90,4 проц. плана шырспажыву.

Зусім бясспрэчна, што праблема разгортвання тавараэвароту патрабуе безумоўнага і поўнага выканання праграмы выпуску тавараў шырспажыву. Неабходна цвёрда праводзіць лінію партыі на ўстанаўленне такіх суадносін паміж рыначным і пазарыначным спажываннем, якія дазволілі-б пераключыць усе наяўныя рэзервы на павелічэнне рыначных фондаў.

Арганізацыя культурнага совецкага гандлю павышае адказнасць мясцовай прамысловасці перад гандлюючымі арганізацыямі за якасць і асартымент яе прадукцыі. На-жаль, мясцовая прамысловасць у цэ-

лым радзе выпадкаў не ўвязвае сваю работу з папярэднімі заказамі гандлюючых арганізацый і патрабаваннямі спажыўца.

Прывядзем некалькі характэрных фактаў.

Белкаапсаюзу на 1935 г. вылучан фонд шкла без уліку патрабаванняў рынку. Так, лямпавае шкло ні па якасці, ні па асартыменту не адпавядае патрабаванням спажыўцоў. На 53.600 штук фуслямп адпушчаны толькі 22.920 шкел, тым часам як кожная лямпа патрабуе не менш 5 шкел. Замест неабходных для лямп «Молнія» шкел № № 20 і 30 выдзелены № № 5, 10 і інш., патрэбныя ў самай абмежаванай колькасці. Шклозавод «Домбаль» выпускае зусім нехадавы асартымент пасуды на суму 860.000 руб. (графіны «вердо», багемскія шклянанкі, шклянкі № 3), а патрэбныя рынку розныя графіны, шклянкі рознай шліфоўкі, збаны, іспадкі і інш. зусім адсутнічаюць у спецыфікацыі Белшклозбыта.

Няма ніякай патрэбы даводзіць той бясспрэчны факт, што ўсе гэтыя з'явы дэзарганізуюць таваразварот, замаражваючы ў тавараправодзячай сеці агромныя масы нехадавых тавараў, не кажучы ўжо пра тое, што попыт совецкага спажыўца на тавары шырокага спажывання ўсё яшчэ ў значнай меры не здавальняецца.

Мясцовая прамысловасць павінна зрабіць з гэтага адпаведныя вывады і планаваць свае вытворчыя праграмы не канцэлярска-бюракратычным шляхам, а ўвязваючы іх з асартыментнымі заказамі гандлюючых арганізацый, якія павінны ў максімальнай меры адлюстраваць запатрабаванні совецкага спажыўца.

Задача мясцовых партыйных арганізацый не толькі ў тым, каб узначаліць барацьбу за выкананне і перавыкананне плана па колькасных паказчыках, але і забяспечыць максімальнае пашырэнне асартымента і палепшанне якасці тавараў.

Мясцовыя партыйныя арганізацыі максімум увагі павінны сканцэнтраваць таксама на вытворчасці тавараў шырспажыву промкааперацыяй, інваліднай кааперацыяй і іншымі сістэмамі як у горадзе, так і на раёне і змагацца за поўнае скарыстанне мясцовай сыравіны (утыль, адыходы вытворчасці і т. д.).

* * *

Паспяховая работа рознічнай гандлёвай сеці ў значнай меры залежыць ад правільнай і чоткай работы аптовага звяна. Параўнанне рэзультатаў работы аптовых баз прамысловасці за 1933 і 1934 г. пераконвае нас, па-першае, у тым, што завоз большасці плануемых тавараў павялічыўся супроць 1933 года і, па-другое, план завозу 1934 г. выканан здавальняюча.

Аднак, гэтыя зрухі ў рабоце баз зусім недастатковы. Паасобныя базы ўсё яшчэ застаюцца перавалочна-складскімі пунктамі, якія механічна адгружаюць гандлёвым арганізацыям усё тое, што атрымліваюць ад прамысловасці, і не даюць ім разнастайнага асартымента тавараў. Так, Гарадоцкі раён замест прадугледжаных планам 19 розных відаў швейных вырабаў атрымаў у 3-м квартале 1934 г. толькі 4 віды.

У рабоце баз няма патрэбнай гібкасці, яны не падсартоўваюць свой асартымент тавараў вырабамі фабрык, прымацаваных да іншых баз, і на практыцы выходзіць так, што раён атрымлівае аднастайны асартымент прадукцыі адной толькі фабрыкі.

Усё гэта сведчыць аб тым, што аптовыя базы не выконваюць яшчэ адной з адказнейшых сваіх функцый—уздзеяння на вытворцу тавараў, каб прыстасаваць асартымент да тых ці іншых асаблівасцей

спажывецкага попыту, скарыстоўваючы для гэтага сістэму папярэдніх заказаў.

Базы павінны быць ператвораны ў цэнтр, які фарміруе асартымент тавараў для той ці іншай групы спажыўцоў, раёнаў і гарадоў.

Гандлёвыя арганізацыі ў патрэбнай меры не карыстаюцца такім сродкам уздзеяння на прамысловасць, як спагнанне штрафу за неадпаведны асартымент і якасць тавараў. Даволі сказаць, што гандлёвыя арганізацыі БССР спагналі з Бавоўназбыта на працягу 1934 г. за неадпаведную якасць і асартымент 102.000 руб., тады як Бавоўназбыт спагнаў з прамысловасці за парушэнні дагавароў 154.000 руб. Скурснабзбыт сам заплаціў гандлёвым сістэмам за 1934 г. 55.000 руб. за неадпаведную якасць, а з прамысловасці спагнаў толькі 3.200 руб., г. зн. фактычна нічым не ўздзейнічаў на яе за дрэнную якасць прадукцыі.

Падобныя факты сведчаць аб тым, што гандлёвыя арганізацыі не адстойваюць сваіх дагаворных правоў, парушаючы гэтым інтарэсы свайго спажыўца.

Гандлёвыя арганізацыі павінны карэнным чынам змяніць сваю ролю, у першую чаргу поўнасцю знішчыць практыку ўзаемных «амністый», зрабіўшы кіруючым прынцыпам работы гаспадарчы дагавор, які і рэгулюе ўзаемаадносіны гандлёвых арганізацый і баз, з аднаго боку, баз і прамысловасці,—з другога. Яны маюць поўную магчымасць і абавязаны штодзенна вывучаць і ў максімальнай меры задавольваць попыт насельніцтва паасобных раёнаў і гарадоў на асартымент тавараў.

Ва ўмовах максімальнага развароту адкрытага гандлю поўнае задавальненне попыту ёсць аснова для пашырэння тавараразвароту.

Тав. Сталін на XVII партз'ездзе ўказаў:

> «У нас бывалі выпадкі, калі тавараў і прадуктаў было не мала, але яны не толькі не даходзілі да спажыўца, але працягвалі гадамі гуляць у бюракратычных закавулках так званай тавараправодзячай сеці—у баку ад спажыўца».

Гэта ўказанне тав. Сталіна набывае ў сучасны момант выключнае значэнне. Трэба сістэматычна правяраць работу нашых баз і рашуча пакончыць з бясчыннымі адносінамі да справы.

Гандлюючыя арганізацыі не на словах, а на справе павінны ўключыцца ў барацьбу за разгортванне вытворчасці прадуктаў шырспажыву, добра вывучаючы попыт спажыўца, арганізавана ўздзейнічаць на прамысловасць, прымушаючы яе выпрацоўваць тавары, якіх сёння патрабуе спажывец, рашуча пакончыць з зусім нецярпімай практыкай «амніставання» прамысловасці за тавар нізкай якасці і нездавальняючага асартымента.

* * *

Разгортванне совецкага гандлю павінна цалкам служыць справе павышэння матар'яльнага ўзроўню рабочага класа і калгаснага сялянства.

У сувязі з гэтым, неабходна павесці рашучую барацьбу з нездаровымі настроямі, нібы з адменай картачнай сістэмы на хлеб «спажывецкая кааперацыя павінна спыніць сваё існаванне і няма, моў, патрэбы плаціць паявыя ўзносы». Такія разважанні выключна шкодныя і адлюстроўваюць настроі класава-варожых элементаў.

Каб значна палепшыць сваю работу, кааперацыя павінна вышукваць крыніцы дадатковых тавараў, разгортваць самазакупкі і дэцэнтралізаваныя нарыхтоўкі, ствараць уласную харчовую базу.

Абслугоўваючыя рабочых ОРС'ы таксама не павінны забываць таго, што толькі высокая якасць абслугоўвання рабочага спажыўца (да чаго фактычна яны і прызваны) будзе вызначаць іх узровень работы.

Не можа быць і гутаркі аб разгортванні культурнага совецкага гандлю, калі мы канчаткова не выкаранім абмерванне, абважванне, растраты і т. д., што яшчэ наглядаецца ў гандлёвай сеці. Рашэнне Цэнтральнага Камітэта нашай партыі і законы совецкага ўрада аб барацьбе з абмерваннем і абважваннем павінны праводзіцца самым рашучым чынам, бязлітасна выкараняючы ўсякія моманты злоўжыванняў. Нізавыя партыйныя і профсаюзныя арганізацыі шырока павінны разгарнуць адпаведную масавую работу сярод работнікаў гандлёвага апарата.

Абавязак гандлюючых арганізацый—павесці рашучую барацьбу за максімальнае скарачэнне выдаткаў, за жорсткі рэжым эканоміі, за прынцыпы сапраўднага соцыялістычнага гаспадарчага разліку. Для гэтага трэба максімальна скараціць праўленчы апарат і ўсякі абслугоўваючы і падсобны персанал, не дапускаць нерацыянальных і сустрэчных перавозак, залежвання тавараў на складах і базах, максімальна разгарнуць непасрэдны завоз тавараў у магазіны і сельпо, мінуючы склады і базы.

Толькі пры гэтай умове мы зможам павялічыць соцыялістычнае накапленне ў гандлі і стварыць усе магчымасці для яго росту за кошт уласных сродкаў. Барацьба за соцыялістычнае накапленне і з непрадукцыйнымі выдаткамі таксама будзе садзейнічаць выкананню важнейшага рашэння XVII з'езда партыі аб зніжэнні цэн.

Існуючыя законапалажэнні аб парадку фінансавання і крэдытавання тавараабароту моцна б'юць па тых гандлёвых сістэмах, якія не ўмеюць укладвацца ў рамкі і тэрміны, устаноўленыя планам, і сваёй работай тармозяць нармальны тавараабарот. Кантроль рублём павінен і ў далейшым з'яўляцца важнейшым фактарам аздараўлення работы гандлёвай сеці.

Рашэнне лістападаўскага пленума ставіць не толькі перад гандлёвымі арганізацыямі, але і перад усёй совецкай грамадскасцю рад агромнай важнасці задач, вырашэнне якіх стымулюе далейшы рух усёй нашай эканомікі ўперад.

Велізарны рост нашай цяжкай прамысловасці, канчатковая перамога калгаснага ладу далі нам магчымасць паставіць задачу значнага павышэння тэмпаў развіцця лёгкай і харчовай прамысловасці.

Перамога соцыялізма ў вёсцы стварае нябачаныя магчымасці для росту таварнасці сельскай гаспадаркі. Адначасова з велізарнейшымі поспехамі ў прамысловасці і сельскай гаспадарцы безупынна расце добрабыт рабочага класа і працоўнага сялянства, культурны і палітычны ўзровень працоўных і запатрабаванні на прадукты прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

Задаволіць гэтыя ўзросшыя запатрабаванні, каб стымуляваць далейшы рост прадукцыйнасці працы,—вось важнейшая задача гандлю на бліжэйшы перыяд.

І. Качура і П. Цэхановіч

# Шляхі павышэння скарыстання трактарнага парка

Наша вялікая соцыялістычная краіна на VII усесаюзным з'ездзе советаў падвяла вынікі вялікіх работ ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва. Вялікія ідэі Леніна і Сталіна ператвораны ў жыццё і сталі матар'яльнаю сілай. Створана першакласная індустрыя соцыялізма, створана магутная соцыялістычная сельская гаспадарка, разгромлена кулацтва, завершана пабудова фундамента соцыялізма. «Расія нэпаўская стала Расіяй соцыялістычнай».

Пад кіраўніцтвам партыі, пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна наша краіна ў галіне сельскай гаспадаркі мае сусветна-гістарычныя перамогі. Калектывізацыя разрозненых дробных індывідуальных сялянскіх гаспадарак у асноўным завершана. 4/5 сялянскіх гаспадарак аб'яднаны ў буйныя калектыўныя гаспадаркі, узброеныя сучаснаю тэхнікай.

Тав. Сталін на XVII партз'ездзе ўказаў, што сіла калгасаў і соўгасаў сказваецца таксама і ў росце іх трактарнага парка, у росце іх механізацыі.

Яркія паказчыкі сілы калгасаў і соўгасаў, іх тэхнічнага ўзбраення, паказчыкі таго, што мы сталі краінай трактарызацыі, краінай аўтамабілізацыі, прывёў тав. Орджанікідзе ў сваім дакладзе VII усесаюзнаму з'езду советаў:

За 4 гады цяжкая прамысловасць дала сельскай гаспадарцы:

| | |
|---|---|
| трактароў калёсных . . . . . . | 240.000 шт. |
| „ гусенічных . . . . . . | 8.377 „ |
| аўтамабіляў грузавых . . . . . . | 43.535 „ |
| „ легкавых . . . . . . | 8.690 „ |
| матораў для камбайнаў . . . . . . | 30.102 „ |

За 4 гады пабудаваныя ленінскай партыяй аўтамабільныя і трактарныя заводы далі сельскай гаспадарцы трактароў і матораў для камбайнаў агульнай магутнасцю 4.800.000 конскіх сіл. Владзімір Ільіч марыў аб 100.000 трактароў.

Цяжкая прамысловасць паставіла сельскай гаспадарцы за 4 гады:

| | |
|---|---|
| плугоў трактарных зернавых . . . | 248.599 шт. |
| плугоў трактарных зернавых у карпусах . . | 893.055 „ |
| плугоў конных . . . . . . . | 455.616 „ |
| сеялак трактарных . . . . . . | 96.533 „ |
| „ конных . . . . . . . | 109.176 „ |
| культыватараў для бавоўны . . . . | 3.531 „ |
| сенакасілак конных . . . . . . | 209.716 „ |

| | | |
|---|---|---|
| камбайнаў . . . . . . . . | 30 424 | шт. |
| жняярак-лобагрэек . . . . . . . | 99.825 | „ |
| „ самаскідак . . . . . . | 94.886 | „ |
| Ільнацерабілак шыроказахватных . . . | 2.134 | „ |
| кукурузных пікераў . . . . . . | 7.257 | „ |
| малацілак трактарных . . . . . . | 61.758 | „ |
| „ конных . . . . . . . | 6.521 | „ |
| буракапад'ёмнікаў. . . . . . . | 2.331 | „ |

Так выконвала за 4 гады цяжкая прамысловасць свае абавязацельствы па рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

На соцыялістычныя палі самай буйнай сельскай гаспадаркі ў свеце рушана навейшая тэхніка, падведзена новая тэхнічная база—база сучаснай буйнай соцыялістычнай вытворчасці. Увесь Совецкі саюз пакрываецца сеццю МТС, яго соцыялістычныя палі прарэзваюцца лініямі электраперадач, электраэнергія паступова ўкараняецца ў сельскую гаспадарку.

Ордэнаносная БССР, як складаная і неадрыўная частка вялікага Совецкага саюза, на аснове правільнай лініі партыі ў правядзенні ленінскай нацыянальнай палітыкі, пры штодзеннай дапамозе пролетарыята і працоўных СССР, пад кіраўніцтвам т. Сталіна, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б на чале з т. Гікало, дабілася велізарных поспехаў у тэхнічным узбраенні соцыялістычнай сельскай гаспадаркі. Прымітыўная сельскагаспадарчая тэхніка—дзеравяная барана, саха, цэп, серп, што засталіся ў спадчыну ад царскага самадзяржаўя,—заменена сучаснай першакласнай сельскагаспадарчай тэхнікай, дастойнай нашай соцыялістычнай краіны. У сучасны момант на соцыялістычных палях БССР працуюць трактары з усімі неабходнымі сучаснымі машынамі.

Вось адпаведныя даныя тэхнічнага ўзбраення соцыялістычнай сельскай гаспадаркі БССР к XI з'езду советаў [1]):

| | 1928 г. | 1932 г. | 1933 г. | 1934 г. |
|---|---|---|---|---|
| Трактароў . . . . . . . . | 102 | 2822 | 3200 | 3791 |
| Магутнасць трактарнага парка ў тысячах конскіх сіл . . . . . . . | 1,2 | 33,4 | 39,6 | 51,6 |
| Аўтамашын . . . . . . . | — | 12 | 219 | 423 |
| Малацілак з механічным рухавіком . . | 746 | 1940 | — | 2111 |
| Жняярак-самаскідак . . . . . . | 720 | 8600 | 11434 | 13642 |
| „ снопавязалак . . . . | 101 | 800 | 1348 | 1459 |
| Сенакасілак . . . . . . | 737 | рост | да | 9029 |
| Бульбакапалак . . . . . . . | 238 | — | — | 3323 |
| Сеялак зернавых . . . . . | 742 | — | — | 8376 |
| Ільнацерабілак шыроказахватных . . | — | — | — | 143 |

*) З даклада т. Галадзеда XI з'езду советаў БССР.

Як бачым, сельская гаспадарка БССР узброілася не толькі навейшаю тэхнікай для апрацоўкі палёў, уборкі ўраджаю і т. д., але і аўтатранспартам, які значна вырас за апошнія гады.

На працягу 1935 г. прамысловасць павінна даць адным толькі машынатрактарным станцыям СССР 68,5 тысяч трактароў, 10 тыс. аўтамашын, 14,6 тысяч камбайнаў і іншых неабходных машын і прылад. Такі агромны рост тэхнічных сродкаў сельскай гаспадаркі абавязвае ўсіх работнікаў соўгасаў, калгасаў і МТС высокапрадукцыйна скарыстаць усю гэтую машынную тэхніку, на што ўказваў т. Сталін на XVII з'ездзе партыі.

За 1934 г. значна палепшылася скарыстанне трактароў і машын. Напрыклад, паводле даных НКЗБ, прырост трактароў у 1934 г. выражаўся ў 47,6 проц., у той-жа час прырост трактарных работ склаў 117 проц. На адзін сярэдне-гадавы 15-сільны трактар у 1933 г. прыпадала ўсіх работ у пераводзе на ворыва 158,3 га, а ў 1934 г.—234,2 га.

Нявычарпаных магчымасцей лепшага скарыстання машын у нашых калгасах, соўгасах і МТС—яшчэ непачаты край.

> «Аб няўменні скарыстаць нашы тэхнічныя багацці яшчэ больш прыходзіцца сказаць у адносінах калгасаў і соўгасаў. Мы сюды ўжо рушылі, і рухаем усё больш, новую тэхніку. А якое варварскае скарыстанне гэтай тэхнікі ва многіх калгасах і соўгасах,—аб гэтым, здаецца, вядома і вераб'ям на крышах. Мы павінны былі, асабліва ў вёсцы, прайсці пэўны перыяд вучобы, перыяд асваення новай тэхнікі. Але ці не пара ўжо прад'явіць больш суровыя патрабаванні к скарыстанню машын у калгасах і соўгасах? Гэтага-ж патрабуюць не толькі велізарныя ўкладанні сродкаў, даных на гэтую справу дзяржавай, але і насушнейшыя інтарэсы сёнешняга дня. Варта толькі спыніць ганебныя простоі гэтых машын у калгасах і ў соўгасах, і нашы зборы ўраджаяў зярна, буракоў, бавоўны і лёну значна ўзрастуць» **(Молатаў).**

Перад усімі соўгасамі, калгасамі і МТС стаіць баявая задача: арганізаваць барацьбу за асваенне тэхнікі, за поўнае высокае скарыстанне трактароў і машын, за пасяховае бальшэвіцкае правядзенне веснавой кампаніі 1935 г.

Лепшая арганізацыя скарыстання трактарнага парка—адна з важнейшых умоў павышэння прадукцыйнасці калгаснай працы. Перад кожнай МТС у першую чаргу паўстае пытанне аб тым, каб стварыць сталыя трактарныя брыгады з замацаванымі за імі сродкамі вытворчасці, абслугоўваючыя вызначаную колькасць калгасаў. Трактарная брыгада, як вядучая ў вытворчасці і ўкараненні індустрыяльнай культуры працы, пры правільным кіраўніцтве ёю, павінна стаць узорам вытворчай соцыялістычнай дысцыпліны працы і ўсёй сваёй работай умацоўваць сталасць калгаснай брыгады.

Сталасць трактарнай брыгады—адна з важнейшых умоў барацьбы за высокі ўраджай калгасных палёў, за поўнае прадукцыйнае скарыстанне трактароў і прыцэпных машын. Аднак многія кіруючыя работнікі МТС яшчэ не разумеюць гэтага і вельмі часта парушаюць сталасць трактарных брыгад, што прыводзіць да невыканання 6-ці гістарычных умоў т. Сталіна. Вопыт работы паказаў, што ў 1934 г. усё яшчэ наглядалася значная цякучасць трактарыстаў, частыя змены прыцэпшчыкаў, многія МТС, па сутнасці, не мелі сталых трактарных брыгад.

Возьмем даныя па 4 МТС за перыяд веснавой кампаніі 1934 г.

| Назва МТС | № брыгады | Колькасць трактароў у брыгадзе | Павінна быць трактарыстаў | Было трактарыстаў |
|---|---|---|---|---|
| Сенненская . . . . . | 2 | 5 | 10 | 20 |
| Лёзненская . . . . . | 1 | 3 | 6 | 6 |
| Слуцкая . . . . . . | 1 | 5 | 10 | 10 |
| Быхаўская . . . . . | 1 | 5 | 10 | 12 |

Такім чынам мы бачым цякучасць трактарыстаў Сенненскай і Быхаўскай МТС і ўстойлівасць Лёзненскай і Слуцкай МТС. Цякучасць трактарыстаў прыводзіць да невыканання плана, дрэннай якасці работы, перарасходу гаручага, нездавальняючага скарыстання трактарнага парка і прыцэпных машын. Пакажам гэта на прыкладзе двух МТС: Сенненскай, якая не мела сталых трактарных брыгад, і Лёзненскай—са сталымі брыгадамі.

Возьмем паказчыкі за красавік, май і чэрвень 1934 г.:

| Паказчыкі | Назва МТС | |
|---|---|---|
| | Сенненская | Лёзненская |
| Аб'ём работ у пераводзе на ворыва на 15 НР трактар у га . | 87,7 | 128,2 |
| Выдатак газы (на 1 га ў пераводзе на ворыва) . . . . | 30,8 | 30,1 |
| Змазачных (таксама) . . . . | 4,2 | 4,78 |

Абедзве МТС знаходзяцца амаль у аднолькавых умовах работы як кліматычных, так і па тэхнічнаму становішчу трактарнага парка. Скарыстанне трактарнага парка гэтых МТС (у разрэзе адзначаных вышэй цякучых і сталых брыгад) характарызуецца наступнымі данымі:

| Паказчыкі | Брыгада № 2 Сенненскай МТС з цякучым складам трактарыстаў | Брыгада № 4 Лёзненскай МТС са сталым складам трактарыстаў |
|---|---|---|
| Аб'ём праведзеных работ у пераводзе на ворыва на 15 НР трактар у *га* . . . . . . . . . . . | 136,0 | 226,5 |
| Расход нафтапрадуктаў на 1 *га* ў пераводзе на ворыва ў кгр газы | 27,6 | 21,6 |
| Расход змазачных (у кгр) . . . . . | 4,5 | 2,7 |

Даныя гавораць аб тым, што, не гледзячы на ўсе аднолькавыя ўмовы работы, у брыгадзе з цякучым складам трактарыстаў значна ніжэй скарыстанне трактароў. Значыць, каб захаваць сталасць трактарных брыгад і тым самым яшчэ вышэй узняць скарыстанне трактарнага парка, неабходна вельмі ўважліва падбіраць і ўмела камплектаваць трактарныя брыгады. Трэба клапаціцца аб людзях, аўладаўшых тэхнікай, вырошчваць іх, паляпшаць культурна-бытавыя ўмовы, як аб гэтым вучыў тав. Сталін усю нашу краіну ў гутарцы з металургамі.

У пачатку года кожная МТС павінна арганізаваць сталыя трактарныя брыгады, замацаваўшы за кожнай з іх пэўную групу калгасаў з вызначанымі сродкамі вытворчасці, дабіваючыся захавання складу брыгады да канца года і далей.

Добра падабраная трактарная брыгада, пры правільным кіраўніцтве ёю, мае агромнае значэнне ў стварэнні новай, больш высокай грамадскай дысцыпліны, новых адносін да працы, выхоўвае адчуванне адказнасці за захаванне соцыялістычнай грамадскай уласнасці, за рост прадукцыйнасці працы. Усямернае ўмацаванне і захаванне сталых трактарных брыгад і замацаваных за імі сродкаў вытворчасці—адна з важнейшых задач усіх кіруючых работнікаў МТС. Ад сталасці трактарных брыгад у вялікай меры будзе залежаць поспех усіх сельскагаспадарчых работ і ў першую чаргу веснавой пасеўнай кампаніі 1935 г.

## Аб размеры трактарнай брыгады МТС

Пытанне аб размерах трактарнай брыгады з пэўным складам трактароў, прычэпных машын і кадраў набывае вялікае значэнне ў барацьбе за прадукцыйнае скарыстанне трактарнага парка і лепшае вытворча-арганізацыйнае абслугоўванне калгасаў. У практыцы работы МТС можна сустрэць брыгады рознай велічыні, пачынаючы з 2 трактароў ФП і канчаючы 2 трактарамі ХТЗ, г. зн. ад 20 да 120 НР. Інакш кажучы, у справе арганізацыі брыгады і ўстанаўлення яе размераў МТС часта падыходзяць без сур'ёзнага вывучэння вопыту работы брыгады розных размераў за мінулыя гады.

Паўстае пытанне: які размер трактарных брыгад найбольш адпавядае з пункту погляду лепшага скарыстання трактарнага парка? Разгледзім наступныя даныя:

| Назва МТС | №№ брыгады | Трактароў: Усяго | У т. ліку: ФП | У т. ліку: ХТЗ | Магутнасць | Адпрацавана сіла-гадзін з разліку на 15 НР трактар: Красавік | Май | Чэрвень | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сенненская . . . . . | 1 | 6 | 6 | — | 60 | 157 | 367 | 109,5 | 633,5 |
| | 6 | 3 | 3 | — | 30 | 355 | 275 | 270 | 900,2 |
| Лёзненская . . . . . | 13 | 5 | 4 | 1 | 55 | 155,2 | 330,0 | 99,8 | 585,0 |
| | 4 | 3 | 3 | — | 30 | 224,0 | 426,0 | 224,0 | 874,0 |
| Рагачоўская . . . . . | 6 | 6 | 3 | 3 | 75 | 197,5 | 216,0 | — | 413,5 |
| | 5 | 2 | 2 | — | 20 | 320,0 | 568,0 | — | 888,0 |
| Слуцкая . . . . . . . | 3 | 5 | 3 | 2 | 60 | 252,0 | 91,5 | 60,0 | 403,5 |
| | 9 | 3 | 2 | 1 | 35 | 268,2 | 97,5 | 48,0 | 413,7 |

З табліцы відаць, што брыгады з трох трактароў адпрацавалі больш сілагадзін з разліку на 15 HP трактар. Але адных гэтых паказчыкаў мала для таго, каб зрабіць вывад аб велічыні трактарнай брыгады. Галоўнае ў тым, наколькі прадукцыйна скарысталі яны рабочы час.

Наступная табліца дае адказ на гэта пытанне.

| Назва МТС | № брыгады | Кольк. тракт. у брыгадзе | З разліку на 15-ці сільны трактар | |
|---|---|---|---|---|
| | | | Аб'ём праведзеных работ у пераводзе на мяккае ворыва за 3 м-цы | Расход газы на 1 га мяккага ворыва |
| Сенненская . . . . . . . | 1 | 6 | 86,2 | 34,15 |
| | 6 | 3 | 119,1 | 34,3 |
| Лёзненская . . . . . . . | 13 | 5 | 104,6 | 32,9 |
| | 4 | 3 | 154,5 | 22,2 |
| Рагачоўская . . . . . . | 6 | 6 | 64,6 | 27,5 |
| | 5 | 2 | 142,0 | 27,4 |
| Слуцкая . . . . . . . . | 3 | 6 | 65,5 | 35,8 |
| | 9 | 3 | 98,5 | 29,2 |

На вопыце работы трактарных брыгад 4 МТС відаць, што брыгады з трох трактароў больш прадукцыйна скарыстоўваюць рабочы час, даюць лепшыя паказчыкі аб'ёмнага выканання работы і эканоміі гаручага.

Чым-жа гэта можна вытлумачыць? Па-першае, тым, што брыгады з 3 трактароў, атрымаўшы вытворчае заданне на сельскагаспадарчую кампанію, выконваюць работу пераважна ў поўным сваім складзе ў 1 ці 2 суседніх калгасах у залежнасці ад аб'ёму работы, брыгады-ж з 6—8 трактароў звычайна распыляюцца па калгасах па 1—2—3 трактара і гэтым парушаюць вытворчае адзінства брыгады, павялічваюць халастыя пераезды і прастоі трактароў. У першым выпадку брыгадзір мае магчымасць лепш кіраваць брыгадай, праводзіць тэхнічны нагляд, быстра ліквідаваць усякія вытворчыя непаладкі, дакладна і своечасова ўлічваць якасць і колькасць праведзенай кожным трактарыстам работы і расходу гаручага. У брыгадах большых размераў, пры раскіданасці трактароў па калгасах, брыгадзір не паспявае як след кіраваць работай брыгады.

Адзначыўшы лепшую работу брыгады з трох трактароў у практыцы МТС, мы не робім канчатковага вываду аб устанаўленні пэўнага размеру брыгад. Па вывучаных намі 6 МТС пераважалі брыгады з 3 трактароў, што, на наш погляд, з'яўляецца сярэднім па БССР. Да ўстанаўлення размераў трактарных брыгад нельга падыходзіць механічна. Тут трэба ўлічыць аб'ём і віды работы, арганізацыю правільнага тэхнічнага нагляду і кіраўніцтва брыгадзіра, кваліфікацыю трактарыстаў і т. д. Работнікі МТС пры планаванні работы павінны сур'ёзна падыйсці да вызначэння колькасці і размераў трактарных брыгад, грунтуючыся па канкрэтных умовах работы кожнай МТС.

## Палепшанне планавання трактарных работ па калгасах

«Буйная гаспадарка ў земляробстве, ахапляючы сотні, а часам і тысячы двароў, можа весціся толькі ў парадку планавага кіраўніцтва» (**Сталін.** Аб рабоце ў вёсцы).

Гэта ўказанне т. Сталіна асабліва адносіцца да раду МТС, дзе часам лічаць планаванне лішнім заняткам, а наконт скарыстання трактароў яшчэ не вызваліліся з-пад уплыву апартуністычнай тэорыі, нібы «правільна спланаваць работу трактарнага парка немагчыма, бо жыццё зменіць усе планы па-свойму». Складзеныя ў рэзультаце такой канцэлярщчыны планы не прадстаўлялі ніякай каштоўнасці, не адыгрывалі мабілізуючай ролі. Таксама не здавальняў практыкі і сам метад планавання па колькасці адпрацаваных на трактар гадзін, бо гэта яшчэ мала гаворыць аб праведзенай рабоце, што відаць з гадавой справаздачы 4-х МТС за 1934 год:

| Назва МТС | Аб'ём выкананых работ у пераводзе на ворыва (у *га*) | Затрачана трактара-гадзін | З разліку на 15 НР трактар | |
|---|---|---|---|---|
| | | | Га мяккага ворыва | Трактара-гадзін на 1 *га* |
| Лёзненская | 11571,0 | 71442 | 261,0 | 61,7 |
| Шклоўская | 8141,6 | 52200 | 194,0 | 64,3 |
| Быхаўская | 7693,8 | 25142 | 331,8 | 32,7 |
| Танежыцкая | 7629,7 | 37750 | 272,5 | 49,5 |

Вопыт перадавых МТС і паасобных трактарных брыгад паказаў, што трактар пры правільным скарыстанні можа адпрацаваць больш запраектаванай колькасці гадзін і выканаць адпаведна большы аб'ём работы. Таму НКЗБ, апіраючыся на вопыт месц, плануе работы на 1935 г. не па колькасці гадзін, а па аб'ёму работ у га з разліку на 15 НР трактар. На 15 НР трактар, у пераводзе на ворыва, плануецца (без малацьбы) у агульнай суме 250 га, з улікам выканання ўсіх работ у вызначаны партыяй і ўрадам тэрмін.

Практыка раду МТС паказала, што гэты аб'ём работы не толькі можна выканаць, але і перавыканаць. Оршанская МТС у 1934 г. дала на 15 НР трактар 306 га, Дзержынская—376, Заслаўская 382 і т. д. Значна менш выпрацавалі Глуская (183 га), Плешчаніцкая (210 га), Полацкая (221 га).

Пры планаванні трактарных работ кіраўніцтва НКЗБ павінна канкрэтна падыходзіць да кожнай МТС, вывучаць яе вытворчую дзейнасць за мінулыя гады і толькі на падставе аналіза і вопыту перадавых МТС даваць канчатковы план работы. Вытворчы план МТС павінен быць ясным і простым для яго выканаўцаў і правільна даведзен да трактарных брыгад і калгасаў. Гэта найбольш важная і адказная ступень планавання. Тут неабходна ісці па лініі складання:

1. гадавога вытворча-фінансавага плана МТС;
2. гадавога вытворчага задання для трактарнай брыгады;
3. рабочага плана брыгады на перыяд сельскагаспадарчых работ;
4. плана-маршрута па калгасах;
5. пяцідзённага плана-нарада кожнаму трактарысту.

Такая сістэма планавання ў МТС, пры цеснай увязцы з планаваннем вытворчасці ў калгасах, павінна палепшыць скарыстанне машын.

Адзін з важнейшых паказчыкаў у планаванні трактарных работ па калгасах—цяганапружанасць і нагрузка работай працаздольнага.

Як прыклад няправільнага размеркавання сродкаў вытворчасці МТС па брыгадах можна прывесці Лёзненскую і Рагачоўскую МТС. Брыгада № 2 Лёзненскай МТС мае трактароў магутнасцю ў 35 HP, у зоне абслугоўвання на аднаго каня прыпадае 9,8 га, а замацавана за брыгадай адна ільнацерабілка, адна сеялка і інш. У брыгадзе № 4—30 HP, на каня прыпадае 5,8 га, за брыгадай замацавана пяць ільнацерабілак, адна сеялка. Тое-ж самае было і ў трактарных брыгадах Рагачоўскай МТС, дзе на каня прыпадае ворыва менш, а да брыгады прымацоўвалася больш сеялак, малацілак і інш.

Пры няправільным размеркаванні сродкаў вытворчасці МТС па брыгадах, былі, натуральна, выпадкі, што ў адных брыгадах трактары прастойвалі без работы, а ў другіх, з большай нагрузкай на цягавую сілу, работа зацягвалася. Таму трактарныя работы ў большым аб'ёме трэба планаваць у першую чаргу для калгасаў з большай нагрузкай ворыва і іншых сельскагаспадарчых работ на каня і працаздольнага, не забываючы пра адстаючыя калгасы.

Адна з прычын малапрадукцыйнага скарыстання трактарнага парка—няправільнае планаванне маршрутаў трактарных брыгад і трактароў па калгасах. Многія МТС не планавалі парадку абслугоўвання калгасаў, а давалі брыгадзіру толькі звесткі пра аб'ём работы ў пэўным калгасе. Значная доля рабочага часу ішла на халастыя пераезды, што выклікала лішні расход гаручага. Прыводзім адпаведныя даныя за 1934 год з разліку на 15 HP:

| Назва МТС | Халастых пераездаў (у *клм*) | Газы на халастыя пераезды (у *кгр* за год) | Халастых пераездаў (у *клм* на 1 *га* ворыва) |
|---|---|---|---|
| Рагачоўская . . . . . . | 221 | 464 | 0,68 |
| Быхаўская . . . . . . . | 233 | 342 | 0,7 |
| Сенненская . . . . . . . | 75 | 148 | 0,3 |

Надзвычай вялікі расход газы на халастыя пераезды прыпадае асабліва на веснавы перыяд. Так, у калгасе «Шлях советаў». Слуцкай МТС, якая загадзя не распрацавала маршрутаў, пабывалі вясной 1934 г. 4 трактары, узаралі яны 5,66 га і засеялі 8,5 га. Такая нерацыянальная перакідка трактароў нічым не апраўдваецца.

Правільна распрацаваны маршрут мае вялікае значэнне таксама для роўнамернай арганізацыйна-вытворчай дапамогі калгасам і кіраўніцтва імі. Вось чаму маршруты—не вузкае арганізацыйна-тэхнічнае пытанне. Класавы вораг, тонка маскуючы сваю дзейнасць пры адсутнасці бальшэвіцкай пільнасці, можа сарваць тэрміны правядзення веснавых работ. Таму, пры складанні правільных маршрутаў і іх выкананні неабходна даваць сакрушальны адпор класаваму ворагу, узмацняць бальшэвіцкую пільнасць і на гэтым участку работы МТС.

Планаванне работы трактароў і брыгад па калгасах павінна быць увязана:

а) са сродкамі вытворчасці і рабочай сілаю калгаса;

б) з тэрмінамі падрыхтоўкі глебы ў залежнасці ад агратэхнічных патрабаванняў паасобных культур у севазвароце;

в) са скарачэннем халастых пераездаў;

г) са ступенню арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгаса.

У нашых умовах брыгада з 3—4 трактароў звычайна абслугоўвае 8—10 калгасаў, стала быць—павярхоўны падыход да планавай перасоўкі трактароў па калгасах будзе значна тармазіць найлепшае скарыстанне машыннай тэхнікі ў нашай соцыялістычнай сельскай гаспадарцы.

У перадавых МТС Маскоўскай області апраўдаў сябе графічны метад маршрутнага планавання. На аркушы паперы адкладваюцца па гарызанталі календарныя дні, а па верцікалі абслугоўваемыя калгасы і трактары. Работа трактара ў калгасах адзначаецца гарызантальнаю рысай, якая захватвае столькі дзён, колькі прабудзе трактар у калгасе. Назва і аб'ём работы адзначаюцца пад рысай. Гэты станоўчы вопыт трэба ўкараняць у практыку планавання нашых МТС.

Павышанае скарыстанне трактароў ва многім залежыць ад правільнага размеркавання іх па асобных відах работы. Як вядома, па ўсіх спецыялізаваных зонах БССР асноўным відам работы трактарнага парка з'яўляецца ворыва, што сцвярджаецца данымі гадавых справаздач 7-мі абследваных намі МТС: Сенненскай, Лёзненскай, Шклоўскай, Рагачоўскай, Быхаўскай, Слуцкай і Танежыцкай. Удзельная вага ворыва складае ў іх 68,4 проц., пасеву—2,04 проц., баранавання—3,76 проц., уборкі—1,63 проц., дыскавання—5,24 проц., малацьбы—12,7 проц., іншыя работы (сіласаванне, дарожнае будаўніцтва)—6,23 проц.

Усё гэта гаворыць за тое, што ворыва павінна стаць асновай правільнай арганізацыі трактараздольных масіваў, як пры нарэзцы палёў севазвароту, брыгадных участкаў, так і арганізацыі рабочай загонкі трактара.

Участкі і палі пажадана мець з прамымі межамі прамавугольнай формы. Выпраўленне меж не павінна ісці па лініі скарачэння пасеўных плошчаў; наадварот,—кожны калгас павінен імкнуцца к пашырэнню іх шляхам разворвання кустарнікаў, засыпкі аўрагаў, асушкі аборак і т. д. Некаторыя калгасы прыступілі ўжо да стварэння такіх трактараздольных участкаў. Увесну мінулага года калгас «Завет Ільіча», Шклоўскага раёна, прарабіў вялікую работу па засыпцы аўрагу, які падзяляў масіў поля на два няправільнай формы ўчасткі. У рэзультаце поле стала прыгодным для больш рацыянальнага скарыстання работы трактара. МТС і калгасы, пачынаючы з вясны, павінны разгарнуць гэту вялікую работу, што дасць не малое падспор'е ў барацьбе за асваенне і высокаякаснае скарыстанне тэхнікі.

## 3. Спалучэнне работы трактарных і калгасных брыгад

Высокапрадукцыйнае скарыстанне трактарнага парка таксама ва многім залежыць ад правільнага спалучэння трактарных і конных работ у калгасах на працягу ўсяго сельскагаспадарчага года. Правільнае спалучэнне трактарных і конных работ патрабуе рашучай барацьбы з недаацэнкаю жывой цягавай сілы і прасцейшых машын у калгаснай вытворчасці.

Арганізацыю выкарыстання сродкаў вытворчасці калгасаў ні ў якім разе нельга адрываць ад арганізацыі трактараскарыстання

ў МТС, нельга ізалявана разглядаць работу трактарнай і калгаснай брыгады. Канкрэтнае, сапраўды большэвіцкае кіраўніцтва калгасамі немысліма без правільнага спалучэння работы гэтых двух нізавых вытворчых ячэек: сталай вытворчай брыгады калгаса і трактарнай брыгады МТС. Адзінства інтарэсу гэтых брыгад у правільнай арганізацыі вытворчага працэса, у высокапрадукцыйным скарыстанні трактарнага парка і калгасных сродкаў вытворчасці павінна, аднак, знаходзіць чоткае размежаванне і самастойнасць як у іх структуры, арганізацыі, так і кіраўніцтве.

Работнікі МТС і калгасаў павінны звярнуць самую сур'ёзную ўвагу на правільнае спалучэнне работы каня і трактара, бо гэта пытанне мае першаступеннае значэнне ў барацьбе за асваенне тэхнікі соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, за павышэнне якасці і прадукцыйнасці працы трактарыстаў і калгаснікаў, за забяспечанне высокіх устойлівых ураджаяў.

Спалучэнне механічнай і жывой цягавай сілы заключаецца ў скарыстанні трактароў на адносна цяжкіх, а жывой цягавай сілы—на адносна лёгкіх работах. Вопыт паказаў, што трактары лепш за ўсё скарыстоўваць на ворыве і сяўбе. Ва ўмовах Лёзненскай МТС вясною 1934 г. адзін ХТЗ замяняў у суткі на ворыве 16—20 коней, на дыскаванні 15—16 коней, на баранаванні 10—12 коней. Такія-ж, прыкладна, даныя маюць і іншыя МТС.

Зусім ясна, што трактарную сілу трэба перш за ўсё скарыстоўваць на ворыве, сяўбе, дыскаванні. Аднак, некаторыя МТС у пагоні за вялікім аб'ёмам работ, пры няправільным planаванні іх па калгасах, скарыстоўвалі трактары на лёгкіх работах, якія з поспехам магла-б выканаць калгасная брыгада. Вось адпаведныя даныя раду МТС за час веснавой сяўбы 1934 г.:

| Назва МТС | Веснавое ворыва (проц. выкан.) | Пасеў (% вык.) | План дыск., баран., культывацыі у *га* | Забаранавана | | Задыскавана, пракультывавана |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | *га* | % ад агульн. плана | |
| Лагойская . . . . . . . | 28,8 | 51,5 | 1075 | 2177 | 202 | 330 |
| Старобінская . . . . . | 40,2 | 38,5 | 2340 | 2692 | 115 | 378 |
| Чауская . . . . . . . . | 33,1 | 4,6 | 843 | 1126 | 145 | 2476 |
| Асвейская . . . . . . . | 51,6 | 48,8 | 267 | 4469 | 193 | 2025 |
| Пухавіцкая . . . . . . | 71,5 | 16,6 | 722 | 1442 | 200 | 314 |

Няправільнае спалучэнне работы трактара і каня прыводзіць к таму, што МТС не выконвае план сваёй работы, перавыдаткоўвае гаручае і змазку, прадукцыйнасць працы трактарыстаў падае, зацягваюцца работы, зніжаецца ўраджайнасць.

У мінулым годзе чэрвеньскі пленум ЦК КП(б)Б указаў на неабходнасць «рашуча змагацца з усё яшчэ наяўнымі фактамі скарыстання трактароў на тых работах, якія могуць быць больш паспяхова праведзены конскай сілай».

Гэта ўказанне пленума трэба рашуча ператварыць у жыццё. Работы павінны праводзіцца па плану. Пры заключэнні дагавора ўлічваць усе канкрэтныя ўмовы калгаса. Дагавор выконваць у строга вызначаныя тэрміны, бо калі трактарная брыгада, скажам, прыедзе ў калгас для ворыва на 5—10 дзён пазней дагаворанага тэрміну, то ясна, што калгасная брыгада за гэты час узарэ вялікія масівы з доўгімі

гонамі, а трактару прыдзецца араць на малых кавалках, або баранаваць. Так было летась у Рагачоўскай МТС, дзе трактар ФП з I/IV па 30/V узараў 49 га, а забаранаваў 141,5 га. Наглядалася гэта і ў трактарных брыгадах Шклоўскай МТС. Таму пры заключэнні дагавароў з калгасамі неабходна, акрамя тэрмінаў і аб'ёму, указваць месца работы: у якой калгаснай брыгадзе, у якім полі севазвароту і т. д. Такія звесткі павінен мець брыгадзір трактарнай і калгаснай брыгады ва ўсіх абслугоўваемых калгасах. Аграномы МТС павінны ўзмацніць кіраўніцтва тымі работамі, якія выконвае калгасная брыгада да прыходу трактарнай і ў час яе работы. Рашучы адпор трэба даваць кулацкім антымеханізатарскім імкненням падарваць работу МТС праз накіроўванне трактароў на нізкія месцы (Шклоўская МТС мінулай вясною), на малыя ўчасткі, на лёгкія работы.

Другое кола пытанняў, звязаных з найбольш прадукцыйным узаемадзеяннем трактара і каня, гэта пытанне аб рабоце трактароў на ўчастках усіх ці некалькіх брыгад у калгасе. Пры рабоце трактарнай брыгады на ўчастках усіх калгасных брыгад няма неабходнасці ламаць брыгады і перакідваць іх туды, дзе не было яшчэ трактарных работ.

Такі парадак абслугоўвання трактарных брыгад мае цэлы рад станоўчых бакоў. Яго неабходна шырока прымяняць на практыцы, асабліва пры ўмове стварэння буйных трактараздольных участкаў, што дасягаецца правільнай нарэзкай брыгадных участкаў у палях севазвароту. Калі ўчасткі нарэзаны правільна, то большасць трактарных работ можна праводзіць упоперак усіх брыгадных участкаў. Пры гэтым няма ніякай падставы баяцца таго, што брыгадныя ўчасткі будуць абязлічаны, бо межы паміж участкамі гэтых брыгад няцяжка ўстанавіць пасля ворыва і дыскавання. Наадварот, абязлічка бывае якраз на тых участках, дзе трактарныя работы праводзіліся ў рознавялікіх аб'ёмах, або зусім не было іх.

У калгасе «Перамога», Шклоўскага раёна, леташняй вясною на ўчастку першай калгаснай брыгады трактары ўзаралі 38 га, а трэцяй—78 га, таму трэцяя брыгада хутчэй закончыла сяўбу і была перакінута на ўчастак першай брыгады. Прыкладна тое-ж было і ў калгасах «Завет Ільіча», «Пэўны шлях» і інш.

Такім чынам мы бачым, што няроўнамернасць трактарных работ па калгасных брыгадах, пры ўмове роўнамернага размеркавання сярод іх калгасных сродкаў вытворчасці ў розныя кампаніі, будзе выклікаць перакідку калгаснікаў і коней з адной брыгады ў другую і ўносіць абязлічку. Калі-ж аб'ём работы МТС у калгасе невялікі, калі да паасобных калгасных брыгад прымацаваны малыя ўчасткі з дрэннай канфігурацыяй, то работу трактароў неабходна канцэнтраваць на паасобных участках.

Трэцяя задача ў барацьбе за прадукцыйнае спалучэнне каня і трактара—гэта правільнае камбінаванне трактарных і конных работ, а таксама часу работы трактароў у калгаснай брыгадзе. Калгасная брыгада павінна забяспечыць бесперабойную работу трактароў і не дапусціць парушэння агратэхнічных патрабаванняў, каб не было разрыву паміж ворывам, дыскаваннем, сяўбою, што выклікае лішняе прасыханне глебы.

Такі разрыў з-за няправільнага спалучэння каня і трактара быў у калгасе «Завет Ільіча», Шклоўскага раёна. Да 20 красавіка калгасу заставалася ўзараць 18 га. Ворыва ўжо прасохла і частку брыгады можна было пераключыць на сяўбу. Аднак калгас працягваў араць

і пераключыў на ворыва прыбыўшы трактар. У рэзультаце сяўба пачалася пазней, глеба перасохла. Паколькі не было трактарнай сеялкі, трактару прышлося баранаваць, а пасля 2-х дзён работы пераехаць у другі калгас. У падобных умовах трактар павінен быў араць, а калгасная брыгада—баранаваць і сеяць. У калгасе «Барацьба» трактары дыскавалі і аралі з калгаснымі брыгадамі, пакуль поўнасцю не закончылі гэту работу і толькі тады пачалі сяўбу. Такім чынам і тут мы бачым вялікі разрыў паміж падрыхтоўкай глебы, *сяўбой* і задзелкай.

Трактарныя і калгасныя работы можна правільна спалучыць тады, калі скарыстанне жывой і механічнай цягі будзе загадзя правільна спланавана, калі рабочыя планы трактарнай і калгаснай брыгад будуць складацца сумесна з указаннем не толькі колькасці размічанай на каня работы, але і паслядоўнасці яе выканання.

Вось прыкладны парадак спалучэння трактарных і конных работ:

1. трактарная брыгада арэ, калгасная барануе, трактарная сее;
2. калгасная брыгада арэ, трактарная арэ і дыскуе, калгасная брыгада барануе, трактарная сее;
3. трактарная арэ, дыскуе, калгасная барануе, культывуе, сее;
4. трактарная арэ, барануе і сее.

Даўжыня гонаў і суадносіны бакоў загона ва ўмовах БССР таксама не малую ролю адыгрываюць у пытанні лепшага трактараскарыстання і павышэння прадукцыйнасці працы.

Аб гэтым сведчаць даныя хронаметражу, праведзенага ў Слуцкай МТС пры загонным ворыве трактарамі ХТЗ:

| № участка | Размер загона (у мтр) | Суадносіны бакоў загона | Плошча (у *га*) | % часу на павароты | Прадукцыйнасць за змену (у га) |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 246 × 12 | 20 : 1 | 0,3 | 3,9 | 3,9 |
| 2 | 460 × 60 | 8 : 1 | 2,76 | 7,55 | 3,6 |
| 3 | 280 × 46 | 6 : 1 | 1,30 | 10,8 | 3,5 |
| 4 | 200 × 42 | 5 : 1 | 0,80 | 12,4 | 3,25 |
| 5 | 164 × 73 | 2 : 1 | 1,20 | 20,6 | 3,1 |
| 6 | 134 × 99 | 1,3 : 1 | 1,32 | 29,2 | 2,72 |

З табліцы відаць, што шосты ўчастак, з суадносінамі бакоў загона 1,3: 1, патраціў 29,2 проц. рабочага часу на павароты і даў прадукцыйнасць 2,75 га за змену, а першы, з суадносінамі бакоў 20 : 1, патраціў 3,9 проц. рабочага часу на павароты, даўшы значна большую прадукцыйнасць: 3,9 га за змену.

МТС у практыцы сваёй работы мала ўдзяляюць гэтаму ўвагі. Трактару вельмі часта прыходзіцца круціцца на маленькіх кавалках, не дасягаючы поўнага вытворчага эфекта. Празмерная шырыня загона выклікае лішнюю трату часу на халастыя павароты, *перавыдатак* гаручага і нізкую прадукцыйнасць працы. Пры даўжыні ўчастка да 500 метраў найлепшыя суадносіны паміж даўжынёю бакоў участкаў і загонаў—15 : 1, 13 : 1, а пры даўжыні да 1 000 метраў—25 : 1 і 20 : 1. Падбіраючы шырыню загона па вядомай даўжыні ўчастка,

можна павысіць процант скарыстання рабочага часу, а значыць, і скарыстання трактарнага парка.

На скарыстанне трактароў уплывае і правільная расстаноўка іх у полі. Фігурны спосаб ворыва, які прымяняўся радам МТС, трэба выжываць з практыкі, бо ён прыводзіць да дрэннай якасці работы (здараюцца агрэхі на паваротах, пры аднабаковым павароце агрэгата хутка зношваецца крэставіна дыферэнцыяла трактара, утаптваецца на паваротах глеба і т. д.) і зніжэння ўраджайнасці.

Магутнасць трактара павінна быць скарыстана максімальна. Некаторыя МТС усё-ж няпоўнасцю загружалі трактары прычэпам як на ворыве, сяўбе, уборцы зернавых і тэхнічных культур, так і на малацьбе. Не гледзячы на спрыяючыя ў БССР глебавыя ўмовы, к трактару ФП прычапляўся двухкорпусны плуг, адна ільнацерабілка «Камсамолка» і т. д. Неабходна мець таксама на ўвазе, што перагрузка трактара можа выклікаць значную трату часу на буксаванне і пераключэнне скорасці. Пры загрузцы трактара прычэпнымі машынамі запас яго магутнасці павінен раўняцца 5—15 проц., у залежнасці ад мясцовых умоў работы і тэхнічнага стану трактара.

### 4. Палепшанне тэхнічнага догляду

Тэхнічны догляд, своечасова і добраякасна праведзены рамонт маюць надта вялікае значэнне для працаздольнасці трактара.

На XVII партз'ездзе т. Сталін сказаў:

> «Наяўнасць агромнага парка трактароў і машын абавязвае, здавалася-б, зямельныя органы трымаць гэтыя каштоўныя машыны ў парадку, своечасова іх рамантаваць, выкарыстоўваць іх на рабоце больш ці менш зносна».

Своечасовы рамонт і правільны тэхнічны догляд павышаюць скарыстанне трактара, тэмп і якасць работы. Кожны лішні прастой з-за няспраўнасці трактара або прычэпу складае ў маштабе парка цэлыя тысячы непрадукцыйна патрачаных трактарадзён, аб чым сведчаць даныя хронаметража, праведзенага ў Шклоўскай і Слуцкай МТС:

| Віды работ | Сярэдні проц. прастояў | |
|---|---|---|
| | з-за няспраўнасці трактара | з-за няспраўнасці прычэпу |
| Ворыва . . . . . . . . | 8,2 | 13,4 |
| Культывацыя . . . . | 6,95 | 3,65 |
| Дыскаванне . . . . . . | 2,25 | 19,3 |
| Уборка зернавых . . . | 4,15 | 24,0 |

Значны прастой з-за няспраўнасці прычэпу, асабліва ўборачных машын, гаворыць аб дрэнна пастаўленым тэхнічным доглядзе за машынамі і трактарамі ў час работы, аб нізкай якасці зборкі складаных сельскагаспадарчых машын. Напрыклад, мінулай вясною Шклоўская МТС ставіла трактар на падцяжку падшыпнікаў не згодна графіку, а тады, калі пагрозу разбіць іх папярэджваў адпаведны стук матора. Трактар, на якім працаваў трактарыст Прасмыцкі, выпусцілі без дросельнай заслонкі, што прымусіла трактарыста рэгуляваць ход педалью. Калі трактар быў не ў сілах перамагчы па дарозе перашкоду, трактарыст націскаў педаль, развіваючы вялікія абароты матора, пасля чаго педаль хутка вызвалялася, і трактар рыўком перамагаў перашкоду. У рэзультаце такой «рэгулёўкі» раздрабіўся ўпорны

ролікавы падшыпнік чарвяка, і трактар у самы разгар веснавой сяўбы выбыў са строю. Падобнаму злачынству трэба палажыць канец, і сурова караць тых, па чыёй віне здарыцца хоць адна аварыя трактара ў гэтую пасеўную кампанію. Ніводнага прастою трактара—такава задача.

Трэба цвёрда памятаць, што без належнага тэхнічнага догляду ў перыяд работы трактар ці іншая с.-г. машына можа хутка выйсці са строю, як-бы добра ні былі яны адрамантаваны. Аб гэтым сведчыць практыка работы многіх МТС.

У Лёзненскай МТС для лепшага скарыстання трактара і для аховы трактарыстаў ад дажджу і спёкі на трактарах парабілі з фанеры кабінкі. Гэты вопыт апраўдаў сябе, і кожная МТС павінна пераняць яго, каб пазбавіцца прастояў з-за дрэннага надвор'я. Правільна наладжаны і своечасовы тэхнічны догляд захавае трактар ад розных непаладак, аварый і будзе найлепшым паказчыкам соцметадаў працы ў справе ўшчыльнення рабочага дня, лепшага скарыстання трактара і эканоміі гаручага.

Перад пачаткам і ў час самой работы неабходна ўстанавіць самы строгі кантроль за дакладным і своечасовым выкананнем устаноўленых правіл тэхнічнага догляду, пачынаючы ад брыгадзіра трактарнай брыгады, канчаючы механікам і самім дырэктарам МТС.

У сталінскім статуце сельскагаспадарчай арцелі сказана:

> «Поўнасцю скарыстаць на грамадскіх падставах усю наяўную цягавую сілу, увесь інвентар, сельскагаспадарчыя прылады, насенне і іншыя сродкі вытворчасці, якія належаць арцелі, а таксама—усе трактары, рухавікі, малатарні, камбайны і іншыя машыны, прадастаўляемыя рабоча-сялянскаю дзяржавай праз МТС у дапамогу калгасам...»

Абавязак усіх работнікаў МТС і калгаснікаў—яшчэ больш беражна абыходзіцца з грамадскай соцыялістычнай маемасцю, яшчэ лепш арганізаваць яе скарыстанне.

Многія МТС пры планаванні трактарных работ па калгасах і ўстанаўленні норм выпрацоўкі механічна пераносілі спушчаныя НКЗБ арыентовачныя нормы выпрацоўкі, не ўлічваючы пры гэтым ні тэрміну службы трактара, ні фізічных уласцівасцей глебы і т. п. Такое агульнае нарманванне працы, без уліку мясцовых асаблівасцей, не магло служыць стымулам павышэння прадукцыйнасці працы трактарыстаў і прыцэпшчыкаў.

Прывядзем даныя па 2-х МТС, дзе нормы былі аднолькавыя.

| Назва МТС | № тракт. брыгады | Прадукцыйнасць трактароў на ворыве (у *га* на змену) | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | ХТЗ | | ФП | |
| | | Красавік | Май | Красавік | Май |
| Лёзненская . . . | 3 | 2,6 | 3,5 | 1,13 | 1,31 |
| | 7 | 1,59 | 2,86 | 1,33 | 1,45 |
| | 14 | 2,16 | 2,27 | 1,30 | 1,65 |
| Рагачоўская . . . | 1 | 1,47 | 3,6 | 1,35 | 1,63 |
| | 4 | 2,05 | 2,6 | 1,22 | 1,23 |
| | 6 | 2,63 | 3,2 | 1,35 | 1,32 |

Зусім відавочна, што калі мы не будзем дыферэнцыяваць норму выпрацоўкі як паміж МТС, так і ў межах МТС, па брыгадах, выходзячы з канкрэтных мясцовых умоў, мы тым самым не забяспечым паспяховага разгортвання соцыялістычных метадаў працы, не стымулюем сустрэчных норм выпрацоўкі і зніжэння расходу нафтапрадуктаў. Правільнае нармаванне трактарных работ павінна стаць асновай унутрыбрыгаднага планавання вытворчасці.

Неадпаведнасць паміж планаваннем трактарных работ і нармаваннем працы ў брыгадах, што яшчэ мае месца ў рабоце некаторых МТС, павінна быць знішчана. Дыферэнцыяваныя нормы выпрацоўкі павінны грунтавацца на ўсебаковым вывучэнні вопыту работы лепшых брыгад і дыферэнцыявацца ў залежнасці ад тэхнічнага стану трактара і фізічных уласцівасцей глебы. Нельга аднак забываць, што класавы вораг пад выглядам укаранення дыферэнцыяваных норм будзе спрабаваць знізіць нормы выпрацоўкі. Такім спробам трэба даваць рашучы адпор.

На рост прадукцыйнасці працы, выкананне і перавыкананне норм выпрацоўкі ўплывае ўшчыльненне рабочага дня. Правільна арганізуючы вытворчасць у соцыялістычнай сельскай гаспадарцы, так сама як і ў прамысловасці, мы павінны дабіцца, каб рабочы час быў поўнасцю скарыстаны. Тым часам некаторыя МТС скарыстоўваюць рабочы час на 50—60 проц. У брыгадзе № 7 Слуцкай МТС прастой пры рабоце трактара са снопавязалкай даходзіў, паводле даных хронаметража, да 65—70 проц. У брыгадзе № 9 Шклоўскай МТС скарыстанне рабочага часу на ворыве даходзіла да 58—65 проц., а на дыскаванні 78—86 проц.

Адна з галоўных прычын прастояў—няспраўнасць трактара і прычэпу ў рэзультаце няўважлівага тэхнічнага догляду за імі. У сёлетнюю пасеўную кампанію неабходна звярнуць на гэта самую сур'ёзную ўвагу. Рашэнні СПА ад 21 верасня 1933 г. аб скарыстанні трактарнага парка трэба няўхільна праводзіць у жыццё, разгортваючы ўдарніцтва і соцспаборніцтва на поўнае скарыстанне трактарнага парка і ўшчыльненне рабочага дня.

У гутарцы з металургамі т. Сталін указаў рычагі сапраўднага руху ўперад: галоўнае цяпер у людзях, аўладаўшых тэхнікай. У нашай краіне клопат аб людзях цесна і арганічна звязан з поспехам любой справы. Поспех работы МТС у першую чаргу залежыць ад таго, як яны будуць клапаціцца, берагчы і вырошчваць людзей, аўладаўшых тэхнікай. А трэба сказаць, што не ўсе яшчэ МТС як след клапоцяцца аб людзях, аб іх культурным абслугоўванні, далейшай кваліфікацыі, правільнай расстаноўцы і арганізацыі на вытворчасці.

Мы намячаем шляхі найлепшага скарыстання ўсёй навейшай тэхнікі соцыялістычнага земляробства, памятаючы пры гэтым, што «нельга тэхніку адрываць ад людзей, якія прыводзяць тэхніку ў рух. Тэхніка без людзей мёртва». Лозунг—«Тэхніка ў перыяд рэканструкцыі вырашае ўсё»—мае на ўвазе не голую тэхніку, а тэхніку на чале з людзьмі, якія аўладалі ёю, навучыліся яе цаніць.

> «Трэба берагчы кожнага здольнага і разумеючага работніка, берагчы і вырошчваць яго. Людзей трэба клапатліва і ўважліва вырошчваць, як садоўнік вырошчвае аблюбаванае пладовае дрэва. Выхоўваць, дапамагаць расці, даць перспектыву, у час вылучаць, у час пераводзіць на іншую работу, калі чалавек не спраўляецца са сваёй справай, не чакаючы таго, калі ён канчат-

кова праваліцца. Клапатліва вырошчваць і кваліфікаваць людзей, правільна расставіць і арганізаваць іх на вытворчасці, арганізаваць зарплату так, каб яна ўмацоўвала рашаючыя звенні вытворчасці і рухала людзей на вышэйшую кваліфікацыю—вось што нам трэба для таго, каб стварыць шматлікую армію вытворча-тэхнічных кадраў» **(Сталін).**

Тав. Молатаў у сваім дакладзе на VII з'ездзе советаў СССР сказаў:

«Мы павінны дабіцца за гэты год павелічэння валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі на 2,4 млрд. руб., г. зн. павелічэння на 16,3 проц. Дабіўшыся такога росту, сельская гаспадарка па сваіх тэмпах уздыму пойдзе ў нагу з індустрыяй. Гэта адпавядае задачам, пастаўленым другою пяцігодкай. Гэта задача вялікая і цяжкая, але яна сапраўды варта новай, калгаснай вёскі, варта совецкай зямлі».

Соцыялістычная сельская гаспадарка па сваіх тэмпах можа і павінна пайсці ў нагу з індустрыяй, бо для гэтага мы маем усе ўмовы. Сталінскі статут сельскагаспадарчай арцелі з'яўляецца ключом для гэтага. Калгасны лад умацаваўся. Калгасы ўзброены магутным паркам машын, колькасць якіх безупынна расце. Выраслі дзесяткі тысяч людзей, аўладаўшых тэхнікай і перадавою агратэхнікай. Задача ўсіх партыйных, совецкіх і грамадскіх арганізацый—узначаліць усё ўзрастаючы энтузіязм калгаснікаў, рабочых соўгасаў і МТС у іх барацьбе за добрую падрыхтоўку да сяўбы і выкананне веснавога пасеўнага плана, за высокі ўстойлівы ўраджай, за поўнае асваенне і аўладанне тэхнікай.

У нас ёсць невычарпальныя рэзервы для павышэння ўраджайнасці соцыялістычных палёў. Аб гэтым гаворыць вопыт многіх тысяч перадавых калгасаў, аб гэтым красамоўна гаварылі ўсе дэлегаты 2-га ўсесаюзнага з'езда калгаснікаў-ударнікаў. Матар'ялы з'езда павінны быць скарыстаны для новага ўздыму соцспаборніцтва шырокіх мас у іх барацьбе за высокую якасць падрыхтоўкі і правядзення веснавой сяўбы, у арганізацыі сталінскага паходу за высокі ўраджай. З найвялікшай уважлівасцю неабходна праверыць, наколькі добра падрыхтаваліся да вясны кожны калгас, МТС і соўгас, кожная брыгада. Веснавую сяўбу трэба правесці арганізавана і закончыць яе ў сапраўды кароткія тэрміны, апрацаваць і засеяць кожны гектар на выдатна.

Райкомы партыі і земорганы, якія нясуць поўную адказнасць за вынікі сяўбы, павінны паказаць узоры яшчэ больш высокага, сапраўды большэвіцкага, канкрэтнага кіраўніцтва сяўбою. А для гэтага патрэбна павысіць рэволюцыйную пільнасць, аўладаць тэхнікай, працаваць так, як вучыць нас выдатны геній чалавецтва—вялікі Сталін.

Вялікая ўзнагарода ордэнам Леніна БССР і яе кіраўнікоў, тт. Гікало і Галадзеда, абавязвае ўсіх працоўных не спыняцца на дасягнутых поспехах, а з новым творчым уздымам весці барацьбу за перадавую высока-культурную соцыялістычную сельскую гаспадарку, за замацаванне перадавога месца нашай ордэнаноснай рэспублікі ва ўсёй нашай соцыялістычнай радзіме.

**С. Белоў**

**Сакратар Полацкага РК КП(б)**

# Год большэвіцкай барацьбы за ўздым жывёлагадоўлі

Прашоў толькі год з таго часу, як правадыр нашай партыі і працоўных мас т. **Сталін** зрабіў наступнае ўказанне аб праблеме жывёлагадоўлі:

> «Справу жывёлагадоўлі павінны ўзяць у свае рукі ўся партыя, усе нашы работнікі, партыйныя і беспартыйныя, маючы на ўвазе, што праблема жывёлагадоўлі з'яўляецца зараз такою-ж першачарговаю праблемай, якою была ўчора ўжо вырашаная з поспехам праблема зерневая. Няма чаго і даказваць, што савецкія людзі, браўшыя не адну сур'ёзную перашкоду на шляху да мэты, здолеюць узяць і гэту перашкоду».

БССР мае ўсё для таго, каб задачу ўздыму жывёлагадоўлі вырашыць у найкарацейшы тэрмін.

Указанні тав. Сталіна на XVII партз'ездзе, рашэнні чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) аб жывёлагадоўлі адыгралі рашаючую ролю ў справе карэннага павароту да пытанняў жывёлагадоўлі як партыйнай арганізацыі, так і калгаснай, савецкай грамадскасці. Аднак жывёлагадоўля ў цэлым пастаўлена ў нас яшчэ нездавальняюча, ёсць рад адстаючых калгасаў, не гледзячы на тое, што ЦК КП(б)Б і асабіста тав. Гікало на працягу ўсяго года ўказвалі мясцовым партыйным і савецкім арганізацыям на неабходнасць удзяліць большую ўвагу адстаючым участкам жывёлагадоўлі.

Многія райза, райкомы, райвыканкомы маюць канкрэтнае ўяўленне аб стане жывёлагадоўлі толькі ў найбольш буйных і моцных у арганізацыйна-гаспадарчых адносінах фермах, тым часам як яны павінны добра ведаць, у якім стане знаходзяцца ўсе жывёлагадоўчыя фермы раёна, ведаць загадчыка кожнай фермы, канкрэтных людзей, ведаць аб становішчы жывёлагадоўлі ў саміх калгаснікаў.

Возьмем Полацкі раён. Якіх вынікаў дабіўся ён у гадовай барацьбе за рэалізацыю ўказанняў тав. Сталіна і рашэнняў чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б)?

Полацкая партарганізацыя правяла вялікую работу ў галіне жывёлагадоўлі. Калгаснікі і калгасніцы моцна ўсвядомілі тую ісціну, што ад умацавання і ўзбуйнення калгаснай жывёлагадоўчай фермы залежаць далейшыя поспехі па шляху да заможнага культурнага жыцця. Калгасная жывёлагадоўчая ферма стала асноўным рычагом агульнага

ўздыму жывёлагадоўлі. Даныя партыяй і совецкім урадам ільготы за вырошчванне маладняка і стварэнне ферм, даведзеныя да ўсіх калгаснікаў і калгасніц, з'явіліся магутным стымулам росту жывёлагадоўлі як для калгаснікаў, так і аднаасобнікаў.

За мінулы год фермы у значнай меры ачышчаны ад класава-варожых элементаў, ад лодыраў і разгільдзяяў, якія дапамагалі кулацкім недабіткам у іх падрыўной рабоце. Вялікую ролю ў справе ўздыму жывёлагадоўлі адыграў таксама дэкрэт ўрада аб надзяленні бескароўных калгаснікаў цёлкамі.

Разгледзім даныя раённага перапісу як абагуленага, так і неабагуленага стада жывёлы.

**Рост пагалоўя жывёлы па Полацкаму раёну**

на 1-І 1935 г. (у процантах к 1-І 1934 г.)

| | | %%% на 1-І—34 г. | %%% на 1-І—35 г. |
|---|---|---|---|
| Рагатай жывёлы | Усяго на фермах . . . . | 100 | 120,96 |
| | У карыстанні калгаснікаў . . | 100 | 142,15 |
| | У „ аднаасобнікаў . . | 100 | 72,96*) |
| | Усяго по раёну . . | 100 | 113,9 |
| Авечак | Усяго ў калгасах . . . . | 100 | 110,0 |
| | У калгаснікаў . . . . | 100 | 145,7 |
| | У аднаасобнікаў . . . . | 100 | 59,13 |
| | Усяго па раёну . . | 100 | 109,4 |
| Свіней | На фермах . . . . . | 100 | 98,52 |
| | У карыстанні калгаснікаў . . | 100 | 203,71 |
| | У „ аднаасобнікаў . . | 100 | 97,85 |
| | Усяго па раёну . . | 100 | 152,4 |
| Коней | У калгасах . . . . . | 100 | 119,71 |
| | У аднаасобнікаў . . . . | 100 | 51,99 |
| | Усяго па раёну . . | 100 | 95,7 |

*) Увага: Разам з жывёлай, якую маюць рабочыя і служачыя.

З ростам абагуленага стада ў калгасах, павялічвалася і колькасць ферм у раёне: з 208 на 1/1 1934 года да 251 на 1/1 1935 г. Не маюць ферм толькі новаарганізаваныя калгасы, але ўжо падрыхтоўваюцца ўмовы для таго, каб за вясну і лета стварыць жывёлагадоўчыя фермы ва ўсіх новых калгасах.

З прыведзеных даных перапісу відаць, што конскае пагалоўе ў раёне прадаўжае зніжацца. Калі ў калгасным сектары яно павялічылася на 19,71 проц., то ў аднаасобным паменшылася на 48 проц. Аналізуючы даныя перасоўкі конскага пагалоўя з аднаасобнага сектара ў калгасны (рост калектывізацыі) і ўзнаўлення конскага пагалоўя ў калгасах, прыходзім к заключэнню, што асноўная прычына зніжэння конскага пагалоўя ў раёне заключаецца, па-першае, у тым, што аднаасобнікі ўсё яшчэ прадаўжаюць разбазарваць коней, а, па-другое,—у радзе калгасаў ёсць выпадкі варварскага абыходжання з канём. Спрыяе гэтаму кулацкая агітацыя, што ў калгас і без каня прымуць, і недастатковая масава-палітычная работа савецкіх і партыйных арганізацый сярод аднаасобнікаў.

План злучкі, уключаючы і 1934 г., не выконваўся. Абартаванне кабыл дасягала вельмі значнай лічбы. Напрыклад, у калгасе «Парыжская комуна» з дзевяці пакрытых конематак чатыры ўжо абартавалі. Асноўная прычына—проста такі злачынныя адносіны да пакрытых конематак. Брыгадзір гэтага калгаса запрог племянную конематку і паехаў у горад. У рэзультаце кабыліца абартавала. Брыгадзір, вядома, аддана пад суд.

Партыйная арганізацыя праводзіць цяпер вялікую работу сярод калгаснікаў і аднаасобнікаў аб неабходнасці аслабаняць усіх жеробных кабыл ад цяжкіх работ, арганізуе калгаснікаў і асабліва канюхоў на лепшы, беражны догляд за конематкамі.

Хоць даныя перапісу і паказваюць рост пагалоўя жывёлы ў раёне (за выключэннем свіней, колькасць якіх на фермах зменшылася на 1,5 проц.), аднак задаволіць нас ні ў якім разе не могуць. Полацкая партыйная арганізацыя, калгасы і калгаснікі далёка яшчэ не вычарпалі ўсіх магчымасцей росту жывёлагадоўлі, не знішчылі на фермах недахопаў, якія падчас мяжуюць са злачынствам, не дабіліся карэннага зніжэння падзежу ў калгасах.

Нельга задаволіцца тым, што падзеж маладняка буйнай рагатай жывёлы скараціўся супроць 1933 г. толькі на 1,4 проц., свіней—на 0,3 проц. і авечак—на 9,4 проц. Мы можам і павінны дабіцца значна большых поспехаў у справе захавання маладняка ў калгасах. Трэба толькі больш увагі ўдзяляць людзям, якія працуюць на фермах. А ў нас часта здараецца, што гэтых людзей, у тым ліку і загадчыкаў ферм, мяняюць ледзь не кожныя два-тры месяцы. У калгасе «Парыжская комуна» ухітрыліся за адзін год змяніць 4 загадчыкаў фермы, ў калгасе «Лекерт»—двух. Людзі на фермах увесь час мяняюцца. Гэта сведчыць аб безадказных, несур'ёзных адносінах да жывёлагадоўлі калгасных гора-кіраўнікоў, якія нярэдка пасылаюць працаваць на ферму людзей праштрафіўшых, хворых і т. п.

Зусім па-іншаму наладжана гэта адказная справа ў тых калгасах, якія правільна зразумелі задачу фермы, акружылі яе ўвагай, вылучылі для работы лепшых людзей, якія любяць жывёлагадоўлю і па-гаспадарску аб ёй клапоцяцца. У калгасе «Чырвоная горка»—больш 30 цялят ацёлу канца 1934 года і пачатку 1935 года, і ўсе яны знаходзяцца ў добрым стане, хоць калгас перажывае затрудненні з кармамі.

Каб дабіцца сапраўды бурнага росту ўсіх галін жывёлагадоўлі, трэба камплектаваць фермы моцнымі людзьмі, па-большэвіцку *кіраваць* імі, вырошчваць і замацоўваць за фермай.

Лепшыя людзі калгасаў, якія сабраліся для выпрацоўкі новага статута сельгасарцелі пад кіраўніцтвам геніяльнага майстра калгаснай вытворчасці—т. **Сталіна,** не выпадкова запісалі ў статуце:

«Жывёлагадоўчыя брыгады выдзяляюцца на тэрмін не менш 3 год. За кожнай жывёлагадоўчай брыгадай замацоўваецца праўленнем арцелі прадукцыйная жывёла, неабходныя для абслугоўвання інвентар і цягло і жывёлагадоўчыя будынкі».

Гэты пункт статута сельгасарцелі ў найкарацейшы тэрмін павінны рэалізаваць усе калгасы.

Усе работнікі ферм павінны добра ведаць зоатэхніку. Калгаснік і калгасніца ў першую чаргу зацікаўлены ў ёй і як ніколі цягнуцца да гэтых ведаў. Аднак кароткатэрміновыя курсы па жывёлагадоўлі, на якіх шырокія колы работнікаў ферм набываюць элементарныя веды зоаветтэхнікі, не акружаны патрэбнай увагай і клопатамі раённых арганізацый.

Тав. Сталін у гутарцы з металургамі ўказваў:

«Трэба берагчы кожнага здольнага работніка, берагчы і вырошчваць яго. Людзей трэба клапатліва і ўважліва вырошчваць, як садоўнік вырошчвае аблюбаванае пладовае дрэва. Выхоўваць, дапамагаць расці, даць перспектыву, своечасова высоўваць на іншую работу, калі чалавек не спраўляецца са сваёй справай, не чакаючы таго, калі ён канчаткова праваліцца».

Гэта ўказанне з усёю сілай адносіцца і да жывёлагадоўчых кадраў, і мы павінны яго выканаць. Адначасова з гэтым мы павінны павысіць сваю пільнасць у адносінах класава-чуждых элементаў, бязлітасна ачышчаючы фермы ад людзей, якія губяць жывёлу, шкодзяць справе жывёлагадоўлі.

Полацкая арганізацыя ў справе развіцця жывёлагадоўлі зрабіла толькі першыя крокі. Да канца 1934 г. у раёне не мелі ўяўлення аб пародзе жывёлы і вытворнікаў на фермах. Зусім натуральна, што не было планамернай арганізацыйнай работы па палепшанню пароды жывёлы. Толькі зараз улічылі вытворнікаў на фермах, спланавалі злучную кампанію з такім разлікам, каб вытворнікі поўнасцю былі скарыстаны.

Па калгасах раёна налічваецца 114 племянных быкоў, у асноўным швіцаў, 64 жарабцы арлоўскай і арлова-амерыканскай пароды, 63 хрякі, у большасці англійскія метысы, 62 бараны-мерыносы. Пры правільным скарыстанні іх мы зможам рашуча палепшыць пароду жывёлы.

Усур'ёз трэба ўзяцца і за палепшанне догляду, за павышэнне прадукцыйнасці жывёлы, у прыватнасці малочнай. Трэба прама сказаць: недаацэнка гэтага важнейшага пытання ў барацьбе за ўздым жывёлагадоўлі прывяла к таму, што рад калгасных ферм не вядзе ўліку ўдойнасці кожнай каровы, жывёла абязлічана. Пры такой пастаноўцы справы нельга ўстанавіць ўдойнасць паасобных кароў. У такіх абязлічаных фермах, дзе няма ўліку і кантролю, сярэдняя ўдойнасць каровы вызначаецца яшчэ як правіла ў 1500 літраў за год, на справе-ж ёсць каровы, якія даюць рэкордныя ўдоі. Гэта абязлічка не дала нам маг-

чымасці паказаць калгаснікам і калгасніцам кароў-рэкардыстак калгасных ферм. Стан тых кароў-рэкардыстак, якіх ўдалося выявіць па калгаснаму і аднаасобнаму сектару, сведчыць аб неабмежаваных магчымасцях павышэння прадукцыйнасці малочнай жывёлы ў нашым раёне.

Мы маем магчымасці ў самы кароткі тэрмін рэзка павысіць удоі кароў як на фермах, так і тых, што знаходзяцца ў карыстанні калгаснікаў. Мы можам і павінны дабіцца больш высокіх паказчыкаў.

Калгасныя малочныя таварныя фермы маюць усе магчымасці падняць на небывалы ўзровень прадукцыйнасць малочнай жывёлы. Трэба толькі па-большэвіцку павесці барацьбу за жывёлагадоўлю, пакончыць з абязлічкай на ферме, палепшыць догляд жывёлы, да канца выжыць кулацкія і варожыя калгаснаму ладу элементы. Нашы калгасныя малочныя таварныя фермы могуць вырасціць дзесяткі і сотні такіх кароў-рэкардыстак, якіх мае Іванаўская і іншыя вобласці, дзе рэкардысткі даюць да 10 000 літраў малака ў год.

Новы статут сельгасарцелі прадугледжвае далейшую барацьбу з абязлічкай і кулацкай ураўнілаўкай у аплаце працы жывёлагадоўчай брыгады.

> «Калі паляводчая брыгада ў рэзультаце добрай работы збірае з замацаваных за ёю ўчасткаў ураджай вышэй сярэдняга калгаснага, або жывёлагадоўчая брыгада ў рэзультаце лепшай работы забяспечвае большы ўдой кароў, большую ўкормленасць жывёлы, поўнае захаванне маладняка, то ўсім членам такой брыгады праўленне арцелі робіць налічэнне даходу ў размерах да 10 процантаў усёй колькасці выпрацаваных імі працадзён, выдатным ударнікам у брыгадзе—у размеры да 15 процантаў, а брыгадзіру і загадчыку фермы—да 20 процантаў.
>
> Калі паляводчая брыгада ў рэзультаце дрэннай работы збірае з замацаваных за ёю ўчасткаў ураджай ніжэй сярэдняга калгаснага, або жывёлагадоўчая брыгада ў рэзультаце дрэннай работы дае менш сярэдняга ўдою, укормленасці жывёлы і захавання маладняка,—то ўсім членам такой брыгады праўленне арцелі робіць вылік з даходу ў размеры да 10 процантаў усёй колькасці выпрацаваных імі працадзён».

Цвёрдае неадкладнае правядзенне ў жыццё гэтых соцыялістычных прынцыпаў аплаты працы—магутны стымул павышэння прадукцыйнасці жывёлы.

З няменшай вострасцю стаіць пытанне аб пашырэнні і палепшанні кармавой базы.

Каб поўнасцю забяспечыць кармамі чакаемы прырост пагалоўя ў 1935 годзе, трэба кожнаму раёну і калгасу безумоўна выканаць план пасеву шматгадовых траў, вікі.

Полацкая партыйная арганізацыя ставіць зараз гэтыя задачы ва ўсю шырыню перад калгасамі і калгаснікамі, намячаючы на 1935 год павелічэнне плошчы сенакосу пасевамі вікі і шматгадовых траў на 3 тысячы га. Аднак гэтым не вычэрпваецца магчымасць пашырэння кармавой базы. Намячаецца асушка 300 га балот, раскарчоўка, што ў нашых умовах будзе адыгрываць вялікую ролю. Нарэшце ў гэтым годзе кожны калгас павінен будзе пашырыць плошчу пад кораньплоды. У барацьбу за выкананне гэтай праграмы пашырэння і палепшання кармавой базы неабходна ўцягнуць усіх калгаснікаў і калгасніц

Само сабою зразумела, што кожны калгас мае ў сваім распараджэнні рад дадатковых магчымасцей пашырыць і палепшыць *кармавую базу*, і яны таксама павінны быць скарыстаны. У гэтай справе, вядома, рашае ініцыятыва кожнага калгаса.

Таксама неабходна зараз-жа прадумаць рад канкрэтных мер палепшання і пашырэння пашы, каб не паўтарыліся зноў леташнія памылкі, калі некаторым калгасам не было куды выгнаць жывёлу, бо моцна ўкаранілася прывычка трымаць яе непадалёк. Таму, побач з найстражэйшым улікам і ўмелым скарыстаннем усіх прыродных выпасаў, трэба перамагчы закаранеласць раду калгасаў і дапамагчы ім арганізаваць дальнія выпасы, калі калгас адчувае ў гэтым патрэбу.

Арганізацыя далёкіх выпасаў у радзе раёнаў Беларусі цалкам сабе апраўдала. Смялей трэба брацца за гэту справу і скарыстаць для яе лясы як дзяржаўнага, так і мясцовага значэння. Стварыць добра правераныя кадры пастухоў, арганізуючы для іх перад перыядам пашы карсткатэрміновыя пяцідзённыя курсы. Добра прадуманая падрыхтоўка да выпасу дасць нам магчымасць не паўтараць леташніх памылак і забяспечыць жывёлу добрай пашай.

У сувязі з ростам жывёлагадоўлі ў раёне, асабліва калгасных ферм, ва ўвесь рост паўстае задача далейшага будаўніцтва скотных двароў для новых ферм і рэканструкцыі старых.

Многія калгасы ўжо зараз адчуваюць немагчымую цеснату. У цесным, маленькім памяшканні яны вымушаны трымаць па 10—12 цялят замест 5—6, што выклікае захворванні маладняка. Аборы і цялятнікі ва многіх калгасах дрэнна ацеплены, на фермах няма прасцейшых відаў механізацыі.

Чым выкліканы гэтыя ненармальнасці? Тым, што не было планавасці і кіраўніцтва. Будуючы фермы, не ўлічвалі ўзнаўлення жывёлы, магчымасцей прымянення на ферме прасцейшых відаў механізацыі. У раёне пабудавана толькі 18 скотных двароў.

Гэтыя недахопы цяпер улічаны. Райком партыі паставіў перад райза і калгасамі канкрэтныя задачы ў галіне будаўніцтва новых і рэканструкцыі старых скотных двароў: улічваць узнаўленне пагалоўя жывёлы на бліжэйшыя 2—3 гады і прымяняць прасцейшыя віды механізацыі (падача ваганеткай, прасцейшы водаправод і т. п.).

Гэтыя задачы зусім рэальны. Справа толькі ў тым, наколькі правільна раённая арганізацыя наладзіць работу, наколькі канкрэтна будзе дапамагаць калгасам. 1935 год можа і павінен стаць годам прывядзення ферм у культурны выгляд. Кожная ферма можа *пабудаваць* асобнае радзільнае памяшканне, асобнае для маладняка і т. д.

Дзяржаўны план росту пагалоўя жывёлы ў 1935 г. з'яўляецца баявою праграмай дзейнасці партыйных, совецкіх арганізацый і калгасных мас Полацкага раёна.

На аснове данага НКЗ БССР плана дакладнага ўліку магчымасцей рост жывёлагадоўлі ў Полацкім раёне на 1935 г. рысуецца ў наступным выглядзе (у проц.):

**Рост усяго пагалоўя па калгасах**

| | На 1-I 1935 г. | На 1-I 1936 г. |
|---|---|---|
| Буйная рагатая жывёла | 100 | 145,5 |
| Конскае пагалоўе | 100 | 117,5 |
| Свіное пагалоўе | 100 | 228,6 |
| Авечкі | 100 | 153,6 |

**Рост маладняка ў калгасах**

| | На 1-I 1935 г. | На 1-I 1936 г |
|---|---|---|
| Цялят да 1 года . . . . . | 100 | 128,1 |
| Жарабят да 1 года . . . | 100 | 375,6 |
| Парасят да 4 года . . . . | 100 | 709,8 |
| Ягнят . . . . . . | 100 | 246,2 |

**Рост пагалоўя ў калгасах**

| | На 1-I 1935 г. | На 1-I 1936 г |
|---|---|---|
| Кароў . . . . . . . | 100 | 130 |
| Конематак . . . . . . | 100 | 105,3 |
| Свінаматак . . . . . . | 100 | 146,2 |
| Аўцаматак . . . . . . | 100 | 120,7 |

Рост пагалоўя жывёлы, якая знаходзіцца ў карыстанні калгаснікаў і аднаасобнікаў, выражаецца яшчэ ў большым размеры. Колькасць цялят павялічваецца амаль у 6 раз, ягнят—амаль у 2 разы і парасят на 29 проц.

Гэты дзяржаўны план такі-ж абавязковы для калгасаў, калгаснікаў і аднаасобнікаў, як і план сяўбы. Аднак, было-б памылкова думаць, што раз план даведзен да кожнага калгаса, калгасніка і аднаасобніка, то гэтым справа забяспечана. Самацёк якраз можа пагубіць усю справу. Задача ў тым, каб арганізаваць барацьбу за выкананне плана, уцягнуць у яе ўсіх калгаснікаў і аднаасобнікаў. Партыйная арганізацыя павінна павысіць узровень арганізацыйна-практычнага кіраўніцтва калгасамі, сістэматычна кіраваць справай жывёлагадоўлі. Полацкая партыйная арганізацыя ўжо зараз намячае рад канкрэтных арганізацыйных мерапрыемстваў. Раённы конкурс на лепшую жывёлагадоўчую ферму павінен будзе ахапіць усе фермы і ўцягнуць усіх калгаснікаў. Падрыхтоўка і правядзенне гэтага конкурса асноўваецца на шырокім разгортванні соцыялістычнага спаборніцтва як паміж калгаснымі фермамі, так і паміж работнікамі гэтых ферм.

Усе работнікі ферм, усе жывёлагадоўчыя брыгады павінны ўключыцца ў соцспаборніцтва і ўзняць яго на больш высокую ступень. Але гэтага мы дабʼемся пры ўмове, калі будзем соцспаборніцтвам *кіраваць*, арганізоўваць яго. Вельмі часта ў нас у паасобных калгасах сапраўднае спаборніцтва, з сістэматычным кантролем і праверкай, падмяняецца шуміхай, парадпасцю. На агульным сходзе пад апладысменты выступяць з гарачымі прамовамі, заключаць дагавор з суседнім калгасам, а потым пра яго забываюцца. Сапраўднае соцспаборніцтва, падмененае барабанным боем, ператвараецца ў пустышку. Праводзячы конкурс на лепшую жывёлагадоўчую ферму, мы павінны будзем па-большэвіцку ўзяцца за арганізацыю соцыялістычнага спаборніцтва, за перавод яго на больш высокую ступень, што будзе рашаючым фактарам у барацьбе за выкананне абавязковага дзяржаўнага плана ўздыму жывёлагадоўлі.

Другое мерапрыемства—падрыхтоўка і правядзенне раённай жывёлагадоўчай выстаўкі ў 1935 г. Няма сумнення ў тым, што справа жывёлагадоўлі далёка не аднолькава пастаўлена ва ўсіх калгасах. Ёсць калгасы і фермы, якія дабіліся ўжо значных рэзультатаў як ў захаванні і ўзнаўленні жывёлы, так і ў павышэнні прадукцыйнасці, даходнасці фермы і арганізацыі працы. Але рад калгасаў вельмі мала зрабіў для арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання фермы.

Жывёлагадоўчыя фермы маюць многа новага ў культурнай пастаноўцы сваёй работы, дасканалыя ўзоры якой распылены і не становяцца набыткам усіх калгасаў.

У падрыхтоўцы і правядзенні жывёлагадоўчай выстаўкі моцныя фермы будуць мець магчымасць абагуліць свой накоплены вопыт і перадаць яго больш слабым і новым фермам, каб яны не паўтаралі былых памылак, арганізацыйна і гаспадарча мацнелі.

Вядома, што рост ураджаю становіцца ў прамую залежнасць ад якасці і своечасовасці апрацоўкі і ўгнаення глебы. Зусім ясна, што рост пагалоўя жывёлы ёсць буйнейшы стымул павышэння ўраджаю. Чым больш жывёлы, тым больш гною; чым больш гною, тым вышэй ураджай, тым бліжэй заможнае культурнае жыццё кожнага калгасніка і калгасніцы.

Вось чаму жывёлагадоўчыя фермы, рост пагалоўя жывёлы з'яўляецца фактарам павышэння ўсёй гаспадарчай магутнасці калгаса. Жывёлагадоўчая ферма павінна займаць агромную долю ў росце грашовых даходаў калгаса, а значыць і ў росце грошай, падаючых на працадзень калгасніка. На аснове ўмацавання фермы, росту прадукцыйнасці жывёлы, у прыватнасці малочнай, мы можам і павінны ў 1935 г. павысіць грашовую даходнасць калгаса і каштоўнасць працадня.

Няма ніякага сумнення ў тым, што дзяржаўны план развіцця жывёлагадоўлі ў 1935 годзе будзе рэалізован. Полацкая партыйная арганізацыя будзе змагацца за рэалізацыю плана з такой-жа большэвіцкай настойлівасцю і рашучасцю, з якой яна змагаецца за выкананне дзяржаўных заданняў па сяўбе, хлебапастаўках і т. д.

Усе работнікі жывёлагадоўчых ферм, усе калгаснікі і калгасніцы будуць актыўнымі ўдзельнікамі гэтай барацьбы.

---

С. Малінін і Л. Фонгауз

# Соцпаборніцтва ў торфпрамысловасці БССР

У сваім дакладзе на XI з'ездзе советаў БССР тав. Галадзед падкрэсліў; што побач з агромнымі перамогамі на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва мы маем значныя дасягненні і ў галіне развіцця энергетычнай базы нашай народнай гаспадаркі, у прыватнасці «вялікую работу мы прарабілі па здабычы торфу—гэтай асноўнай апалавай базы ў БССР».

Калі ў 1932 г. па БССР было здабыта 553 тыс. тон торфу, у 1933 г.—930 тыс. тон, то ў сезоне 1934 года тарфяная прамысловасць БССР здабыла 1.357.000 тон паветрана-сухога торфу, павялічыўшы размер здабычы ў параўнанні з 1933 г. на 46 проц. У адзнаку ад папярэдніх гадоў рэзка палепшана якасць выпрацаванай прадукцыі— увесь здабыты торф поўнасцю і своечасова высушан.

У мінулым годзе ўпершыню ў гісторыі торфпрамысловасці БССР не толькі выканалі, але і перавыканалі сезоннае заданне ўсе асноўныя торфаздабываючыя арганізацыі: Белторф на 108,5 проц., Наркамлегпром (па рэспубліканскай прамысловасці) на 105,4 проц., НКСнаб на 120,0 проц. Перавыканалі план амаль усе буйныя, вядучыя торфзаводы: «Осінторф» на 106,7 проц., «Шлях соцыялізма» на 110,7 проц., імя Гея на 115,4 проц., «Чырвоны сцяг» на 106,8 проц. і т. д. У прыватнасці па фрэзернаму торфу «Осінторф» выканаў план на 115,1 проц., завод імя Гея на 105 проц. Пры гэтым асабліва трэба падкрэсліць, што калі ў 1933 г. удзельная вага торфу, здабытага механізаваным спосабам (па Белторфу), складала ўсяго 9,6 проц., то ў мінулым сезоне яна паднялася ўжо да 32,7 проц. за кошт значнага росту здабытага фрэзернага торфу і асваення на торфзаводзе «Чырвоны сцяг» малога гідраторфу.

Станоўчыя зрухі ў рабоце торфпрамысловасці характарызуюцца і палепшаннем асноўных якасных паказчыкаў. План прадукцыйнасці працы ў здабычы машына-фармовачнага торфу цэлы рад заводаў перавыканаў: завод імя Гея гэты паказчык выканаў на 103,1 проц. (на 1 чалавека-дзень у цэглах), «Чырвоны сцяг» на 105 проц., «Свабода» на 101,5 проц., «Даумана» на 105 проц., і т. д.; павысілася выпрацоўка брыгад за змену, процант прастояў элеватарных машын у сярэднім па Белторфу зніжан да 20,6 проц., замест фактычных прастояў у сезоне 1933 г. 23,6 проц. (без уліку дажджавых прастояў).

Адзначаючы гэтыя поспехі, трэба падкрэсліць, што адною з важнейшых умоў іх дасягнення было далейшае развіццё і паглыбленне соцыялістычных форм працы на торфараспрацоўках.

Соцыялістычнае спаборніцтва вырасла не толькі колькасна (ахоплена рабочых усімі відамі соцспаборніцтва ў 1933 г. 44 проц., у се-

зоне-ж 1934 г., ужо на 15.VI,—67 проц.), але і якасна. У дадатак да брыгаднага спаборніцтва, пашыранага на торфараспрацоўках і ў мінулыя гады, з'явіліся новыя, больш дасканалыя формы, якія ўзнялі спаборніцтва на вышэйшую ступень: сустрэчнае планаванне, грамадскі буксір, соцтэхэкзамен, індывідуальнае ўдарніцтва, брыгадны гасразлік, якія набыў ужо некаторае пашырэнне.

Выключную ролю ў справе ўцягнення ў спаборніцтва найшырэйшых мас рабочых і забяспечання выканання плана торфаздабычы адыграў пачаты па ініцыятыве лепшых брыгад і прашоўшы з выключным уздымам вытворчы паход імя т. Гікало, завершаны ў першым сваім туры ўсебеларускім злётам знатных людзей торфу.

У адзнаку ад мінулых гадоў спаборніцтва на торфараспрацоўках у сезоне 1934 г. вылілася ў сапраўды жывыя, аперацыйныя формы штодзённай настойлівай большэвіцкай барацьбы за выкананне і перавыкананне кожнага канкрэтнага паказчыка плана, барацьбы за асваенне тэхнікі і набыццё высокага майстэрства ў сваёй справе, за права лепшых брыгад удзельнічаць у конкурсе, за права рапартаваць ЦК КП(б)Б.

Падводзячы вынікі соцспаборніцтва на торфараспрацоўках у 1934 г. і разглядаючы іх як матар'ял, на вопыце якога ў надыходзячым сезоне 1935 г. спаборніцтва павінна быць узнята на яшчэ большую вышыню, мы спынімся толькі на некаторых асноўных момантах, якія з гэтага пункту погляду маюць найбольшую цікавасць.

* * *

Мінулы сезон асабліва багаты жывымі прыкладамі высокіх вытворчых дасягненняў лепшых ударных брыгад і перадавых ударнікаў торфараспрацовак.

Ужо ў пачатку сезона вылучаліся дзесяткі брыгад, якія замест традыцыйнай раскачкі сталі не толькі выконваць, але і перавыконваць сваю вытворчую праграму з першых дзён работы. Да канца мая такіх брыгад было каля 40. К 19 ліпеня, калі I усебеларускі злёт знатных людзей торфу падводзіў першыя вынікі вытворчага паходу імя т. Гікало, ужо звыш 60 брыгад на здабычы машына-фармовачнага торфу выканалі сваё сезоннае заданне (пры планавым заканчэнні сезона 10 жніўня), прычым з адзначанай колькасці брыгад свае дэкадныя заданні выконвалі:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 20 брыгад | —у межах | ад 100 | да 110% | |
| 16 „ | „ | „ 111 | „ 120 „ | |
| 14 „ | „ | „ 121 | „ 130 „ | |
| 17 „ | „ | „ 131 | „ 140 „ | |
| 4 „ | „ | „ звыш | 140% | |

Лепшыя ўдарныя брыгады, якія вышлі на першае месца не толькі па БССР, але і ў маштабе ўсяго Саюза, закончылі сезоннае заданне за 4 і 5 дэкад да планавага тэрміна: брыгада **Курэнева**—21 чэрвеня, або за 52 дні, **Бірана і Бандарэнко**—за 46, **Зубава і Карнеенко**—за 42 дні да заканчэння сезона і т. д.

Перадавікі трактарысты на фрэзернай здабычы торфу значна перавыканалі ўстаноўленыя нормы выпрацоўкі: трактарыст **Новік**—на 63 проц., **Раманаў**—на 44 проц., **Пулк**—на 35,5 проц.; дзесяткі брыгад тарфяніц на сушцы і ўборцы кускавога і фрэзернага торфу выканалі план на 130 і 140 проц.; 32 брыгады тарфяніц (на 17. торфзаводах

БССР) перавыканалі заданне, даўшы ад 140 да 170 проц. Нават на багернай здабычы, якая ўпершыню асвойваецца ў БССР, пры агульным глыбокім прарыве ў выкананні плана па гэтаму спосабу на заводзе «Большэвік» у цэлым, перадавая брыгада т. **Хлебіна,** ужо 10 жніўня выканала свой план на 102,7 проц., даючы ў сярэднім за змену ў апошнія дэкады па 35 і 40 тысяч замест планавых 26.300 цэгел, у паасобныя-ж дні выпрацоўка гэтай брыгады дасягала 50—60 тысяч цэгел.

У чым асноўныя прычыны, «сакрэт» поспеху гэтых лепшых ударнікаў торфу?

Вядома, перш за ўсё,—у новых адносінах да працы, якая стала справай гонару і геройства, у новай свядомай соцыялістычнай працоўнай дысцыпліне, якая ліквідавала прагулы, цякучасць у брыгадзе, спазненні на работу, гультайства і т. п., у больш высокай арганізацыі працы, якая грунтуецца на ініцыятыве і актыўнасці рабочых, веданні сваёй справы.

Вынікам усяго гэтага была выключна высокая прадукцыйнасць працы і высокія тэмпы работы, што ярка кідаецца ў вочы, калі параўнаць адпаведныя паказчыкі перадавых брыгад у здабычы машына-фармовачнага торфу з сярэднімі данымі па тых-жа заводах:

| Назва завода | Лепшыя ўдарныя брыгады | Выканана сезоннага плана ў %% | | Прадукцыйнасць працы ў %% к плану (на 1 чал. дзень у цэглах) | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Па заводу | Па лепшых ударн. брыг. | Па заводу | Па лепшых ударн. брыг. |
| „Свабода" | | 91,3 | | 101,5 | |
| „ | Сеўрука | | 143,1 | | 157,8 |
| „ | Пешко | | 127,9 | | 142,1 |
| „ | Петрушэні | | 132,6 | | 136,8 |
| „Лекскае" | | 115,0 | | 97,4 | |
| „ | Навіцкага | | 135,5 | | 146,4 |
| „ | Звяртоўскага | | 134,1 | | 149,9 |
| „ | Мядведзева | | 125,2 | | 140,0 |
| імя Гея | | 121 | | 103,1 | |
| „ | Ж у р а | | 149,0 | | 125,3 |
| „ | Садунова | | 136,0 | | 129,3 |
| „ | Агапава | | 137,0 | | 128,2 |
| „Чырв. сцяг" | | 115,9 | | 105,0 | |
| „ | Русакова | | 118,8 | | 128,3 |

Гэты спіс можна значна пашырыць адпаведным матар'ялам з іншых заводаў, якія не ўваходзяць у сістэму Белторфа. Напрыклад, вядомая брыгада т. **Курэнева** («Шлях соцыялізма»), якая выканала сезонны план на 162,8 проц. і атрымала першую прэмію на ўсесаюзным конкурсе, нават пры перараздліку справаздачных даных на 8-гадзінную змену (а гэта значна зніжае процант), перавыконвала план прадукцыйнасці працы ў сярэднім за сезон на 23,6 проц., брыгада **Зубава**—на 45 проц., брыгада **Карнеенко**—на 30,7 проц. Гэтыя брыгады на працягу ўсяго сезона давалі ў сярэднім за 8-гадзінную змену па 41—43 тысячы цэгел, замест 33—36 тысяч па плану; у лепшыя-ж дні гэтыя брыгады давалі такія рэкордныя паказчыкі выпрацоўкі, як 77,5 тысячы цэгел у змену **(Мальцаў)**, 75,3 тысячы **(Курэнеў)**, 74,6 тысячы **(Бандарэнко)**, 66 тысяч **(Біран)**. У гэтыя дні яны нярэдка працавалі больш устаноўленага часу.

Рабочы дзень гэтых лепшых брыгад характарызуецца выключнай шчыльнасцю і рацыянальнасцю. Калі асноўная карысная работа звычайна займае ў ямшчыкаў радавых брыгад на здабычы *машына-фармовачнага* торфу 50—55 проц. ад усяго рабочага часу, а агульная шчыльнасць рабочага дня перавышае 70—75 проц., то асноўная работа ямшчыкаў брыгады Курэнева роўна 71 проц., брыгады Шчэрбіна 73 проц., брыгады Зубава даходзіць да 75 проц., агульная-ж шчыльнасць дня рабочых (увесь час заняты асноўнай, падрыхтоўча-заключнай і дапаможнай работай) даходзіць да высокай лічбы: 93—95 проц. (па фатаграфіі рабочага дня брыгад Курэнева, Шчэрбіна, Зубава).

Нельга не адзначыць, што на паасобных торфзаводах ёсць яшчэ выпадкі недапушчальна халатных адносін да правільнай пастаноўкі пачатковага ўліку (фактычнай выпрацоўкі, рабочага часу, прастояў брыгад і т. д.). Гэта не толькі перашкаджае выявіць сапраўдныя паказчыкі работы ўсіх рабочых і лепшых ўдарнікаў, але часам можа прывесці да скажэння рэчаіснасці, даць непраўдзіва высокія або нізкія паказчыкі ў выкананні плана і т. д. Напрыклад, на заводзе «Большэвік» зусім не ўлічваюць, што рабочыя машына-фармовачнай здабычы, акрамя сваёй непасрэднай работы, самі здымаюць ачос перад машынай, што штучна зніжае справаздачныя даныя аб выкананні плана і прадукцыйнасці працы; на многіх заводах не ўлічваюць, што нізкая прадукцыйнасць на сцеліве і сушцы торфу выклікаецца выключна кепскай падрыхтоўкай палёў сцеліва (пні, куп'ё, трава). Начальнікі некаторых агрэгатаў не маюць гадзіннікаў і ўлічваюць час работы і прастояў «на вока», «па сонцу» і т. п. Барацьба за дакладны ўлік працы на торфараспрацоўках—важнейшая задача гаспадарнікаў.

Высокія паказчыкі работы перадавых брыгад тлумачацца, па-другое, тым, што яны аўладалі тэхнікай сваёй справы. Іменна таму брыгада Курэнева была першай з брыгад торфзавода «Шлях соцыялізма», якая паспяхова закончыла тэхвучобу і здала соцтэхэкзамены, прычым з 23-х чалавек 11 здалі на выдатна, 7 на добра і толькі 5 на здавальняюча. Таксама актыўна вучыліся і здавалі грамадска-тэхнічныя экзамены і лепшыя перадавыя ўдарнікі іншых торфзаводаў: брыгады Зубава і Карнеенко («Большэвік»), Шчэрбіна, Бірана, Бандарэнко («Шлях соцыялізма»), Агапава, Жура, Седунова (імя Гея) і т. д. Веданню сваёй справы часта надзвычай спрыяў і склад перадавых ударных брыгад, на чале якіх амаль заўсёды стаяў вопытны стары рабочы-тарфянік з салідным вытворчым стажам (Жур—стаж 10 год, Курэнеў—7 год і т. д.), сярод большасці рабочых брыгады

таксама быў моцны касцяк са старых тарфянікаў. У брыгадзе Жура, напрыклад, з вытворчым стажам работы на торфе па 3 гады і больш было 12 чалавек, у брыгадзе Курэнева 9 чалавек (не кажучы ўжо аб тым, што ў гэтую брыгаду з самага пачатку сезона ўлілася арганізаваная група старых рабочых грузчыкаў), Зубава—12, Карнеенко—11 чалавек і т. д. Пры гэтым, старыя рабочыя з самага пачатку сезона дзяліліся вопытам работы з навічкамі, добра разумеючы, што перавыкананне плана магчыма толькі пры ўмелай і дружнай рабоце ўсёй брыгады.

Вось як брыгадзір т. Жур расказвае аб рабоце сваёй брыгады:

«Працаваць на торфе пачаў з 1924 г., спачатку на сцеліве—сцельшчыкам, падкладчыкам, рольшчыкам, кар'ершчыкам, а з 1933 г. высунут брыгадзірам па здабычы торфу. Мая брыгада ў сезоне 1934 г. выканала план на 149 проц. Як мы дабіліся такіх поспехаў?

Прашоўшы ўсе працэсы работы, добра вывучыўшы машыну, я змог правільна расставіць рабочых і арганізаваць іх працу..., старых рабочых я прымацаваў да груп навічкоў інструктарамі ў кар'еры, на сцеліва. Яны ў штодзеннай рабоце перадавалі свой вопыт навічкам.

За прэсам наглядаў я сам. Я вывучыў, як найбольш рацыянальна праводзіць перасоўку, каб рабочыя не прастойвалі... Паміж рабочымі маёй брыгады было разгорнута соцспаборніцтва. Сам я здаў соцтэхэкзамен на выдатна». *)

Аўладанне тэхнікай і правільным прыёмам работы як усёй брыгадай, так і дзяжурнымі слесарамі, беражныя адносіны да машыны, правільная расстаноўка рабочых і высокая дысцыплінаванасць скарачала час перасоўкі машыны са звычайных 30—40 да 15—20 мінут і ніжэй, спрыяла зніжэнню да мінімума механічных прастояў і павышэнню каэфіцыента карыснай работы агрэгатаў у паасобных выпадках да такой высокай лічбы як 82—84 проц. Хуткасць, з якою ліквідаваліся розныя непаладкі ў рабоце агрэгата і механічныя прастоі ў брыгадзе Курэнева, тлумачыцца між іншым і тым, што рамонтам займаўся не толькі дзяжурны слесар—яму актыўна і хутка дапамагала ўся брыгада (так, напрыклад, у час разрыву і паломак элеватарнага палатна рабочыя брыгады дапамагалі хутка перасунуць яго, вынуць паламаныя драўляныя планкі, разагнуць цвікі для ўстаноўкі ў палатно новых планак і т. п.).

Лепшыя брыгады штодня наладжваюць пяцімінутныя вытворчыя нарады, дзе высоўваюць сустрэчныя і сустрэчна-зменныя планы і актыўна змагаюцца не толькі за выкананне, але і перавыкананне іх.

Соцыялістычныя метады працы спрыялі таму, што ў брыгадах павысілася актыўнасць, свядомасць, класавая пільнасць. Брыгада Курэнева выявіла і выгнала з завода кулака Малчанава, які дэзарганізоўваў работу брыгады, хацеў закласці ў кар'ер жалезныя балты, каб надоўга вывесці машыну са строю; багерны ўчастак завода «Большэвік» выявіў сына высланага кулака Пытлех і інш.

На торфзаводы часта пранікаюць кулацкія, класава-варожыя элементы, што патрабуе значна большага павышэння класавай пільнасці. Контррэволюцыйныя вылазкі класавага ворага ў сезоне 1934 г.

*) Газ. „Рабочий“ (выезд. рэд. на канф. значкістаў ЗОТ цяжкай прамысловасці) № 2 ад 30 лістапада 1934 г.

мелі месца на цэлым радзе торфзаводаў. Выражаліся яны ў тым, што класавы вораг агітаваў, каб не выходзілі на работу, кідалі завод, вёў разважанні аб непасільнасці ўстаноўленых норм выпрацоўкі, ўзводзіў усякія паклёпы на арганізацыю грамадскага харчавання і нарэшце проста шкодзіў. Так на 7 пасёлках «Осінторфа» у кацёл сталоўкі былі падкінуты трапкі; у другі раз падкінулі ў суп авечы памёт. Пралезшы ў асяроддзе рабочых кулак разгарнуў вакол гэтага сваю контррэволюцыйную агітацыю. На заводзе «Закрашынскі мох» былы белагвардзейскі афіцэр і на заводзе «Свабода» былы гандляр, будучы бухгалтарамі гэтых заводаў, арганізавалі сістэматычнае абліччванне рабочых. Заводскія арганізацыі, праяўляючы часам палітычную слепату, разглядалі такія факты, як выпадковыя ці як «недахопы работы апарата», замест таго каб рашуча выкрываць класавага ворага і бязлітасна прасякаць яго шкодніцкую работу.

Мы павінны цвёрда памятаць указанне т. Сталіна, зробленае ім ў дакладзе аб выніках 1-й пяцігодкі:

> «Трэба мець на ўвазе, што рост магутнасці совецкай дзяржавы будзе ўзмацняць супраціўленне апошніх рэштак паміраючых класаў. Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх, больш рэзкіх форм наскокаў, апелюючы к адсталым колам насельніцтва і мабілізуючы іх супроць совецкай улады. Няма такой брыдоты і паклёпу, якую-б гэтыя былыя людзі не ўзвялі на совецкую ўладу і вакол якіх не спрабавалі-б мабілізаваць адсталыя элементы... Ўсё гэта трэба мець на ўвазе, калі мы хочам пакончыць з гэтымі элементамі хутка і без асобых афяр.
>
> Вось чаму рэволюцыйная пільнасць з'яўляецца той самай якасцю, якая асабліва неабходна цяпер большэвікам».

Барацьба перадавых брыгад за план была цесна звязана з барацьбой за павышэнне сваёй агульнай і палітычнай граматнасці, з барацьбой за культурнае жыццё: газету, кнігу ў бараку, сістэматычную работу палітгуртка, ахоп усіх няграматных і малаграматных лікбезам (на торфзаводах БССР у сезоне 1934 г. лікпунктамі было ахоплена 414 рабочых, вячэрнімі рабочымі школамі 1204 чалавекі); барацьбой за культурны барак (брыгады Панцюшавай, Рабчыкавай і інш.) і сталовую (завод «Шлях социялізма», 2 ўчастак т.-з. «Большэвік»). На торфзаводзе «Большэвік» па ініцыятыве перадавых брыгад тарфяніц вельмі пашыран быў грамадскі буксір у барацьбе за культурны барак. Перадавыя ўдарнікі актыўна працавалі ў совеце барака і рабочым кантролі ў сталовай.

Ленін і Сталін не раз указвалі, што ў эпоху соцыялізма ўздым працоўнага энтузіязма, соцыялістычнае спаборніцтва трэба спалучаць з матар'яльным стымуляваннем, з перавагамі ў спажыванні.

Гэтыя ўказанні Леніна і Сталіна праводзіліся на торфараспрацоўках БССР ў сезоне 1934 г. шляхам паслядоўнага ажыццяўлення загада т. Орджанікідзе аб прымяненні ўсё ўзрастаючай прагрэсіўкі пры перавыкананні плана (перапрацоўка плана здабычы ад 100 да 110 проц. павышае расцэнку ў паўтара разы, перапрацоўка звыш 110 проц.—расцэнку падвойвае) і адпаведным пераважным прадуктовым снабжэнні ўдарнікаў, дадатковай аплаце і прэміяванні датэрмінова скончыўшых план, а таксама шляхам прымянення індывідуальнай і дробна-групавой здзельшчыны, якая ліквідуе абязлічку і ўраўнілаўку ў зарплаце на ўсіх працэсах сушкі і ўборкі, сцеліве торфу і т. д.

Іменна тыя заводы, якія прагрэсіўную аплату і дыферэнцыяванае снабжэнне праводзілі паслядоўна і чотка,—план выконвалі; заводы-ж, якія ігнаравалі гэтыя мерапрыемствы, адносіліся да іх з халадком,—недавыконвалі плана.

У рэзультаце ўсіх адзначаных мерапрыемстваў заработак лепшых ударных брыгад на торфзаводах БССР у сезоне 1934 г. быў даволі высокі, аб чым сведчыць наступная табліца:

| Завод | Лепшая ўдарная брыгада | Тарыфная стаўка ямшчыка | Фактычны сярэдні заработак ямшчыка | |
|---|---|---|---|---|
| | | | Р. і К. | У %% к тарыфу |
| „Шлях соцыялізма" . | Курэнева | 5 р. 85 к. | 10 р. 88 к. | 186 |
| „Большэвік" . . . | Карнеенко | 5 р. 50 к. | 10 р. 12 к. | 184 |
| імя Гея . . . | Жура | 5 р. 50 к. | 9 р. 35 к. | 177,2 |
| „Осінторф" . . . | Федчэнко | 5 р. 85 к. | 8 р. 42 к. | 143,9 |

У паасобныя месяцы брыгадзір Курэнеў зарабляў па 500 р., а рабочыя з яго брыгады па 250—300 руб. На заводзе імя Гея лепшыя ўдарныя брыгады па сушцы торфу—т.т. Зыль і Майсеенкавай—зараблялі за дзень у сярэднім па 6—7 руб., пры сярэднім дзённым заработку іншых брыгад па 3—4 руб. 50 к. (даныя за чэрвень месяц).

Аднак, на многіх заводах быў рад выпадкаў дрэннай пастаноўкі штодзеннага ўліку, недавядзення да кожнага рабочага яго выпрацоўкі і заработку, а таксама частага абязлічвання, што вельмі зніжала стымулюючую ролю заработнай платы ў справе развіцця ўдарніцтва, выканання плана і павышэння прадукцыйнасці працы.

У сезоне 1935 г. ўсе гэтыя скажэнні і недахопы ў правільнай арганізацыі заработнай платы павінны быць зусім знішчаны.

Гістарычнае рашэнне лістападаўскага (1934 года) пленума ЦК ВКП(б) аб адмене картачнай сістэмы і ўвядзенні вольнага гандлю на хлеб і іншыя прадукты з'яўляецца паказчыкам новых поспехаў соцыялізма ў нашай краіне, найважнейшым этапам у справе далейшага палепшання матар'яльнага добрабыту рабочага класа і ўсіх працоўных.

Адмена картачнай сістэмы з новай вострасцю высоўвае задачу—рашуча знішчыць дробна-буржуазную ўраўнілаўку ў галіне заработнай платы.

На лістападаўскім пленуме ЦК тав. Молатаў падкрэсліў:

> «Умацаванне рубля ўзнімае значэнне заработнай платы ў прамысловасці. І на прадпрыемствах і на будоўлях пытанні заработнай платы патрабуюць да сябе ўзмоцненай увагі».
>
> «Пакуль грашовая зарплата была не галоўным, а толькі адным з элементаў у аплаце працы рабочых, што было немінуча пры картачнай сістэме, да таго часу ў пэўнай меры падрывалася і яе роля ў вытворчасці і будаўніцтве. Цяпер заработная плата ператвараецца ў асноўны рэгулятар, а яе павышэнне—ў рашаючы стымул для рабочых і служачых. І гэта павінна павесці к большаму ўзмацненню ролі зарплаты»...

Для торфараспрацовак гэта павышэнне ролі зарплаты ў сувязі з адменаю нармаванай выдачы хлеба і іншых прадуктаў мае асабліва вялікае значэнне. Без правільнай арганізацыі зарплаты немагчыма дабіцца своечасовага выканання плана, сур'ёзнага павышэння прадукцыйнасці працы і ліквідацыі цякучасці на торфараспрацоўках.

Надбаўка да зарплаты ў сувязі з адменаю картак на хлеб у торфапрамысловасці асабліва высока—32 р. 50 к., або 23 проц. месячнай стаўкі ямшчыка. Уключэнне яе ў расцэнку мае выключна вялікае значэнне ў павышэнні прадукцыйнасці працы.

У сувязі з адменаю картак паўстае задача карэннага палепшання совецкага гандлю, тавараснабжэння і работы магазінаў на торфзаводах. Па-новаму павінна быць арганізавана і грамадскае харчаванне.

Адзін з лепшых брыгадзіраў рэспублікі—т. Курэнеў, расказваючы на вытворчай нарадзе завода «Большэвік» аб дасягненнях сваёй брыгады, падкрэсліў: «Мой рэкорд такі, што яго можна дасягнуць і на ўсіх тарфяных заводах Беларусі. І кожны брыгадзір, калі захоча, можа працаваць так, як я, нават лепш.*) Гэта гаворыць аб тым, якое выключнае значэнне набывае грамадскі буксір на торфараспрацоўках, як соцыялістычны спосаб перадачы лепшага вопыту работы і дапамогі адстаючым. Пачаты на торфараспрацоўках па ініцыятыве тых-жа перадавых брыгад у канцы сезона 1934 г. грамадскі буксір (выезд курэнеўцаў на завод «Большэвік», выезд буксірных брыгад на заводы «Асінторф», «Чырв. Беларусь», «1-е Мая» і інш.) павінен набыць вялікае пашырэнне з самага пачатку сезона 1935 года.

Гаворачы аб лепшых ударных брыгадах, трэба падкрэсліць і ролю начальнікаў агрэгатаў, змен, партпрымацаваных і профоргаў гэтых брыгад.

Зусім не выпадкова на чале брыгады Курэнева стаяў найлепшы кіраўнік, вопытны начальнік агрэгата, комуніст т. **Ермаленко.** Партпрымацаваныя большасці перадавых ударных брыгад штодня праводзілі выхаваўчую работу, арганізуючы і натхняючы брыгады ў іх большэвіцкай барацьбе за план, узнімаючы іх палітычны і культурны ўзровень, умацоўваючы соцыялістычныя адносіны да працы.

* * *

Калі ў сезоне 1933 г. на торфзаводах БССР зусім не было тэхвучобы, то ў 1934 г. упершыню набылі пашырэнне масавыя формы тэхнічнай вучобы, асабліва на перадавых торфзаводах.

Тэхнічная вучоба набывае для тарфянай прамысловасці асаблівае значэнне ў сувязі з ростам новых, механізаваных спосабаў здабычы, велізарным агульным павелічэннем аб'ёму здабычы і вострай патрэбнасцю ў кваліфікаваных кадрах.

Ужо зараз на торфараспрацоўках БССР, паводле няпоўных даных, здалі соцтэхэкзамен 674 рабочыя, 150 выдатнікаў прадстаўлены да ўзнагароды значком ЗОТ, арганізавана 8 ячэек ЗОТ, якімі ахоплена 175 чалавек. На «Асінторфе» і «Большэвіку» абсталяваны і пачалі працаваць тэхгабінеты.

*) Газ. „Звязда“ за ліпень 1934 г.

Ахоп рабочых тэхнічнай вучобай на заводах сістэмы Белторфа на 1.X. 34 г. характарызуецца наступнымі данымі:

| | Сярэдн.-гадавая колькасць рабочых | Ахоплена тэхвучобай | У %% да агульнай колькасці рабочых |
|---|---|---|---|
| Па ўсіх заводах Белторфа . . | 5662 | 1504 | 26,5 |
| У тым ліку па: | | | |
| „Осінторфу" . . . . | 1875 | 1062 | 56,6 |
| імя Гея . . . . . | 390 | 132 | 33,8 |
| „Чырвоны сцяг" . . . . | 617 | 111 | 18,0 |

Прадстаўленыя заводамі ў ЦП Саюза к 1 усебеларускаму злёту значкістаў ЗОТ цяжкай прамысловасці даныя аб выкананні плана выдатнікамі тэхвучобы гавораць аб тым, што праробленая ў справе аўладання тэхнікай работа дае і дала ўжо буйныя вытворчыя рэзультаты.

Процант выканання плана торфаздабычы рабочымі, якія здалі соцтэхэкзамен на выдатна:

| Па заводу | Колькасць выдатнікаў, выканаўшых план на: | | | | Усяго выдатнікаў |
|---|---|---|---|---|---|
| | 100—110% | 111—120% | 121—140% | 141—200% | |
| „Осінторф" . . . | 15 | 8 | 7 | 19 | 49 |
| „Бальшэвік" . . | — | — | 11 | — | 11 |
| „Чырвоны сцяг" . . | 15 | 1 | — | — | 16 |
| „Новая Беларусь" . | 2 | 3 | 2 | — | 7 |
| „Шлях соцыялізма" . | — | — | 11 | — | 11 |
| Разам па заводах, якія прадст. звесткі . . | 32 | 12 | 31 | 19 | 94 |
| У проц. да ітога . | 34,0 | 12 | 33,9 | 20,2 | 100 |

Выдатнікі з'яўляюцца перадавікамі выканання плана.

Соцтэхэкзамены ў большасці выпадкаў праходзілі з вялікім уздымам. Вось як апісвае ў паведамленні ЦП першы соцтэхэкзамен на заводзе імя Гея адзін з яго арганізатараў:

«Апошнія дэкады, пад кіраўніцтвам партыйнай і прафесіянальнай арганізацыі завода і дырэкцыі, ўсе напружана і з цікавасцю рыхтаваліся к здачы грамадска-тэхнічнага экзамена. Праводзіліся гутаркі аб значэнні тэхэкзаменаў, у пасёлках развешаны плакаты. На лепшае правядзенне тэхвучобы і здачу

соцтэхэкзаменаў паміж брыгадамі разгорнута соцспаборніцтва. У брыгадах прапрацоўваюцца кантрольныя пытанні. На заводзе адчуваецца, што грамадска-тэхнічны экзамен становіцца ўжо агульнарабочай справай.

Першымі соцтэхэкзамен здавалі перадавыя брыгады Баранібхіна, Седунова, Шалды, якія сістэматычна прапрацавалі ў гуртках тэхмінімума па 15—20 заняткаў і перавыканалі свой план на 115—120 проц.»

У справе разгортвання тэхвучобы сярод рабочых актыўна ўдзельнічаў цэлы рад інжынерна-тэхнічных работнікаў: гал. інжынер торфзавода імя Гея—т. Шухман, тэхнарук т-.-з. «Шлях соцыялізма»—т. Сцепуржынскі, якія па ўласнай ініцыятыве распрацавалі нормы патрабаванняў, праграмы і кантрольныя пытальнікі для цэлага раду прафесій.

Аднак, к соцтэхэкзаменам часта рыхтаваліся фармальна, праводзілі іх наспех. Недарма, нават на лепшым заводзе «Шлях соцыялізма» быў выпадак, калі брыгада т. Мальцава адмовілася здаць соцтэхэкзамен у вызначаны дзень.

Якасць самой вучобы вельмі цярпела ад адсутнасці праграм і добра распрацаваных норм патрабаванняў па асобных прафесіях.

Спрашчэнцтва ў складанні праграм выражалася, між іншым, у тым, што ад канкрэтных прафесій патрабавалі надзвычай вузкага кола ведаў, якія адносіліся толькі да рабочага месца, і зусім выключаліся нават самыя элементарныя, але зусім неабходныя агульнатэхнічныя веды ў галіне торфаздабычы, веданне правіл тэхнікі безапаснасці і мінімума тэхніка-эканамічных ведаў (асновы складання тэхпромфінплана па свайму рабочаму месцу, разуменне аб гасразліку, норме, расцэнцы). Гэты недахоп выяўлен у нормах патрабаванняў, складзеных для масавых прафесій Белторфам. На торфзаводзе «Шлях соцыялізма» праграмы для торфрабочых былі вельмі шырокі.

Перад рабочымі часам ставіліся казуістычныя, заблытаныя і часта зусім непатрэбныя для іх пытанні.

Вялікім недахопам у рабоце цэлага раду гурткоў тэхвучобы было толькі тэарэтычнае праходжанне праграмы без жывога вытворча-тэхнічнага інструктажа на рабочым месцы, амаль поўная адсутнасць наглядных дапаможнікаў і экспанатаў.

Значную дапамогу ў разгортванні тэхвучобы аказала торфзаводам БССР арганізаваная Інстытутам Працы ВЦСПС—ЦСПСБ перасовачная выстаўка. Яна азнаёміла рабочых з дырэктывамі партыі аб рабоце торфпрамысловасці, са значэннем торфу і яго разнастайным прымяненнем у народнай гаспадарцы (торф як паліва, хімічная перапрацоўка торфу, торф у будаўніцтве, у сельскай гаспадарцы і т. д.), паказала гісторыю, перспектывы развіцця і тэхнічнай рэканструкцыі тарфяной прамысловасці БССР, растлумачвала правільныя прыёмы работы, галоўнейшыя мерапрыемствы па тэхніцы безапаснасці і аздараўленню працы. Выстаўка выклікала сярод рабочых зацікаўленасць у тарфяной справе, абудзіла ў іх цягу да аўладання тэхнікай. За сезон выстаўка наведала 8 заводаў, ахапіўшы экскурсіямі і лекцыямі звыш 6000 рабочых.

Далейшаму зруху ў развіцці і павышэнні якасці тэхнічнай вучобы ў торфпрамысловасці спрыяла 1-я ўсебеларуская канферэнцыя выдатнікаў ЗОТ цяжкай прамысловасці. Ужо ў працэсе падрыхтоўкі да

²ле на торфзаводах разгарнулася барацьба за павышэнне ахвату рабочых і якасць тэхвучобы. Тарфяная секцыя, працаваўшая на гэтай канферэнцыі, намеціла на бліжэйшы перыяд канкрэтныя шляхі і задачы тэхвучобы на торфараспрацоўках і ўстанавіла нормы патрабаванняў па тэхмінімуму для ўсіх асноўных прафесій, што павінна падцягнуць справу аўладання тэхнікай на торфзаводах да ўзроўню перадавых прадпрыемстваў іншых галін прамысловасці.

У барацьбе за аўладанне тэхнікай выключнае значэнне набывае ўказанне, зробленае тав. Сталіным у гутарцы з металургамі:

> «Нельга тэхніку адрываць ад людзей, якія прыводзяць тэхніку ў рух. Тэхніка без людзей мёртва. Лозунг «Тэхніка ў перыяд рэканструкцыі вырашае ўсё»—мае на ўвазе не голую тэхніку, а тэхніку, узначаленую людзьмі, аўладаўшымі тэхнікай. І паколькі мы ўжо навучыліся цаніць тэхніку, час заявіць прама, што галоўнае цяпер у людзях, аўладаўшых тэхнікай».

Трэба берагчы, клапатліва вырошчваць і кваліфікаваць людзей, правільна расстаўляць іх на вытворчасці, арганізаваць іх зарплату так, каб яна ўзмацняла рашаючыя звенні вытворчасці і рухала людзей на вышэйшую кваліфікацыю. Рашуча паляпшаць іх культурнае і бытавое абслугоўванне.

Зусім недапушчальны факты мінулых год, калі зарплата кваліфікаваных рабочых, якія абслугоўвалі механізмы (трактарысты, слесары і інш.), была ніжэй аплаты сезоннікаў; калі пры аплаце рабочых аднолькавых прафесій зусім не ўлічвалася ступень аўладання тэхнікай.

Барацьба за выкананне ўказанняў т. Сталіна ў гутарцы з металургамі павінна быць цэнтральнай задачай работнікаў торфпрамысловасці ў 1935 г.

* * *

Выхаванне новай працоўнай дысцыпліны і соцыялістычных адносін да працы—адна з форм класавай барацьбы ў пераходны перыяд, як на гэта не раз указваў Ленін.

Арганізацыя спаборніцтва на торфараспрацоўках ускладняецца тым, што маса рабочых мала арганізавана і прыносіць з сабой на вытворчасць часта зусім нязжытыя яшчэ дробна-буржуазныя погляды і звычкі, расхлябанасць, абломаўшчыну. Усесаюзны перапіс рабочых, праведзены ў 1932-33 гг. ВЦСПС, паказаў, што нават сярод пастаяннай часткі рабочых торфпрамысловасці 70,2 проц.—выхадцы з сялян (у значнай масе з аднаасобнага сялянства), сярод сезоннікаў гэты процант узнімаецца да 91,2. Звыш чвэрткі ўсіх сезоннікаў (і 8,8 проц. пастаянных рабочых) або зусім без вытворчага стажа, або маюць стаж не больш года. Процант няграматных і малаграматных сярод рабочых-тарфянікаў адносна вельмі вялікі (да 23—24 проц. сярод жанчын-работніц, да 10 проц. сярод сезоннікаў мужчын), адносна нізкі і іх агульны культурны ўзровень.

Соцыялістычная рэканструкцыя сельскай гаспадаркі, пераход ад дробнай індывідуальнай сялянскай гаспадаркі к буйнай, калектывізаванай, узброенай трактарамі і сучаснымі сельгасмашынамі з кожным годам ліквідуе ўказаныя вышэй спецыфічныя труднасці арганізацыі соцспаборніцтва на торфараспрацоўках.

Хуткі рост калектывізацыі з года ў год значна павышае сярод навербаваных рабочых процант калгаснікаў. Калі нават у 1934 годзе гэты процант сярод сезонных рабочых быў ніжэй 50, то ўжо ў надыходзячым сезоне 1935 г. павінен узрасці да 60—70.

ЦП саюза тарфянікаў, пад непасрэдным кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, яшчэ задоўга да пачатку сезона мінулага года прыступіў да арганізацыі спаборніцтва на торфараспрацоўках. У парадку выканання ўказанняў прамыслова-транспартнага аддзела ЦК, за 1½ месяца да пачатку сезона была склікана ўсебеларуская вытворчая нарада рабочых механічных цэхаў і брыгадзіраў па здабычы і сушцы торфу. На нарадзе быў закладзен пачатак спаборніцтва між паасобнымі брыгадамі і заводамі. Надзвычай цікава адзначыць, што іменна з ліку ўдзельнікаў гэтай вытворчай нарады вылучыліся на працягу сезона лепшыя ўдарнікі—ізотаўцы і начальнікі агрэгатаў, стаўшыя ў рады перадавікоў выканання плана (брыгадзіры Жур, Курэнеў, нач. агрэгатаў—Клачкоў, Ермаленко і цэлы рад іншых рабочых і ІТР перадавых заводаў: «Шлях соцыялізма», імя Гея і т. д.).

У самым пачатку сезона быў абвешчан усебеларускі конкурс на лепшую брыгаду па здабычы, сушцы і ўборцы торфу. Умовы конкурса былі даведзены да кожнага рабочага. На працягу сезона сістэматычна збіралася рэспубліканская конкурсная камісія, публікуючы матар'ял аб ходзе спаборніцтва і дасягненнях лепшых брыгад, прэтэндуючых на першынства. Быў разгорнут вытворчы паход імя т. Гікало, пра значэнне гэтага паходу гаварылася ўжо вышэй. 19.VII. 34 г. арганізавалі злёт знатных людзей торфу. Гэты злёт бясспрэчна адыграў выдатную ролю ў забяспечанні выканання плана торфаздабычы. Рашаючае значэнне ў справе ўмацавання кіраўніцтва разгортваннем соцспаборніцтва на месцы мела работа парторгаў ЦК КП(б)Б на такіх заводах, як «Шлях соцыялізма», імя Гея, «Большэвік», «Асінторф».

Побач з мерапрыемствамі, якія спрыялі разгортванню і ўмацаванню соцспаборніцтва, павышэнню працдысцыпліны, узмацненню барацьбы за план, росту культурнага і палітычнага ўзроўню торфрабочых, істотную ролю аказала і вялікая работа па ўцягненню рабочых у профсаюзнае членства. Калі ў красавіку процант членаў профсаюзаў сярод рабочых-тарфянікаў складаў 34, то ў маі ён узрос да 38, у чэрвені да 45, у ліпені да 64 і ў верасні да 75, супроць 23 у 1933 г.

У справе пераважнага матар'яльна-бытавога абслугоўвання ўдарнікаў таксама дасягнуты канкрэтныя поспехі, пачынаючы з увядзення ў сталовых чырвоных сталоў і бясплатнага трэцяга блюда для лепшых ударных брыгад («Шлях соцыялізма», «Большэвік» і інш. т.-з.) і канчаючы шырока разгорнутай работай па пасылцы перадавых ударнікаў на курорты, у санаторыі і ў дамы адпачынку. У мінулым годзе ў дамы адпачынку накіравана 639 рабочых і ІТР, у мясцовыя санаторыі—47, на курорты 80 чал. Акрамя таго, на торфзаводах «Асінторф», «Большэвік» і «Шлях соцыялізма» з мая па кастрычнік былі арганізаваны аднадзённыя дамы адпачынку для ўдарнікаў, праз якія прапушчана 3729 чалавек.

Аднак, было-б зусім няправільна пераацэньваць дасягнутыя ў сезоне 1934 г. поспехі як у выкананні плана, так і разгортванні соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Не гледзячы на выключную дапамогу, аказаную тарфяной прамысловасці партыяй і ўрадам, не гледзячы на бясспрэчны рост актыўнасці і ініцыятывы рабочых, што выявілася ў новым уздыме соцспаборніцтва, нарэшце не гледзячы на асабліва

спрыяючыя метэаралагічныя ўмовы сезона,—агульны план торфаздабычы па БССР у цэлым аказаўся выкананым толькі на 92,7 проц. у прыватнасці: мясцовай прамысловасцю—на 91,1 проц., торфапромкааперацыяй—на 75,6 проц. Больш таго, нават на буйнейшых, вядучых заводах, выканаўшых сезонны план («Осінторф», Лукскае, Дукора), мы маем значнае недавыкананне плана прадукцыйнасці працы, выпрацоўкі на машына-змену і па іншых якасных паказчыках. Гэта сведчыць аб наяўнасці цэлага раду буйных і яшчэ не ліквідаваных недахопаў у рабоце торфпрамысловасці БССР.

Галоўнейшымі недахопамі ў галіне соцыялістычнага спаборніцтва былі: дрэнна пастаўлены на торфараспрацоўках улік рэзультатаў спаборніцтва і давядзенне яго да рабочых, бясспрэчнае спазненне з разгортваннем тэхвучобы і ў радзе выпадкаў нізкая яе якасць, зусім недастатковае вывучэнне гаспадарнікамі і нізавымі профарганізацыямі і перадача адстаючым вопыту работы перадавых ударных брыгад, нездавальняючае кіраўніцтва разгортваннем на торфараспрацоўках вышэйшай формы спаборніцтва—брыгаднага гасразліку, у рэзультаце чаго ён або зусім не праводзіўся, або ў большасці існаваў толькі на паперы. На працягу сезона дрэнна была арганізавана работа з пастаяннымі кадрамі рабочых торфзаводаў. Узяць хоць-бы недаведзены да канца конкурс на лепшага механіка, дзяжурнага слесара, матарыста; нездавальняючую арганізацыю сувязі з сезоннікамі рабочымі па сканчэнні сезона.

Агульным і вельмі буйным недахопам амаль усіх торфзаводаў была дрэнная пастаноўка культурна-масавай работы сярод торфрабочых, у тым ліку і сярод лепшых ударнікаў, няўменне арганізаваць культурны адпачынак, работу клубаў, чырвоных куткоў, бібліятэк. Побач з пэўнымі дасягненнямі ў справе пераважнага матар'яльна-бытавога абслугоўвання ўдарнікаў торфпрамысловасці БССР, на такім буйным заводзе як «Осінторф» камісія партыйнага кантроля выкрыла цэлы рад агіднейшых недахопаў, у рэзультаце чаго спецыяльнай пастановай ЦК былі зняты з работы парторг завода і старшыня заўкома.

Аб недапушчальных, безадказных адносінах да культурна-бытавога абслугоўвання рабочых на торфзаводах сведчаць хоць-бы такія факты: адсутнасць сталоў на агрэгатах завода «Чырвоны сцяг»—рабочыя вымушаны былі абедаць, лежачы на зямлі; сістэматычная трата часу на чаканне ў сталоўках, што часта прыводзіла да спазненняў на работу («Большэвік», «Осінторф»), адсутнасць на агрэгатах астуджанай гатаванай вады, запушчанасць баракаў («Осінторф», паасобныя баракі на цэлым радзе іншых заводаў) і т. д. Усе ўказаныя недахопы павінны быць рашуча ліквідаваны.

Перыяд падрыхтоўкі к сезону 1935 года трэба максімальна скарыстаць для стварэння ўсіх неабходных умоў, каб падняць соцспаборніцтва на яшчэ большую вышыню:

1. Зараз-жа прыняць самыя рашучыя меры для падрыхтоўкі сезоннікам памяшканняў, пабудовы новых і рамонту старых баракаў, арганізацыі сталовых і ўсяго, што патрэбна для культурна-бытавога абслугоўвання рабочых торфу.

2. Заводы павінны неадкладна ўстанавіць моцную сувязь з рабочымі, якія жывуць зараз на вёсцы. У парадку падрыхтоўкі да сезона трэба правесці ў цэлым радзе раёнаў канферэнцыі старых рабочых тарфянікаў, на якіх яны змогуць падрабязна абгаварыць задачы на-

дыходзячага сезона і ў парадку соцспаборніцтва ўзяць канкрэтныя самаабавязацельствы, каб забяспечыць выкананне і перавыкананне плана торфаздабычы.

3. Значна ўзмацніць тэхвучобу і дабіцца, каб ёю былі ахоплены ўсе рабочыя торфзаводаў, а таксама забяспечыць перанясенне элементаў тэхнічнай вучобы і на раён, па месцы жыхарства рабочых-сезоннікаў (у перыяд выезду начальнікаў змен і агрэгатаў на вярбоўку, прасоўванне ў раёны вярбоўкі тарфянай выстаўкі-перасоўкі Інстытута Працы).

4. Шырока разгарнуць соцыялістычныя метады працы сярод пастаянных кадраў рабочых, што будзе магутным рычагом яшчэ большага ўцягнення ў спаборніцтва тых сезоннікаў, якія ўваллюцца ў нашы торфпрадпрыемствы.

5. ЦП саюза і нізавыя профарганізацыі павінны правесці работу па падрыхтоўцы нізавых профкадраў, каб з першых жа дзён сезона праформ ў брыгадзе заняў побач з брыгадзірам вядучае месца.

6. На ўсіх заводах ужо зараз павінны быць падрыхтаваны ўмовы, каб забяспечыць рашучае палепшанне культурна-масавай работы і арганізаваць культурны адпачынак, як для пастаянных кадраў торфрабочых, так і сезоннікаў. У прыватнасці, неабходна шырока падхапіць пачын торфзаводаў «Чырвоны сцяг» і «Большэвік» у арганізацыі на буйных пасёлках паркаў культуры і адпачынку, фізкультурных пляцовак і т. д.

7. Зараз-жа трэба падрыхтаваць пытанне аб нормах выпрацоўкі і формах аплаты працы, выкарчоўваючы ўсякія астаткі ўраўнілаўкі ў зарплаце.

Гэтым, вядома, далёка не вычэрпваюцца ўсе задачы ўмацавання і разгортвання соцспаборніцтва і ўдарніцтва на торфараспрацоўках. У 1935 г. гэту работу трэба рашуча ўзмацніць.

Соцыялістычнае спаборніцтва з'яўляецца «тым рычагом, пры дапамозе якога рабочы клас прызван перавярнуць усё гаспадарчае і культурнае жыццё краіны на базе соцыялізма», *) соцспаборніцтва абуджае актыўнасць і творчую ініцыятыву мільёнаў працоўных. Новы ўздым соцыялістычнага спаборніцтва ў тарфянай прамысловасці—адна з галоўнейшых умоў своечасовага выканання і перавыканання плана торфаздабычы ў 1935 г.

---

*) Сталін. Прадмова да кнігі Мікуліной „Спаборніцтва мас“.

# КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

**КИРОВ С. М. Статьи и речи.** Партиздат ЦК ВКП(б). С. 136. Ц. 1 р. 75 к.

У кнізе сабраны артыкулы і прамовы Сергея Міронавіча Кірава за 1934 год. Яны паказваюць, колькі непахіснай веры ў перамогу соцыялізма, бязмежнай энергіі ў барацьбе за справу пролетарыята было ў кіпучым жыцці большэвіка і кіраўніка соцыялістычнага будаўніцтва, у самым росквіце абарваным злэдзейскай рукою подлага прадстаўніка контррэволюцыйных падонкаў трацкісцка-зіноўеўскай белагвардзейскай групы.

Змешчаныя ў гэтай кнізе матар'ялы паказваюць, з якой настойлівасцю і непрымірымасцю змагаўся адзін з бліжэйшых саратнікаў вялікага правадыра ўсіх працоўных т. Сталіна—Сергей Міронавіч Кіраў за ажыццяўленне генеральнай лініі партыі, за пабудову бясекласавага соцыялістычнага грамадства ў нашай краіне.

**БАЗЕЛЬСКИЙ КОНГРЕСС I ИНТЕРНАЦИОНАЛА.** Под редакцией В. Адоратского. Партиздат. 1934. Ц. 2 р. 50 к.

Гэтая кніга мае шмат каштоўнага матар'ялу для вывучэння гісторыі рэволюцыйнага руху ў другой палове мінулага стагоддзя. Акрамя прагледжанай Марксам афіцыяльнай справаздачы аб рабоце Базельскага кангрэса I Інтэрнацыянала, змешчаны рэзалюцыі, пісьмовыя даклады, вытрымкі з пратаколаў паседжанняў кангрэса і з лістоў Маркса і Энгельса, якія з'яўляюцца істотнымі першакрыніцамі для вывучэння дзейнасці I Інтэрнацыянала.

Прадмова яскрава вызначае месца Базельскага кангрэса ў гісторыі Першага Інтэрнацыянала.

**КАЛІНІН М. І. Аб утварэнні яўрэйскай аўтаномнай області.** Менск, ДВБ. 1935. С. 23. Ц. 10 к.

Гутарка старшыні ЦВК СССР тав. Калініна з дэлегацыяй рабочых маскоўскіх прадпрыемстваў і работнікамі яўрэйскага друку з поваду арганізацыі пастановай ЦВК СССР ад 7/V 1934 г. яўрэйскай аўтаномнай області.

Асвятліўшы палітычнае значэннеператварэння Бірабіджана ў яўрэйскую аўтаномную обласць, што з'яўляецца новаю перамогай ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, тав. Калінін абрысоўвае багатыя перспектывы развіцця Бірабіджанскай області. Ён паказвае,

што пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і ўрада для працоўных яўрэяў са стварэннем обласці адкрываюцца яшчэ больш шырокія магчымасці асваення буйных прыродных багаццяў Бірабіджана і будаўніцтва яўрэйскай пролетарскай культуры. Тав. Калінін заклікае рабочыя арганізацыі прыняць шэфства над соцыялістычным Бірабіджанам.

**ВАРАШЫЛАЎ К. Е. СТАЛІН І ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ.** Выд VI. Менск, выд. Бел. Ваен. Акругі. 1935. С. 36. Ц. 30 к.

Кніжка тав. Варашылава аб нашым лепшым ленінцу—тав. Сталіне, аб яго кіраўнічай ролі ў грамадзянскай вайне ёсць каштоўны гістарычны дакумент. Тав. Варашылаў прыводзіць шмат цікавых фактаў аб перыядзе 1918—1920 гг., калі «тав. Сталін з'яўляўся бадай адзіным чалавекам, якога Цэнтральны Камітэт кідаў з аднаго баявога фронта на другі, выбіраючы найбольш небяспечныя, найбольш страшныя для рэволюцыі месцы... Ён не спаў начамі, ён арганізоўваў, браў у свае цвёрдыя рукі кіраўніцтва, ствараў пералом, аздараўляў абстаноўку».

На радзе яркіх фактаў тав. Варашылаў паказвае, як у грамадзянскай вайне ў разнастайных і складанейшых умовах тав. Сталін праяўляў велізарны талент рэволюцыйнага стратэга, заўсёды верна вызначаў асноўныя кірункі галоўнага ўдара і дабіваўся патрэбных рэзультатаў. Ён падкрэслівае выключныя заслугі тав. Сталіна па падняццю боездольнасці Чырвонай арміі, яго велізарнейшыя арганізатарскія здольнасці і несакрушальную энергію на фронтах грамадзянскай вайны, узор спалучэння лепшых якасцей ваеннага правадыра і пролетарскага рэволюцыянера.

**ЯРАСЛАЎСКІ Ем. Міжнароднае значэнне Окцябрскай рэволюцыі.** Перакл. з рускага. Менск, ДВБ, 1935.

У сваёй кнізе тав. Яраслаўскі знаёміць з вучэннем Маркса-Энгельса-Леніна і Сталіна аб пролетарскай рэволюцыі і дае аналіз падзей соцыялістычнай рэволюцыі ў Расіі. Ён паказвае, што Окцябр даў бліскучае пацверджанне створанай Марксам—Энгельсам—Леніным—Сталіным тэорыі пролетарскай рэволюцыі і з'яўляецца лепшым довадам ленінска-сталінскага палажэння аб магчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне.

Абагульняючы вопыт Окцябра, тав. Яраслаўскі завастрае асаблівую ўвагу на самых асноўных, самых істотных рысах першай соцыялістычнай рэволюцыі, вылучаных Леніным у якасці фактару самага глыбокага сусветна-гістарычнага значэння.

На прыкладзе падзей Окцябра і поспехаў соцыялістычнага будаўніцтва тав. Яраслаўскі шырока ілюструе гэта ленінскае палажэнне. Стратэгія і тактыка пролетарыята ў час узброенага паўстання, советы, як дзяржаўная форма дыктатуры пролетарыята, вопыт эпохі ваеннага комунізма, нэп, пабудова фундамента соцыялістычнай экономікі, вырашэнне нацыянальнага пытання, стварэнне III Комуністычнага Інтэрнацыянала, вопыт соцыялістычнага будаўніцтва ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, культуры і інш.—усе гэтыя буйнейшыя міжнародна-гістарычныя фактары Окцябрскай рэволюцыі асветлены ў кнізе.

Далей аўтар паказвае разгортванне рэволюцыйнага руху ў капіталістычных краінах у перыяд пасля стварэння першай пролетарскай дзяржавы.

Аўтар падвяргае жорсткай крытыцы варожыя погляды антыленінскіх груп, выкрывае контррэволюцыйных фальсіфікатараў гісторыі Окцябра: трацкісцка-зіноўеўскае ахвосце, меншавікоў, правых і «левых» ухілістаў. Тав. Яраслаўскі паказвае, што кожная частачка нашага вопыту мае найвялікшае міжнароднае значэнне для пролетарскай рэволюцыі і будаўніцтва соцыялізма ва ўсім свеце.

**Брыгада Бібліяграфічнага інстытута БССР імя ЛЕНІНА.**

# ПАСТАНОВЫ ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б

## Аб плане кантрактацыі лёну і канапель ураджаю 1935 года

*Пастанова Совета Народных Камісараў Саюза ССР і Цэнтральнага Камітэта ВКП(б)*

Совет Народных Камісараў Саюза ССР і Цэнтральны Камітэт ВКП(б) пастанаўляюць:

1. Зацвердзіць план кантрактацыі з ураджаю 1935 года ў калгасах (акрамя здачы лёну па натураплаце МТС) і аднаасобных гаспадарках:

а) ільна-даўгунца, у пераводзе на валакно,—360 тыс. тон;

б) пянькі, у пераводзе на валакно,—75 тыс. тон;

в) насення ільна-даўгунца—250 тыс. тон;

г) насення канапель—70 тыс. тон;

з наступным размеркаваннем па рэспубліках, краях і абласцях:

(у тысячах тон)

| Раёны | Лён | | | Канаплі | |
|---|---|---|---|---|---|
| | План кантр. у перав. на валакно | Сярэдні нумар ільна-вал. сялянск. апрацоўкі | Насення | План кантр. у пер. на пяньку-сырэц | Насення |
| Паўноўчны край | 16,0 | 13,5 | 10,0 | — | — |
| Ленінградская обласць | 33,0 | 10,5 | 16,0 | — | — |
| Калінінская обласць | 75,0 | 10,5 | 46.5 | — | — |
| Заходняя обласць | 56,0 | 9,0 | 51,0 | 9,5 | 8,5 |
| Маскоўская обласць | 8,0 | 10,2 | 7,0 | 1,5 | 1,5 |
| Іванаўская обласць | 47,0 | 12,5 | 33,0 | — | — |
| Горкаўскі край | 11,0 | 9,5 | 7,0 | 3,6 | 3,0 |
| Кіраўскі край | 35,0 | 10,0 | 22,0 | 0,5 | 0,6 |
| Свердлоўская обласць | 10,0 | 8,5 | 6,5 | 0,6 | 0,6 |
| Омская обласць | 4,5 | 9,0 | 3,5 | 0,9 | 1,4 |
| Заходне-Сібірскі край | 10,0 | 9,0 | 7,5 | 3,6 | 4,7 |
| Краснаярскі край | 2.8 | 9,5 | 2,0 | 1.6 | 2,0 |
| Усходне-Сібірскі край | 1,0 | 10,0 | 0,6 | 0,7 | 0,7 |
| УССР | 10,0 | 7,5 | 8,5 | 14,5 | 11,6 |
| БССР | 38.3 | 9,5 | 27,0 | 3.2 | 3,2 |
| Татарская АССР | 1,0 | 7,5 | 0,9 | 1,0 | 1,2 |
| Куйбышэўскі край | 1,4 | 7,5 | 1,0 | 13,5 | 11,7 |
| Башкірская АССР | — | — | — | 1,2 | 1,6 |
| Курская обласць | — | — | — | 17,5 | 16,0 |
| Варонежская обласць | — | — | — | 1,6 | 1,7 |
| | 360,0 | 10,3 | 250,0 | 75,0 | 70,0 |

2. Даручыць камітэту па загатоўках с.-г. прадуктаў пры СНК СССР у трохдзенны тэрмін размеркаваць устаноўлены ў арт. 1 данай пастановы план кантрактацыі ільнянай і пяньковай прадукцыі ўраджаю 1935 года па відах і якасці сыравіны.

3. Прапанаваць советам народных камісараў рэспублік і выканаўчым камітэтам краёў і абласцей, якія разводзяць лён і каноплі, не пазней 28 сакавіка 1935 г. давесці план кантрактацыі лёну і канапель да раёнаў, а раённыя выканаўчыя камітэты абавязаць у адпаведнасці з зацверджанымі для раёнаў пасеўнымі планамі і заданнямі па ўраджайнасці і якасці прадукцыі ўстанавіць для кожнага калгаса і па сельскіх советах—для аднаасобных гаспадарак—план здачы дзяржаве (па кантрактацыі) прадукцыі лёну і канапель.

4. Абавязаць камітэт па загатоўках (Заготлён) і па селекцыйнаму насенню лёну—Наркамзем СССР не пазней 1 мая 1935 г. закончыць заключэнне дагавароў па кантрактацыі лёну і канапель ураджаю 1935 г. па ўсіх раёнах.

5. Устанавіць наступныя тэрміны здачы дзяржаве закантрактаванай прадукцыі лёну і канапель (у працантах ад гадавога плана здачы):

| | У III і IV кварталах 1935 г. | У I квартале 1936 г. | У II квартале 1936 г. |
|---|---|---|---|
| Ільнавалакна сялянскай апрацоўкі . | 80 | 20 | — |
| Ільнянай трасты . . . . . . . . . | 90 | 10 | — |
| Пянькі сялянскай апрац. . . . . . | 60 | 20 | 20 |
| Канаплянай трасты . . . . . . . | 60 | 30 | 10 |
| Ільнянага і канаплянага семя . . . | 100 | — | — |

Абавязаць камітэт па загатоўках устанавіць тэрміны здачы закантрактаванай прадукцыі лёну і канапель па асобных рэспубліках, краях і абласцях.

6. Устанавіць, што пачынаючы з 1935 года засыпка насенных фондаў лёну і канапель у калгасах павінна рабіцца не пазней 10—15 дзён пасля ўборкі і абмалоту лёну і канапель з тым, каб для пасеву было выбрана лепшае і добра праверанае насенне.

Ускласці адказнасць на старшынь калгасаў і райвыканкомаў і сакратароў райкомаў за захаванасць засыпанага калгасамі насення лёну і канапель.

7. Павысіць загатоўчыя цэны на насенне лёну ўраджаю 1935 года, устанавіўшы іх у наступным размеры (за центнер 100-працантнай чыстаты):

| | | |
|---|---|---|
| Эліта . . . . . . . . . . | 400 | руб. |
| Першая рэпрадукцыя . . . . . . | 300 | „ |
| Другая рэпрадукцыя . . . . . . | 250 | „ |
| Трэцяя рэпрадукцыя . . . . . . | 200 | „ |
| Палепшанае таварнагатунковае насенне . . | 80 | „ |
| Насенне радавога лёну . . . . . | 50 | „ |
| Тэхнічнае насенне . . . . . . . | 45 | „ |

8. Устанавіць наступныя размеры грашовага авансавання ільна-канапляводчых калгасаў пад лён і каноплі і калгаснікаў па неаграмаджаных пасевах канапель ураджаю 1935 года (у рублях на тону прадукцыі, падлягаючай здачы па плану, зацверджанаму для данага калгаса):

| Раёны | Размер авансаў: | |
|---|---|---|
| | Па валачну сялянскай апрацоўкі | Па трасце |
| **Па ільну:** | | |
| Паўночны край . . . . . . . . . | 350 | 38 |
| Ленінградская вобласць . . . . . | 320 | 35 |
| Калінінская, Заходняя, Маскоўская, Іванаўская вобласці; Горкаўскі, Кіраўскі краі і БССР . | 300 | 33 |
| Усе іншыя раёны . . . . . . . . | 270 | 30 |
| **Па пяньцы:** | | |
| БССР . . . . . . . . . . . . . | 450 | 55 |
| Заходняя, Маскоўская, Курская, Варонежская вобласці; Горкаўскі, Кіраўскі, Куйбышэўскі краі і УССР . . . . . . . . . | 400 | 50 |
| Усе іншыя раёны . . . . . . . | 350 | 45 |

Устанавіць размеры грашовага авансу на тону селекцыйнага насення ільна-даўгунца (ад разрэджаных пасеваў):

| | |
|---|---|
| Эліта . . . . . . . . . . . | 600 руб. |
| Першая рэпрадукцыя . . . . . . | 450 „ |
| Другая рэпрадукцыя . . . . . . | 375 „ |
| Трэцяя рэпрадукцыя . . . . . . | 300 „ |

Устанавіць, што 50 проц. авансу па кантрактацыі выдаецца пры заключэнні дагавора і астатнія 50 проц.—пасля праверкі пасеву.

9. Не менш 85 проц. авансаваных сум, атрымліваемых калгасамі па кантрактацыі, павінны быць размеркаваны сярод калгаснікаў, працуючых па ільну ці каноплях, у лік выпрацаваных імі працадзён.

10. Размер авансу для аднаасобных гаспадарак устанавіць на 25 проц., а для кулацкіх гаспадарак на 50 проц. ніжэй авансаў, устаноўленых для калгасаў.

11. Устанавіць паніжаны процант, які бярэцца Дзяржбанкам з гаспадарак, атрымліваючых авансы па кантрактацыі лёну і канапель, у размеры 3 проц. гадавых.

12. Прадаставіць у 1935 г. калгасам, калгаснікам і аднаасобным гаспадаркам, якія сеюць лён і каноплі, наступныя ільготы:

а) Усе пасевы ільна-даўгунца па канюшынішчы і цаліне, узаранай з восені, і па пасеках, а таксама і ўсе пасевы канапель у гаспа-

дарках, для якіх устаноўлены планы здачы дзяржаве (па кантрактацыі) прадукцыі лёну і канапель, вызваляюцца поўнасцю ад сельскагаспадарчага налога.

б) Пасевы лёну і канапель падлягаюць бясплатнаму акладному страхаванню ад засухі.

в) У адпаведнасці з пастановай СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 11 сакавіка 1934 г. калгасы, калгаснікі і аднаасобнікі, пасеяўшыя ў 1935 г. каноплі на сядзібных, прысядзібных і пойменных угоддзях і выканаўшыя ўстаноўленыя для іх планы здачы дзяржаве (па кантрактацыі) пянькі-сырца і заводскай сыравіны ўраджаю 1935 г.,— вызваляюцца ў 1936 г. ад абавязковай пастаўкі бульбы дзяржаве і ад здачы дзяржаве гародніны па абавязковай кантрактацыі на тую колькасць гектараў, якая ў 1935 г. была занята пад каноплі на сядзібных, прысядзібных і пойменных угоддзях.

г) Калгаснікам, працуючым па церабленню (ручному), абмалоту, рассцілу, пад'ёму, мяццю і трапанню лёну і па ўборцы, абмалоту, мочыву, сушцы і мяццю канапель,—налічваецца па два працадні пры выкананні ўстаноўленай дзеннай нормы выпрацоўкі.

д) Калгасы, пасеяўшыя ў 1935 г. лён па цаліне, узаранай з восені, і выканаўшыя ўстаноўленыя для іх планы здачы дзяржаве (па кантрактацыі) прадукцыі лёну, вызваляюцца ў 1935 годзе ад зернапаставак на тую колькасць гектараў, якая была засеяна ільном па цаліне, узаранай з восені.

13. Устанавіць, што калгасы, а па каноплях і калгаснікі па неаграмаджаных пасевах, перавыканаўшыя план здачы дзяржаве (па кантрактацыі) прадукцыі лёну і канапель па колькасці і якасці, атрымліваюць за кожны зданы звыш плана цэнтнер ільнянай і канаплянай прадукцыі прэмію-надбаўку да існуючай загатоўчай цаны.

Пры выплаце прэміі кіравацца наступным:

а) **Па ільнянаму валакну** (для гаспадарак, якія здаюць прадукцыю толькі валакном сялянскай апрацоўкі):

Пры плане здачы ільнянага валакна з аднаго гектара не звыш паўтара цэнтнера, за кожны зданы звыш плана цэнтнер выдаваць надбаўку ў размеры 50 проц. існуючай загатоўчай цаны.

Пры плане здачы ільнянага валакна з аднаго гектара больш паўтара цэнтнера, але не звыш двух з паловай цэнтнераў—за кожны зданы звыш плана цэнтнер выдаваць надбаўку ў размеры 100 проц. існуючай загатоўчай цаны.

Пры плане здачы ільнянага валакна з аднаго гектара больш двух з паловай цэнтнераў, але не звыш трох з паловай цэнтнераў— за кожны зданы звыш плана цэнтнер выдаваць надбаўку ў размеры 150 проц. існуючай загатоўчай цаны.

Пры плане здачы ільнянага валакна з аднаго гектара звыш трох з паловай цэнтнераў—за кожны зданы звыш плана цэнтнер выдаваць надбаўку ў размеры 200 проц. існуючай загатоўчай цаны.

б) **Па ільнянай трасце** (для гаспадарак, якія здаюць прадукцыю толькі ільнянай трастою):

Пры плане здачы ільнянай трасты з аднаго гектара не звыш 9 цэнтнераў—за кожны зданы звыш плана цэнтнер выдаваць надбаўку ў размеры 50 проц. існуючай загатоўчай цаны.

Пры плане здачы ільнянай трасты з аднаго гектара больш 9 цэнтнераў, але не звыш 15 цэнтнераў—за кожны зданы звыш

плана цэнтнер выдаваць надбаўку ў размеры 100 проц. існуючай загатоўчай цаны.

Пры плане здачы ільнянай трасты з аднаго гектара больш 15 цэнтнераў, але не звыш 20 цэнтнераў—за кожны зданы звыш плана цэнтнер выдаваць надбаўку ў размеры 150 проц. існуючай загатоўчай цаны.

Пры плане здачы ільнянай трасты з аднаго гектара звыш 20 цэнтнераў—за кожны зданы звыш плана цэнтнер выдаваць надбаўку ў размеры 200 проц. існуючай загатоўчай цаны.

в) **Па пяньцы-сырцу** (для гаспадарак, якія здаюць прадукцыю толькі пянькою-сырцом):

Пры плане здачы пянькі-сырцу з аднаго гектара не звыш аднаго цэнтнера—за кожны зданы звыш плана цэнтнер выдаваць надбаўку ў размеры 50 проц. існуючай загатоўчай цаны.

Пры плане здачы пянькі-сырцу з аднаго гектара больш аднаго цэнтнера, але не звыш паўтара цэнтнера—за кожны зданы звыш плана цэнтнер выдаваць надбаўку ў размеры 100 проц. існуючай загатоўчай цаны.

Пры плане здачы пянькі-сырцу з аднаго гектара больш паўтара цэнтнера, але не звыш двух цэнтнераў—за кожны зданы звыш плана цэнтнер выдаваць надбаўку ў размеры 150 проц. існуючай загатоўчай цаны.

Пры плане здачы пянькі-сырцу з 1 гектара звыш 2 цэнтнераў—за кожны зданы звыш плана цэнтнер выдаваць надбаўку ў размеры 200 проц. існуючай загатоўчай цаны.

г) **Па канаплянай трасце** (для гаспадарак, якія здаюць прадукцыю толькі канаплянай трастою):

Пры плане здачы канаплянай трасты з 1 гектара не звыш 7 цэнтнераў—за кожны зданы звыш плана цэнтнер выдаваць надбаўку ў размеры 50 проц. існуючай загатоўчай цаны.

Пры плане здачы канаплянай трасты з 1 гектара больш 7 цэнтнераў, але не звыш 12 цэнтнераў—за кожны зданы звыш плана цэнтнер выдаваць надбаўку ў размеры 100 проц. існуючай загатоўчай цаны.

Пры плане здачы канаплянай трасты з аднаго гектара больш 12 цэнтнераў, але не звыш 16 цэнтнераў—за кожны зданы звыш плана цэнтнер выдаваць надбаўку ў размеры 150 проц. існуючай загатоўчай цаны.

Пры плане здачы канаплянай трасты з 1 гектара звыш 16 цэнтнераў—за кожны зданы звыш плана цэнтнер выдаваць надбаўку ў размеры 200 проц. існуючай загатоўчай цаны.

Устанавіць, што для гаспадарак, выконваючых устаноўлены для іх план здачы дзяржаве (па кантрактацыі) прадукцыі лёну і канапель часткова валакном сялянскай апрацоўкі і часткова заводскай сыравінай, прэміі-надбаўкі выдаюцца з разліку норм, устаноўленых для ільнянага валакна, толькі пры ўмове выканання такімі гаспадаркамі поўнасцю ўстаноўленага для іх плана здачы дзяржаве (па кантрактацыі) па абодвух відах прадукцыі ў пераводзе на валакно.

Аднаасобным гаспадаркам прэміі-надбаўкі за перавыкананне планаў здачы ільнянай і канаплянай прадукцыі выплачваць у палавінным размеры супроць прэмій-надбавак, устаноўленых для калгасаў.

14. Лічачы важнейшай задачай далейшую механізацыю ільнаводчай гаспадаркі, масавае ўкараненне ільняных сеялак, ільнацерабілак і сартыровак, абавязаць Наркамцяжпром (Галоўсельмаш) зрабіць у 1935 годзе:

а) 3.000 параконных 17-ці радковых ільняных сеялак, з іх к 1 мая—500.

б) 2.500 шыроказахватных ільнацерабілак «ВНІІЛ-5», з іх к 1 жніўня—1.500;

в) ільнатрыераў ручных 1.000, з іх к 1 мая—250, ільнаканюшынацёрак тыпу Шэнеля—2.200, ільнатрашчотак сістэмы Бломеліуса—1.000, складаных ільнамалатарань сістэмы Гільштэйна—50 і манітараў—20.

Абавязаць Наркамзем СССР накіраваць у ільнаводчыя раёны 500 сартыровак «Трыумф» і 700 сартыровак «Кускута».

Абавязаць абласныя і краявыя выканкомы і соўнаркомы рэспублік арганізаваць масавую вытворчасць ільнатрапалак, конных прыводаў і мялак, дабіўшыся рашучага пераводу калгаснай апрацоўкі ільнавалакна з ручной на механізаваную апрацоўку.

15. Абавязаць Наркамзем СССР і старшынь калгасаў—**па ільну:**

а) церабленне ўсяго лёну як механізаваным, так і ручным спосабам правесці на працягу 7—10 дзён у перыяд ранняй жоўтай спеласці;

б) правесці ўвесь рассціл лёну ў раннія тэрміны і выбіраць для лёжкі лёну сапраўды лепшыя і найбольш прыгодныя для гэтага ўчасткі;

в) устанавіць ва ўсіх калгасах сістэматычную праверку лёну на сцелішчах (узяцце проб, пераварочванне і т. д.) з тым, каб ні ў якім выпадку не было дапушчана як пералежкі, так і недалежкі лёну;

г) устанавіць ахову лёну на сцелішчах па прыкладу таго, як гэта зроблена ў адносінах зернавых культур;

д) устанавіць ва ўсіх калгасах у абавязковым парадку правядзенне спецыяльнага сартавання ўсяго лёну пры сушцы, мяцці і трапанні;

е) устанавіць, што поўную адказнасць па догляду за сцелішчамі, сартаванню і пераапрацоўцы лёну нясуць брыгадзіры калгасаў; налічэнне працадзён брыгадзірам рабіць у цвёрдай адпаведнасці з колькасцю і якасцю здаваемага ільнавалакна і ільнасемя;

ж) разгарнуць будаўніцтва асецяў (еўняў) і сушылак для сушкі лёну ў перыяд яго першапачатковай апрацоўкі (мяцця і трапання).

16. Абавязаць Наркамзем СССР і старшынь калгасаў—**па канаплях:**

а) забяспечыць адвод лепшых угноеных сядзібных, прысядзібных і пойменных угоддзяў пад пасеў канапель;

б) забяспечыць своечасовую выбарку пскані, не дапускаючы яе перастою;

в) забяспечыць своечасовую выбарку канапель-мацерак;

г) забяспечыць своечасовы абмалот канапель, замочку іх поўнасцю з восені і выемку з мачыл з такім разлікам, каб не дапускаць астаўлення канаплянай трасты пад лёдам.

* * *

СНК СССР і ЦК ВКП(б) зварочваюць увагу ўсіх партыйных, савецкіх і комсамольскіх арганізацый ільнаканапляводчых раёнаў, дырэктароў МТС і загадчыкаў загатоўчых пунктаў на тое, што паспяховае выкананне намечаных данаю пастановай заданняў па лёну і каноплях залежыць ад своечасовага і стараннага правядзення веснавой сяўбы, праполкі, уборкі, рассцілу і мочыва, мяцця і трапання лёну і канапель.

СНК СССР і ЦК ВКП(б) абавязваюць савецкія, партыйныя і комсамольскія арганізацыі ільнаканапляводчых раёнаў шырока растлумачыць даную пастанову на масавых сходах і на сходах калгаснікаў з тым, каб ужо ў 1935 г. дабіцца значных поспехаў у справе далейшага развіцця ільнаводства і канапляводства.

Старшыня Совета Народных Камісараў Саюза ССР
**В. МОЛАТАЎ.**

Сакратар Цэнтральнага Камітэта ВКП(б)
**І. СТАЛІН.**

Масква, Крэмль, 20 сакавіка 1935 г.

# Аб мерапрыемствах па развіццю лёну

*Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР*

ЦК ВКП(б) і ўрад Саюза паставілі перад партыйнымі і совецкімі арганізацыямі БССР задачу рэзка ўзняць ураджайнасць лёну і выхад ільнавалакна ў бліжэйшыя гады, вызначыўшы ўжо ў 1935 годзе сярэдні ўраджай лёну ў 3 цэнтнеры з гектара і загатоўку 43 тысяч тон замест 29 тыс. тон у 1934 годзе і па якасці не ніжэй 9,5 нумароў.

ЦК КП(б)Б і СНК лічаць, што выкананне гэтай задачы патрабуе карэннага змянення ўсёй практыкі работы па ільну з боку раённых партыйных і совецкіх арганізацый і раду цэнтральных арганізацый, як Наркамзем, Заготлён, Ільнатрэст і інш.

Не гледзячы на некаторае палепшанне за апошнія гады справы ільнаводства па БССР (рост пасеўнай плошчы, лепшае скарыстанне пасеўных і ўборачных машын і т. д.), усё-ж гэта работа далёка не адпавядае наяўным магчымасцям і пры роўных умовах далёка адстае ад раду другіх ільнаводчых абласцей: Маскоўскай, Іванаўскай як па ўраджайнасці, так і па выхаду ільнавалакна пасля першай перааапрацоўкі, што з усёй відавочнасцю паказала загатоўка лёну 1934 года.

ЦК і СНК лічаць, што сапраўды большэвіцкай барацьбы за лён з боку партыйных і совецкіх арганізацый БССР яшчэ не было і што дрэннае становішча справы ільнаводства ў БССР тлумачыцца перш за ўсё тым, што партыйныя і совецкія арганізацыі недастаткова змагаліся за правядзенне калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі неабходных агратэхнічных мерапрыемстваў пры пасеве лёну (апрацоўка глебы, ранні пасеў, угнаенні, барацьба за добрае насенне, догляд пасеваў), не змагаліся супроць страт і за своечасовае церабленне, абмалот, рассціл, мочку і асабліва першапачатковую апрацоўку лёну. Больш таго, рад партыйных і совецкіх раённых арганізацый цягнуліся ў хвасце адсталых настрояў і традыцый у справе ільнаводства (імкненне да скарачэння пасеву лёну, нежаданне контрактаваць лён, невыкананне аграправіл, невыкананне дагавораў, антымеханізатарскія настроі), патуралі гэтым па сутнасці кулацкім настроям, самі не разумелі, не растлумачвалі шырокім масам калгаснікаў і аднаасобнікаў велізарнае значэнне для ўсёй народнай гаспадаркі развядзення тэхнічных культур і слабую вялі барацьбу супроць кулацкага супраціўлення неабходным мерапрыемствам, забяспечваючым павышэнне ўраджаю лёну і высокі выхад прадукцыі.

ЦК КП(б)Б і СНК БССР ставяць перад партыйнымі і совецкімі арганізацыямі дабіцца па лёну наступнай ураджайнасці ў 1935 г.—3 цэнт. валакна з гектара, 9,5 сярэднім нумарам; у 1935 г.—3,4 цэнт. пры 10,5 нумары і ў 1937 г.—4 цэнт. пры 12 нумары.

Для ажыццяўлення гэтага ЦК і СНК намячаюць правядзенне наступных неабходных мерапрыемстваў па далейшаму развіццю справы ільнаводства ў БССР.

1. Абавязаць РК і РВК забяспечыць пасевы лёну ў 1935 г. згодна зацверджаным севазваротам, на канюшынішчы 2-га года карыстання, аднагадовых, бабовых, угноеных прапашных, незасмечаных, добра ўгноеных азімых і пладародных, правільна апрацаваных увосень цалінных землях і пералогах.

Забараніць скарыстоўваць пад пасеў іншых культур выдзеленыя пад лён па зацверджанаму севазвароту канюшынішчы.

Абавязаць райза і МТС у дэкадны тэрмін праверыць і зацвердзіць па кожнаму калгасу размяшчэнне плана пасеву лёну, не допускаць змен без дазволу райза і МТС установленага размяшчэння плана пасеву.

Правесці ў кожнай вёсцы, выходзячы з плана пасеву лёну па аднаасобнай гаспадарцы, выдзяленне пад пасеў лёну лепшых участкаў і ўстаноўленых папярэднікаў на тэрыторыі землекарыстання аднаасобнікаў.

Пры выяўленні ў час правядзення пасеву скарыстання выдзеленых пад лён участкаў пад пасеў іншых культур, прыцягваць вінаватых да адказнасці як за невыкананне абавязковых аграправіл.

2. На цяжкіх заплываючых глебах, узараных на зябліва, правесці баранаванне вясной і паўторнае пераворванне з паследуючым баранаваннем, а на сярэдніх і лёгкіх глебах пасля веснавога баранавання, на цалінных землях, канюшынішчах правесці глыбокую культывацыю і баранаванне.

Цяжкія і сярэднія глебы, неўзараныя на зябліва, з першым раннім магчымым выездам у поле павінны быць узараны з паследуючай апрацоўкай дыскавымі боранамі (пры незасмечанасці пырэем і іншым карнявішчным пустазеллем), або культыватарамі з паследуючым баранаваннем.

На лёгкіх глебах, неўзараных з восені, неабходна ўжываць веснавое ворыва з паследуючым баранаваннем.

Паднятыя землі на зябліва ў першую чаргу павінны быць скарыстаны пад пасеў лёну ў межах вышэй устаноўленых лепшых папярэднікаў і зацверджаных севазваротаў.

3. Абавязаць РК і РВК неадкладна прыняць меры для поўнага забяспечання выканання плана вывазкі гною, тарфавання, вапнавання і збору попелу, устанавіўшы сістэматычную праверку ходу выканання гэтых работ ва ўстаноўленыя НКЗ тэрміны.

Правесці вывазку гною ў першую чаргу ў патрэбнай колькасці на тыя ўчасткі азімага жыта і бульбы, якія выдзелены пад пасеў лёну ў 1936 годзе. Катэгарычна забараніць скарыстанне вылучаных пад лён мінеральных угнаенняў пад іншыя культуры, уносячы іх у першую чаргу пад селекцыйны лён.

4. З мэтай больш правільнага захавання гною і павышэння яго якасці, а таксама павелічэння тарфяных угнаенняў абавязаць Наркамзем, РК, РВК, райза і МТС на працягу 1935 года пабудаваць у ільнаводчых калгасах 500 гноехавальнікаў, 1.000 жыжапрыёмнікаў і закласці не менш 200.000 тон кампосту, мабілізаваўшы для гэтай мэты сродкі саміх калгаснікаў.

5. Улічваючы наяўнасць велізарнай колькасці ў кожным калгасе ўсіх відаў угнаенняў (гной, торф, попел), абавязаць праўленне кожнага калгаса ўстанавіць:

а) найстражэйшы кантроль і арганізацыю своечасовага завозу, хавання, правільнага і своечасовага скарыстання ўсіх мінеральных угнаенняў, атрымліваемых калгасамі;

б) захаванне і павелічэнне гноевага ўгнаення, улік і расходванне падсцілачнага матар'ялу;
в) пабудову і правільнае скарыстанне гноехавальнікаў, жыжастойных ям і калодзежаў;
г) загатоўку тарфянага ўгнаення (тарфянага кампосту, праветранага торфу);
д) збор попелу, ачыстка, хаванне і правільнае скарыстанне.
6. ЦК і СНК звaрачаюць асаблівую ўвагу РК і РВК на добраякаснае і ў тэрмін правядзенне ачысткі (праз сартыроўку, ільнатрашчотку і трыер, пратручванне), правільнасць захавання і рашучую барацьбу з кляшчом, асабліва маючы на ўвазе наступаючае зараз пацяпленне, і абавязваюць сакратароў РК і старшынь РВК, загадчыкаў райза і дырэктароў МТС сістэматычна (праз кожныя пяць дзён) правяраць становішча пасеўнага насення і падрыхтоўку яго да сяўбы.
7. Правесці пасеў лёну ў раннія тэрміны, скончыўшы яго пры нармальных умовах ходу вясны не пазней чым за 10—15 дзён і робячы ў першую чаргу пасеў на лёгкіх і сярэдніх глебах, не маючых застою вады.
8. Зацвердзіць: а) устаноўленыя Наркамземам дыферэнцыяваныя нормы высеву для паасобных раёнаў, не дапускаючы, без дазволу Наркамзема, змяншэння норм;
б) план вытворча-вопытнага, звышранняга пасеву лёну ў кольгасці 5.000 га;
в) план развіцця ільнянага насеннаводства на другую пяцігодку, у тым ліку пасеў селекцыйнага лёну на 1935 год на плошчы 32.000 га, на 1936 год—70.000 га і 1937 г.—140.000 га.
9. РК і РВК правесці праверку забяспечанасці кожнага калгаса пасеўным насеннем лёну для поўнага выканання плана пасеву ў 1935 годзе, асабліва новаарганізаваных калгасаў і калгасаў са значным прылівам, у першую чаргу ў раёнах: Мсціслаўскім, Дубровенскім, Быхаўскім, Бешанковіцкім, Суражскім, Гарадоцкім і Ушацкім і разам з гэтым прыняць вычарпальныя меры, забяспечваючыя скарыстанне ўсіх маючыхся ў кожным раёне мясцовых рэсурсаў пасеўнага насення.
Абавязаць РК, РВК, райза, МТС, раённыя аддзяленні Заготлёну на працягу не больш дэкады з дня атрымання фондаў насення і парадку рэалізацыі скончыць абмен і прадажу ільнанасення пасеўшчыкамі.
10. Абавязаць РК, РВК, Заготлён пры правядзенні ў гэтым годзе кантрактацыі разгарнуць шырокую масавую палітычную работу сярод калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў, растлумачваючы ім важнасць значэнне павышэння грашовай аплаты па кантрактацыі за зданае ільнавалакно і ільнасемя ў сувязі з адменай атаварвання хлебам.
11. Абавязаць РК, РВК, райза і МТС да 15-га сакавіка безумоўна скончыць засыпку і ачыстку насення канюшыны.
Абавязаць загатоўчыя арганізацыі (Дзяржсортфонд, Заготзярно, Белкаапсаюз і інш.) рашуча ўзмацніць работу па закупцы і загатоўцы насення канюшыны з такім разлікам, каб план выканаць не пазней 20 сакавіка. Уся работа па падрыхтоўцы насення канюшыны павінна быць такой, якая-б забяспечыла своечасовае і поўнае выкананне пасеву канюшыны вясной 1935 года на плошчы не менш 140 тыс. га.
12. Зацвердзіць на 1935 год наступны план падрыхтоўкі кадраў па ўборцы і першапачатковай апрацоўцы лёну:
а) інструктароў па рабоце на шыроказахватных ільнацерабілках ВНІІЛ-5—66;
б) ільнацерабільшчыкаў на шыроказахватных—360;

в) ільнацерабільшчыкаў на «Комсамолках»—450;
г) старшынь ільнаводчых калгасаў—700;
д) брыгадзіраў ільнаводчых калгасаў—280;
е) майстроў па першапачатковай апрацоўцы лёну—750;
ж) ільнамяльшчыц—1.500;
з) сушыльшчыкаў—1.000;
і) трапальшчыц—7.500.

Абавязаць НКЗемляробства поўнасцю забяспечыць выкананне плана па падрыхтоўцы кадраў у зімова-веснавы перыяд 1935 года.

Абавязаць РК і РВК узяць пад непасрэдны кантроль падрыхтоўку масавых калгасных кадраў па лёну, забяспечыўшы курсы адпаведнымі памяшканнямі.

13. У адпаведнасці з уведзенымі севазваротамі замацаваць у кожным полі за кожнай вытворчай брыгадай пастаянны ўчастак на ўвесь тэрмін севазвароту.

Унутры кожнай брыгады ільнаводчых калгасаў выдзеліць і замацаваць пастаянныя звенні па лёну на ўсе працэсы работы, пачынаючы з падрыхтоўкі да сяўбы і канчаючы першапачатковай апрацоўкай лёну і здачай ільнапрадукцыі дзяржаве.

Звеннявы ільнаводчага звяна ў кожнай брыгадзе адначасова з'яўляецца памочнікам брыгадзіра па лёну.

14. Абавязаць РК, РВК у канцы сакавіка г.г. у кожным раёне правесці нарады ўсіх намеснікаў старшынь калгасаў па лёну для абгаварэння раду практычных мерапрыемстваў па падрыхтоўцы і правядзенню пасеву лёну ў 1935 годзе. Наркамзему забяспечыць пасылку сваіх спецыялістаў на гэтыя нарады ў мэтах прапрацоўкі аграмерапрыемстваў па лёну.

15. Абавязаць НКЗемляробства забяспечыць выпуск аграправіл па лёну і давесці іх да ўсіх раёнаў, калгасаў да 20 сакавіка г.г., а райза і МТС—да 25 сакавіка, на аснове аграўказанняў распрацаваць раённыя аграправілы па лёну з улікам асаблівасцей кожнага раёна і наяўнага вопыту лепшых ільнаводаў-калгаснікаў.

16. ЦК КП(б)Б і СНК БССР асабліва завастраюць увагу на знішчэнні фактаў недаацэнкі аднаасобнага сектара і абавязваюць РК і РВК устанавіць асабліва дакладны сістэматычны нагляд за выкананнем планаў з боку аднаасобнікаў, пачынаючы гэта з часу падрыхтоўкі да веснавой кампаніі, выкананнем плана пасеву лёну і агратэхнічных мерапрыемстваў па ўзняццю ураджайнасці.

17. Шырока разгарнуць соцыялістычнае спаборніцтва ў брыгадах на званне «майстра ўраджаю лёну», прыцягнуць да гэтага насценны і раённы друк, устанавіць прэміяванне лепшых ударнікаў—«майстроў ураджаю», з апублікацыяй у раённым і цэнтральным друку іх імён.

Арганізаваць спаборніцтва паміж калгасамі і ільнаводчымі раёнамі на званне перадавікоў ільнаводства з устанаўленнем прэміявання.

18. Абавязаць Наркамзем устанавіць сістэматычную праверку выканання гэтай пастановы, даводзячы да ведама непасрэдна ЦК і СНК аб усіх фактах невыканання паасобных мерапрыемстваў па павышэнню ўраджайнасці лёну для прыняцця адпаведных мер па своечасоваму выпраўленню памылак.

19. Абавязаць РК і РВК прапрацаваць гэту пастанову на агульных сходах у час зацверджання вытворчых планаў калгасаў і давядзення планаў пасеву па аднаасобнаму сектару.

# АБ РАБОЦЕ ХАТ-ЛАБАРАТОРЫЙ У КАЛГАСАХ „ЗВЯЗДА“, ДЗЕРЖЫНСКАГА РАЁНА, ІМЯ КАЛІНІНА, ПУХАВІЦКАГА РАЁНА, „ЧЫРВОНАЕ ЖОДЗІНА“, СМАЛЯВІЦКАГА РАЁНА, „ЛЕНІНСКІ ШЛЯХ“, МЕНСКАГА РАЁНА

*Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б*

Абследванне становішча і работы хат-лабараторый у калгасах «Звязда», Дзержынскага раёна, імя Калініна, Пухавіцкага раёна, «Чырвонае Жодзіна», Смалявіцкага раёна, і «Ленінскі шлях», Менскага раёна, паказала, што за выключэннем хаты-лабараторыі калгаса «Ленінскі шлях», дзе вядзецца сякая-такая работа па агразоатэхвучобе ў калгасе, усе астатнія амаль не працуюць і ніякага ўплыву на жыццё калгаса не аказваюць.

Як правіла, гэтыя хаты-лабараторыі змешчаны ў цесных, дрэнных памяшканнях, не ацяпляюцца, няма ніякіх прыбораў і дапаможнікаў, бібліятэчкі разрозненыя знаходзяцца ў хаатычным становішчы, кіраўнікі хат самі недастаткова цікавяцца пастаноўкай у іх работы, як, напрыклад, участковы аграном Смалявіцкага раёна за чатыры месяцы быў усяго два разы ў даручанай яму хаце-лабараторыі калгаса «Чырвонае Жодзіна».

Такое становішча хат-лабараторый паказвае, што ні ў якім калгасе, ні ў раённых арганізацыях справай хат-лабараторый не цікавяцца, недаацэньваюць іх значэння, не падхапляюць ініцыятыву асобных калгаснікаў па арганізацыі і наладжванню работы хат-лабараторый і ў рэзультаце хаты, фармальна існуючы, на справе не апраўдваюць ўскладзеных на іх задач. А між тым, як гэта паказвае вопыт Украіны, пры правільным кіраўніцтве і ўвазе арганізацыя хат-лабараторый, як найбольш зразумелай для калгасніка і жыццёвай формы аўладання тэхнікай і агратэхнікай, становіцца справай шырокіх калгасных мас.

Хата-лабараторыя мабілізуе вакол сябе калгасны актыў, брыгадзіраў, інспектароў па якасці, комсамольскі актыў і т. д., укараняе на полі, у калгаснай ферме, ў канюшні дасягненні навукі, дапамагае калгасу ў асваенні новых прылад вытворчасці, дапамагае вывучаць эфектыўнасць прымяняемых ўгнаенняў і т. д.

ЦК абавязвае партыйныя і савецкія арганізацыі Дзержынскага, Смалявіцкага, Пухавіцкага і Менскага раёнаў і кіраўніцтва калгасаў «Звязда», імя Калініна, «Чырвонае Жодзіна» і «Ленінскі шлях» умацаваць работу хат-лабараторый, адвёўшы ім лепшыя памяшканні, забяспечыўшы хоць-бы самым неабходным абсталяваннем і прыборамі (вагі, пуркі, барометры і т. д.), арганізаваць невялікую бібліятэчку па спецыяльных пытаннях сельскай гаспадаркі, адвесці невялікія вопытныя ўчасткі.

Партыйна-комсамольскія арганізацыі гэтых калгасаў павінны дабіцца, каб лабараторыі сталі служыць узорамі вопытна-даследчай работы, масавай агразоатэхвучобы, рацыяналізатарскай работы і вынаходства, як у паляводстве, так і ў галіне жывёлагадоўлі.

Вакол хат-лабараторый можа і павінен быць сканцэнтрован калгасны актыў з ударнікаў, вопытнікаў, брыгадзіраў, інспектароў па якасці і т. д.

ЦК лічыць, што бліжэйшымі задачамі хат-лабараторый павінен стаць сістэматычны нагляд за становішчам азімых, нагляд за ачысткай, захаваннем і пратручваннем насення, барацьба са шкоднікамі, галоўным чынам кляшчом, арганізацыя ранняй сяўбы, асваенне і ўдасканаленне машын і ўцягненне мас калгаснікаў у кіраўніцтва машынамі. У галіне жывёлагадоўлі—захаванне маладняка, рэжым у кармленні каня, арганізацыя запісу штодзённай работы жаробных кабыл, ўлік ўдою, адшуканне новых кармавых рэсурсаў, барацьба са стратамі кармоў, лепшае хаванне і скарыстанне кармоў і т. д.

Гэтым далёка не вычэрпваюцца задачы і магчымасці хат-лабараторый. Трэба ўсяляк заахвочваць творчую ініцыятыву калгаснікаў у гэтай агромнай справе, аказваючы дапамогу правільным указаннем, парадай з боку спецыялістаў сельскай гаспадаркі, увёўшы практыку абмену вопытам.

ЦК зварачае ўвагу ўсіх ГК і РК на агромнае значэнне і ролю хат-лабараторый у жыцці і дзейнасці калгасаў і прапануе ўсяляк заахвочваць ініцыятыву арганізацыі хат-лабараторый, забяспечваючы ім падтрыманне і замацоўваючы іх дасягненні.

У прыватнасці, неабходна праверыць усюды, дзе арганізаваны ўжо хаты-лабараторыі, іх работу і знішчыць недахопы, якія перашкаджаюць хатам-лабараторыям заняць сваё месца ў рабоце калгаса.

---



## *АД РЭДАКЦЫІ „БОЛЬШЭВІКА БЕЛАРУСІ“*

*У 12-м нумары час. „Большэвік Беларусі“ за 1934 год змешчан артыкул* ***І. Фрыдмана*** *пад назвай „Да пытання аб шкодніцтве ў землеўпарадкванні“, які правільна* ***мабілізуе*** *ўвагу партыйных, савецкіх, зямельных арганізацый на* ***барацьбу*** *з астаткамі кулацкай контррэвалюцыйнай спадчыны—прышчэпаўшчыны і яе шкодніцкай дзейнасці ў справе землеўпарадкавання.*

*Аднак, у гэтым артыкуле пры ўскрыцці памылак, якія мелі месца ў землеўпарадкванні ў БССР у 1933 г. неабгрунтавана тав. Балотнікаў кваліфікуецца як шкоднік.*

*Рэдакцыя, лічачы памылковым дапушчэнне ў артыкуле няверпай кваліфікацыі т. Балотнікава як шкодніка, паведамляе адначасова, што тав.* ***Фрыдман*** *за гэтае неабгрунтаванае абвінавачванне* ***т. Балотнікава*** *ў шкодніцтве атрымаў ад Парткалегіі КПК па БССР партыйнае спагнанне.*

*РЭДАКЦЫЯ*

Уп. Галоўлітбела № 3304.
Тыраж 10.650.
457.600 друк. зк. (8¾ арк.)
Здана ў набор 23/III—35 г.
Падпісана да друку 31/III—35 г.

*Рэдкалегія* Мінкін (адказны рэдактар), Конік

Друкарня ім. Сталіна, Менск, Энгельса, 2. Зак. № 230






**ЦАНА 80 кап.**

ВЫДАВЕЦТВА ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА"
Менск, Чырвонаармейская, ЦК КП(б)Б, пакой 105.